*ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ*
*І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ*
*ЧАСОПІС*

**3** (965)

*САКАВІК*

# ПОЛЫМЯ

Выдаецца
са снежня 1922 года



РЭДАКЦЫЙНА-ВЫДАВЕЦКАЯ ЎСТАНОВА
«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Мінск 2010

## *ЗМЕСТ*






ЗАСНАВАЛЬНІКІ — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Літаратура і Мастацтва»



Мікола ШАБОВІЧ

# ЖАНЧЫНА

## 1

З тваёй пяшчоты піць і не напіцца,
Як быццам бы з нябеснага каўша.
Прысніся мне, як можаш ты прысніцца,
Каб хваляванні ўспесціла душа,

Каб зноў вярнуць імгненне трапяткое
(Імгненне-цуд — твой голаў на плячы)
І не жадаць ні буры, ні спакою —
Адно прасіць: прысніся мне ўначы!

Прысніся мне, як можаш ты прысніцца,
Каб хваляванні ўспесціла душа…
З тваёй пяшчоты піць і не напіцца,
Як быццам бы з нябеснага каўша.

## 2

Госця мая нябесная,
Госця мая зямная,
Ты — нібы сонца весняе,
Што ад нягод захінае.

Вочы блакітам поўняцца,
Радасць вянчае вусны.
Велічная вандроўніца!
Промнік жыцця спакусны!..

З самай дзівоснай песняю
Вобраз я твой параўнаю,
Госця мая нябесная,
Госця мая зямная.

## 3

Што ў паглядзе тваім? А ці сонца прамень,
А ці дожджык грыбны, выратоўны ад спёкі,
А ці, можа, ўначы мігатлівы агмень,
Адначасна і блізкі, і досыць далёкі?

Што ў паглядзе тваім? Мо расінка журбы
Ад таго, што так хутка праносяцца вёсны,
Што за першым адчаем прыходзіць другі,
Што ніяк не канчаецца год высакосны?

Што ў паглядзе тваім? Агнязорная спель
Ці крынічка жыцця, што так слаўна булькоча?
Салаўіная трэль ці затоены хмель,
Што хмяліць-маладзіць і спыняцца не хоча?..

Што ў паглядзе тваім?..

## 4

Каля кветкі тваёй сёння зумкалі пчолы,
І было так таемна, было так спакусна,
І яна сарамліва схілялася долу,
Цуд-пялёсткі свае прыадкрыўшы, як вусны.
Каля кветкі тваёй сёння зумкалі пчолы…

А ў лясочку тваім дзве бярозкі-сястрыцы
Маладыя такія праменілі вёсны.
І калі лёгкі ветрык кранаўся іх быццам,
То яны трапяталі шчымліва-дзівосна,
У лясочку тваім дзве бярозкі-сястрыцы…

А на лузе тваім два стажкі, як блізняты,
Чаравалі сваёй грацыёзнасцю дзіўнай
І нібыта дарылі шчымлівае свята —
І бліжэй падступалі пажадныя ліўні.
А на лузе тваім два стажкі як блізняты…

Каля кветкі тваёй сёння зумкалі пчолы.
Што ж, на Спас на Мядовы мы ўспомнім пра гэта:
Як пяшчота бруіла, ахутвала долы,
Як вірыла-буяла юрлівае лета.
Каля кветкі тваёй сёння зумкалі пчолы…

**Зінаіда ДУДЗЮК**



# СЛОДЫЧ І АТРУТА

*Раздзелы з рамана*

## КНІГА ПЕРШАЯ

### 1

**Маладзенькія** дочкі збіраліся на вяселле, прыхарошваліся перад люстэркам. Бацька, седзячы ля стала, назіраў за імі з-пад насупленых броваў, а ў душы ціха радаваўся, што збярог дзяцей, выгадаваў адзін, пасля заўчаснай смерці жонкі. А колькі няшчасцяў давялося пераажыць: вайну, бежанства, рэвалюцыю, халеру, тыф, голад… Старэйшая Каця, нізенькая, хваравітая з маленства, стрыманая ў пачуццях і, як здавалася Кірылу, разумнейшая, кроку не ступіць, пакуль не ўзважыць усё як след, адно кніжкі яе псуюць. Што б ні рабіла, пры сабе трымае які-небудзь раман. Аладкі пячэ — і то з чытаннем. Малодшая Зося тварам і паставаю ўдалася ў бацьку, высокая і тоненькая, як былінка, але характар узяла матчын, такая ж гаманкая, мітуслівая, паспявала і сябе агледзець, і зрабіць заўвагу сястры:

— Навошта табе чорны каснік? Ці ты манашка?

— Я хустку завяжу, а касу закручу ў куксу, касніка не будзе відно, — адказала Каця. — А ты перш на сябе паглядзі! Так і пойдзеш, як расамаха, недаплеценымі коскамі матляць?

— І пайду! Мне так падабаецца, — малодшая сястра наравіста крутнула галавою.

Каця падціснула вусны і павучальна сказала:

— Гэта ў Самары камсамолкі трэслі падстрыжанымі патламі, а тут, на радзіме, іншыя звычаі. Дзяўчаты павінны хадзіць у хустках.

— Нічога я нікому не вінная. А калі мне горача ў хустцы?

---

**Дудзюк Зінаіда Іосіфаўна** *нарадзілася 29 сакавіка 1950 года ў вёсцы Слабодка Браслаўскага раёна. Скончыла Брэсцкі інжынерна-будаўнічы інстытут і Вышэйшыя літаратурныя курсы пры Літаратурным інстытуце імя Максіма Горкага ў Маскве, працавала інжынерам, загадчыкам літаратурнай часткі ў тэатры.*

*Выдала зборнікі вершаў «Праводзіны птушак», «Абрысы лета», «Так і не», «Табе», «Падданыя кахання», кнігу прозы «Палоннікі жыцця», эсэ «Шляхамі адвечнага слова», аўтар раманаў «Архірэевы скарбы» і «Кола Сварога». Пераклала на беларускую мову казку П. Яршова «Канёк-гарбунок» і камедыю Яна Ходзькі «Вызваленая Літва, або Пераход цераз Нёман».*

— Тата, скажы ты ёй, — настойвала Каця.

— І чаго прычапілася? Ну, на табе… Завяжу… Цяпер супакоішся? — адказала Зося, ускідваючы на галаву лёгкую светлую хустку, аздобленую шаўковымі кутасамі.

Кірыла нічога не адказаў, прытоена ўздыхнуў. Каця нагадала пра Самару — і ён міжвольна падумаў, што бежанства забрала ў яго ўсё лепшае. Каб не вайна, жылі б яны прыпяваючы. Хоць на гаспадарцы працаваць было цяжка, але нястачы не ведалі, не галадалі. Трымаў чатыры каровы, парку коней, дзесятак свіней, восем авечак, гусей, курэй, качак. Усё гэта давялося кінуць і па загадзе цара ехаць у свет, бо на Расію пайшоў вайною немец. Калі вярнуліся, дык засталі хату без даху, дзвярэй і вокнаў — адны голыя сцены. Каб яшчэ трохі затрымаліся, дык і сцены расцягнулі б на дровы свае ж аднавяскоўцы. Давялося жыць у брата Карпа. Усю зіму шчыраваў Кірыла, ладзіў дах, столь, печ, толькі пад вясну перабраўся з дочкамі ва ўласнае жытло. Ён лічыў, што прычынай нягод была неабачлівасць бацькі, які купіў зямлю паблізу чыгункі, хацеў жыць пры дарозе, каб прасцей было даехаць да Берасця, Кобрына і Жабінкі. Пралічыўся, не падумаў, што войны таксама рухаюцца па дарогах. Каб сям'я Барэйшаў жыла сярод балота, можа, прасядзелі б ціха акупацыю. А так пагналі сямейку Барэйшаў у Жабінцы на цягнік з мноствам гэтакіх жа гаротнікаў і павезлі на злом галавы ў Бог ведае якую Самару. Там і жонка памерла, пайшла аднойчы з бежанкамі ў стары здзічэлы сад, каб натрэсці яблыкаў, залезла на тоўстую галіну, а тая абламалася, бедная Палая абрынулася і ўвярэдзіла спіну. Забралі ў шпіталь. Прыйшоў Кірыла праведаць жонку, а яму сказалі, што яна ў трупярні. З цяжкім сэрцам вярнуўся дамоў, узяў апратку для нябожчыцы, наняў вазака, каб забраць яе ды пахаваць, а тут паведамілі, што жонку пахавалі, нават не сказалі, дзе магіла...

Заняты сваімі думкамі, Кірыла не заўважыў, што дочкі працягваюць спрэчку.

— Малая ты яшчэ, падлетак... Нават пашпарта не маеш, — упікнула Каця Зосю.

— Гэта я малая? Пагляндзі, хто з нас большы?

Зося, смеючыся, стала перад люстэркам побач з Kацяй і аказалася вышэйшаю ледзь не на галаву.

— Вырасла да неба, а дурная як трэба, — адказала Каця і адышла.

Кірыла звёў бровы на пераноссі і незадаволена, але без злосці сказаў:

— Годзе вам, сарокі, сакатаць! Збірайцеся, бо без вас вяселле згуляюць.

— Я гатовая, тата, — адказала старэйшая дачка.

— Усё ўзяла? — спытаў бацька.

— Так. Пляшку самагонкі, булку хлеба, міску журу.

— Тады пойдзем з Богам. А дзе ж Серафім? — спахапіўся Кірыла.

— Напэўна, на двары.

Кірыла, высокі, жылісты, устаў з-за стала, няспешна апрануўся, узяў кайстру з гасцінцамі і накіраваўся да дзвярэй. Зося яшчэ раз паспела крутнуцца перад люстэркам і засталася задаволеная сваёй хоць і хударлявай, але стройнай постаццю. Лёгкаю птушкаю выпырхнула з хаты ў пахмурны вясновы дзень, адзін з тых, калі яшчэ спала не адагрэтая зямля, а душа дзяўчыны спявала і жыла прадчуваннем нечага незвычайнага і шчаслівага. Хацелася выглядаць лепш за маладую, каб нават малады паглядзеў на яе з захапленнем, а пра астатніх вясковых хлопцаў і казаць няма чаго. Усе яны будуць стаяць у чарзе, каб паскакаць з ёю польку ці сербіянку.

— Серафім, дзе ты? — гукнуў Кірыла з ганка.

Худзенькі падлетак выглянуў з хлява з віламі ў руках.

— Я тут. А што? — спытаў ён.

— Чаму ты не пераапрануўся? З гною на вяселле пойдзеш? — незадаволена спытала Каця.

— Не… Я не пайду…

— Чаму? — здзівілася Зося.

— А што я там не бачыў? Ідзіце, весяліцеся, а я гаспадарку дагледжу.

— Ну, як хочаш, — махнуў рукою Кірыла і накіраваўся з двара.

— Нейкі ён дзікі ў нас расце, — заўважыла Каця.

— Бо сірата, — адказала Зося. — Жыве, бы палын пры дарозе.

— Мы ж яму не чужыя, і бацька ў яго ёсць недзе ў Расіі, мо калі вернецца, дык будуць разам, — разважыў Кірыла дачок і, каб перапыніць пустую гаворку, размашыста пакрочыў па падсохлай дарозе.

Аднак Зося раз-пораз вытыркалася ўперад бацькі, абганяючы яго. Так вабіла яе чужое вяселле. Яна зусім не ведала маладога. Маладую бачыла толькі адзін раз, калі тая забегла днямі з дружкамі, каб запрасіць іхнюю сям’ю на вяселле. Дзяўчына была родзічка па маме. Зося не ўдакладніла, што гэта за радня, і наогул мала каго помніла з ранняга маленства. За тыя гады, пакуль Барэйшы былі ў Самары, у Крачках шмат што змянілася. Падрасло новае пакаленне, сталыя крачкаўцы пастарэлі, нехта не вярнуўся з бежанцаў, старыя паўміралі. Аднак Зосю мала турбавала тое, што яна не ведала тутэйшых, дзяўчына лічыла: свята ладзіцца для яе.

## 2

Вясельная дружына спявала і скакала, апантаная агульным уздымам. Нават у тых гасцей, якія не адважваліся кідацца ў скокі, нешта замірала і трымцела ў грудзях, калі яны слухалі залівісты гармонік і гучны бубен, на абадку якога меддзю пазвоньвалі круглыя бляшкі. Бубнач гаціў кулаком у такт музыцы па нацягнутай скуры, часам даставаў стукнуць нават локцем, выяўляючы адметны спрыт, пры гэтым голасна нешта выкрыкваў, што, на ягоную думку, павінна было падбадзёрыць і распаліць танцораў. Гарманіст паводзіў сябе больш стрымана, шырока расцягваў гармонік і глядзеў некуды перад сабой, не зважаючы на танцораў. Ведаў: галоўны тут ён. Змоўкне гармонік — скончыцца танец, людзі, якія толькі што былі захоплены мелодыяй і рытмам, разыдуцца, быццам імгненна счужэюць і страцяць цікаўнасць адзін да аднаго. Ягоныя тонкія і лоўкія пальцы так хутка бегалі па гузіках гармоніка, што прысутным толькі заставалася дзівіцца, як ён запамінае процьму ладоў і басоў, каб гэтак хораша выводзіць мноства знаёмых і невядомых мелодый. Гарманіст часам некаму ківаў, усміхаўся, але знаёмых было мала, бо ён запрошаны з іншае вёскі. Хлопец хіліў галаву да гармоніка, прыслухоўваўся да ягонага голасу, нібы гэта быў ягоны найлепшы суразмоўца.

За сталамі засталіся толькі людзі сталага веку. Моладзь высыпала на вуліцу. Каця і Зося таксама стаялі ў гурце дзяўчат. Вылучаліся яны крамнаю вопраткаю, якую прывезлі з бежанства. Тутэйшыя дзяўчаты былі ў суконных паласатых андараках, вышыванках, з рознакаляровымі пацеркамі на шыях. Усе да адной у квяцістых хустках. Было золка, аднак ніхто з моладзі і не збіраўся апранаць світкі. Шчокі палалі, вочы блішчалі, усё навокал кружылася вясёлкаю колераў. Знаходзіліся і асабліва спрытныя пявунні і танцоркі, што, здавалася, маглі пераспяваць каго хочаш. Перад такімі шырэй расступалася кола гасцей, але вось нехта не вытрымліваў і кідаўся ў спаборніцтва. Адбывалася вясёлая перапалка, да якой далучаліся новыя ахвотнікі. Урэшце скакаць і

спяваць пачыналі ўсе, ужо не слухалі адзін аднаго, не зважалі на ўзмакрэлыя спіны і прытомленыя ногі. Пакуль граў гармонік, ніхто не мог спыніцца.

— Чаго засумавалі, прыгажуні? — спытаў у Каці і Зосі высокі чарнявы юнак, схапіў абедзвюх за рукі і пацягнуў у гурт танцораў. Каця адбілася, адышла далей да плота, а Зося безразважна рынулася ў скокі, звонка заспявала прыпеўку:

А на печы пры лучыне
Дзеўкі грошы палічылі,
Налічылі паўталера
І купілі кавалера.

Хлопец не застаўся ў даўгу і зацягнуў прыпеўку ў адказ. Калі ён спяваў, ніжняя таўставатая губа ў яго трохі адвісала, гэта смяшыла Зосю.

Дзяўчыначка мая люба,
Мядовая твая губа.
Адзін разок пацалую —
Тры дні ў роце мядок чую.

Зося кінула на хлопца гарэзлівы позірк, усміхнулася, паказаўшы роўныя зубкі, па-заліхвацку сарвала з галавы хустку і, памахваючы ёю, заспявала:

У мястэчку на базары
Хлопцы прадаюцца:
На капейку — сорак штук
І то задаюцца.

Танцор у адказ упарта хітнуў галавою, адступіў на колькі крокаў ад Зосі, нібы любуючыся ёю, і заспяваў:

Хлопцы знаюць, хлопцы знаюць,
З кім трэба знаёміцца:
У каго нясуцца куры
І карова доіцца.

У гэты момант музыка абарвалася, пэўна, гарманісту спатрэбіўся адпачынак. Зося зрабіла рэверанс, як вучыла старая немка-выхавацелька ў самарскім дзіцячым прытулку. Хлопец у адказ пакланіўся і сказаў:

— А я ведаю, чыя ты — Кірылы Барэйшы дачка.

— Ну і што? — задзірыста спытала Зося.

— Нічога. Давай пазнаёмімся. Мяне Гардзеем завуць.

— А я Зося.

— Зосечка, Зоська, — хлопец хітравата прыжмурыўся і падміргнуў дзяўчыне. — А гэта твая сястра?

— Так. Гэта Каця, пазнаёмцеся, — адказала дзяўчына, падыходзячы да сястры.

— Добры дзень, Каця, — сказаў Гардзей. — Чаго не скачаш?

— Прыглядаюся.

— Правільна. Спачатку трэба зарыентавацца на мясцовасці — і ў наступ, — весела прамовіў Гардзей.

— Ні на каго я наступаць не збіраюся, — адказала Каця, робячы абыякавы выгляд.

— А на жаніхоў? — засмяяўся хлопец.

— А чаго на іх наступаць? Яшчэ каго, крый Божа, раздушым, — са смехам адказала Зося.

— Вясёлыя дзяўчаты! Пайшлі падмацуемся.

У хаце, калі гасцям налілі па чарцы, Гардзей крыкнуў:

— Горка!

За ім усе дружна сталі паўтараць:

— Горка! Горка! Горка!

Маладыя сарамліва пацалаваліся. Госці задаволена загарланілі і выпілі. Зося з Кацяй толькі прыгубілі.

— Э, дзяўчаты, так нават на хаўтурах не п'юць, — незадаволена пакруціў галавою Гардзей. — За шчасце маладых трэба піць да дна, каб ніякай горычы ім не пакідаць у сумесным жыцці.

— Мы не ўмеем піць гарэлку. Вось узвару можна і цэлую шклянку, наліце мне, калі ласка, — папрасіла Зося.

— З вялікім задавальненнем, — адказаў Гардзей і наліў сёстрам па шклянцы ўзвару з паліванай гладышкі. — Піце, дзяўчаткі, расціце тоўстыя.

— Гэтае пажаданне Зосі, яна ў нас, як тычка, — заўважыла Каця.

— Нічога, былі б косці, а мяса нарасце, — адказаў Гардзей, цікаўным позіркам акідваючы дзяўчат.

Яму больш падабалася старэйшая, невысокая, з прывабнымі дробнымі рысамі твару, але яна паводзіла сябе стрымана, нават грэбліва да іншых, ён так і адзначыў для сябе: «Пераборлівая нейкая». Малодшая, Зося, была высокая і худая, затое адкрытая, усмешлівая і даверлівая. Кідалася ў вочы адзенне дзяўчат, у якім яны выглядалі быццам паненкі. Каця красавалася ў барвовай сукні, пашытай на гарадскі манер, з карункавым каўнерыкам і манжэтамі, белая хустачка, вышытая дробнымі чырвонымі ружамі і завязаная «на бабку» вельмі пасавала дзяўчыне; малодшая сястра была ў больш простай зялёнай клятчастай сукенцы. Яна як скінула хустку ў час скокаў, дык больш яе і не завязвала, сядзела за сталом неяк па-свойску. Дзве тоўстыя светлыя касы ляжалі на грудзях. Гардзей не ўтрымаўся, каб не дакрануцца да адной і не закінуць яе дзяўчыне за плячук. Пры гэтым нібы незнарок крануў грудзі. Зося ўспыхнула, залілася чырванню, схілілася над талеркаю, робячы выгляд, што есць. Гардзей паглядзеў на яе вострыя плечукі, пасміхнуўся з гэтае цнатліўкі.

— Чаму ў цябе дзве касы? — шэптам спытаў ён.

— А што? Мне так падабаецца. Немка-выхавацелька патрабавала, каб мы гэтак запляталі валасы, — адказала Зося.

— У нас такі звычай: дзяўчаты да замужжа носяць адну касу, бо яны яшчэ не маюць пары, а жанчыны — дзве, бо ўжо спараваныя.

— Гэта праўда? Ты не жартуеш? — збянтэжана спытала Зося і паспешліва завязала хустку на галаву.

Гардзей доўга апекаваўся Кірылавымі дочкамі, толькі калі пад вечар вясельная дружына сабралася везці нявесту да жаніха, неяк атрымалася, што Гардзей і Зося ўваліліся разам у нейкі вясельны вазок, дзе цесна сядзела грамада гасцей, і коні паімчалі іх у суседнюю вёску Сцяблова.

Людзі на вазку зацягнулі песню. Зося таксама ўключылася ў бязладны хор, невядома скуль вынесла яе памяць гэтую песню, можа, некалі чула яшчэ ад нябожчыцы мамы:

Ой, у лузе стаяла каліна,
Я мілому вячэру варыла.
Ужо вячэра кіпіць, закіпае,
Мой міленькі на ганак ступае.
«Ой, сядзь, мілы, прысядзь на парозе,
Раскажы, што ты чуў у дарозе».

Побач у самае вуха басаваў Гардзей, хітравата жмурачы чорныя вочы, абдымаючы Зосю, каб не вывалілася з траскага вазка.

«Чуў я, міла, такую навіну,
Што ты маеш малую дзяціну».
«Гэта, мілы, навіна пустая,
Што ў мяне ёсць дзяціна малая.
Стаялі цыганы на мураўцы,
Пакінулі дзіцятка на лаўцы».

Ніколі ў жыцці яшчэ гэтак не весялілася Зося, ніколі ў жыцці не была такой шчаслівай. Што і казаць, мала ёй ласкі выпала на яе долю. Мама рана памерла. Давялося Зосі гадавацца ў прытулку. Калі вярнулася зноў у сям'ю, адчувала сябе адчужана, жыла пад колкім і прыдзірлівым наглядам старэйшай сястры ды безуважнага бацькі, маўклівага, унуранага ў клопаты. Зараз яна не здатная была нешта думаць. Пад цяплом Гардзеевага позірку душа яе нібы разгарнулася, расцвіла, быццам кветка пад сонцам, і дзяўчына цешылася святам еднасці і разумення.

Хутка даляцеў вазок да жаніховай хаты. Толькі тут Зося заўважыла, што ні бацька, ні Каця ў Сцяблова не прыехалі, але гэта зусім не засмуціла яе, наадварот, яна падумала: «Вось і добра! Ніхто не будзе мяне тузаць і вучыць, як трэба сябе паводзіць».

Госці дзялілі каравай, частаваліся, спявалі і скакалі пад нястомны гармонік і бубен, а Зося нікога не бачыла, акрамя Гардзея. Разам яны нешта пілі, нечым закусвалі, смяяліся, пускаліся ў скокі, схамянуліся толькі тады, калі заўважылі, што хата апусцела, заціх гармонік. Свята скончылася.

— Напэўна, позна ўжо? Трэба дахаты вяртацца, — сказала Зося.

— Ага, пойдзем, — кіўнуў галавою Гардзей, і, ні з кім не развітаўшыся, накіраваўся да дзвярэй.

Зося рушыла за ім. На парозе азірнулася, убачыла незнаёмага п'янага чалавека, не старога, але са змораным тварам, чорнымі ўскудлачанымі валасамі, які ціхамірна спаў, паклаўшы галаву ў пустую талерку. Дзве маладзіцы прыбіралі са сталоў посуд і абгаворвалі нейкую Галену, якая ў сенцах сама сябе шчыпала за шчокі, каб быць ружоваю. Дзяўчына ступіла ў цёмныя сенцы, дзе сутыкнулася з некім у цемры і ледзь не ўпала, але Гардзей падтрымаў яе і вывеў на вольнае паветра.

## 3

Хмарнае начное неба навісала над маўкліваю вёскаю, толькі там-сям праглядвалі праз кудзелю аблачын гарэзлівыя зорачкі. У цемры ледзьве віднеліся чорныя абрысы хат і дрэў. Ад блізарукасці ў мораку Зося амаль нічога не бачыла, таму моцна трымалася за Гардзееву руку.

— Божа, я нават не ведаю, у які бок ісці! Вось дык нагасцявалася! — бесклапотна сказала Зося.

— Затое я тут усё ведаю, не адны лапці стаптаў, — адказаў Гардзей, туляючы да сябе дзяўчыну. — Табе не холадна?

— Мне горача, горача...

— Тады і мяне пагрэй.

Гардзей абняў Зосю, паспрабаваў пацалаваць. Яна спачатку спалохана тузанулася, але хлопец утрымаў яе. І дзяўчына наўздзіў аддалася прыемнаму, яшчэ невядомаму ёй да гэтага пачуццю мілавання і пяшчоты. Калі Гардзей,

нарэшце, аслабіў абдымкі, прыціхлая на імгненне Зося, як бы жадаючы прыглушыць сваю сарамлівасць, сказала насмешліва:

— Ажно вусны здранцвелі… Ледзь не загрыз…

— Ці тое яшчэ будзе! У нас усё жыццё наперадзе, — іранічна адказаў Гардзей.

— Ты мяне ўсё жыццё збіраешся грызці? — з напускным абурэннем спытала Зося.

— А чым жа з табою можна яшчэ займацца? Не ў «дурня» ж гуляць! — засмяяўся Гардзей, зноў абхапіў дзяўчыну і доўга цалаваў, пакуль яна не стала вырывацца.

— Мы так нікуды не дойдзем, — сказала Зося.

— А куды нам спяшацца? Ноч доўгая...

Гардзей падхапіў Зосю пад руку, і яны пайшлі ўдоўж ціхай вясковай вуліцы. Вокны скрозь былі цёмныя, і неба ўсё гусцей зацягвалася хмарамі.

— Ужо, напэўна, перавaліла за поўнач? — спытала Зося.

— Можа, і перавалiла, а нам што з таго? — адказаў Гардзей і раптам, спатыкнуўшыся, прываліўся плячом да дзяўчыны. — У такой цямрэчы і ногі не доўга пераламаць.

— Ты, напэўна, напіўся, хлопец, вось і валішся?

— А нягож... Чаго б я дарма час марнаваў. Вяселле для таго і даецца, каб гарэлку піць ды дзяўчат любіць, — засмяяўся Гардзей.

На яго голас азваўся з двара нечы сабака, суседскі забрахаў у адказ.

— Пойдзем хутчэй адсюль, абрыдла слухаць сабачы галас, — сказаў Гардзей, узяў Зосю за руку, і яны паспешліва рушылі ў канец вёскі.

Якая гэта была прыемная хада. Зося адчувала пяшчотнае цяпло ягонай далоні, чула ягонае дыханне побач, старалася ісці з ім крок у крок. Паступова сабачы брэх аціх, вёска скончылася, яны трохі запаволілі рух. Гардзей спытаў:

— Дзе ты жыла ў бежанцах?

— У Самары. А ты чаму не выязджаў?

— Бацька захварэў, а тады памёр. Маці наша яшчэ раней памерла. Мне было трынаццаць, як застаўся за гаспадара. Тры сястры — і ўсе малыя.

— Хапіла табе ліха.

— Нічога, выжылі. Раскажы, што там у Расіі?

— Да вайны, пэўна, няблага жылі. Заможныя нас, бежанцаў, шкадавалі. А потым рэвалюцыя, вайна. Па тры разы на тыдзень улада мянялася. Калі ў прытулку жыла, мы з-за занавескі цікавалі, з якімі сцягамі па вуліцы вайскоўцы едуць: з белымі ці чырвонымі. Па тых сцягах і даведваліся, якая ўлада ў горадзе. Галадна было, лютавалі халера, тыф. Як замацавалася ўлада бальшавікоў, нашага бацюшку, што выкладаў у прытулку Закон Божы, арыштавалі і расстралялі. Выпусцілі злачынцаў з турмы. Такое бязладдзе пачалося! Каб было соладка, напэўна, на радзіму не вярнуліся б...

— А як жа бальшавіцкія лозунгі пра роўнасць і братэрства?

— Ну, гэта як мяне і Кацю падраўняць сякераю...

— Ну, ты і сказала...

— Усіх жа багатых выслалі некуды, казалі, што адных пастралялі, іншых у Волзе ў баржах патапілі. Хадзілі чуткі, што прытулак з маленькімі дзеткамі, дзе ўсчалася халера, спалілі разам з выхавацелямі… Дарэчы, я і Леніна бачыла.

— Маніш...

— Пабажуся, як не верыш, — пеpажагналася Зося. — Прыязджаў да нас на Новы год, рыжы, маленькі.

— Трэба ў твайго бацькі распытаць, як там было. Здаецца, ты трохі выдумляеш.

— Навошта мне выдумляць?

Ішлі дарогай праз поле. Пранізлівы начны вецер прадзімаў Зосіну світку наскрозь, але яна старалася не зважаць на холад, хоць дрыжыкі гулялі па ўсім целе.

— Замерзла? — спахапіўся Гардзей. — Трэба трохі пагрэцца.

— Проста на дарозе?

— Ведаю я адну мясцінку.

Гардзей збочыў з дарогі і накіраваўся да нейкай будыніны.

— Куды ты ідзеш? — устрывожана спытала Зося.

— Тут адзін хутаранец жыў, бабыль бяздзетны. Памёр, дык спадчыну між пляменнікамі падзялілі. Яны хату разабралі і перавезлі некуды, а клуня стаіць, нас чакае.

— Не пайду я туды, — заўпарцілася дзяўчына.

— Я цябе на руках панясу...

Гардзей лёгка падхапіў дзяўчыну і панёс. Яна не вырывалася, прытулілася да грудзей, чула, як б'ецца ягонае сэрца. Дзверы ў клуню былі незамкнёныя. Гардзей адпусціў Зосю, расчыніў дзверы, увайшоў у сярэдзіну. Следам за ім ступіла і дзяўчына. Пад нагамі зашаргацела ўляжалая салома, пахла цвіллю.

— Бачыш, як тут цёпла, — сказаў Гардзей. — Пайшлі ў той кут, пасядзім, пачастуемся.

— Ты тут усе куткі ведаеш? — здзіўлена спытала Зося, асцярожна ступаючы, выцягнуўшы наперад рукі, бо нічога не бачыла.

— Летась колькі разоў тут ад дажджу хаваўся.

Селі на саломе, мяккай, цёплай, быццам яна ўсё яшчэ захоўвала ў сабе энергію сонца.

— А тут мышэй няма? — насцярожана спытала Зося.

— Знайшла чаго баяцца. Ты такая доўгая, што вельмі шмат мышэй трэба, каб цябе з'есці.

Гардзей дастаў з кішэні пляшку, падаў Зосі.

— Прычасціся трохі. Есці хочацца, ажно няма дзе пераначаваць.

— Не падабаюцца мне твае жарты.

— Не бяда, абы я табе падабаўся, а жарты на кожны выпадак знойдуцца новыя. Давай глытні, сагрэйся... Будзь здаровая.

— Што тут?

— Вада свянцоная.

Зося зрабіла глыток, папярхнулася, закашлялася.

— Як малое дзіця, піць не ўмееш з пляшкі.

— Гэта ж гарэлка! — абурылася Зося. — Я не люблю гарэлку.

— Ты проста яшчэ не рассмакавалася. Вучыся ў мяне.

Гардзей адпіў трохі, зноў падаў пляшку Зосі.

— Пакаштуй яшчэ, сагрэйся. У мяне цукерка ёсць. Закусіш, і будзе файна, — запэўніў дзяўчыну Гардзей.

— Баюся.

— Чаго ж ты такая баязлівая?

Зося зрабіла глыток, у грудзях запякло, прыемнае цяпло разлілося па ўсім целе. Гардзей паклаў ёй у рот цукерку і спытаў:

— Ну, як? Палепшала?

— Сапраўды, цёпла стала. Дзе ты ўзяў гарэлку?

— Дзе ўзяў, там няма. Давай дап'ём. Посуд любіць чысціню.

Зося яшчэ раз адпіла з пляшкі, гарэлка была нясмачная, ад яе завадзіла ў галаве. Дзяўчына прылегла на саломе, захацелася супакоіцца і заснуць. Гардзей узяў з яе рукі пляшку, пахваліў:

— Волат-дзеўка.

— Я зусім сп’янела.

— Нічога, да раніцы ўсё пройдзе.

Ён нахіліўся над дзяўчынай, пачаў цалаваць. Ёй было прыемна купацца ў ягонай пяшчоце. Адчула, як усё цела налілося лагодай, твар гарэў. Гардзеевы рукі, быццам шукаючы крыніцу яе цяпла, блукалі па целе, гладзілі, лашчылі, імкнуліся вызваліць ад адзення.

— Зосечка, Зоська, не бойся мяне. Я цябе не пакрыўджу. Бачыш, як добра нам зараз. А будзе яшчэ лепш… Нічога не бойся… Не адштурхоўвай мяне. Бачыш, як добра... Салодкая мая дзяўчынка...

Закалыханая пяшчотнымі словамі, ачмурэлая ад любасці і гарэлкі, яе душа безразважна патанула ў жарсці, быццам заснула, даверыўшы сябе жаданням і памкненням Гардзея.

## 4

Зося прачнулася ад холаду, расплюшчыла вочы. Праз шчыліны дзвярэй прабівалася святло, напэўна, ужо развіднела. Побач спаў Гардзей, раскінуўшы шырока рукі, тварам дагары. Яна пацягнула світку, каб накрыць азяблае плячо, і толькі тады зразумела, што распранутая. Душу праця́ла страшная здагадка: «У нас усё было?.. Як жа я цяпер буду жыць? Як жа я вярнуся дадому?.. Які жах!»

Яна асцярожна паднялася з саломы. Дрыжыкі праціналі цела. І ад холаду, і ад хвалявання. Сабрала адзенне, паспешліва, непаслухмянымі рукамі нацягнула бялізну, а потым сукенку, панчохі, абула чаравікі, усцягнула на плечы світку, зірнула на Гардзея з нянавісцю, хацела выбегчы з клуні, але затрымалася, моцна патузала хлопца за плячо.

— Ачніся, чуеш, ачніся...

Ён расплюшчыў вочы, усміхнуўся:

— А, Зоська, паспі, яшчэ рана. Куды сабралася?

— Што ты нарабіў, Гардзей? Як я цяпер буду?..

— Ці забылася, як усё было? Ты ж сама папрасіла...

— Што прасіла?.. Як ты можаш? Ты ж казаў, што нічога не будзе, — разгублена сказала Зося.

— А нічога і не было...

— Што ж мне цяпер рабіць? — у роспачы спытала дзяўчына.

— Нічога не рабіць. Ужо не з адною я тут быў — і, дзякаваць Богу, усе жывыя, здаровыя... Цяпер самі мяне сюды запрашаюць…

Гэтыя Гардзеевы словы быццам сцебанулі Зосю па твары, яна залілася чырванню, абурана выкрыкнула:

— Які ж ты нягоднік! Поскудзь!

Дзяўчына заплакала, затуліла твар далонямі і выскачыла з клуні. Яна ненавідзела і праклінала Гардзея, які пераконваў яе, што нічога дрэннага не здарыцца, а сам забраў яе дзявоцкасць. Зося вінаваціла сябе, што даверылася яму, паспадзявалася на ягоную прыстойнасць, што пашкадуе яе, сірату, сам жа вырас без бацькоў. Як жыць далей? Выйшла на дарогу, выцерла слёзы, агледзелася. Злева расхінуўся шырокі поплаў, акрыты з ночы інеем, справа — чорнае поле, уверсе — бясколернае неба і далягляд, затуманены яе блізарукасцю. Зося пазнала гэтую мясціну і пашыбавала да свайго хутара. На дарозе сустрэлася ёй незнаёмая маладзіца, павіталася з дзіўнаю ўсмешкаю. Зосі падалося, што тая пра ўсё ведае — жах апанаваў душу: «Як цяпер жыць? Як вярнуцца дадому? Як паглядзець у вочы бацьку і сястры?»

Калі ўвайшла ў хату, Каця ўжо варыла сняданак: у печы патрэсквалі паленцы, кіпеў чыгунок з бульбаю. Бацькі і Серафіма ў пакоі не было.

— Дзе валачылася? — абурана спытала Каця, злосна пазіраючы на малодшую сястру круглымі шэрымі вачамі, трымаючы пры гэтым рукі ў бокі.

— На вяселлі была, — ціха адказала Зося.

— Я з бацькам таксама там была, але ж начавала дома.

— Мы ездзілі ў Сцяблова да маладога.

— Хто гэта мы?

Зося, зразумеўшы, што ледзь не прагаварылася, патлумачыла:

— Усе людзі... госці...

— А хто цябе туды клікаў?

— Я думала, што так трэба. Людзі едуць — і я...

Каця ўзяла з прыпечка анучу, пагрозліва наблізілася да малодшай сястры і крыкнула:

— Ты мне зубы не загаворвай! Ведаю я, дзе была! З гэтым Гардзеем начавала! У яго ж дзеўка ёсць, акрамя цябе.

У Зосінай галаве гэтая вестка быццам узарвалася. Не ведала, куды падзецца, што рабіць? Ці то бегчы да Гардзея, ці распытваць у сястры, што яна ведае яшчэ? Не, з Гардзеем сустракацца больш не хацела, але і тут, дома, ёй, напэўна, жыцця не будзе: сястра заесць.

— Ніякага Гардзея я не ведаю, — сказала Зося, напускаючы на твар абыякавасць.

— А той, што увесь час каля цябе ўвіваўся.

— Які гэта? Той, з адвіслаю губою? Я і забылася, як яго завуць…

Каця з недаверам паглядзела на сястру:

— Ніякая ў яго не адвіслая губа. Прыгожы хлопец, толькі цётка там адна казала, што ён даўно ўжо да Дуні Краўчуковай ходзіць.

— А мне якая справа? Няхай хто куды хоча, туды і ходзіць.

— Дык дзе ж ты была?

— Выйшла з хаты поначы, пайшла не ў той бок і заблудзілася. Ты ж ведаеш, я дрэнна бачу, а ў цемры дык і зусім… Блукала ўсю ноч, як развіднела, толькі тады знайшла дарогу дадому.

Каця пагардліва паківала галавою, здзекліва сказала:

— Што сабе думаеш? У вёсцы ж усё навідавоку. Людзі на цябе, гулёну, пагляздзелі і пра мяне будуць гэтак жа думаць.

— Мне ўсё роўна, хто і што падумае, — абыякава адказала Зося.

— Затое мне не ўсё роўна! Цябе бацька паўночы шукае. Цяпер да дзядзькі Карпа пайшоў! Ганьба на ўсю ваколіцу! Я табе пакажу, як па начах швэндацца!

Каця раз’юшана накінулася на Зосю, хвастала яе анучаю. Малодшая сястра, захінаючы твар рукою, выскачыла за дзверы і пабегла з двара. Накіравалася ўбок лесу, бязлістага і чорнага. Толькі там можна схаваць сваё гора ад чужых вачэй. Даўкі камяк перахапіў горла, слёзы паліліся з вачэй. Плакала, з адчаем думала пра тое, што ёй не варта жыць. Нішто яе тут не трымае. Як памрэ, дык, напэўна, ніхто і плакаць не будзе.

«Мамачка мая родная, вазьмі мяне да сябе! Уратуй і абарані! Ніхто мяне не любіць і не шкадуе! Не магу я так жыць, не магу! Дзе ж ты? Дзе мне цябе шукаць? — шаптала Зося. — Ты да Каці больш хінулася, бо яна з твару падобная на цябе. А я, няшчасная, удалася ў бацьку. За гэта ты мяне і не любіла. А ці ж я вінаватая? Так Бог судзіў. Мама, мамачка мая, адгукніся… Дай параду, што рабіць, як жыць? Забяры мяне на той свет… Забяры…»

Зося ведала, што некалі маму сілком выдалі замуж, яна так і не здолела пераадолець сябе — пакахаць нялюбага. Непрыязь да мужа адбілася і на халаднаватым стаўленні да малодшай дачкі, знешне падобнай на бацьку. Яшчэ калі жылі ў Самары, Зося, адчуваючы адчужанасць у сям'і, часам уцякала з дому, мусіць, рабіла гэта падсвядома, каб звярнуць на сябе ўвагу. Найчасцей ішла на рынак, дзе лагодныя гандляркі частавалі яе, дзяўчынку-бежанку, семкамі і баранкамі. Маці карала дачку за самавольства, найчасцей біла ручніком ці анучаю, як цяпер Каця. Ад гэтых успамінаў Зосі яшчэ больш зрабілася шкада сябе, такую гаротную і нікому непатрэбную. Як толькі зайшла ў нетру, пад лясныя шаты, упала на мяккі мох пад высокімі елкамі, завыла-загаласіла, быццам маленькае звераня, што згубілася і не мае ніякае надзеі на выратаванне. Выплакаўшы слёзы, яна забылася цяжкім сном душэўна зморанага чалавека.

## 5

Абудзілася на змярканні. Ногі і рукі здранцвелі ад холаду і ад нерухомасці. Села, агледзелася, згадала пра няшчасце, якое здарылася з ёю, захацелася заснуць зноў, каб ніколі не прачынацца і нічога не помніць пра мінулую ноч. Па целе хваляю пракаціліся дрыжыкі. Яна паднялася і пайшла па гушчары, жадаючы хоць трохі сагрэцца. З прагалаў паміж вяршынямі елак на яе пазіралі цікаўныя вочкі першых зорак. Нават ад іх імкнулася схавацца, бо здавалася, што яны смяюцца і асуджаюць яе. Нікога не хацела бачыць, толькі смерць прынесла б палёгку. Ішла ў лясныя нетры з надзеяю сустрэць гэтую збавіцельку. Голле чаплялася за світку, балюча сцябала па твары. Зося не затульвалася, толькі зажмурвалася, часам рукою адводзіла свавольнае і неміласэрнае вецце. Уявілася, як будзе ляжаць у труне, апранутая ў белую сукенку і вэлюм. Некалі ў маленстве бачыла, як гэтак жа хавалі прыгожую дзяўчыну, якая, калі зацяжарыла без шлюбу, скакала з вышак, каб забіць дзіця, але забілася сама. Над ёю галасіла маці і сёстры, усе шкадавалі нябожчыцу.

Зося падумала, што, можа, нехта паплача і над яе труною. Уявіла заплаканую Гэльку, стрыечную сястру, дачку дзядзькі Карпа, а таксама ягоную жонку, старую Агатэлю. Яны, можа, і заплачуць. Толькі Гардзей з Кацяю будуць смяяцца з яе, памерлай.

Паступова лес расступіўся, аціх ягоны гул. Пад нагамі зачвякала твань, праз халяўкі чаравікаў налілася вада. Зося зразумела, што ў цемры ўбілася ў балота. Уявіла, як уваліцца ў «чортава акно», патоне і ніхто ніколі не знойдзе яе. Не, яна не жадала такой смерці. Усё ж такі хацелася ляжаць у труне ў белым вэлюме, і каб людзі ішлі ўслед за труною і шкадавалі яе. І тады яна абавязкова ажыла б, паднялася б і пайшла б разам з імі. Ёй даравалі б грэх, ніхто ніколі не папракнуў бы нават...

Нага ўвалілася ў твань па калена, Зося ледзьве выцягнула яе, але тут ужо правалілася другой нагой. Дзяўчына спалохана схапілася за галіну нейкага куста, ускараскалася на купіну. У сутонні нічога не было відно. Выламала галіну, стала абмацваць шлях перад сабою і пацІху вяртацца назад, дзе быў цвёрды бераг. Сапраўды праз колькі крокаў яна зноў апынулася на грудку. Цяпер было ўсё роўна куды ісці, абы толькі не загінуць у балоце. Калі тапіцца, дык лепш у сажалцы, дзе патанула некалі яе малодшая сястрычка Люба і цяпер жыла недзе сярод русалак.

Раптам Зосяй апанавала злосць. «Чаму я павінна паміраць? Таму што Каця не любіць мяне? Таму што ён, гэты гад, пакарыстаўся маёю даверлівасцю? А раптам у мяне завяжацца дзіця, як у той дзяўчыны? — падумала

яна са страхам. — Тады вось і памру, накладу на сябе рукі», — цвёрда вырашыла яна.

Пайшла па лясной дарозе, што вілася між чорнага голага кустоўя, спусцілася ў нізінку. Потым узнік вузкі, як праехаць падводзе, мосцік, перакінуты цераз канаву ці забалочаную рэчку. Зося зразумела, што ў гэтае балотца яна і ўлезла, калі пайшла напрасткі, і, напэўна, загінула б, каб своечасова не павярнула назад. Вада ўсё яшчэ чвякала ў чаравіках, мокрыя панчохі студзілі ногі, дрыжыкі хвалямі хадзілі па спіне, зводзіла сківіцы, і зубы ляскалі, не трапляючы адзін на адзін. Захацелася цяпла і спакою, на печ, каб сагрэцца на чарэні. Здалёку пачуўся спеў першага пеўня, мусіць, недзе недалёка было жытло, і яна пайшла на ягоны голас, быццам сам Бог паклікаў яе.

Паступова пачало світаць. Зося ўбачыла, што дарога вядзе да хутара дзядзькі Карпа. Узрадавалася і агародамі накіравалася да ягонай хаты. Трохі атрэсла твань са спадніцы і панчох, увайшла ў цёмныя сені, дрыготкімі рукамі намацала клямку, ступіла ў пакой. Цётка Агатэля ўжо завіхалася ля печы, дзядзька Карп сядзеў ля стала і курыў самакрутку. Гэлька яшчэ спала на запечку.

— Добры дзень вам у хату, — ціха сказала Зося.

— Здарова была, — адказаў дзядзька Карп.

— Куды ж ты прапала? Бацька цябе скрозь шукае? — пляснула ў ладкі цётка.

— Нікуды я не прапала, — сціскаючы зубы, каб суняць дрыжыкі, адказала Зося.

— Цябе з дому выгналі? — са спачуваннем спытаў дзядзька.

— Н-н-не, я сама пайшла, — дрыжучы, адказала Зося.

Абудзілася Гэля, села на запечку, здзіўлена спытала:

— Ты чаго такая?

Зося нічога не адказала, слёзы паліліся з вачэй ад гэтай шчырай увагі і спагады, затуліла твар рукамі.

— Чаго ты, Зоська? — спачувальна дапытвалася Гэля.

— Яна ж уся мокрая! Паглядзі, Карп, якая лужына нацякла! Хуценька распранайся і лезь на печ, — загадала цётка Агатэля Зосі. — Зараз малака паранага дам папіць…

Цётка памагла Зосі сцягнуць мокрыя чаравікі, спадніцу, дала сухую сарочку, памагла залезці на печ. Зося, дрыжучы як асінавы ліст, прыпала да цёплай чарэні, падлезла пад кажух і аціхла. Гэля залезла на печ, хацела распытаць, што ж здарылася.

— Не чапай яе, няхай паспіць, — загадала дачцэ Агатэля. — Вельмі яна ўражлівая, уся ў сваю маці ўдалася. Тая таксама ўвесь час пра нешта думала, плакала, нейкія сны расказвала… Такая парода ўжо… Збегай, Гэлька, да Кірылы, скажы, што Зося знайшлася.

— Іду, — адказала Гэля, апранаючыся і з трывогаю пазіраючы на Зосю. Ёй было шкада сястру, заўсёды такую вясёлую, гаманкую, а зараз скаванай нечаканаю навалаччу.

## 6

Пад вечар у Зосі пачалася гарачка, сэрца таххкала, ледзь не вылятала з грудзей, галава зрабілася цяжкая, як не свая, усё цела абдымаў і працінаў боль. Злезла на запечак, дзе было халадней, пасядзела, пачакала, пакуль ёй слалі на шырокай лаве. Гэля паднесла гарачага малака з маслам. Зося папіла, быццам супакоілася і задрамала, а потым пачала трызніць, звалілася з лавы. Цётка

Агатэля перавяла хворую на запечак, паклала спаць там. Прыйшлі паглядзець Зосю бацька з Кацяю. Зося нікога не пазнавала, клікала маму, мусіць, ёй было вельмі блага.

— Што з ёю такое прычынілася? — сам у сябе спытаў Кірыла. — Прастудзілася ці што? Мо трэба да доктара везці?

— Пачакай са сваім доктарам, — параіў Карп. — Тым лекарам толькі і трэба, каб з нас грошы садраць.

— Пайду паклічу старую Каваліху, няхай пашэпча, — прапанавала Агатэля.

— Схадзі, гэта будзе надзейней, — падтрымаў жонку Карп.

Каця схілілася над сястрою, пагладзіла гарачы лоб, паклікала яе:

— Зоська, Зоська, ці ты пазнала мяне? Гэта ж я, Каця?

Зося расплюшчыла вочы, паглядзела на сястру затуманеным позіркам і прашаптала:

— Мама, мамачка, даруй… я больш ніколі, ніколі не буду… Даруй, мамачка…

Агатэля накінула на плечы вялізную клятчастую хустку і пайшла з хаты. У пакоі ўсталявалася гнятлівая цішыня. Каця глядзела на змарнелы і пасталелы за адны суткі Зосін твар і дакарала сябе за тое, што так сурова сустрэла сястру. Трэба было з ласкаю распытаць, яна, напэўна, расказала б усё, бо няма ў яе іншае сяброўкі, акрамя старэйшай сястры. Усе яе хаўрусніцы засталіся ў самарскім прытулку. Характар у Зосі быў няроўны. Магла быць ласкавай, лагоднай і ціхай, як лясное азярцо, ці раптам зрывалася і рабілася непакорнаю, як задзірысты ветравей, ніхто яе тады не мог ні ў чым пераканаць. Каця зноў дакранулася да гарачага Зосінага лба, паклікала:

— Зося, Зося, ці ты мяне чуеш?

Сястра няўцямна зірнула на Кацю, слаба ўсміхнулася і прашаптала:

— Мамачка, мамачка, пабудзь са мною, не адыходзь... Мне так цяжка... цяжка...

— Зоська, гэта я, Каця...

— Мамачка, Каця злосная... Яна мяне не любіць… Лаецца і б’ецца... Ніхто мяне не любіць...

— Што ты кажаш, дурненькая? Хіба ж я магу цябе біць? — сумелася Каця. — Ты ж большая і здаравейшая за мяне...

Зося ў адказ прастагнала і папрасіла піць. Гэля, якая ўвесь гэты час маўкліва сядзела каля стала, падышла да печы, узяла з прыпечка чыгунок з цёплаю вадою, наліла ў кубак, паднесла хворай, прыўзняла яе галаву.

— Пі, Зоська, пі...

Хворая папіла і стомлена адкінулася на падушку. Кірыла цяжка ўздыхнуў, бездапаможна развёў рукамі, апусціў іх на калені. Гэля паставіла кубак на прыпечак і зноў села, пачала вязаць карункі шыдэлачкам. Вясковыя людзі не звыклі сядзець без працы, асабліва жанчыны, іхнія рукі заўсёды знаходзілі сабе справу, якая ратавала ад смутку і гаркоты. Ці мала якія мітрэнгі здараліся ў жыцці сялянкі, колькі даводзілася ёй трываць дакораў і абраз ад свякроўкі і свёкра, ад уласнага мужа і шматлікай ягонай радні. Дзяўчаткі з маленства прывучаліся да разнастайнай жаночай працы і звычкі ўвесь час нешта рабіць.

Хата паступова напаўнялася змрокам. Карп зняў шкло з лямпы, падвешанай над сталом, чыркнуў запалкай, запаліў кнот, працёр шкло анучкаю і паставіў яго на месца. Цьмянае святло запоўніла прастору хаты, высвеціла абраз Хрыста з палаючым сэрцам у чырвоным куце. Гаспадар зацягнуў на

вокнах марлевыя занавескі. Усе маўчалі. Гэтыя людзі не звыклі да пустых і бязладных гаворак. Рэдка ім удавалася сядзець вось так без працы.

На ганку пачуўся тупат, у хату ўвайшла Агатэля з маленькай, жвавай і гаваркой бабуляй, якая з парога голасна павіталася:

— Добры вечар добрым людзям. А чаго гэта вы такія смутныя?

— Будзь здарова, цётка, заходзь. Можа, ты дасі якой рады, — сказаў Кірыла. — Дачка мая захварэла…

— Зараз пабачым, што тут у вас. Распалі печ, Агатка, мне трэба вугельчыкі.

У хаце з прыходам Каваліхі ўсё прыйшло ў рух. Карп падаўся па дровы. Агатэля дастала колькі сухіх паленцаў з-пад печы, што трымала на распал, адмыслова паклала іх і пачала распальваць агонь. Зрабіла гэта так спрытна, што сквапныя языкі агню ў адзін момант пачалі лізаць сухую драўніну, весела патрэскваючы.

Каваліха схілілася над Зосяю, паклала далонь на лоб, потым прытулілася вухам да грудзей, паслухала дыханне.

— Агатэлька, дай мне лустачку хлеба.

Гэля, не чакаючы, пакуль маці падасць хлеб, адгарнула ручнічок, якім было накрыта паўбохана, адрэзала лусту і падала Кавалісе. Знахарка адламала скарыначку, пачала жаваць, а мякіш памяла і скачала тры камячкі. Скінула з Зосі кажух, якім была тая накрытая, загаліла сарочку, пачала качаць на Зосіным жываце шарыкі з мякішу і шаптаць малітву.

Карп кінуў на падлогу бярэмя дроў, атрос з рукавоў смецце, распрануўся, сеў. Агатэля падклала ў печ дроў, агонь заіскрыўся і падскочыў, аблізваючы новую здабычу.

Каваліха тым часам дастала з кішэні грамнічную свечку і пасмачку кудзелі, няспешнымі рухамі распрастала, патрымала над запаленай свечкай. Кудзеля задымілася. Знахарка пачала з малітваю акурваць Зосю. Дзяўчына аціхла, больш не стагнала і, здаецца, нават дыхаць стала лягчэй. Калі і гэтае дзейства было скончана, знахарка папрасіла:

— Дай мне, Агатка, вугельчык, калі ласка.

Гаспадыня паднесла бабулі некалькі вугельчыкаў у місачцы. Знахарка ўзяла маленькімі абцугамі вугельчык і з малітваю тройчы праняла яго праз Зосіну сарочку, перахрысцілася сама, тройчы перахрысціла хворую. На гэтым лячэнне скончылася. У аддзяку за працу Агатэля дала старой дзесятак яек, завязаных у палатняную анучку. Тая прыняла падарунак, паабяцала зайсці заўтра і хуценька пайшла з хаты.

Кірыла таксама падняўся, разважліва сказаў:

— Калі Зося да вас прыйшла, дык няхай пабудзе. Куды я яе, хворую, павяду. Я табе, Карпе, адпрацую за гэта.

— Пра што ты кажаш? Мы ж свае, адна сям'я, — адказала Агатэля. — Не хвалюйся, мы Зосю ў крыўду не дамо.

Каця на развітанне доўгім і спачувальным позіркам зірнула на малодшую сястру і пайшла да дзвярэй услед за бацькам з цяжкім пачуццём віны. Ці магла яна падумаць, што тая ранішняя сутычка скончыцца такою бядою? Ці мала яны сварыліся раней, ды не было яшчэ выпадку, каб сястра сыходзіла з дому. Зусім здзічэла ў тым прытулку…

## 7

Зося хварэла месяц. Доўга трымаўся жар, трэсла ліхаманка. Часам дзяўчына страчвала прытомнасць. Тройчы прыходзіла Каваліха. Выгаворвала хва-

робу. Нарэшце Зосі палепшала. З самага ранку яна адчула палёгку, захацелася на вуліцу. Накінула на плечы кароткую світку.

— Куды ты? — крыкнула ўслед Гэлька.

— Нікуды. Зараз вярнуся...

Зося, жмурачы вочы ад зыркага сонца, выйшла за весніцы, убачыла, што людзі вяртаюцца па дарозе са Сцяблова з царквы. Здагадалася, што сёння нядзеля. Каб не сустракацца з імі, павярнула да сажалкі, села на беразе, грэлася на сонцы, глядзела ў празрыстую і халодную ваду. Недзе тут, у гэтай чыстай і настылай вадзе, русалкаю жыве яе малодшая сястрычка, можа, чакае яе і кліча, інакш чаму б так цягнула Зосю да вады. «Зараз я прыйду да цябе, і мы будзе заўсёды разам, — вырашыла Зося. — Нам будзе добра разам. Як засумуем, выйдзем з вады, наведаем сваю сядзібу і зноў вернемся назад, каб ніколі больш не сустракацца з гэтым ненавісным Гардзеем, з Кацяю і іншымі людзьмі, якія, напэўна, распускаюць пра мяне розныя брудныя плёткі».

Пасля зімы сажалка ачысцілася ад каламуці, здавалася гаючаю. Зосі захацелася зачарпнуць у далоні вады і ўмыць твар. На імгненне нават здалося, што з глыбіні ўсміхаецца сястрычка Люба, махае ручкаю, кліча яе.

«Зараз, зараз, Любка, я прыйду да цябе. Насумавалася тут адна…» — прашаптала Зося, скінула світку, пайшла ў сажалку. Настылая вада абхапіла ногі, сціснула, быццам абцугамі, сутаргі прабеглі па ўсім целе. Ступіла яшчэ крок, каб кінуцца ў гэты холад і патушыць пажар, які выпальваў душу. Хвалі пабеглі ад яе кругамі. Зося ўлезла ў ваду да барады, апякла ўсё цела, і раптам быццам нешта выштурхнула яе. Зося выскачыла на бераг і скурчылася, працятая холадам. Акрылася світкай, але цяпла не адчула. Усю яе калаціла. Пераадольваючы сутаргавы боль у нагах, пабегла, спатыкаючыся, да Карпавай хаты. У двары яе сустрэла Гэлька, пляснула рукамі:

— Божачкі, зноў мокрая! Ты знарок прастуджваешся, ці што?

— Ц-цяпер мне доб-б-ра, — дрыжучы ўсім целам, адказала Зося.

— Зусім звар'яцела! Лезь хутчэй на печ, гора маё чубатае!

Зося ўвайшла ў хату, скінула мокрае адзенне, апранула сухую сарочку, залезла на печ, накрылася кажухом і аціхла на ратавальнай цёплай чарэні пад калматай поўсцю. І раптам адчула, што цела вылучае прыемнае цяпло, ажывае, наліваецца сілаю. Грукнулі дзверы — у хату ўвайшоў дзядзька Карп і здзіўлена спытаў:

— Гэлька, ці ты здурнела? Нейкую бялізну развесіла на вуліцы ў святы дзень. Людзі падумаюць, што мы бязбожнікі.

— Не, тата, бялізну я не мыла. Гэта Зося зноў прыйшла ўся мокрая. Яе адзенне і сушыцца...

— Клін клінам выбіваюць... мо ачуняе хутчэй!

Праз колькі дзён Зося сапраўды адчула сябе здаровай. Раніцай злезла з печы, дапамагла цётцы Агатэлі абіраць бульбу. Гэля ў гэты час прычэсвалася перад невялікім люстэркам, якое паставіла на стале.

— Мама, у цябе Зося за памочніцу будзе, — сказала яна, — а я пайду ў маёнтак.

— Чаго? — здзівілася Агатэля.

— Учора на вячорках казалі, што да пана Райскага з Варшавы прыехаў пісар, работнікаў набірае да нейкага графа. Я таксама хачу запісацца.

— А ты ў бацькі спытала? — насцярожылася маці.

— Спытаю...

Гэлька выбегла з хаты. Зося, засяроджаная на сваіх думках, не чула, пра што размаўлялі маці з дачкою.

— Што яна надумала? Куды ёй ехаць? Дзіця горкае, нідзе ж яшчэ не была, свету не бачыла, — уздыхнула цётка.

— Куды яна едзе? — здзіўлена спытала Зося.

— Ці ты не чула? Толькі ж казала, што хоча ў Варшаву...

— Прабачце, задумалася...

Цётка спачувальна паглядзела на дзяўчыну, паківала галавою:

— Што з табою такое робіцца? Быццам згубілася ты, ніяк да розуму не прыйдзеш.

— Ужо прыйшла. Скажыце, чаго Гэлька ў Варшаву едзе?

— На працу туды запісваюць.

— І я хачу. Няхай і мяне запішуць, — папрасіла Зося.

— Малая ж ты яшчэ...

— Я ўсё рабіць умею.

У хату ўбегла вясёлая Гэлька, абвясціла:

— Мне бацька дазволіў.

Маці незадаволена паморшчылася:

— Вечна ён патурае тваім капрызам. Як ты будзеш там адна сярод чужых людзей?

— Яна будзе не адна, я з ёю паеду, — цвёрда сказала Зося.

— Цябе не возьмуць, трэба мець хоць шаснаццаць гадоў, — запярэчыла Гэлька.

— Я за цябе вышэйшая. Хто ведае, колькі мне гадоў? Трэба шаснаццаць, скажу, што мне столькі і ёсць.

— Ох, і рызыкоўная ты, Зоська! — засмяялася Гэлька. — Добра, паснедаем і пойдзем. Мне весялей будзе, праўда, мама?

Агатэля моўчкі кіўнула, стала распальваць у печы, а Зося ўсё абірала бульбу, радасна думаючы пра тое, што яна з'едзе з дому, не будзе сустракацца з Гардзеем. Як добра было ў прытулку сярод чужых! Там яна хораша спявала, а яшчэ танцавала ў «Лебядзіным возеры». Ніхто з выхаванак не ўмеў так хадзіць у пуантах на пальчыках, як яна! Там было іншае, цікавае жыццё. А тут адна чорная праца з ранку да вечара… Ды яшчэ гэтая бяда, што звалілася знянацку…

— Зоська, хопіць бульбы, — сказала цётка. — Ідзі ўжо, прыхарошвайся. У маёнтак жа пойдзеш.

Зося паклала нож, памыла рукі ў чыгуне, зірнула на Гэльку, паглядную, упэўненую, якая падпаясвала новы андарак узорыстым паскам, і яе душа радасна захвалявалася ў прадчуванні нейкіх добрых перамен.

Пасля сняданку дзяўчаты пайшлі ў панскі маёнтак. Дарога іхняя пралягала праз грэблю, якая раздзяляла дзве сажалкі. Зося глядзела ў ваду і згадвала, як яе цягнула туды, як хацела ўтапіцца, каб не адчуваць болю, сораму, страху. І каб гэта здарылася, яна была б зараз русалкай і разам са сваёй малодшай сястрой Любкай жыла б на дне сажалкі, пазірала б на Гэльку з дна, усміхалася б ёй. А Гэлька не бачыла б нічога. Напэўна, добра, што яна тады не ўтапілася. Цяпер Зосі хацелася жыць, а для гэтага трэба было забыць праклятае чужое вяселле, якое для яе абярнулася вялікім горам. Зося стоена ўздыхнула.

— Чаго ты бядуеш, Зося? — спачувальна спытала Гэлька.

— Сама не ведаю, нешта цяжка на душы. Згадала малодшую сястрычку, якая некалі ўтапілася вось у гэтай сажалцы...

— Ага, нешта і я чула пра гэта.

— Бачыш, няма яе, а я помню і сумую. І маму шкада, што так рана памерла…

— Нябожчыкам не трэба, каб па іх сумавалі. У Хрысціны Піваваравай памёр сын, дык яна па ім дзень і ноч плакала, ледзь не аслепла ад слёз. А потым прысніўся ёй сон, што сынава труна стаіць у вадзе, а нябожчык просіць маці больш не плакаць, бо ён хутка патоне ў яе слязах.

— Няўжо і закапаныя ў зямлю нябожчыкі нешта адчуваюць? — здзівілася Зося.

— Яшчэ як адчуваюць!

— Мусіць, ад нуды і на тым свеце не схавацца, — уздыхнула Зося.

— А мяне мама так вучыла: як агорне смутак, аддай яго каменю і ўкінь у ваду. Твая маркота і сплыве з вадою.

— Я так і зраблю, — узрадавалася Зося.

Яна падняла ладны камень, які ляжаў на беразе, уявіла, што так акамянеў Гардзей і ўсё тое зло, якое абрынулася на яе пасля сустрэчы з ім, і шпурнула ў сажалку. Камень цяжка пялёхнуўся. Па вадзе пабеглі кругі. Зосі здалося, што ёй сапраўды зрабілася лягчэй.

## 8

Графскі пісар сядзеў за шырокім сталом, на якім стаяла чарніліца, ляжалі паперы. Быў гэта яшчэ не стары чалавек, чарнявы, з вялікімі залысінамі, з вусамі, па-паліхвацку закручанымі ўгору, апрануты ў гарнітур у дробную клетку і белую сарочку з чорным гальштукам. Паглядзеў на Зосю і Гэлю паверх круглых акуляраў і спытаў:

— Што вы, дзяўчаты, умееце рабіць?

— Усялякую сялянскую працу, — адказала Гэля.

— Там давядзецца шмат працаваць, — папярэдзіў пісар.

— Мы працы не баімся.

— А ці ёсць вам па шаснаццаць гадоў.

— Ёсць, ёсць, — пераконвала Зося пісара.

— Вашы бацькі не супраць?

— Не, не супраць, — упэўнена адказала Гэля.

— У такім разе мне трэба запісаць усе звесткі пра вас, як завуць, колькі вам поўных гадоў, назву вёскі.

— Барэйша Сафія, дачка Кірылы, з хутара, які знаходзіцца каля вёскі Крачкі, маю шаснаццаць гадоў, — сказала Зося і паружавела ад хлусні — яна дадала сабе два гады.

Потым пісар запісаў звесткі, якія тычыліся Гэлі і сказаў, што заўтра ранічкай яны павінны быць на чыгуначным вакзале ў Жабінцы. Туды прыйдуць яшчэ чалавек дзесяць моладзі з ваколіц, каб ехаць у Варшаву на працу да пана графа. Зося з жахам падумала, раптам там будзе і Гардзей, але тут жа супакоіла сябе, што ён, напэўна, гаспадарку не пакіне дзеля нейкіх прывідных заробкаў.

На другі дзень Зосю з Гэляй на вакзал у Жабінку прывёз Карп. Хлопцы і дзяўчаты ў шэрых сялянскіх світках, з кайстрамі за плячыма стаялі на пероне. Каля іх быў і пісар у капелюшы і зеленаватым плашчы.

— Вось і нашы, — узрадавана прамовіла Зося.

Карп агледзеў малады гурт і сказаў:

— Дзяўчаты, калі там будзе дрэнна, адразу вяртайцеся. І паводзьце сябе добра, каб мне пасля не давялося за вас чырванець. У працу надта не ўлягайце, каб не падарвацца на панскім хлебе. Як з маладых гадоў здароўе згубіш, дык пасля нідзе яго не прыдбаеш.

— Добра, тата, не хвалюйся. Едзь ужо дахаты, а мы пойдзем да пісара, — папрасіла Гэлька.

— Ідзіце з Богам, — блаславіў Карп дачку і пляменніцу, тузануў лейцы, і конь крануўся з месца.

Дзяўчаты падышлі да моладзі. Пан пісар адзначыў іх у спісе, і ўсе засталіся чакаць цягніка. Сонца, яскравае і цёплае, свяцілася на ўсходзе над рэйкамі, яны гарэлі, адлюстроўваючы зыркія промні, і недзе далёка сыходзіліся ў адну кропку. Адтуль чакаўся цягнік, які мусіў адвезці Зосю далёка ад яе бяды. Перад ад'ездам яна так і не зайшла дахаты, толькі папрасіла цётку Агатэлю папярэдзіць бацьку. Баялася, што зноў пачнуцца папрокі. А ў яе не было сілы гэта трываць. Хацелася спакою, самоты і працы, якая ратавала б душу ад чорных думак.

Цягнік, як казачны змей, пыхкаючы параю, спыніўся насупраць цаглянага вакзала з чубатым дахам і забраў у сваё чэрава хлопцаў і дзяўчат, якія хоць і жылі ў вёсках абапал чыгункі, але большасць з іх упершыню выпраўляліся так далёка ад роднай хаты. Пісар паказаў, дзе каму сесці, раздаў квіткі, загадаў захаваць іх да канца паездкі, папярэдзіў, што ў Варшаве перасядуць на іншы цягнік. Вагон крануўся, міма паплылі знаёмыя краявіды. Зосі пашчасціла сесці ля акна, яна неадрыўна глядзела праз шкло, быццам баючыся нешта прапусціць. Гэлька больш назірала за тым, што адбываецца ў вагоне.

— Пісар пайшоў, — адзначыла яна. — Хіба ж пан з хамам сядзе на адну лаўку?

— Можа, пайшоў паснедаць у рэстарацыю.

— Не, Зося, у цягніку для паноў іншыя вагоны.

— Ну і няхай. Якая табе розніца?

— Хоць бы адным вочкам зірнуць на той панскі вагон, — мройліва сказала Гэлька.

Зосі міжвольна прыгадалася яе самая першая паездка ў цягніку, калі ехалі ў Самару. Тады яшчэ была жывая мама. Яна ўвесь час бедавала, што сям'я пакінула гаспадарку, што ехалі немаведама куды і прагнула хутчэй вярнуцца назад. Малая Зося яшчэ не ўмела маркоціцца, а з дзіцячай цікаўнасцю глядзела навокал. І ўсё ўбачанае адбілася ў памяці, быццам каляровыя фотаздымкі.

— Калі ехалі ў бежанцы, нас на нейкім вакзале сама царыца сустракала, — сказала Зося.

— Маніш! — не паверыла Гэля.

— Навошта мне маніць? Царыца арганізоўвала шпіталі для параненых. Такая прыгожая, у блакітнай сукенцы, у белым капелюшы. Каб ты бачыла!

— Якая ты шчаслівая, Зоська, паўсвету аб'ехала...

Зося нічога не адказала. Не хацелася разважаць ні пра шчасце, ні пра гора. Яна ўцякала ад свайго нядаўняга мінулага, якое хацела забыць назаўсёды, у невядомае наступнае. Якое яно будзе?

## 9

Белы графскі дом высіўся ў канцы доўгай прысады з раскідзістых высокіх дрэваў, якія яшчэ не распусціліся. Двухпавярховы будынак, з калонамі і маленькімі балкончыкамі на другім паверсе, вабіў і палохаў сваёй веліччу. Злева ад яго былі гаспадарчыя пабудовы. Туды і павёў моладзь пісар. У невялікім, але прыгожым будынку іх чакала сустрэча з аканомам, хударлявым старым з сівою галавою. Той узяў з рук пісара спіс, пачаў чытаць прозвішчы, часам смешна ставячы націск па-польску. Моладзь стрымана ўсміхалася.

Кожны адгукаўся на сваё прозвішча. Калі дайшла чарга да Зосі, аканом нават акуляры зняў і здзіўлена сказаў:

— Гэта ж яшчэ зусім дзіця. Тонкая, як саломіна!

— Абы працу любіла, а пастарэць паспее, — адказаў пісар.

— Ці разумееце па-польску? — спытаў аканом у наймітаў.

Моладзь згодна заківала галовамі.

— Тады слухайце. Працаваць давядзецца ўвесь дзень. Плаціць будзем добра і карміць таксама добра. Хто не будзе ленавацца, не пашкадуе, што прыехаў сюды. Зараз пані ахмістрыня вас завядзе і пакажа, дзе будзеце жыць, дзе харчавацца, а заўтра з самага ранку — на працу.

Моладзь пасялілі ў невялікі аднапавярховы будынак, дзе жыла прыслуга. У пакоі, адведзеным для дзяўчат, ужо жылі сямёра ўкраінак. Там стаялі двух’ярусныя ложкі, некалькі табурэтак і стол. Зося выбрала сабе ложак наверсе, нават залезла і прылегла на хвілінку на новай пасцелі. Коўдра і посцілкі былі хоць і старыя, але чыстыя.

Потым іх павялі вячэраць, далі па талерцы густых смачных крышаноў з бобам, бульбу, смажаную з маленькімі кавалачкамі мяса, і кісель. Усе засталіся задаволеныя вячэраю. Нехта з хлопцаў, пэўна, з вельмі беднай сям’і, сказаў, што ён не ў кожнае свята гэтак харчуецца.

— Шукай тут сабе жонку, — параіў яму нехта з сяброў. — Палякі жывуць лепш, чым мы.

— Каб полька ды пайшла замуж за хама? Я такога зроду не чула, — засмяялася Гэля.

— Дзяўчаты, а вы з якога сяла? — спытаў у Гэлі бялявы хлопец.

— З Крачак, чуў такую вёску?

— Чуў. Цяпер буду ведаць. А я са Здзітава.

— У нас дзяўчат шмат прыгожых, прыязджай, пасватаем якую, — прапанавала Гэля.

— А я цябе і выбраў бы.

— Ласы на чужыя каўбасы, — засмяялася Гэля. — Ты спачатку грошай зарабі. Няма чаго з пустою торбаю святацца.

— Ведаеце, дзяўчаты, колькі ў нас грошай, не зробленых, — весела сказаў другі, спрабуючы абняць Зосю.

Дзяўчына адскочыла, як апечаная, злосна зірнула на нахабніка.

— Ты чаго такая дзікая? — здзіўлена спытаў ён.

— А чаго ты наскокваеш на мяне, як бычок?

— Хто б мог падумаць, што ў Крачках такія злосныя дзяўчаты жывуць, — па-бабску прытрымліваючы шчаку рукою, скрушна прамовіў хлопец.

Зося нічога не адказала. Пачыналася новае жыццё, і яна не жадала, каб нехта яго сапсаваў, зняважыў, знішчыў. Не, цяпер яна ў свой лёс нікога не пусціць.

Назаўтра хлопцы вывозілі гной на поле, а дзяўчаты раскідвалі яго. Праца была не вельмі цяжкая, але ж за дванаццаць гадзін так накідаліся, што з поля вярталіся моўчкі. Зося была задаволеная тым, што ўсім далі рабочае адзенне і гумовыя боты. А так бы сваё адзенне прасмердла гноем, што не было б у чым на свята выйсці.

Пасля працы хапіла сілы толькі на тое, каб пераапрануцца, умыцца над балеяю, павячэраць і легчы спаць. І гэта не палохала Зосю. Няхай працы будзе мора, каб толькі ні пра што не думаць, нічога не згадваць.

У нядзелю пасля сняданку дзяўчаты пайшлі ў касцёл. Хоць Зося была праваслаўнага веравызнання, але лічыла, што Бог адзін, таму даравання за грахі можна прасіць і ў царкве, і ў касцёле. Глядзела на абраз Божай Маці і

шчыра прасіла ў яе супакою для душы і мудрасці для сэрца. На вочы навярнуліся слёзы, і праз іх Зосі раптам здалося, што Маці Божая ўсміхнулася ёй куточкамі вуснаў.

— Чаго ты плачаш? — спытала Гэля, якая сядзела побач.

— Маму ўспомніла, — адказала Зося першае, што прыйшло ў галаву.

Па абедзе на палянцы сярод старых ліп моладзь наладзіла танцы. Гэля пусцілася ў скокі, а Зося пайшла ў парк і толькі цяпер заўважыла пад нагамі першыя белыя вясновыя кветкі. Тут жа дзіўна цвіло ружовымі кветачкамі нейкае кустоўе, падобнае на лазу. Далей красаваліся нізкія кусцікі з галінкамі, усыпанымі жоўтымі пялёсткамі. Зося падумала з сумам, што хутка стане зусім цёпла, усё зацвіце, закрасуе, але ў яе душы ўжо ніколі не будзе ранейшай бесклапотнай радасці. Трэба было б напісаць дадому, але вырашыла: няхай Гэля піша, а праз яе можна перадаць родным прывітанне.

— Чаго паненка сумуе? — пачуўся нечы голас за спінаю.

Зося павярнулася і ўбачыла невысокага, худога хлопца з кучаравай рыжай галавой. Валасы яго залаціліся ў промнях сонца і здаваліся чырвонымі.

— Я не сумую, проста аглядаю парк. Тут шмат раслін мне невядомых.

— Граф замаўляў іх у розных краінах свету. Я тут працую памочнікам садоўніка. Кожную раслінку ведаю.

Хлопец пачаў паказваць і называць дрэвы, кустоўе.

— Не турбуйцеся, пане, я ўсё роўна не запомню…

— Як паненку клічуць? — нясмела спытаў хлопец.

— Зося, — адказала дзяўчына.

— А я Юлек. Вось і пазнаёміліся. Вельмі прыемна. Прыходзьце да мяне ў сад часцей. Летам будзе шмат кветак, яблыкаў, груш, ягад...

— Дзякую. Да лета трэба дажыць… Бывайце…

Зосі хацелася застацца адной, бо гора, якое спрабавала ўтапіць з сабою ў сажалцы, прыехала з ёю сюды, у графскі маёнтак Стараволя, і ціснула, не давала спакою. Яна праганяла чорныя думкі, але душа існавала ў прытоенай жалобе.

## 10

Гэля атрымала ліст ад бацькі і пачытала яго Зосі. Ён пісаў па-мужчынску коратка, паведамляў галоўныя навіны. Удала прадаў на кірмашы ў Берасці парасят, адсеяліся, з Крачак пабралі хлопцаў у войска. Дзядзька пералічыў усіх, у тым ліку і Гардзея.

Зося, пачуўшы пра Гардзея, са злосцю падумала, няхай бы ён з таго войска не вярнуўся. З гэтаю весткаю зваліўся з Зосінай душы цяжар, бо вінавайца яе граху і ганьбы быў зараз недзе далёка, і гэта разнявольвала яе. Па нядзелях пачала хадзіць на вячоркі, весялілася, скакала, спявала прыпеўкі. На яе звярталі ўвагу, наперабой запрашалі на танцы і свае хлопцы з-пад Жабінкі, і ўкраінцы, і палякі. Той-сёй нават спрабаваў заляцацца, але Зося трымала залётнікаў на адлегласці. Да Юлека ставілася па-сяброўску, бо не адчувала з ягонага боку той жорсткай мужчынскай агрэсіі, якая ішла ад іншых хлопцаў.

Месяцы праз два Зося таксама атрымала з дому ліст. Сядзела на сваім высокім ложку і ўжо трэці раз перачытвала яго. Каця напісала, што ўсё лета працавала нянькаю ў Кобрыне, але не спадабалася гаспадыня, таму пакінула службу. Бацька адзін з цяжкасцю ўпраўляўся па гаспадарцы, навярэдзіў спіну, цэлы тыдзень ляжаў, цяпер падняўся, ходзіць па двары, але пакуль з яго работнік ніякі. Старэйшая сястра звярталася да малодшай так, быццам нічога не здарылася, нібыта прапаноўвала прымірэнне. І Зося прыняла яго, бо іншай радні, акрамя бацькі і Каці, у яе не было.

У пакой забегла ўсхваляваная Гэлька, паклікала Зосю:

— Хадзі хутчэй, паглядзі, маладая графіня прыехала!

За ўвесь той час, пакуль найміты жылі ў маёнтку, яны не бачылі нікога з гаспадароў. Казалі, што стары граф жыў ці ў Парыжы, ці ў Рыме, а ягоная дачка — у Варшаве. Усімі справамі кіравалі аканом, ахмістрыня, пісар і іншыя слугі. Зося ніколі ў жыцці не бачыла жывой графіні, цікаўнасць так авалодала ёю, што саскочыла з ложка і за Гэлькаю пабегла на двор, далучылася да невялікага гурту слуг, што і ў святочны дзень былі занятыя на гаспадарчым двары, даглядалі коней, даілі кароў, кармілі свойскае птаства.

Каля ўвахода ў палац яна ўбачыла самаход з адкрытым верхам, ля якога завіхаўся мужчына ў скураной куртцы, галіфэ і высокіх бліскучых ботах. Маладая жанчына, апранутая ва ўсё чорнае — ад карункавага капялюшыка з шырокімі палямі да доўгай сукенкі, — падымалася на ганак. Пакаёвыя слугі выйшлі ёй насустрач, кланяліся, вітаючы.

— Чаму яна ва ўсім чорным? — спытала Зося.

— Мужа пахавала, — адказала нейкая жанчына.

— І што з ім здарылася?

— Забілі.

— Хто? — яшчэ больш здзівілася Зося.

— Пра гэта нават паліцыя не ведае.

— Напэўна, ён быў вельмі прыгожы?

— Прыгожы, але бедны. Графіня Віслава выйшла замуж без дазволу бацькі, — адказала жанчына і падалася ўперад, каб лепш разгледзець, што адбываецца на ганку.

«Вось як бывае, — з жалем падумала Зося. — І прыгожая, і багатая, а шчасця няма. Чаго мне на лёс наракаць?»

— Якая графіня прыгожая! — ціха, з захапленнем сказала Гэлька.

— Каб цябе так апрануць, мо і ты была б, як графіня, — адказала Зося.

— Пра што ты кажаш? У яе ж тварык, бы з іконы змаляваны...

Зося памаўчала. Яна падумала, што, сапраўды, прыгажосць — рэч важная, але ж усе твары не могуць быць на манер ікон. Кожны чалавек па-свойму нечым прывабны. Галоўнае, каб душу меў спагадную, каб не прымушаў пакутаваць іншых.

Графіня ўвайшла ў палац, за ёю падаліся пакаёвыя слугі. Гэля і Зося селі на лаўку пад ліпаю каля будынка, дзе яны жылі.

— Добра быць графіняю, — сказала Гэля.

— Дзіва што, — адгукнулася Зося.

— Глядзі, твой Юлек з саду ідзе.

— Які ён мой? Нашто мне ён?

— Застанешся ў Польшчы, будзеш паняй.

— Не застануся. Мне іхняя гаворка не падабаецца...

Юлек павітаўся яшчэ здалёк, ён нёс кошык з яблыкамі, такімі спелымі, што яны здаваліся празрыстымі.

— Я да вас. Частуйцеся, калі ласка, — сказаў хлопец, ставячы кошык на лаўку.

— Якая смаката! — усклікнула Гэлька, адкусіўшы сакавітую мякаць.

— Цябе не будуць лаяць за яблыкі? — спытала Зося.

— Гэта ж падалкі. Я іх збіраю і аддаю на гаспадарчы двор… А ці прыйдзе сёння панна Зося на скокі?

— Прыйду, Юлек. Скокі я люблю. Хутка восень, а потым зіма, там ужо не паскачаш. Дзень кароткі.

— Зімой наша моладзь весяліцца ў карчме.

— Не, у нас у карчму толькі сталыя людзі ходзяць, — заўважыла Гэля. — Мы ладзім вячоркі па хатах, дзе ёсць хлопцы ці дзяўчаты.

— На які тэрмін вас узялі на працу? — спытаў Юлек.

— На два гады, — адказала Зося.

— Гэта добра, папрацуеце, нешта заробіце. Частуйся, панна Зося, — прапанаваў Юлек.

Зося ўзяла яблык, выцерла яго, патрымала ў далонях, быццам саграваючы, потым надкусіла, пажавала, сказала:

— Вельмі смачна, Юлек. Ты мне свеціш і саграваеш, як сонца.

Юлек паружавеў ад гэтай пахвалы, апусціў вочы, хаваючы сваю збянтэжанасць.

— Пайду я, — сказала Гэля, хітравата падміргваючы Зосі, — у мяне справы ёсць.

— Панна Гэля, вазьміце яшчэ яблыкаў, — прапанаваў Юлек.

Гэля ўзяла ў рукі колькі яблыкаў і пайшла. У двары было пуста, толькі чалавек, які прывёз графіню, усё завіхаўся каля машыны.

— Што здарылася з мужам графіні? — спытала Зося.

Юлек азірнуўся па баках, ці няма каго побач і адказаў:

— Абраннік маладой графіні не падабаўся графу. Людзі кажуць, што наняты забойца забіў нежаданага зяця. Толькі ты нікому пра гэта не кажы.

— Які жорсткі свет, — прамовіла Зося. — Якія жорсткія людзі...

— Людзі ёсць розныя, — адказаў Юлек.

Усім сваім выглядам ён нібы паказваў, што не такі, што на Зосю ягонай дабрыні, напэўна, хопіць, але дзяўчына нічога не заўважыла, душа яе была абцяжарана ўласнымі трывогамі і згадкамі, праз якія Юлеку ніяк не ўдавалася дастукацца да яе душы.

## 11

Непрыкметна прайшоў адзін год, пацягнуўся другі. Найміты ўсё часцей думалі і загаворвалі пра дамоўку, хацелася сваёй стравы на стале, няхай і простай, але звыклай, сваіх людзей і роднай гаворкі навокал. Зосі таксама карцела вярнуцца дамоў. Каця пісала падрабязныя лісты, расказвала пра бацьку і Серафіма. Хацелася адначасова быць дома і тут, у Старavolі. Хоць Зося лічыла, што найлепш ёй жылося ў прытулку, дзе шмат чытала, спявала, займалася ў танцавальным гуртку, але ж у прытулку нельга было жыць вечна, прыйшла б пара і давялося б ісці на свой хлеб.

У адзін з цёплых восеньскіх вечароў аканом пан Падгурскі сабраў наймітаў, прызначыў некалькі хлопцаў завезці на фурманках яблыкі ў бліжэйшы гарадок на кансервавы завод. Акінуўшы позіркам гурт дзяўчат, тыцнуў пальцам у Зосю:

— Ты таксама паедзеш. Заўтра а шостай гадзіне выязджаем.

Гэля тузанула Зосю за рукаў, з зайздрасцю пасміхнулася:

— Аканом цябе вылучыў, напэўна, ты яму спадабалася.

— Гэта ж стары дзядзька! Што ты вярзеш? — абурылася Зося.

— Паны старыя не бываюць. Хто багаты, той заўсёды малады.

— Сціхні! Бо пасварымся, — папярэдзіла Зося.

Зрэшты, Зосі было прыемна, што менавіта яна, а не хто-небудзь іншы паедзе ў горад, і ў прадчуванні цікавай вандроўкі заснула.

Раніцай шасцёра хлопцаў паселі на падводы. Запрэжаныя коні ўжо застаяліся ў чаканні, нецярпліва пераступалі з нагі на нагу. Зося выбірала, на які воз лепш сесці, вырашыла, што на першы. Але тут пад’ехаў аканом на двухколавай

брычцы і запрасіў Зосю да сябе. Абоз рушыў з маёнтка па дарозе праз лес, потым пацягнулася восеньскае пераараная поле. Удалечыні павольна круціліся крылы ветрака, пэўна, ужо малолася зерне новага ўраджаю. Праехалі некалькі шэрых вёсак, дзе сустракаліся там-сям каменныя пабуды з чарапічнымі дахамі. Гарадок аказаўся недалёка, дзве гадзіны няспешнай язды. Каля завода было дзесяткі два фурманак, гэта не спадабалася аканому, але давялося чакаць.

Калі нарэшце дайшла іхняя чарга, аканом спытаў:

— Паненка пісьменная? Лічыць і пісаць умееш?

Зося згодна кіўнула галавой.

Хлопцы ставілі на вагі скрынкі з яблыкамі, аканом сачыў, каб работнік завода не памыліўся, а Зося старанна запісвала вагу. Узважаныя яблыкі высыпалі ў вялікі бункер. Потым яшчэ ўзважылі пустыя скрынкі. Аканом загадаў хлопцам вяртацца дамоў, а сам заняўся падлікамі, потым параўнаў свае лічбы з тым, што налічыў работнік завода, усё сышлося.

— Павартуй брычку, — сказаў пан Падгурскі Зосі, — а я пайду ў кантору і атрымаю грошы.

Зося села ў брычку і ганарыста паглядвала на паненак, якія праходзілі міма. Напэўна, ніхто не здагадваецца, што яна з глухой палескай вёскі, а думаюць: нейкая багачка, калі ў такой брычцы сядзіць.

Аканом вярнуўся хутка, нязграбна ўскараскаўся ў брычку, паправіў капялюш, упрыгожаны рабенькімі пёркамі, які насунуўся на самыя вочы, весела падміргнуў Зосі і сказаў:

— Паненка добра папрацавала. Мушу заплаціць. — Ён дастаў грошы, падаў Зосі. Яна пасаромелася пералічваць, але зразумела, што сума ніштаватая.

— Дзякую вам, пане Падгурскі, — адказала, моцна заціснуўшы ў руцэ грошы.

Аканом тузануў лейцы, конь весела зацокаў капытамі па брукаванцы. Аднак гаспадар хутка спыніў яго каля некалькіх крамаў.

— Я пайду куплю таго-сяго, — сказаў аканом.

— А можна мне зайсці ў гэтую краму? — паказала Зося рукою на вітрыну, дзе было вывешана жаночае адзенне.

— Зайдзі, толькі не доўга, — папярэдзіў пан Падгурскі.

Зося ўвайшла ў краму. Яе ветліва сустрэў сіваваты габрэй:

— Што паненка хоча? — спытаў ён.

Зося расціснула кулак, паклала свой скарб на прылавак і сказала:

— Мне б пінжачок са спадніцаю і блузку.

Габрэй спрактыкаваным вокам агледзеў Зосю і прынёс ёй шэры касцюмчык і белую блузку.

— Тут можна памераць, — прапанаваў габрэй і паказаў прымерачную.

Зося ведала, што ёй нельга затрымлівацца, аднак не вытрывала, каб не памераць гэтае шыкоўнае, як ёй здавалася, адзенне. Зайшла за шырмачку, паспешліва пераапранулася і з захапленнем паглядзела на сябе ў люстэрка. Шэры колер вельмі пасаваў да вачэй, а каўнерык блузкі асвяжаў, рабіў твар выразным. Яна ў гэтым адзенні выглядала не як наймічка, а як выхаваная і адукаваная шляхцянка.

Дзяўчына згарнула сваё адзенне і выйшла з прымерачнай. Стары габрэй задаволена зацмокаў языком, зняў з вітрыны белы капялюшык, упрыгожаны далікатнымі штучнымі рамонкамі, надзеў Зосі на галаву, падвёў да люстэрка, што стаяла пры сцяне.

Зося была ў захапленні ад сябе, убачанай у люстэрку. Шчыра падзякавала габрэю, зрабіла рэверанс, як вучыла выхавацелька ў прытулку, і выбегла на ганак. Аканом сядзеў у брычцы і чакаў яе.

— Прабачце, калі ласка, што затрымала вас.

— Паненка, цябе ж не пазнаць! Што гэта з табою зрабілася? -— задаволена ўсміхнуўся пан Падгурскі — і мноства маршчынак разбеглася ад ягоных вачэй да скроняў.

— Дзякую вам за ўсё, — збянтэжана адказала Зося, усаджваючыся побач з панам.

Аканом шпарка пагнаў каня. Але як толькі выехаў за гарадок, звярнуў з брукаванкі на палявую дарогу.

— Куды мы едзем? — занепакоілася Зося.

— Справа тут у мяне ёсць, — буркнуў сабе пад нос Падгурскі.

За полем пацягнуўся невялікі лясок, за якім раптам адкрылася прыгожае і круглае, як сподак, азярцо. Аканом спыніў каня, прывязаў лейцы да дрэва. Конь адразу пачаў скубці траву. А пан Падгурскі разаслаў посцілку, паклаў на яе вяндліну, хлеб, цукеркі, паставіў пляшку з віном, нават дзве чаркі аднекуль узяліся.

— Сядай, паненка! Паабедаем, — запрасіў аканом. — Дарэчы, як цябе завуць?

— Зося.

— Выдатна, Зоф'я — азначае мудрая...

Пан Падгурскі адкаркаваў пляшку, напоўніў чаркі, сказаў тост:

— Каб нам заўсёды гэтак удала ездзілася.

Зося пакаштавала напой. Віно было духмянае і салодкае.

— Пі, Зося, і закусвай... Не саромейся…

Пілося лёгка, елася з апетытам. Аканом адкаркаваў яшчэ адну пляшку, весела падміргнуў дзяўчыне:

— Хто добра працуе, той мусіць добра есці.

— Сёння для пана не працоўны дзень, а святочны, -— засмяялася Зося.

— Што праўда, то праўда. Свята трэба каваць сваімі рукамі. Ты такая малайчына, дай я цябе хоць пацалую за тваю кемлівасць.

Пан Падгурскі цмокнуў Зосю ў шчаку, крэкнуў і сказаў:

— Якая ты салодкая, быццам цукерку праглынуў.

— Вы і прыдумаеце, пан Падгурскі, — засмяялася Зося, ад віна ёй зрабілася весела.

— А цяпер ты мяне пацалуй, — пан Падгурскі падставіў шчаку.

Зося гатовая была не раз, а і дзесяць разоў пацалаваць аканома за той падарунак, які ён ёй зрабіў. Між тым Падгурскі падліваў Зосі чарку за чаркаю салодкае пітво. Яна не заўважыла, як захмялела. Галава закружылася, яна прылегла на апалую лістоту, удыхнула сыры пах зямлі.

— Адпачні, адпачні... І я з табою — побач.

Падгурскі лёг побач з Зосяй, пачаў цалаваць, а ў яе не было сілы нават рукою варухнуць. Свавольныя аканомавы рукі гладзілі яе, лашчылі, абдымалі.

— Годзе вам, пан Падгурскі… Нечым вы мяне напаілі, што я быццам калода стала, нават язык не слухаецца… — знясілена прамармытала дзяўчына.

— Ах, Зоська, Зоська… Старасць шмат хоча, ды мала можа…

Аканом адпоўз ад Зосі, абаперся спіною аб дрэва, цяжка дыхаў.

— Вось халера… Думаў паспрабую яшчэ раз… Мо з маладою атрымаецца… Ні віно піць, ні паненак любіць… Усё мінула…

Аддыхаўшыся, пан Падгурскі сабраў посцілку, дапамог Зосі ўскараскацца ў брычку, пагнаў каня, нешта мармычучы сабе пад нос. Зося задрамала. Пакуль ехалі, хмель выветрыўся. Ужо ў прыцемку з'явілася Зося перад наймічкамі, вясёлая і ўбраная ў новыя строі, чым выклікала нездаволенасць і зайздрасць. Дзяўчаты пачалі паміж сабою пераміргвацца і з'едліва пасміхацца.

— Чым гэта ты прываражыла аканома? — здзекліва спытала Ульяна са Здзітава.

— А каго ён мог выбраць, мо цябе, непісьменную, у андараку? — злосна адказала Зося і пайшла да свайго ложка, распранулася і легла спаць.

— Раскажы хоць, што бачыла ў горадзе? — папрасіла Гэля.

— Нічога не бачыла, — адказала Зося, не маючы жадання дзяліцца ўражаннямі.

— А за што строі купіла? — дапытвалася Ульяна.

— Зарабіла і купіла.

— Не цяжка здагадацца пра твае заробкі…

— Здагадвайся, калі няма чаго рабіць…

Зося і сама яшчэ не ўсвядоміла, якая прыгода з ёю здарылася, але ніякага граху за сабою не адчувала. Ну, пацалаваў яе колькі разоў па-бацькоўску пан Падгурскі. Дык што з таго? Чалавек ён прыемны, і добра да яе паставіўся. Можа, упершыню за ўвесь час, пакуль жыла ў маёнтку Стараволя, яна хутка і лёгка заснула, быццам адступілася ад яе адчуванне віны, якое яна насіла ў сваёй душы. Маладосць жадала вясёлага і разняволенага жыцця. Цяпер Зося не сумнявалася, што абавязкова аднойчы сустрэне сваё шчасце, для гэтага ў яе, дзякуючы добраму пану Падгурскаму, нават новыя строі з’явіліся.

## 12

Па вяртанні са Старlivolі Зося звыкла ўцягнулася ў бясконцы калаўрот сялянскай працы на полі і сенажаці, у хаце і хляве. За два гады яна выкруглілася ў стройную дзяўчыну, прыкметна вылучалася ў гурце дзяўчат. Бацька і Каця былі задаволены яе заробкам. Аканом пан Падгурскі разлічыўся з наймітамі збожжам і паклапаціўся, каб яно было завезена на чыгуначную станцыю і таварным вагонам адпраўлена ў Жабінку. Кірыла прадаў збожжа габрэю-скупшчыку. Грошай хапіла на тое, каб купіць каня і яшчэ заставалася невялікая рэшта на хатні абыходак. Мець свайго каня ў гаспадарцы — справа вялікая. У вёсцы без каня ты не гаспадар, не чалавек. Безумоўна, Кірылу падтрымліваў брат Карп, даваў свайго каня, калі трэба было пераараць поле, пасадзіць бульбу, але не тады, калі трэба было Кірылу, а калі конь быў вольны. А яшчэ за гэта трэба было адпрацоўваць. Што можа ведаць чалавек пра наступны свой лёс? Хіба думаў Кірыла, што аднойчы яму давядзецца страціць усё і з пустой калітой ставіць на ногі гаспадарку? Некалі ягоны бацька і сямёра іншых гаспадароў купілі зямлю ў старога бяздзетнага пана. Перасяленцы, ці «купчыкі», як іх сталі называць тутэйшыя людзі, заснавалі паселішча з некалькіх хутароў каля вёскі Крачкі. Зямлі ў бацькі было даволі, але ж ён меў пяцёра сыноў. Як хлопцы выраслі ды пачалі жаніцца, давялося дзяліць патроху зямлю і аддаваць ва ўладанне сынам. Атрымалася так, што адзін Кірылаў брат памёр маладым ад сухотаў, другі загінуў на вайне, трэці — Серафімаў бацька, быў сасланы ў Сібір на катаргу за забойства. Ці жывы? Невядома. Гэта была даўняя гісторыя. Сяляне з Крачкаў узненавідзелі «купчыкаў», бо былі перакананыя, што зямля, якую купілі прыхадні, пасля смерці пана дасталася б ім. Яны, як маглі, шкодзілі прыезджым гаспадарам, кралі плугі і бароны, заганялі свой статак на хутаранскую рунь, а аднойчы ноччу нехта падпаліў хату Марціна, старэйшага брата Кірылы. Марцін паспеў вынесці з агню малога сына Серафіма, а жонка задыхнулася дымам і згарэла. Каб адпомсціць за падпал, «купчыкі» падпільнавалі гурт крачкаўцаў, калі тыя вярталіся з сенакосу міма хутароў, і пачалі біць. Аднаму мужыку прабілі каменем

галаву, у хуткім часе ён памёр. Смяротна параніў чалавека Карп, але яму на той час было толькі пятнаццаць гадоў, маці ўпрасіла старэйшага сына Марціна, каб ён узяў віну на сябе. Марціна асудзілі на катаржныя работы ў Сібіры. Ягоны сын Серафім гадаваўся спачатку ў дзеда з бабаю, а пасля іхняй смерці — пры дзядзьках, спачатку — у Карпа, а цяпер — у Кірылы.

Патроху жыццё ўсталёўвалася. Серафім з восені пайшоў працаваць на чыгунку, жыў на кватэры ў Жабінцы, наведваўся дамоў раз ці два на месяц. Каця і Зося займаліся гаспадаркаю. Кірыла мо ўпершыню адчуў сябе заспакоеным, слухаючы, як дочкі спяваюць за прадзівам, ці шэпчуцца пра нешта дзявочае, задаволена думаў, што ўжо ў іх свае сакрэты завяліся, і хмыкаў у абвіслыя вусы. Увесь вольны час сёстры цяпер пралі, бо на крамную тканіну трэба грошы. Дзе іх набрацца? Палатно сваёй работы пускалася на ўсе патрэбы сям'і: ад верхняга і споднягa адзення, да ручніка, мяшка ці якой торбачкі пад крупу. Ткаць ні Зося, ні Каця не ўмелі, але дамовіліся, што натчэ ім палатна цётка Агатэля, а за гэта яны і для яе спрадуць колькі фунтаў кудзелі, бо Гэлька адна не ўпраўляецца.

Толькі пасля каляд Каця і Зося выбраліся на вячоркі ў Крачкі. Музыка ў той вечар ладзілася ў хаце Марфы Хвясюк, бойкай дзеўкі, з тых, пра якіх кажуць: маладая ды ранняя. Каля хаты тоўпіліся курцы, яны і запрасілі дзяўчат, маўляў, заходзьце, без вас не пачыналі. Гэта, безумоўна, быў жарт. Ужо ў двары было чутно, што грае гармонік і тумкае ў такт яму бубен. Каця першай увайшла ў хату. Следам за ёю пераступіла парог Зося і аслупянела. Каля печы побач з расчырванелаю і ўзбуджанаю Марфаю стаяў Гардзей у вайсковым мундзіры. Зося зніякавела, апусціла вочы, каб не сустрэцца з ягоным позіркам, толькі бачыла бліскучыя гузікі на ягоным жаўнерскім фрэнчы. Зазыўна загучала полька. Моладзь кінулася ў скокі. Гардзей падышоў да Зосі і Каці, павітаўся.

— Як жа я вас даўно не бачыў, — сказаў Гардзей. — Якія вы прыгожыя сталі! Распранайцеся, кідайце адзенне на запечак.

Ён павёў Кацю да запечка, як бы памагаючы распрануцца. Зося пастаяла, не ведаючы, што ёй рабіць: уцякаць адсюль ці застацца. Не, лепш зрабіць выгляд, што ёй да Гардзея няма ніякае справы. Яна працікавала, як Гардзей пусціўся ў скокі з Кацяю, суняла хваляванне, скінула світку на запечак, і адразу яе падхапіў пад руку Мікола Іванюк, павёў у круг. Яны закружыліся ў віхры полькі. Ды Зося паспела заўважыць, што Гардзей, гарцуючы каля Каці, раз-пораз кідаў позіркі ў яе бок. «Пaглядзі, пaглядзі, каб табе вочы павылазілі, — злосна падумала Зося. — Лепш бы ты не вяртаўся! Як жа мне цяпер жыць?»

Паскакаўшы колькі полек ды сербіянак, Зося папрасіла Кацю:

— Пойдзем дахаты, позна ўжо.

Каця пагадзілася. Ёй не вельмі падабаліся танцы. Стой і чакай, пакуль цябе выберуць. Яна мо і зусім не хадзіла б на гэтыя зборышчы, але ж трэба было думаць пра замужжа, прыглядваць сабе хлопца.

Дзяўчаты апрануліся, раскапаўшы між чужымі апранахамі свае, выйшлі на вуліцу, скіраваліся ў бок хутара. Хутка ззаду пачуліся крокі. Нехта іх даганяў. Удзвюх яны не баяліся, таму і не азіраліся. Хто іх мог пакрыўдзіць?

— Дзяўчаты, вы чаго так рана пайшлі? Музыка ў самым разгары.

Гэта быў Гардзееў голас. Зося сцялася, быццам у прадчуванні бяды. Ён дагнаў іх, пайшоў паміж імі, падхапіўшы пад рукі. Дотык ягонай рукі трапяткой хваляй пракаціўся па Зосіным целе, якое помніла ягоную пяшчоту і сілу.

— Рана тым, у каго мацяркі раніцай печ топяць, а нам трэба ўсё самім рабіць, — адказала Каця.

— У мяне таксама няма маткі, — заўважыў Гардзей.

— У цябе Паўліна за матку, — пакуль ты ў войску служыў, яна за мужыка і за бабу ўпраўлялася. Што ты будзеш рабіць, як яна замуж пойдзе? — засмяялася Каця.

— Не пушчу яе замуж, а ў горшым выпадку сам ажанюся.

— Жаніцьба для цябе — горшы выпадак? — перапытала Каця.

— Сама падумай, як я магу жаніцца, пакуль не выдаў замуж трох сясцёр?

Каця з Гардзеем весела гутарылі, а Зося маўчала і пакутліва думала, як бы хутчэй дайсці да хутара, каб не чуць і не бачыць яго.

— Зося, чаго ты маўчыш як вады ў рот набрала? Раскажы, як жывеш? — спытаў Гардзей.

«Яшчэ і пытаецца, як жыву! Нахабнік!» — гняўліва падумала яна, але адказала стрымана і насмешліва:

— Лепш за ўсіх.

— Наша Зося была на заробках у Польшчы. Бацька каня купіў, — пахвалілася Каця.

Гардзей ад здзіўлення прысвіснуў і спытаў:

— Дзе ж гэта ў Польшчы можна зарабіць?

— Каля Варшавы, у маёнтку Стараволя, — зноў адказала Каця.

— Шкода, што я не ведаў. Служыў жа ў войску ў Варшаве, знайшоў бы...

Зося змоўчала, разумеючы, што гэта пустая гаворка. «За два гады ліста не напісаў, — падумала яна, — не пацікавіўся, як я, ці жывая, ці здаровая, а тут раптам такая патрэба пабачыцца... Ляці, саколік, міма...»

— Пэўна, Зоська, залётніка там завяла? — спытаў ён.

— А як жа? Хіба я горшая за іншых? — з напускным гонарам адказала Зося.

— Мо і замуж пойдзеш за пшэка?

— Пажыву — пабачу.

— Ёй жа толькі шаснаццаць. Дзіця зялёнае. Які замуж? Няхай хоць трохі пасталее. Яна ж сабе два гады прыпісала, калі ехала на працу да графа, — адказала Каця.

— Толькі шаснаццаць? — шчыра здзівіўся Гардзей. — Я думаў, старэйшая...

Снег скрыпеў пад нагамі. Неба святочна зіхцела зоркамі. Каця весела гаманіла з Гардзеем, а Зося адчувала сябе прыгнечанай, няўпэўненай, ішла з апушчанай галавой. На паваротцы яна вызваліла сваю руку з Гардзеевай, трохі адстала і пайшла з Кацінага боку. Адчула, нібыта вызвалілася ад ягонай улады, уздыхнула вальней, паглядзела ў зорнае неба. Зоркі, здавалася, былі зусім побач, бухматыя, калючыя. Мароз трымаўся нямоцны, але ўсё ж кусаў за шчокі, а душу студзіў скразняк недаверу. Так яны дайшлі да весніц. Зося адразу скіравалася ў хату, а Каця затрымалася з Гардзеем.

Калі старэйшая сястра ўвайшла ў хату, Зося ўжо ляжала на запечку, прыкінулася, што спіць. Аднак Каця памылялася. Зося зазнала ў тую ноч бяссонне, усё не магла вырашыць, як ёй жыць далей. Дзівілася хітрасці Гардзеевай: «Бач, як усё павярнуў, зрабіў выгляд, што заляцаецца да Каці, круціцца, як уюн на патэльні. Пабачым, што будзе далей. Няхай не думае, што я за ім буду бегаць. Не дачакаецца...»

З гэтай цвёрдай перакананасцю Зося заснула недзе пад ранне. Прыснілася, што зноў яна на вячорках, бачыць Гардзея з Марфай каля печы, выбягае ў цёмныя сенцы. Тут яе даганяе Гардзей і доўга-доўга цалуе...

Абудзілася задыханая, і з горыччу падумала: «І ў сне ад яго няма ратунку...»

## 13

Правёўшы Кірылавых дачок на хутар, Гардзей вярнуўся на «музыку», дзе было яшчэ даволі шматлюдна і шумна.

— Дзе ты быў? — спытала Марфа ў Гардзея, незадаволена і сярдзіта бліснуўшы вачамі.

— З хлопцамі пагаманіў на дварэ, пра службу распытвалі.

— Я выходзіла на вуліцу, цябе там не было.

— Стаяць холадна, дык мы трохі прайшліся...

Марфа супакоілася, папрасіла:

— Пойдзем, паскачам трохі...

— Пойдзем, — адказаў Гардзей, абдымаючы яе за стан.

Яны закружыліся ў вальсе. Марфа шчасліва ўсміхнулася. Гардзей таксама пасміхнуўся і адвёў пагляд. Не любіў ён узірацца ў дзявочыя вочы, бо яны нечага чакалі ад яго. А ён нікому нічога не хацеў абяцаць. Воля даражэй.

Марфа раптам некаму памахала рукой у знак прывітання:

— Хлопцы са Сцяблова прыйшлі, — узрадавана сказала яна, жадаючы выклікаць рэўнасць Гардзея.

— У Сцяблове, безумоўна, хлопцы лепшыя, чым у Крачках, -— насмешліва адказаў Гардзей.

— Гэта ж Захар Маркевіч з сябрамі!

— Ведаю я гэтага Захара, — хмыкнуў Гардзей. -— Пасрэдным вучнем быў у школе.

— Успомніў леташні снег!

Гармонік аціх. Марфа адышла ад Гардзея да сцяблоўцаў. Захар Маркевіч узняў руку і загаварыў:

— Землякі, я прынёс вам навіны. Народ Заходняй Беларусі ўпарта змагаецца з польскімі акупантамі. Мы не дазволім запалохаць нас і ператварыць у рабоў памешчыкаў і капіталістаў.

Усе прысутныя павярнуліся тварам да прамоўцы. Маркевіч выцягнуў з кішэні паперку і пачаў чытаць:

«“Крэсы” ў агні. Разрастаецца партызанскі рух на Віленшчыне. Часта здараюцца падпалы панскіх сядзібаў. Улады праводзяць масавыя арышты, людзей кідаюць у турмы, выносяць смяротныя прысуды. Цяпер пачалі працаваць палявыя суды. Па іх прысудах расстраляны 16 партызанаў. Сяляне адмаўляюцца плаціць падаткі. <…> Трагічным з’яўляецца становішча беларускіх школ. Іх колькасць зведзена да нуля. Значная частка беларускіх настаўнікаў знаходзіцца ў канцлагерах, астатнія разагнаныя і пазбаўленыя магчымасці працягваць педагагічную дзейнасць. Беларускія школы разгромленыя ці рэквізаваныя пад польскія. Далоў ваенна-палявыя суды! Далоў акупантаў з Заходніх Беларусі і Украіны! Няхай жыве салідарная рэвалюцыя барацьбы рабочых і сялян Заходняй Беларусі, Заходняй Украіны і Польшчы за савецкую ўладу рабочых, сялянскіх і салдацкіх дэпутатаў!»

Маркевіч, чытаючы заключныя лозунгі, узмахваў кулаком, нібы некаму пагражаў. Ягоныя хаўруснікі паўтаралі за ім слова «далоў»!

Гардзей падышоў да Маркевіча, зазірнуў у паперку, убачыў, што гэта была лістоўка, і сказаў:

— Ты адзін тут пісьменны? Мы таксама ўмеем чытаць. І разабрацца, што да чаго.

— Чытай, — падаў яму паперку Маркевіч.

З натоўпу выйшаў Іван Валошчык, зацікаўлена спытаў:

— На паперы напісана гладка, але ж тое быццам не пра нас. Ты скажы, што нам рабіць?

— Толькі паспрабуй дзейнічаць супраць улады — адразу суд, турма, або расстрэл! — сказаў Гардзей. — Ты ж толькі што чуў…

— Усіх у турму не паперасаджваюць, — заўважыў Маркевіч. — Мы павінны змагацца так, як народы СССР, і дамагчыся перамогі!

— Гэта ўсё агульныя словы, — расчаравана сказаў Іван Валошчык. — Ты скажы, што я павінен зрабіць сёння, зараз?

Маркевіч адкінуў пасму валасоў, якая ўпала на лоб, і заявіў:

— Тое, што і іншыя: не плаціць падаткі, патрабаваць для сваіх дзяцей беларускую школу, шукаць аднадумцаў. Калі ты думаеш так, як я, прыходзь у Сцяблова да мяне дахаты, пагутарым. Бачыш, я не баюся, што здадуць мяне дэфензіве, бо ўсе мы пакутуем ад польскага прыгнёту, гэта наша агульная бяда. Але ў нас ёсць агульная мара — жыць лепш. На яе нам і варта працаваць усім разам.

— Зразумела, — адказаў Іван. — Трэба падумаць...

— Гарманіст, урэж польку, каб ажно хата заскакала! Эх, і прыгожыя ў вас дзяўчаты! — крыкнуў Маркевіч, падхапіў Марфу і закружыўся з ёю.

Гардзей абдумваў пачутае. Ваяваць з дзяржаваю — справа апошняя. Але ж калі ў сейме ёсць камуністычная фракцыя, дык змагацца за свае правы можна і законным шляхам, праз выбары сваіх дэпутатаў. Гэты шлях яму падабаўся. Зрэшты, ён і сам не адмовіўся б пахадзіць у дэпутатах сейма. «А гэты Маркевіч паразумнеў, нездарма ж кажуць, што праца ператварыла малпу ў чалавека» — з’едліва падумаў Гардзей. Яго сапраўды ўразіла змена ў былым аднакласніку. Той быццам і ростам стаў вышэйшы, больш паважны і ўпэўнены ў сабе.

Пасля танца Марфа вярнулася да Гардзея, абмахваючыся хусткаю.

— Растрэслася, — пасміхнуўся ён.

— Раўнуеш, ці што? — спытала яна, напускаючы на твар пакрыўджанасць.

— Каб раўнаваць, трэба кахаць...

— Гардзей, чаму ты такі жорсткі?

— Я справядлівы. На сцяблоўскіх дзевак не кідаюся.

— Сам нядаўна каля Кірылавых дачок аціраўся.

— Яны хоць і з хутара, але ж крачкаўскія, нашы... Ідзі яшчэ паскачы з Маркевічам. Нешта ён без цябе засумаваў.

— Дурненькі ты мой, апранайся, пойдзем, пакуль маці на печы задрамала. Я чакаю цябе ў клуні, — горача прашаптала Марфа.

Яна зняла з крука кажушок, што вісеў каля дзвярэй, і выслізнула з хаты, кінуўшы на Гардзея позірк, які клікаў і абяцаў асалоду. Гэты позірк трапятаннем і напружанасцю праццяў Гардзеева цела. Ён, не апранаючыся, выйшаў услед за Марфаю.

**14**

Гардзей не быў фантазёрам або адчайным і безразважным юнаком, які гатовы быў голымі рукамі змагацца за вызваленне сваёй зямлі ад палякаў. Лічыў, што можна паспрабаваць нечага дамагчыся ад улады гуртам, выкарыстаўшы пэўныя законы. Чаму адукаваная меншасць кіруе, як хоча, непісьменнымі сялянамі? Бальшавіцкія ідэі прываблівалі па-свойму і яго. Сярод сялян таксама ж ёсць людзі з галавой, дай ім толькі магчымасць выявіць сябе. Да ліку тых, хто мае галаву на плячах, адносіў Гардзей і сябе. Ён падлеткам застаўся круглым сіратою, са старэйшаю сястрою Паўлінаю вёў гаспадарку і гадаваў малодшых сясцёр. Працуючы на зямлі, цяжка выкараскацца з галечы, таму ён час ад часу знаходзіў працу ў Берасці. З зарабку плаціў падаткі і набываў патрэбнае гаспадарчае начынне. Там жа, у Берасці, ён пазнаёміўся з ганд-

лярамі-габрэямі, якім збываў збожжа, лён і бульбу па больш выгадным кошце, чым той, які прапаноўвалі скупшчыкі. Сам скупляў у аднавяскоўцаў збожжа і бычкоў, перапрадаваў габрэям. І меў ад гэтага добрую капейку. Такім чынам, нягледзячы на сваю маладосць і сіроцтва, Гардзей лічыўся ў вёсцы разумным і моцным гаспадаром. Але хацелася большага ад жыцця. Шкадаваў, што не меў добрай адукацыі, скончыў толькі пачатковую школу. Тады настаўнік сказаў ягонаму бацьку, што навучыў сына ўсяму, што сам ведаў, а больш нічога яму даць не можа. Аднак Гардзей працягваў цікавіцца навукаю. Па-першае, перачытаў усе чатырыста дваццаць пяць кніжак, якія былі ў школьнай бібліятэцы, па-другое, купіў у тутэйшага бацюшкі за гусака Біблію і вывучаў яе паціху кожную вольную хвіліну. Перад ім разгортвалася жыццё старажытных людзей. Іхнія ўладары таксама далёка не заўсёды былі справядлівыя да сваіх падданых, але ў пакутах і аблудах нараджалася ў душах людзей разуменне справядлівасці, сумленнасці і маральнасці. Гардзей усведамляў, што немагчыма пражыць жыццё і не спатыкнуцца, вельмі яму не хацелася быць апошнім у гэтым жыцці і цягнуць сваю долю бязрадасна, як той конь цягне цяжкі воз. Сэрца жадала свята, перамог, нейкіх незвычайных падзей, якія б наталялі душу святлом і радасцю. Не можа таго быць, каб чалавек нараджаўся толькі для беспрасветнай працы і рэдкіх святаў.

У нядзелю пад вечар Гардзей сабраўся ў Сцяблова, дзе меў намер сустрэцца з Захарам Маркевічам. Трымаўся добры марозчык, які бадзёрыў і падганяў хлопца. Ды і няблага было ісці маладым нагам па дарозе, адпаліраванай палазамі саней. Яшчэ і сонца не схавалася за лесам, а на небе ўжо выкруглілася поўня. Вісела яна празрыстая, як лядзяш у палонцы. Гардзей узіраўся ў яе таямнічае аблічча і вельмі ж хацелася дазнацца, як утварылася яна, як з'явіўся гэты свет. Чытаў ён астраномію, але не надта верыў навукоўцам. Усё, што там пісалася, было толькі здагадкамі. Ён быў перакананы, што чалавечы розум занадта абмежаваны, таму і не можа спасцігнуць Боскае таямніцы стварэння свету. Аднак была надзея, што аднойчы менавіта яму адкрыецца гэтая недасяжная ісціна.

Ужо змерклася, калі Гардзей увайшоў у хату да Захара Маркевіча. Гаспадар падняўся з-за стала, пайшоў насустрач госцю з працягнутай рукой, прамаўляючы:

— Малайчына, што прыйшоў.

— Як жа было мне не прыйсці?

— Болей яго слухай, — пачуўся з печы жаночы голас. — Ён табе нарасказвае тры бочкі арыштантаў.

— Годзе, маці, бурчаць, — незадаволена азваўся Захар.

— Табе хоць бурчы, хоць маўчы, хоць кол на галаве чашы — усё адно. У бацьку ўдаўся, такі ж упарты. А што ён меў з тае ўпартасці? Толькі здароўе страціў і пайшоў на той свет без пары.

— Маці, я прашу цябе, — настойліва і выразна сказаў сын.

Жанчына забожкала, уздыхнула і змоўкла.

— Сядай, адпачні з дарогі. Мо галодны?

— Не, дзякую. Сыты я. Яшчэ і цябе пачастую.

Гардзей высыпаў на стол жменю семак. Падышоў да печы, каб пачаставаць гаспадыню. Захар тым часам распаліў газніцу. У хаце стала ўтульна і светла.

— Дзякую, шкада, што няма чым есці, — сказала жанчына.

— Унукаў пачастуеце.

— Хіба толькі…

Жанчына працягнула руку, і Гардзей, усыпаўшы ёй у жменю семак, сеў на лаву.

— Чаму не прывёў з сабою яшчэ каго з надзейных хлопцаў? — спытаў Захар.

— Іншым разам прыйду з хлопцамі, а пакуль мо пазнаёміш мяне з вашымі дзеўкамі.

— Ажаніцца хочаш?

— Пакуль толькі агляд раблю. Калі служыў у Варшаве, нагледзеўся там розных паненак, што тут няма на чым і воку адпачыць.

— Гарадскія — распусныя, лёгка ў вочы западаюць, умеюць сябе паказаць, тым і прываблiваюць нас. А вясковыя сціплыя, сарамлівыя, таму цяжка іх разгледзець за хустачкамі ды фартушкамі.

— Можа, і твая праўда. Але ж хочацца такую ўзяць, каб усё жыццё на яе глядзець і не нагледзецца.

— Так не бывае, — сказаў Захар. — Усе людзі старэюць, каханыя — на жаль, таксама. Добра, пойдзем на вячоркі…

Захар ускінуў на плечы світу, і яны выйшлі ў настылы марозны вечар. Каля весніц спыніліся. Гаспадар дастаў капшук, прапанаваў пакаштаваць самасаду.

— Дзякую, не куру, — адмовіўся Гардзей. — Прачытаў аднойчы, што курэнне шкодзіць здароўю.

— А мне падабаецца, супакойвае…

Захар скруціў цыгарку, прыкурыў.

— Я зразумеў, што ты хочаш далучыцца да нашай барацьбы? — спытаў раптам, без усялякай падрыхтоўкі.

— Хачу паспрабаваць. Не ведаю, ці здатны я на такія ахвяры…

— А чаго ты чакаеш у выніку?

— Вядома, перамогі. Можа, не надта вялікай, але ж нечага, думаю, можна дамагчыся.

— Чаго, напрыклад? — зацікаўлена спытаў Захар.

— Мяне не задавальняе, што войтам выбіраюць каторы раз запар асадніка Юзафа Бялецкага. Я думаю, а чаму не мяне?

— Сапраўды, чаму не цябе? — засмяяўся Захар.

Гардзея нядобра ўкалоў Захараў смех. Ён нават хацеў спыніць на гэтым гаворку, аднак вырашыў перш высветліць, чым жа ён насмяшыў Маркевіча.

— Не крыўдуй, — ляпнуў яго па плячы Захар. –- Смяюся я ад радасці, што ёсць у нас хлопцы, якія маюць гонар і гатовыя змагацца за свае правы. Я пастараюся зрабіць усё для таго, каб ты стаў войтам нашага павета. Дам табе рэкамендацыю для ўступлення ў Камуністычны саюз моладзі, а калі праверым цябе як след на справе, прымем у партыю бальшавікоў. Ты пакуль падбірай надзейных хлопцаў, каб стварыць у Крачках камсамольскую ячэйку.

— Колькі трэба чалавек?

— Чалавекі тры разам з табою. Неабходна захоўваць канспірацыю, каб не заваліць справу. Кожны завал — гэта суды, турмы, кара, разбураная падпольная сетка, якую нялёгка наладзіць зноў.

— Разумею.

— А пакуль запрашаю цябе на нашы вячоркі. У нас, як і ў Крачках, шмат прыгожых дзяўчат, не горшых за варшавянак.

— Э не, варшавянак трэба бачыць, — запярэчыў Гардзей.

Хлопцы пайшлі ўдоўж вёскі. Наперадзе чуліся галасы.

— Бачыш, нашы ўжо весяляцца.

— Яшчэ не бачу, пакуль толькі чую.

— Любіш дакладнасць і канкрэтнасць? Гэта ў табе са школы засталося.

Захар з Гардзеем увайшлі ў хату. Моладзь тоўпілася ля дзвярэй. Гармонік рэзаў польку. Пасярэдзіне скакалі парамі дзяўчаты. Хлопцы не спяшаліся далучацца, дымілі цыгаркамі, рагаталі.

Твары ў танцорак расчырванеліся, вочы гарэлі, вусны ўсміхаліся, ражкі хустак разляталіся. Гэтае імклівае кружэнне зачароўвала, зацягвала, хацелася кінуцца ў гурт, перакаламуціць яго, падпарадкаваць і прымусіць круціцца вакол аднаго цябе. Аднак полька скончылася, дзяўчаты паскідалі хусткі з галоў і, абмахваючыся імі, разышліся. Каб даць адпачынак самым бойкім танцоркам, гарманіст зайграў павольны вальс.

— Выбірай каторую, — прапанаваў Захар.

— Нешта ў мяне вочы разбегліся, — адказаў Гардзей.

— Бяры, якая бліжэй стаіць.

Захар запрасіў высокую станістую дзяўчыну, павёў на сярэдзіну хаты, закружыўся з ёю ў вальсе, так, што толькі непаслухмяная пасма валасоў матлялася над ягоным ілбом. Гардзей выбраў тоненькую дзяўчыну з доўгаю, ніжэй пояса, касою. Вялікія сінія вочы здзіўлена паглядзелі на незнаёмага хлопца, маленькія вусны расцягнуліся ў ніякаватай усмешцы. Гэта была дзяўчынка, падлетак, якая мо ўпершыню прыйшла на вячоркі.

— Запрашаю на вальс, — сказаў Гардзей, ужо шкадуючы, што зрабіў такі няўдалы выбар.

Яна ў адказ толькі згодна кіўнула галавой. Пазіраючы ў яе мілы тварык, падумаў: «Дзіця горкае, але гадкоў праз колькі, напэўна, вырасце ў прыгожую дзяўчыну».

Гардзей запрасіў яе яшчэ на некалькі танцаў, а потым прапанаваў:

— Хадзем, малая, правяду цябе дахаты.

— Не, я з братам пайду.

Дзяўчына махнула рукою. Да Гардзея падышоў высокі хлопец, незадаволена спытаў:

— Чаго ты да яе прыліп? Ці табе тут дзевак мала?

— Дзевак шмат, ды яна найлепшая.

— Ведаю цябе. Ідзі, скуль прыйшоў, па-добраму.

— Што здарылася? — спытаў Захар, спяшаючыся прадухіліць сварку.

— Нічога, усё добра, — адказаў Гардзей. –- Бывайце здаровыя, сцяблоўцы. Прыходзьце да нас. Мы за сваіх дзяўчат сварыцца не будзем.

Павярнуўся і пайшоў з хаты. Захар паімкнуўся за ім, правёў трохі па вёсцы, сказаў на развітанне:

— Трэба рыхтаваць народ да паўстання супраць акупантаў, раздаваць лістоўкі, вывешваць сцягі, патрабаваць беларускую школу…

— З голымі рукамі ваяваць?

— Усё будзе. Ёсць у нас сябры на Усходзе…

— А як наконт таго, каб мне выставіць сваю кандыдатуру на пасаду войта?

— Абавязкова будзем працаваць і ў гэтым накірунку, — паабяцаў Захар.

Гардзей рушыў у бок сваёй вёскі, раздумваючы, з кім з вясковых хлопцаў можна было б стварыць камсамольскую ячэйку. Можна было б пагутарыць з Маркам, не благі хлопец, трохі, праўда, скупаваты, але ж усім вядома, што свая сарочка бліжэй да цела. І жыве па суседстве, калі што спатрэбіцца, дык не давядзецца далёка шукаць. Сімпатызаваў Гардзей і Мацею, маўкліваму, але адважнаму хлопцу, што было праверана яшчэ ў маленстве, калі бегалі латашыць аканомаў сад. Ідэя пачаць працаваць на камунку так захапіла Гардзея, што ён і не заўважыў, як дайшоў да сваёй вёскі. Высокія бухматыя зоркі спагадна падміргвалі яму, самотная поўня пасяшала за ім услед, не адстаючы, быццам не мела іншае патрэбы. Безумоўна, і ёй самота не даспадобы, шукае хаўрусніка, каб перабыць ноч. Снег шаргацеў пад нагамі. Заінелыя старыя бярозы горбіліся абапал дарогі. Зямля спала, толькі Гардзеева вёска Крачкі свяціла там-сям цьмянымі агеньчыкамі, быццам чакала яго, позняга хадака,

дадому. Напэўна, Паўліна не спала таксама, жыў у ёй мацярынскі інстынкт. Пра ўсіх яна клапацілася, узваліўшы яшчэ падлеткам на плечы адказнасць за асірацелую сям'ю.

**15**

Каля Марфінай хаты тоўпілася моладзь. Гардзей павітаўся за руку з некалькімі хлопцамі.

— Ты на разбор шапак, — сказаў Мікола Іванюк.

— Памыляешся, на разбор дзевак, — адказаў Гардзей.

— Твая Марфа сёння занятая. Якуб каля яе цэлы вечар пеўнем ходзіць.

— Яна такая ж мая, як і твая. А хто ходзіць, той даходзіцца.

— Я думаў, у вас сур'ёзна…

— Не думай шмат, ад гэтага, кажуць, галава можа забалець. Пайду ў хату, змерз. Прытулюся да якой, мо сагрэюся…

Гардзей увайшоў у хату, дзе апантана залівўся гармонік, тупацелі абцасы ботаў і мяккія лапцікі, кружыліся пары, аддаючыся танцу. Марфа сядзела з Якубам на запечку, нешта шаптала таму на вуха. Аднак, як толькі пабачыла Гардзея, пайшла насустрач.

— Дзе ты быў цэлы вечар?

— Дзе быў, там няма.

— Чаму ты такі? Ці я пакрыўдзіла цябе нечым? — вінавата спытала Марфа.

— Не, наадварот, я вельмі рады, што ты без мяне не сумавала, а любілася з Якубам.

— Дурненькі! Што мне той Якуб? Я з яго ці жартую, ці збыткую, а ён нічога не разумее, як дзіця малое.

Яна грэбліва пасміхнулася, паправіла цёмную пасму валасоў, тужэй зацягнула ражкі хусткі, потым узяла яго за руку, прыўстала на дыбачкі, горача зашаптала яму на вуха:

— Пойдзем у клуню. Я так засумавала па табе…

— Ага, бачыў я, як ты сумавала! Гардзей выйшаў у цёмныя сенцы, следам за ім, ускінуўшы на плечы вялікую хустку ў клетку, выслізнула Марфа.

У клуні было зацішна, пахла сенам, збожжам, летам, тымі знаёмымі пахамі, з якімі сялянская душа зрастаецца, знітоўваецца назаўжды. Ледзьве зачыніўшы дзверы, Марфа кінулася ў абдымкі да Гардзея, прагна цалуючы ягоны твар, вочы, вусны. Ён падхапіў яе, панёс і паклаў на сена, рукой слізгануў па назе, загаляючы спадніцу.

— Пачакай, нешта скажу, — папрасіла Марфа.

— Што гаварыць, — прашаптаў Гардзей з жарсцю прыпадаючы да яе вуснаў.

Марфа вызвалілася з абдымкаў, настойліва сказала:

— Ты не кажы, ты слухай, прашу цябе…

— Добра, добра, слухаю…

— У нас будзе дзіця, — сказала яна.

— Якое дзіця?

— Наша…

Гардзей адкінуўся на сена і роблена зарагатаў.

— Ты чаго? — насцярожана спытала Марфа.

— Ну і хітрая! Яшчэ і месяца не мінула, як вярнуўся з войска, а ты мне хочаш навязаць дзіця, якое з Якубам ці кім нагуляла?

— Тваё гэта дзіця, тваё! Я толькі цябе кахала заўсёды. І з войска чакала. Ты ж у мяне быў першы!

— Разбярэш тут вас, хто першы, хто апошні…

— Адзін ты ў мяне…

— Ведаеш, не магу я жаніцца. Гаспадарка ў мяне занядбаная. Два гады без мужчынскіх рук была. На вяселле грошы трэба, а я...

— Ты адмаўляешся ад мяне і свайго дзіцяці? — абурана перабіла яго Марфа.

— Толькі ад цябе. А дзіцяці пакуль ніякага няма. Не тлумі мне галавы… Я не дурное хлапчаня…

— Гэта тваё апошняе слова?

— Апошняе, Марфа.

— Ты да войска Дуні чэрава нагуляў, а пасля адмовіўся. Давялося ёй пайсці замуж за ўдаўца на трое чужых дзяцей, — Марфа ўсхліпнула.

— Дуня напісала мне ў войска адзін ліст і спытала, ці варта ёй мяне чакаць. Адказаў, каб не чакала.

— Як яна магла напісаць табе пра дзіця? Яна ж непісьменная!

— Пра Дуню не ведаю, а табе не веру! Не можа гэтага быць!

Марфа паднялася, злосна сказала:

— Ніколі табе не дарую! Ты яшчэ пашкадуеш! Плакаць будзеш, прасіць, маліць, але позна будзе! Позна!

Марфа моцна грукнула дзвярамі. Гардзей трохі паляжаў на сене, жуючы сухую травінку і думаючы пра тое, якія ж хітрыя пайшлі цяпер дзеўкі. Тры разы ў сене пакуляешся — і маеш дзіця. Такая непрыкрытая хлусня яго страшэнна абурыла. Вырашыў, што цяпер на Марфу і не гляне. У Крачках хапае дзяўчат, хоць бы тыя ж дочкі Кірылавы! Выбірай любую: ці старэйшую — маленькую ды разумную швачку, майстрыху, ці малодшую — вясёлую і даўгарукую, добра будзе сена на стог закідваць… Ды і ў Карпа неблагая дзеўка. А колькі прыгажунь яшчэ падрастае, як тая, што сёння бачыў у Сцяблове…

Абтрос з адзення сена, выйшаў з клуні, ціха прычыніў за сабою дзверы, удыхнуў марознае паветра на поўныя грудзі, зірнуў у зорнае неба і адчуў невымоўную радасць ад характва, якое ззяла і зіхцела, абяцала нешта дзівоснае ў будучыні. З хаты выйшаў гарманіст, зацягнуў марш, але раптам згарнуў гармонік, які жаласліва выдаў апошні зык і аціх. Хлопцы і дзяўчаты разыходзіліся па хатах. Да клуні нехта ішоў. Калі пара параўнялася з Гардзеем, ён пазнаў Марфу і Якуба.

— Дабранач, — сказаў здзекліва.

Яму нічога не адказалі. «Баба з воза — каню лягчэй», — падумаў Гардзей, каб прыглушыць рэўнасць, якая ўсё ж варухнулася ў душы. Выйшаў з апусцелага двара, павярнуў да сваёй хаты, прыспешыў крок і дагнаў двух хлопцаў — Яўсея і Марка, якія жылі па суседстве.

— Як павесяліліся?

— Нічога, — адказаў Яўсей, — але дзевак не хапіла. А ты дзе быў, што Якуб тваю Марфу павёў у клуню?

— Якраз яе і рыхтаваў, каб яна да яго пайшла, — Гардзей бестурботна засмяяўся.

— І не шкода табе было?

— Хопіць на наш век дзевак, Яўсей. Вунь колькі маладых прыгажунь падрастае?

— Маладых трэба вучыць, а старэйшыя ўжо навучаныя, — заўважыў Марк.

— Скрозь ты рахубу шукаеш! — заўважыў Гардзей.

— Ты ад роду ўжо ёсць Рахуба, — хмыкнуў Марк, нагадваючы Гардзею ягонае прозвішча.

— Мо нам падацца да камуністаў? Абяцаюць рай яшчэ на гэтым свеце? — спытаў Гардзей.

— Мне б зямлі дзесяцін сто, — сказаў Марк, — я б сабе сам рай на зямлі зладзіў. А тут сястра замуж сабралася. Давядзецца дзяліцца.

— Зямля — гэта ўсё, — уздыхнуў Яўсей.

— Памыляецеся! Усё — гэта ўлада, — адказаў Гардзей.

— Маркевіча наслухаўся? — спытаў Марк. — Пустабрэх ён!

— Ты думай не пра яго, а пра тых, хто за ім стаіць. А раптам саветы сапраўды насунуцца?.. — адказаў Гардзей.

Хлопцы задумаліся. Кожны з іх, нягледзячы на маладосць, адчуваў сябе сталым гаспадаром, бо з ранняга маленства быў далучаны да працы, ведаў яе і смак, і цяжар. Усялякае жыццёвае рашэнне прымалася імі ўзважана, з вялікай адказнасцю, пасля доўгага роздуму.

— Дык як наконт камункі? — яшчэ раз спытаў Гардзей.

— Ідзі ты першы, а мы паглядзім. Як заўважым, што разбагацеў, дык і кінемся ў гэты вір за табою, — адказаў Марк.

— Э, не, даражэнькія, камунка пераборлівая, яна слабакоў не прымае.

— Мусіць, я пайду... Мне губляць няма чаго. Зямлі як кот наплакаў... — сказаў Яўсей.

— Падумай і зайдзі да мяне, абмяркуем. Мо разам да чаго дадумаемся. Дабранач! — развітаўся Гардзей і завярнуў у свой двор.

## 16

Вясна ўпарта стукалася ў цвёрды снежны покрыў сонечнымі промнямі, як у шкарлупіну яйка. За дзень снег прыкметна раставаў, наздраваты і ашэрхлы, шаргацеў пад нагамі, нават вецер дзьмуў па-вясноваму цёплы. І гэта была не проста адліга, набліжаўся сакавік — першы вясновы месяц, калі гаспадар мусіў агледзець усё начынне: плуг, воз, барану, вупраж, каб быць гатовым да сяўбы. Праўда, па начах яшчэ прыпякаў мароз, і неба на захадзе было чырвонае і чыстае. Так думаў Гардзей, ідучы да Маркевіча. Ужо прыкметна змерклася. У крайніх сцяблоўскіх хатах запаліліся кволыя агеньчыкі. Вёска сцішана рыхтавалася да адпачынку, толькі гаманлівая дзятва каля абмерзлага калодзежа наладзіла сабе коўзанку. Хто на санках, хто на адным самаробным драўляным каньку сшурваліся з ледзянога ўзгорачка, шчабяталі, смяяліся.

Каля Маркевічавых варот Гардзея сустрэлі два незнаёмыя хлопцы, павіталіся, прапанавалі махоркі. Крачкавец адмовіўся.

— Ты да Захара? — спытаў адзін. — Пачакай трохі. Цябе паклічуць.

— Якія навіны ў Сцяблове?

— Ніякіх. А што ў вашых Крачках?

— Таксама нічога, — адказаў Гардзей.

Гаворка не ладзілася. Хлопцы памаўчалі, патапталіся на месцы. Потым адзін сказаў:

— Пайду спытаю…

Ён пайшоў у хату, неяк дзіўна шырока ставячы ногі і выцягнуўшы ўперад шыю, як гусак. Гардзей правёў яго позіркам, думаючы, што ёсць жа такія няўклюды.

Хлопец праз хвіліну вярнуўся, запрасіў Гардзея ў хату. У пакоі было моцна накурана, чалавек сем хлопцаў сядзела вакол стала і пра нешта гутарылі. Калі Маркевіч сказаў, што прыйшоў новы кандыдат у камсамольцы, усе павярнуліся да крачкаўца.

— Мой узрост дазваляе стаць адразу камуністам, — усміхнуўся Гардзей.

— Не, спачатку трэба праверыць цябе на камсамольскай працы, — сказаў незнаёмы мужчына ў шэрым гарнітуры.

Гардзей здагадаўся, што гэта нейкі падпольны бальшавіцкі начальнік. Маркевіч паглядзеў на Гардзея з прыязнасцю:

— Рэкамендую кандыдатуру Рахубы Гардзея для ўступлення ў Камуністычны саюз моладзі Заходняй Беларусі. Чалавек надзейны. Ведаю яго даўно, разам вучыліся ў школе. Палітыку Савецкай дзяржавы і Камуністычнай партыі разумее правільна, не злоўжывае алкаголем, не курыць, таварыскі, устойлівы і стрыманы. Гатовы змагацца за шчасце беларускага народа, за вызваленне яго ад польскай акупацыі і за ўз'яднанне Заходняй і Усходняй Беларусі.

— Ці здолееш ты адмовіцца ад уласнай зямлі, калі гэтага запатрабуе Камуністычная партыя бальшавікоў? — спытаў незнаёмец у Гардзея, упіваючыся ў хлопца жорсткім позіркам.

— Зямля — гэта сродак майго існавання, яна дае мне хлеб надзённы. Калі ў мяне з'явіцца іншая крыніца грошай, дык я з задавальненнем адмоўлюся, — Гардзей шырока ўсміхнуўся і дадаў: — Прызнаюся шчыра, што з радасцю памяняў бы сваю пасаду селяніна на пасаду сеймавага дэпутата ці нават самога Пілсудскага…

— Ты, брат, і замахнуўся, — ніякавата хітнуў галавою Маркевіч.

Прысутныя зарагаталі.

— Свядомасць пралетарская, — задаволена адзначыў падпольны начальнік, як ахрысціў яго Гардзей. –- Думаю, варта прыняць…

— Гардзея Рахубу, — падказаў Маркевіч.

— Так, Гардзея Рахубу ў шэрагі Камуністычнага саюза моладзі Заходняй Беларусі, — сказаў «начальнік» і працягнуў Гардзею лісток паперы. — Прачытай уголас клятву.

Гардзей узяў жаўтаватую памятую паперу, відаць, шмат ношаную ў кішэні, пачаў чытаць урачыстым голасам, як таго патрабавалі абставіны:

— Я, сын прыгнечанага народа, добраахвотна ўступаю ў шэрагі Камуністычнага саюза моладзі Заходняй Беларусі, клянуся да канца жыцця змагацца супраць капіталістаў і памешчыкаў за Савецкую ўладу ў Польшчы, за ўз'яднанне Заходняй і Савецкай Беларусі. Ад цяперашняга моманту лічу камсамол сваёй роднай сям'ёй, а камсамольскія справы — крэўнаю справаю.

Апошнія словы трохі збянтэжылі Гардзея. Што за сямейнікі, якіх ніколі не бачыў? А іх набіраецца цэлы саюз! Аднак ён нічога не сказаў, толькі на момант адарваў ад паперы вочы, паглядзеў на прысутных і стаў чытаць далей:

— Абяцаю дакладна выконваць ускладзеныя на мяне задачы на карысць камсамола, а ўсе таямніцы трымаць у строгім сакрэце. Калі давядзецца аддаць жыццё за справу КПЗБ і камсамола, не просячы ў ворагаў літасці, забяру тайны падполля з сабою ў магілу.

У галаве Гардзея прамільгнула з'едлівая думка: «Добра, што яшчэ на крыві не прымушаюць клясціся. Гэта ж я сябе прадаю на ўсё астатняе жыццё! Вось уліп!»

— Заўсёды і скрозь, не шкадуючы сілы, а калі трэба, — і жыцця, абараняць Савецкі Саюз — радзіму прыгнечаных. Усялякая здрада КПЗБ, камсамолу, дадзенай клятве няхай будзе асуджана маімі таварышамі па барацьбе і пакарана гневам працоўнага народа.

Маркевіч падняўся з-за стала, абцягнуў саматканую вышываную сарочку, падпяразаную дзягаю, урачыста сказаў:

— Прагаласуем, таварышы.

Усе прысутныя дружна паднялі рукі, задаволена перакінуліся позіркамі, усміхнуліся.

— Віншуем з уступленнем у камсамол, — сказаў чалавек у шэрым гарнітуры.

Гардзею карцела спытаць, ці доўга яшчэ Савецкі Саюз будзе краінаю прыгнечаных, але ён устрымаўся. Заспявалі «Інтэрнацыянал». Гардзей чуў гэтую песню, яшчэ калі служыў у войску, але слоў не ведаў, таму падпяваў толькі мелодыю.

— На гэтым наш сход лічу закрытым, — абвясціў «начальнік».

Ён выйшаў з-за стала, зняў з цвіка кароткае паўпаліто, ускінуў на плечы. Усе прысутныя замітусіліся, вакол пачалі таксама апранацца.

— Я правяду таварыша Віктара сам, — сказаў Маркевіч.

«Начальнік» жэстам спыніў яго:

— Праводзіць мяне не трэба, разыходзімся па адным. Далей я пайду са сваімі хлопцамі, — кіўнуў галавою ў бок вуліцы, дзе чакалі яго двое.

Астатнія ў нерашучасці тапталіся ля парога. Гардзей стаў перад Маркевічам:

— Прынялі вы мяне ў камсамол, а далей што рабіць?

— Абмяркуем. Пасядзі пакуль.

Гардзей разглядаў хлопцаў. Трое былі са Сцяблова, двое — з суседняй вёскі, трое — з больш дальняй ад пана Райскага. Гэты пан лічыўся дзівакаватым. Размаўляў з мужыкамі на тутэйшым дыялекце, часам апранаўся ў вясковую палатняную апратку, але пры гэтым падкрэсліваў: «У што я ні апрануся, усё роўна панам буду, а мужык — ці ў золаце, ці ў аксаміце застанецца мужыком».

Калі ўсе падпольшчыкі выйшлі з хаты, гаспадар сказаў:

— Таварыш Віктар прынёс добрыя навіны. Барацьба сялянства і рабочых Заходняй Беларусі разгортваецца шырокім фронтам. Першае заданне табе, Гардзей, — стварыць ячэйку. Другое — збіраць грошы для рэвалюцыянераў свету, трэцяе — арганізаваць выступленні насельніцтва за беларускую школу ў нашым павеце. Дастаткова?

— Дастаткова пакуль. Бывай здаровы, — адказаў Гардзей і паспяшаў пакінуць хату Маркевіча.

Што і казаць, заданні былі малапрыемныя. Хадзі і прасі грошы ў аднавяскоўцаў, як жабрак! Рабіць гэта Гардзею зусім не хацелася. Ён вырашыў, што пры нагодзе аддасць свае злотыя. Ішоў да Маркевіча з жаданнем рабіць вялікую справу, магчыма, а атрымалася, што мусіць займацца драбязой. Наконт школы таксама заданне не радавала. Хадзіць і ўгаворваць бацькоў змагацца за беларускую школу не хацелася. Не звык Гардзей кланяцца. Зрэшты, трэба пачынаць з першага задання — ствараць ячэйку. А потым падначаленыя яму, сакратару, камсамольцы няхай і выконваюць заданні. Гэтая думка Гардзея суцешыла, і ён, весела насвістваючы, рушыў у свае Крачкі.

## 17

За два сонечныя сакавіцкія тыдні расталі высокія гурбы снегу, расцякліся зіхоткімі ручаінамі ў сажалкі, нізінкі, паплавы і балотцы. Снег чапляўся за зямлю ў цяньку за хатаю ці пад варотамі, счарнелы і наздраваты, хворы, не падобны да сябе, а свет радаваўся доўгачаканаму цяплу. І душы людзей прыхавана хваляваліся ў прадчуванні росквіту, шчасця, цуда. Гэтак жа пачуваліся і Кірылавы дочкі — Каця і Зося. Праўда, свае сардэчныя хваляванні яны не

выказвалі адна адной і паводзілі сябе стрымана. У вольны час чыталі, вышывалі ці шылі сукенкі да Вялікадня. Шыла старэйшая сястра, добрая краўчыха, а малодшая — Зося, дапамагала толькі што-небудзь сфастрыгаваць ці падгарнуць. На большае ў яе не хапала ўседлівасці. Зося бавіла самотныя вечары ў сям'і, хоць і любіла паскакаць ды паспяваць. Каця ж думала пра Гардзея, згадвала, як добра пагутарыла з ім у апошні раз. Яна шмат думала пра новую сустрэчу, што скажа, пра што спытае, быццам размаўляла з ім. Гэтыя ўяўныя дыялогі іншы раз доўжыліся гадзінамі.

Гардзей сапраўды аднойчы завітаў надвячоркам. Каця прыхавала радасна-пераможны агонь у вачах, схіляючыся над шытвом. А Зося адразу пачала ўпраўляцца па гаспадарцы — выцягваць з печы чыгуны і рабіць мешанку свінням. Не хапала ў яе смеласці адкрыта паглядзець Гардзею ў вочы. Як рабіць выгляд, што нічога не здарылася амаль тры гады таму? Здарылася! Нічога не паправіш. І адначасова яна адчувала, што яе няўхільна цягне да гэтага дзецюка, нібы няма побач іншых хлопцаў.

— Як пажываеце, дзяўчаты? — спытаў госць.

— Нічога, дзякаваць Богу, — адказала Каця. — Адкуль ідзеш і куды?

— Іду з дому і проста да вас. Даўно не бачыў, засумаваў, — сказаў ён, з усмешкаю пазіраючы ў вочы Каці, бо Зося ў тую хвіліну выйшла ў сенцы, каб узяць таўкач. — Падумаў нават, ці, крый Божа, не захварэлі часам, што з хутара нікуды не паказваецеся.

— Здаровыя мы! — бадзёра адказала Каця. — На наш хутар зімою рэдка хто забрыдае. І хваробы мінаюць нас.

— Чым жа вы займаецеся?

— Шыю сукенку Зосі да Вялікадня.

— А сабе ці пашыла ўжо?

— Пашыла.

— Як бы я хацеў паглядзець на цябе ў новай сукенцы! Хоць ты мне і ў гэтай будзённай вельмі падабаешся! — сказаў госць з блазнаватаю ўсмешкаю.

Каця пачырванела. Той хлопец, які з першай сустрэчы яшчэ тры гады таму спадабаўся ёй, нарэшце заўважыў яе, ацаніў і нават сказаў пра гэта. Гардзей паглядзеў на русявую Кацііну галаву, на маленькі носік, на ўвесь яе далікатны твар і падумаў, што ёй трэба было нарадзіцца не сялянскаю дзяўчынаю, а паненкаю. Яна і шые неяк па-свойму, тонкія пальчыкі трымаюць іголку пяшчотна, як каштоўнасць, увішна ўздымаецца рука над шытвом, шво кладзецца роўненька і гладка.

Зося таўкла бульбу ў вялізным чыгуне, пара запоўніла пакой. Старэйшая сястра незадаволена падняла вочы і сказала:

— Зоська, вынесі бульбу ў сенцы. Усю хату засмуродзіла. Колькі разоў прасіла: не рабі гэтак.

Зося кінула незадаволены позірк на сястру, узяла трапкач, падхапіла вялізны чыгун і панесла да дзвярэй.

— Пачакай, я дапамагу, — падхапіўся Гардзей.

— Не трэба мне ніякіх памагатых, — адказала дзяўчына.

— То хоць дзверы ў сенцы адчыню...

— Адчыні, калі няма чаго рабіць.

— Як ты размаўляеш з чужым чалавекам? — абурылася Каця.

На заўвагу Зося нічога не адказала, падумала: «Чужы чалавек! Гэта табе ён чужы, а мне… Ніяк не разбяруся, чаго ўва мне да яго больш: кахання ці нянавісці…»

Зося заўзята таўкла бульбу, з сілаю раз-пораз апускала таўкач, быццам тым самым забівала свае лепшыя пачуцці да Гардзея. Не, яна не будзе жыць

прыгнечаная і расчараваная. Па Вялікадні, як скончыцца пост, пачне хадзіць на вячоркі і будзе скакаць з усімі хлопцамі, а ён няхай паглядзіць. У яе сваё жыццё, і яна нікому не дазволіць яго псаваць.

Даваць свінням есці яшчэ было рана, аднак Зося пайшла ў хлеў, няхай жывёла пахлебча цёплую мешанку і скажа дзякуй маладзейшай гаспадыні. Каця нічога па гаспадарцы не рабіла, насілася са сваёю грыжаю, штораніцы надзявала тугі шырокі пояс, які сцягваў жывот. Уся гаспадарка — на Зосіных руках. А сястра адно кніжкі чытае. Праўда, сукенку Зосі новую шые — і на тым дзякуй.

Калі Зося вярнулася ў хату, Каця з Гардзеем ціха пра нешта гутарылі. Стала няёмка. Яна не ведала, ці сысці, каб не замінаць, ці нахабна слухаць. Няхай ідуць на вуліцу, а хата належыць Зосі таксама. Яна марудна скінула старую світку, павесіла ў парозе, развязала хустку, паправіла валасы, раздумваючы, дзе сесці: на лаве ці пайсці на запечак? Гардзей міжвольна залюбаваўся яе стройнай постаццю і звярнуўся да яе:

— Я, Зося, прыйшоў да вас па справе.

У грудзях у Зосі раптам нешта ўскалыхнулася, сэрца ўсхвалявана закалацілася і заспяшалася насустрач нечаму невядомаму, але ўжо жаданаму, быццам і забылася, колькі бяды зведала яно праз Гардзея… Яна напусціла на сябе абыякавасць, села да стала насупраць Гардзея і адважна зірнула яму ў вочы, чорныя, непраглядныя, — яны прыязна ўсміхаліся, нешта невымоўна абяцалі. Зося адвяла позірк, паглядзела на Кацю. Тая старанна шыла.

— Такая ў мяне просьба да вас, дзяўчаты. У свеце людзі жывуць па-рознаму. У нас ёсць дах над галавой, хоць нішчымны, але кавалак хлеба, а ў іншых і гэтага няма. Папрасілі мяне добрыя людзі, а я вас прашу, збіраць сродкі для бедных абяздоленых людзей. Дамо нейкі грош, і, можа, ён выратуе жыццё якому чалавеку. Нам добры наш учынак залічыцца на тым свеце, а мо і на гэтым, — сказаў Гардзей.

— А дзе ж мы будзем збіраць тыя грошы? — здзіўлена спытала Каця.

— Думаю, можна па хатах пахадзіць, можна на вячорках з моладдзю пагаманіць…

— Няёмка неяк… Яшчэ што падумаюць…

— Я магу, — нечакана для сябе самой раптам згадзілася Зося. — І па хатах пахаджу, і ля царквы папрашу, і на вячорках.

— Малайчына, Зоська! Я на цябе вельмі спадзяваўся, — узрадаваўся Гардзей.

— Добра, я таксама паспрабую. Мы з Зосяй заўсёды заадно, — разважліва сказала Каця.

— Дзякую, дзяўчаты! Я яшчэ зайду! Рады быў пабачыцца!

Гардзей падняўся, накіраваўся да дзвярэй.

— Пабудзь яшчэ. Хутка бацька вернецца ад дзядзькі Карпа, павячэраем разам, — прапанавала Каця.

— Дзякую, іншым разам, — адказаў Гардзей і паспяшаўся з хаты.

Каця паглядзела на Зосю з дакорам, спытала:

— Нашто ты згадзілася? Сорам прасіць у людзей грошы!

— Табе сорамна, ты і сядзі дома. Я сама ўсё зраблю, — дзёрзка адказала Зося.

## 18

Вялікдзень прыйшоў сонечны і ясны. Хоць лістота яшчэ не праклюнулася на дрэвах, вясна цешыла сэрцы і вочы. Святочна ўбраныя крачкаўцы міжвольна пацягнуліся за вёску, дзе на невысокім пагорку расло пяць старых

ліп. Сёння на прасторнай палянцы было асабліва тлумна. Прыйшла не толькі моладзь, але сталыя людзі і дзеці. Дзяўчаты вадзілі карагод, а хлопцы, разбіўшыся на гурты, гулялі ў «біткі» ці ў «качанкі». Каця з Зосяй стаялі на ўскрайку паляны, прыглядаліся да вяскоўцаў.

— Можа, сёння пачнём грошы збіраць? — спытала Зося.

— Паспрабуй, — адказала Каця, але ў яе голасе не было ўпэўненасці. — Мне лягчэй сваё аддаць, чым прасіць чужое.

— Мы ж не для сябе просім, а для людзей…

— Мне сорамна, — прызналася Каця.

— А мне не, — адказала Зося. — І я зраблю тое, што паабяцала Гардзею.

Яна рушыла да гурту хлопцаў, што качалі яйкі па жалабку і сачылі, хто выйграе.

— Хрыстос уваскрос, — сказала Зося.

— Сапраўды ўваскрос, — весела адказалі ёй дзецюкі.

— Хлопцы, вось мы тут святкуем, радуемся, а ў свеце ёсць людзі, у якіх няма грошай на бульбіну. Мне даручылі сабраць, колькі змагу, грошай для такіх бедакоў.

— Валачобніца! — хмыкнуў Якуб.

— Паспявай нам, — сказаў Мікола Іванюк, — а мы аддзячым.

— А што ж вам паспяваць?

— Ну, вядома, валачобную песню, — падказаў Якуб.

— А я і не ведаю, якія песні спяваюць на Вялікдзень валачобнікі, — сумелася Зося.

— А хіба ў Расіі не святкуюць Вялікдзень? — здзівіўся Мікола.

— Да рэвалюцыі святкавалі, але я жыла ў прытулку. Там былі свае парадкі. На Вялікдзень нас частавалі белымі булкамі з вішнёвым кісялём. А ў апошнія гады не да булак было. Хоць бы што-небудзь пажаваць…

— Спявай, што хочаш, — сказаў Мікола.

— Ведаю я адну песню. Яе некалі мая мама спявала.

Зося азірнулася, пашукала вачамі Кацю, убачыла яе зводдаль, пад ліпаю. Сястра старалася застацца незаўважанай.

— Каця, хадзі сюды, дапаможаш, — клікнула яе Зося.

— Мы падцягнем, — паабяцаў Мікола.

Каця падышла, насцярожана паглядзела на хлопцаў. Зося звонка зацягнула старадаўнюю песню:

Вой, ляцела зязюлечка
Цераз круту гору.
Не выжала пшанічанькі,
Выжала палову.
Нашто мне тая палова,
Як зерня не маю,
Нашто мне жыць на свеце,
Як мамы не маю?

Каця падцягвала другім голасам. Да дзяўчат далучыліся хлопцы, спявалі стройна і зладжана, прыслухоўваючыся адзін да аднаго, каб не збіцца і не сапсаваць песню.

Сем раз ваду прыносіла
З сіняга Дунаю.
Сем раз ваду прыносіла,
Восьмы напілася,
Каб я мела родну маму,
Я й не журылася б.

Зося вяла пранікнёна, бо песня была нібы пра яе. Яна адчула, што зараз заплача ад жалю да сябе, таму зажмурыла вочы, з-пад павек выкаціліся дзве буйныя слязіны. Зося змахнула іх, усміхнулася і працягвала спяваць:

Прыйшла яна на могілкі,
Ды стала плакаці:
Прыйдзі, прыйдзі, родна мама,
Косы расчасаці.
Ідзі, доня, дадоманьку,
Сядай вячэраці.
А я прыйду па вячэры
Косы расчасаці.

Паступова вакол спевакоў сабраліся людзі, якія таксама ўцягваліся ў песню, тужлівую, сардэчную. І хутка ўзгорак пад ліпамі і ваколіца напоўніліся моцнымі галасамі, з’яднанымі кранальнаю песняю пра сірочую долю.

Пайшла доня дадоманьку,
Стала вечараці,
Ждала, ждала родну маму,
Дый стала плакаці…

— Вой дзяўчаты, каб на вас шчасце вялікае, у свята ў жальбу ўвялі, — сказала нейкая маладзіца, выціраючы вільготныя вочы.

— Яны не проста так спявалі. Гэта ж валачобніцы! Давайце па грошыку, добрыя людзі, на добрую справу, — весела сказаў Мікола і першы паклаў на Зосіну далонь манетку.

Тыя, хто меў пры сабе якія дробныя грошы, таксама падалі іх дзяўчатам. Зося дастала з рукава вышываную насовачку, высыпала грошы ў яе, было відно, што засталася задаволеная. Калі ўсе разышліся працягваць свае гульні, а Зося з Кацяй засталіся ўдзвюх, да іх наблізіўся Гардзей.

— Малайцы, дзяўчаты, добра прыдумалі, — пахваліў ён.

— Гэта ўсё Зося, я і не здагадвалася, што яна такая адважная, — сказала Каця, яе блакітныя вочы свяціліся. — Уяўляеш, як артыстка, яшчэ і заплакала…

— Я ж не знарок, так атрымалася, песня на душу легла. Трымай, Гардзей, — сказала Зося і аддала насоўку, у якую былі загорнуты сабраныя грошы.

— Можа, яшчэ пазбіраеце? — спытаў Гардзей.

— Пазбіраем, як дажывём да якога-небудзь новага вялікага свята. А на сёння з мяне хопіць, — адказала Зося.

Вочы яе раптам зрабіліся сумныя, яна пaглядзела ўдалячынь і зноў адчула, што зараз заплача. Каб не выдаць свой настрой, сказала Каці, хаваючы позірк:

— Свята святам, а мне пара гаспадарку ўпраўляць.

— Бацька ж дома застаўся, управіцца.

— Бацьку таксама трэба калі-небудзь адпачыць. Ты заставайся, пабудзь сярод людзей, а я пайду…

— Разам прыйшлі, разам і дамоў пойдзем, — адказала Каця, заўважыўшы, што Гардзей ужо адвярнуўся да хлопцаў.

Дзяўчаты вадзілі карагод і спявалі. Хлопцы спрабавалі на зуб яйкі, правяралі, ці не падробка, налітая волавам, дамаўляліся, хто будзе біць, хто трымаць. На тоўстай галіне старой ліпы дзеці гушкаліся на арэлях. Зося паглядзела на іх і раптам сказала:

— Як бы я хацела ўзляцець высока-высока, пад самыя хмары!

— Ага, высока ўзляціш, балюча падаць будзеш… Табе не здаецца, што гэты Гардзей выкарыстаў нас?

— У якім сэнсе? — здзівілася Зося.
— У простым. Мы сабралі грошы, аддалі яму, а што далей?
— А што ты хочаш?
— Ну, не ведаю… Падзяку нейкую…
— Бог аддзячыць, — лёгка адказала Зося.

**19**

Гардзей апошнім часам пачуваўся радасна і трывожна. Ягонае імя трапіла ў спіс кандыдатаў у дэпутаты гміны. Гэтым ён быў абавязаны найперш Маркевічу і тым людзям, якія стаялі за ім. Яны рыхтавалі не толькі патрэбныя паперы, але агітавалі сялян. Удзел у працы гміны мог бы паўплываць на жыццё тутэйшага люду, бо праз прадстаўніцтва ва ўладзе можна было вызначаць памер бюджэту воласці і збораў за карыстанне месцам на рынку, за арэнду памяшкання, прыняць разумнае рашэнне наконт выкарыстання зямлі, займу ды ці мала яшчэ што. Аднак у Гардзея былі свае планы. Яму карцела стаць не проста радным гміны, а войтам. У выпадку дасягнення гэтай мэты можна было выставіць сваю кандыдатуру дэпутатам сейма, выбары якога чакаліся ў 1928 годзе. Ён дамовіўся сустрэцца з Захарам Маркевічам у нядзелю на вячорках, каб абмеркаваць далейшае.

У нядзелю яшчэ да змяркання моладзь сабралася пад ліпамі. Хлопцы стаялі асобным гуртам, курылі, жартавалі. Дзяўчаты сядзелі на бервяне і спявалі. Гардзей кінуў позірк спачатку на хлопцаў, пасля на дзяўчат, як бы выбіраючы, да якога гурту далучыцца. Аднак спярша пайшоў да хлопцаў. Маркевіча пакуль не было. Гардзей вырашыў, што гэта да лепшага — у прыцемку лягчэй гаварыць. Чым менш людзей будзе ведаць пра тое, што ён мае стасункі з Захарам Маркевічам, тым будзе лепей. Зрэшты, маглі б яны сустрэцца дзе-небудзь у лесе, дык мо і зусім сведак не было б, але ж Захару трэба пакрасавацца перад людзьмі, правесці, як ён сам кажа, масоўку, раздаць лістоўкі. Не асцерагаецца, што знойдзецца разумнік, які захоча выслужыцца перад уладаю, тады бяда нашаму змагару…

Здалёку пачуўся меладычны голас гармоніка. Моладзь адразу павярнула галовы ў той бок, чакала, нахвальваючы гарманіста Сымона Чмяля. Хлопец толькі нядаўна вярнуўся з войска, засумаваў па роднай вёсцы і цяпер пры кожнай нагодзе браў у рукі гармонік, цешыў землякоў вясёлым граннем. З'яўленне музыкі перамяшала дзявочы і хлапечы гурты. Моладзь парамі кінулася ў агністую польку, пасля загучаў павольны вальс, даючы нядоўгі роздых.

Гардзей і не заўважыў, калі ў час «сербіянкі» на сярэдзіну гурту выйшла Зося, заспявала прыпеўку, павольна ўзмахнула рукою з вышыванаю хусцінкаю і затупацела нагамі, гнуткая, стройная, як бярозка, што вырасла пры дарозе. Ён міжвольна залюбаваўся дзяўчынаю. Бадай, яе шэры касцюмчык з белаю блузкаю не надта пасаваў да гэтага народнага танца, але затое вылучаўся сярод паласатых андаракоў ды вышываных кашуль. Зося не была прыгажуняю, але ў ёй палаў невынішчальны прыродны агонь жыцця, які і рабіў яе непадобнаю да іншых, асабліваю, прыцягальнаю. Гэты агонь разбудзіў у памяці Гардзея даўняе перажытае пачуццё, прымусіў устрапянуцца, наліцца прагаю жадання.

Калі змерклася, прыйшоў Маркевіч, як звычайна сказаў кароткую прамову пра тое, як прыгнечаны люд змагаецца супраць польскіх акупантаў, раздаў некалькі лістовак. Паспрабаваў праспяваць «Інтэрнацыянал», але моладзь

гэтай песні не ведала. Голас у Маркевіча быў слабы, ён абарваў свае спевы, загадаў гарманісту:

— Падыграй!

Гарманіст націскаў гузікі, рыпаў гармонікам, але падабраць мелодыю не здолеў. Маркевіч незадаволена махнуў рукою і крыкнуў:

— Гуляйце!

Гардзей схаваўся за ліпу, Захар спытаў у хлопцаў, ці не бачылі Гардзея. Яму адказалі, што бачылі, быў тут, хіба мо з якою дзеўкаю ў карчы адышоў. Захар накіраваўся ўбок сваёй вёскі. Тут яго і дагнаў Гардзей.

— Ты тут? А я збіраўся паўшчуваць за парушэнне дысцыпліны.

— Я ўвесь час быў тут, прамову праслухаў, хораша ты гаварыў.

Маркевіч, усцешаны пахвалою, не стаў больш марнаваць час на папрокі, растлумачыў, як належыць паводзіць сябе Гардзею да выбараў у гміну.

— Малайчына, што не выстаўляешся на людзях. Ты цяпер павінен быць, як цнатлівая дзеўка перад вяселлем. Каб ні вяскоўцы, ні ўлады не мелі да цябе ніякіх прэтэнзій.

— А як жа агітацыя за беларускую школу? — пацікавіўся Гардзей.

— Пакінем гэтую справу на восень. Не турбуйся. Рыхтуй новых камсамольцаў. Яны ўсё зробяць.

— А дзяўчат можна прымаць?

— Сустракаў я ў Берасці дзвюх рэвалюцыянерак. Разумееш, гэта такія жанчыны…

Маркевіч задумаўся, падбіраючы патрэбныя словы.

— Жалезныя бабы! Ім хоць макаўку растаўчы, будуць маўчаць. Нікога не выдадуць! Загартаваныя! Сярод вясковых такіх не знойдзеш. Нашы пачнуць плакаць, галасіць, усё раскажуць. Святая прастата…

— Сапраўды, лепш абыходзіцца без дзяўчат, — згадзіўся Гардзей. — Хоць, калі табе прызнацца шчыра, дык дзве красуні дапамагалі мне агітаваць за беларускую школу. Няблага ў іх гэта атрымлівалася, і грошай трохі сабралі для рэвалюцыянераў свету.

Гардзей дастаў з кішэні грошы і аддаў Маркевічу.

— Што за дзяўчаты?

— Кірылы Барэйшы дочкі…

— Ну, не дзіўна. Гэтыя ж былі ў Расіі ў эвакуацыі, напэўна, праніклiся там рэвалюцыйнымі ідэямі, — выказаў здагадку Захар. — Што ж, малайчына, што работу памалу вядзеш. Летам, бадай, у нас будзе зацішна, а ўвосень з’явіцца шмат працы. Ну, бывай здаровы.

Захар моцна пацiснуў на развітанне руку Гардзею, быццам выпрабоўваючы яго моц, але ў адказ атрымаў такі ж магутны поціск.

— Мацак! Малайчына, — задаволена засмяяўся Захар.

— А ты думаў, што ў Крачках зломкі жывуць? — адказаў Гардзей, узмахнуў рукою на развітанне і пашыбаваў туды, дзе заліваўся гармонік.

Зося стаяла за спінаю гарманіста і абмахвалася хустачкаю. Каця размаўляла з Гэляю. Гардзей наблізіўся да Зосі, абняў яе за стан, прашаптаў на вуха:

— Адыдзем. Трэба пагаманіць.

Зося здзіўлена павярнула да яго твар, паўзіралася, нібы спрабуючы зразумець, што яму трэба, пасля паслухмяна пайшла з ім убок карчоў. Калі адышлі ад ліп так далёка, што і музыка была ледзь чуваць, Зося спытала:

— Куды ты мяне вядзеш?

— Не ведаю. Проста іду абы-куды. Хачу табе хустачку аддаць, у якую ты сабраныя грошы закручвала.

— Не варта было турбавацца. Пакінь сабе на памяць…

— Дзякую. Але на памяць я хачу пакінуць сабе нешта іншае.

— Што? — цікаўна спытала Зося.

— Зоська, я так засумаваў па табе, — сказаў Гардзей, абняў дзяўчыну і пачаў горача цалаваць.

Яна не вырывалася, прытулілася да яго, забываючы пра мінулыя крыўды і нягоды, аддаючыся ва ўладу пачуцця і ягоных дужых рук. Яны доўга цалаваліся і ніяк не маглі наталіць тую смагу, якая выспела за доўгі час расстання.

— Давай прысядзем, — прапанаваў ён, рассцілаючы на траве кіцель.

— Толькі не доўга, бо там Каця з Гэляю будуць мяне шукаць.

— Пашукаюць і не знойдуць, мы добра схаваліся, — засмяяўся Гардзей.

Яны селі. Зося зноў апынулася ў жаданых абдымках, з якіх у яе не было ні сілы, ні жадання вырывацца. Гардзей кахаў яе, а яна дзеля гэтага кахання была гатовая на ўсялякую ахвяру. А зрэшты, зараз яна ні пра што не думала, проста існавала гэтаю шчасліваю ноччу і хацела, каб яна доўжылася вечна.

## 20

Каця прымярала Гэлі вясельныя строі, любавалася прыгожаю паставаю стрыечнай сястры, ганарылася сваёю працаю. Сукенка з белага тонкага батысту з карункавым каўнерыкам выглядала вельмі хораша і далікатна.

— Ты будзеш самая прыгожая на вяселлі, — сказала швачка задаволена.

— Чаму ж мне не быць прыгожай? Я ж не Марфа, што спачатку пуза нагуляла, а пасля замуж пайшла.

— Няўжо? — здзівілася Каця.

— Пуза выперла ўжо вялізнае, твар зрабіўся рабы, брыдкі.

— І чыя ж гэта работа? Якубава?

— Не, кажуць Гардзеева.

— Не можа гэтага быць! — абурылася Каця. — Плёткі збіраеш, абы добрага чалавека ачарніць.

— Людзі кажуць, што Марфа, калі зацяжарала, пайшла да Гардзея і ўсё яму расказала, а ён не захацеў прызнаць сваё дзіця. Тады яна хуценька і пабралася з Якубам.

— Такія распусніцы самі падстаўляюцца, каб хлопца захамутаць, а потым шукаюць вінаватых, — сказала Каця і памеціла іголачкай, дзе трэба было падгарнуць прыпол. — Так не коратка будзе?

— Рабі даўжэйшую, бо ў мяне чаравікі стараватыя.

Зося моўчкі назірала за сёстрамі і пакутліва думала пра сваё. Яна адчувала, што пасля апошняй сустрэчы з Гардзеем таксама зацяжарала і зараз не ведала, што рабіць. Калі пачула пра Марфіну гісторыю, зразумела: прасіць парады ці дапамогі ў Гардзея няма сэнсу. Ён любіць толькі сябе, а дзяўчатамі карыстаецца пры зручным выпадку. Цяпер яна вельмі шкадавала, што дазволіла аваладаць сабою. Гэта здарылася нечакана для яе самой. Зашаптаў, замілаваў Гардзей яе душу, а яна вельмі прагнула ягонай пяшчоты і кахання, таму і не цяміла, што робіць. Ды хіба ж можна хоць у чым-небудзь адмовіць каханаму чалавеку?

«Ні мамы няма, ні другой якой блізкай душы, хто б даў добрую параду. Няўжо ж мне зноў шукаць якой пагібелі? А ён будзе жыць ды дзяўчат любіць і не заплача на магіле, — з жалем падумала Зося. –- Куды падзецца ад ганьбы? Бедная я, няшчасная… Мяне ж Каця загрызе, а бацька наогул з хаты прагоніць. Не будзе мне жыцця ні дома, ні ў вёсцы. Усе ад мяне адвернуцца. І толькі з-за дзіцяці, якое завязалася з-за вялікага майго кахання. Несправядліва гэта, несправядліва... Калі ніхто не жадае, каб маё дзіця з'явілася на свет, дык і я не

павінна жадаць яго. Трэба пайсці да якой знахаркі, мо чым дапаможа. Хаця б да той жа Каваліхі… Аднойчы яна выратавала мяне…»

— Зося, Зося! Што з табою? Ці ты заснула? — Каця клікала сястру, а тая глядзела некуды перад сабою і быццам нічога не чула.

— Не заснула. Чаго табе? — вярнулася да рэчаіснасці Зося.

— Паглядзі, ці роўны прыпол, — папрасіла Гэля.

— Роўны, роўны, — абыякава адказала Зося, паднялася з лавы і пайшла з хаты.

— Што гэта з ёю? — спытала Гэля.

— Бог яе ведае. Ходзіць ужо з тыдзень, як прыгаломшаная.

Зося зайшла ў камору, знайшла ў куфэрку чатыры злотыя, якія хавала яшчэ з таго часу, як прыехала з Варшавы, і пашыбавала ў суседнюю вёску да Каваліхі. Яна была перакананая, што толькі гэтая жанчына магла выратаваць яе ад ганьбы і гневу блізкіх людзей. Дзяўчына не сумнявалася, што сястра і бацька любяць яе, але і яна сваімі паводзінамі павінна адпавядаць іхнім уяўленням пра маральнасць. Калі ж адважыцца парушыць пэўныя забароны, дык літасці не будзе. Ганьба дачкі кладзецца на ўсю сям'ю. Ды і сама яна разумела, што не мае права нараджаць дзіця без шлюбу. Гэта вялікі грэх.

Зося не помніла, як дайшла да хаты Каваліхі. І калі б у яе спыталі, што яна бачыла ў дарозе, напэўна, дзяўчына не здолела б нічога ўспомніць, настолькі была ахоплена гаротнымі думкамі. Некалі яе мама, аддадзеная замуж без кахання, нарадзіла тры дачкі: адна з якіх утапілася малою, Каця была хваравітая з маленства, а Зося хоць удалася знешнасцю і здароўем у бацьку, адчувала сябе няшчаснаю з-за няўдалага кахання. Невыносна балела яе душа і не знаходзіла сабе адхлання.

Каваліха сустрэла дзяўчыну прыязна, усміхнулася, заглянула ў вочы і спалохана спытала:

— Што з табою, дзіцятка? Пакрыўдзіў хто?

— Сама сябе.

— Як гэта? А, разумею… З хлопцам не ладзіцца… Прычараваць трэба?

— Зацяжарала я, паратуй, цётачка, — заплакала Зося і прыпала да цётчынага пляча.

— Годзе, годзе плакаць. Даўно цяжарная?

— Не, трохі больш за месяц…

Цётка акінула яе позіркам і спытала:

— Можа, гэта і не цяжарнасць, а так затрымка…

— Не ведаю, цётачка. Зрабіце што-небудзь, бо рукі на сябе накладу.

— Пачакай паміраць раней часу. Смерць лепш ведае, каго і калі забраць. Скажы мне, а той раз, як табе было блага, таксама з-за яго?

Зося моўчкі гаротна кіўнула галавой. Каваліха правяла даланёю па яе галаве і сказала спачувальна:

— Бедная сірацінка, няма маці, няма каму цябе розуму навучыць. Паслухай мяне, ніколі не падпускай да сябе гэтага хлопца, нічога, акрамя няшчасця, ён табе не прынясе.

— Дзякую, цётачка, я і сама думаю, што больш у яго бок ніколі не гляну. Але што ж мне цяпер рабіць?

— Дзіця не хочаш нарадзіць? Усё мінецца, а дзіця застанецца.

— Баюся… Што бацька… сястра… людзі… Жах падумаць, — Зося затуліла твар далонямі, заплакала.

— Не плач. Годзе. Гора прыйшло і пойдзе. Глядзі на гэтую зёлку. Зязюліна мыла называецца. Расце на балоце, — паказала Каваліха некалькі каліў засушанага зелля.

— Ведаю, ведаю, — сказала Зося.

— Нарві, завары і папі ўзвар тыдзень па паўшклянкі тры разы на дзень, дасць Бог, і паможа.

— Дзякую, цётачка.

— За гэта дзякуй не кажуць. Запомні, пі не больш як тыдзень, бо сплывеш крывёю.

— Добра, добра… Я тут прынесла колькі злотых… — сказала Зося і мітусліва стала разгортваць хустачку, у якую былі загорнуты грошы.

Каваліха спыніла яе рухам рукі, кусцістыя бровы навіслі над глыбокімі старымі вачамі, якія пазіралі сурова. Яна сказала, як адрэзала:

— За такую дапамогу плату не бяру. Абедзвюм нам — грэх вялікі. Маліся, дзевачка, Бог літасцівы. Ён даруе. Трымай зелле, каб не пераблытала.

— Цётачка, каб не ты, я б, напэўна, памерла б…

— Ідзі з Богам. Ідзі…

Зося выйшла з хаты, паглядзела на сонца. Яно яшчэ было высока. Дзяўчына спачатку накіравалася да свайго хутара, а на паўдарозе завярнула да балота. Ішла і маліла Бога, каб нікога не сустрэць, ды каб удалося знайсці ёй зязюліна мыла, якое вымые з яе ўлоння Гардзеева насенне, адвядзе бяду і дазволіць жыць далей.

**21**

Гэліна вяселле гулялі пасля Пятровага посту. Гасцей было мала, хутаранец Карп запрасіў толькі самую блізкую радню, аднак пад вечар на музыку найшла моладзь з Крачкаў і Сцяблова. І як было не прыйсці? Сваю дзяўчыну аддавалі ў далёкую вёску, цяпер гады ў рады сустрэнешся. Зося памагала цётцы Агатэлі, цэлы дзень круцілася, бы вавёрка ў коле, падносіла свежыя стравы, прыбірала брудны посуд, мыла міскі. Не весела ў яе было на душы. Папіла зелле, якое нараіла Каваліха, дык два тыдні страшэнна балелі жывот і паясніца. Некалькі дзён Зося не ўставала з запечка, знясілела зусім ад страты крыві і болю, аднак не скардзілася ні сястры, ні бацьку. Чакала, што Бог дасць. Але варта ёй было ўявіць, што труну з яе целам апускаюць у зямлю, сэрца сціскалася ад жудасці. Паступова боль адступіўся, дзяўчына супакоілася, вярнулася да звычайнага жыцця, толькі не было ў сэрцы ранейшай радасці, яно, як прывялая кветка, абыякава і асуджана ўспрымала свет. Амаль два месяцы яна не бачыла Гардзея. Ні разу ён не наведаў іхні хутар. Зося зразумела, што ён проста карыстаецца ёю, як бяздумнаю дурніцаю, і весела жыве сабе далей. Няма яму ніякае справы да яе турбот і няшчасцяў. Адна ноч — разам, а потым зноў расстанне на доўгія месяцы. «Няхай жыве! Няхай жыве, як хоча! Больш я ніколі нават не зірну ў ягоны бок! — з крыўдаю думала Зося. — Праўду казала цётка Каваліха, ён мне толькі бяду прыносіць».

Кацю таксама турбавала тое, што Гардзей забыў дарогу на іхні хутар, яна нават іншы раз пыталася ў Зосі:

— Чаму гэта Рахуба да нас не заходзіць?

— Ён жа твой залётнік. Адкуль я магу ведаць, — з’едліва адказвала Зося.

Каця не пярэчыла. Ёй сапраўды здавалася, што Гардзей заляцаецца да яе. А чаму б і не? Яна і з твару нябрыдкая, і шмат цікавых кніжак прачытала, з ёю ёсць пра што пагутарыць, і швачка добрая. Хоць вяскоўцы і мала шыюць з крамнай тканіны, але ж як з’яўляецца патрэба пакроіць ці пашыць нешта далікатнае, дык ідуць да Каці.

Без Гардзея дні цягнуліся бясколерна і сумна. Хоць працы было шмат на гаспадарцы, але рабілася яна без ахвоты і настрою. Нават тут, на вяселлі, Зося

хоць і ўсміхалася гасцям, але гэта была сумная ўсмешка. Дзяўчына адчувала сябе непатрэбнаю, як на чужым свяце.

Цётка Агатэля толькі недзе пад вечар стомлена сказала Зосі:

— Ідзі да моладзі. Хопіць таўчыся са мною. Ужо ўсе напіліся і наеліся, той-сёй за сталом нават носам клюе.

— Мне тут лепш, — сумна ўсміхнулася Зося.

— Што з табою, дзіця?

— Нічога. Стамілася за дзень.

— Якая стома ў маладосці? Ідзі польку паскачы — уся стома атрасецца.

— Пайду, бадай…

Зося выйшла на двор. Каля хаты заліваўся гармонік, п’янаватыя дзядзькі і цёткі спрабавалі танчыць, але куды ім было да маладых, якія скакалі з такім імпэтам, што толькі пыл курыўся з-пад ног. Зося не паспела агледзецца, як нехта падхапіў яе пад руку. Яна зірнула і аслупянела. Гэта быў Гардзей.

— Чаго ты спалохалася? — засмяяўся ён.

— Нічога, — злосна падціснула вусны Зося.

— Пойдзем, паскачам…

— Не хачу.

— Ну, чаго ты? Мы так даўно не бачыліся, — Гардзей бліснуў роўнымі белымі зубамі, нахіліўся да яе вуха і прашаптаў. — Ты не ўяўляеш, як я па табе засумаваў!

Зося паспрабавала вырваць сваю руку з ягонай, але Гардзей трымаў моцна.

— Пусці, бо зараз бацьку паклічу, вунь ён стаіць, — злосна сказала Зося.

Гардзей расчаравана выпусціў яе руку, пацiснуў плячыма, сказаў:

— Што на дзеўку найшло?

Зося стала ля плота. Гардзей тым часам запрасіў на вальс Кацю. Яны закружыліся ў павольным танцы. Каця была ў прыгожай паркалёвай сукенцы, на чырвоным полі красаваліся белыя рамонкі і сінія званочкі. Кветкі проста гарэлі ў вечаровых промнях.

«Няхай скачуць, а я сваё адскакала. Грэх на мне вялікі…» — падумала Зося і пайшла. На момант ёй здалося, што сілы зусім пакінулі яе. Як старая бабуля, прыгорбіла спіну, села на лаўцы каля сваёй хаты, ні пра што не думала, глядзела перад сабой і бачыла, як калышацца былінёг пры дарозе. «Вось так і я жыву беспрытульна, хілюся туды, куды лёс паверне. І не ведаю, у які бок ісці, дзе мяне чакае бяда, а дзе заблудзілася маё шчасце».

Здалёку пачуліся ўзбуджаныя галасы. Зося вызвалілася ад здранцвення, паглядзела ў той бок і ўбачыла Гардзея і Кацю. Дзяўчына паднялася, пайшла ў двор, не ведаючы, куды ёй схавацца ад гэтага ненавіснага і невыноснага Гардзея. Яна адамкнула дзверы, убегла ў хату, пачала варочаць чыгуны, дастаючы іх з печы, прынесла карыта з сяней, стала рыхтаваць мяшанку. Усё чакала, што Гардзей і Каця вось-вось увойдуць у хату, а яны пастаялі каля весніц, і Зося нават не заўважыла, у які бок пайшлі. Яна выбегла ў двор, але блізарукія вочы нічога не маглі разгледзець у вечаровай смузе. Яна выцерла слёзы крыўды і адчаю, вярнулася ў хату, думаючы, што Кацю ён не абдурыць. Ды і сама сястра хіба адважыцца развязаць свой пасак, які ахоўвае яе падарваны жывот. «Не, не на тую нарваўся. Каця будзе стаяць, як сцяна. Ростам малая, затое дух мае нязломны. Хоць, хто яго ведае, як яна здолее супрацьстаяць каханню?»

Зосю зараз больш турбавала, як паставіцца Гардзей да Каці. Раптам ён захопіцца ёю? Яна ж знешне прывабная і разумная, каму хочаш галаву задурыць.

***Працяг будзе.***



## Кастусь ЖУК

### НЁМАН

Зноўку змоўклі птушак галасы,
Загрымелі ў бубны небазвоны…
І чутны старых віроў басы,
Бо віры,
як жорны,
круціць Нёман.

Ён скупы,
калі паўдзён сляпы,
Але можа хваляй пабрыкацца,
Калі грозных бліскавіц слупы
Паспрабуюць з бацькам паспрачацца.

Супакой свой нораў, не сваволь
Над маёй і доляй,
і нядоляй.
Акунуцца ў глыбы хваль дазволь,
Каб душу спатоліць,
разняволіць.

---

**Жук Канстанцін Якаўлевіч** *нарадзіўся 2 мая 1954 года ў вёсцы Затур'я Нясвіжскага раёна Мінскай вобласці. Пасля заканчэння Сейлавіцкай сярэдняй школы служыў у Савецкай Арміі, працаваў наладчыкам, электразваршчыкам на Мінскім трактарным заводзе. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна (1981) і Мінскую вышэйшую партыйную школу пры ЦК КПБ (1988). Быў літсупрацоўнікам газеты «Чырвоная змена», карэспандэнтам шматтыражкі «На стройках Минска», рэдактарам на Беларускім тэлебачанні, старшым рэдактарам выдавецтва «Мастацкая літаратура».*

*Аўтар паэтычных зборнікаў «Планета маёй душы» (1982), «Зямная ноша» (1988), «Пладаносны агонь» (1991), «У найме ў сонца» (1991), «Галгофа» (1997) і інш.*

*Лаўрэат прэміі Федэрацыі прафсаюзаў Рэспублікі Беларусь (1999).*

Штóграмы
і зграі бліскавіц! —
Сёння
мне тут хараша і ўцешна.
Прад табою
кожны падаў ніц,
На цябе не ў сілах наглядзецца.

Я плыву ў бруістыя віры,
Ды з нябёс
грамоў рыкае голас:
«Не сваволь ты з Нёманам, стары, —
З ім,
смурным,
не жартаваў і Колас!»

Пакідаю ўрэшце крутаверць,
Хваляў наглытаўшыся уволю.
Ледзь жывы,
успомніў я пра смерць…

Прыйдзе час — ізноўку пасваволю.

## ДОМА

Пастаяў
Ля мядовай чабор-травы,
А прапах —
Палынамі і верасам,
Каб адчуць:
Я дома!.. Яшчэ жывы!..
На плячах маіх —
Коўдра вечара!..

Сустракай мяне,
Поле ветлае,
Поле дзіўнае,
квет-радзіннае.
Не пад Поўняю —
дык пад Ветахам
Дай абняцца…
з радзімаю.

## ПРАСНАК

За мярэжай вымаклых стагоў
Абуяюць думкі, вернуць памяць…
Хоць азвыклы
да шчымлівых слоў,
Але словы мамы — душу паляць.

«Пасядзі, сыночак, паглядзі, —
Вунь ізноўку сонейка і людзі…
Ёсць царква і клуб… А ты — адзін…
Адзінокі, — ці сагрэтым будзеш?»

«Буду, мама. Буду!
Будзе так,
Як благаславіла ў свет ты сына,
Бо сагрэе цёплы твой праснак
З прысмакам прамёрзлае каліны».

Твой праснак — сапраўдны Божы знак.
Спрэс на ім з калін — сузор'і, зоры…
Мне дасюль не ўцяміць аніяк:
Я ўсё — той.
А мне — даўно за сорак.

## МАЛАННЯ

Ашалелыя маланкі
Збеглі за сяло.
І ў старэнькае Маланні
Сэрца ажыло.

Як успела ўзгадаваці
Шасцярых сыноў, —
Так не ўспела пахаваці,
Знішчаных вайной.

І цяпер старой Маланні
Не пабачыць сноў,
Бо вяртаюцца маланкі,
Толькі… без сыноў.

## СВЯТЛО

Мне свеціць з неба Альтаір
Святлом парэчкі.
І пурпуровы, як парфір,
Валун ля рэчкі.

І свецяць водмеллем Тур'я
І жаўтапёсы,
Дзе хлапчуком гуляю я,
Худы і босы.

Але найболей свеціць мне
Хатулька тая,
Дзе мама сцішана ў акне
Святлом світае.

* * *

*Сыну Алегу*

Зазірну я ў маладыя дні
Шчасця запазычыць…
Ля ракі
Аерын прамяні
Ногі заказычуць.

І прачнуцца дольныя вятры,
Прывітаюць травы.
Памахаюць лапкамі бабры
Мне ля пераправы.

Акрыяю сэрцам ля вады,
Лягуць сны на плечы.
Стану я не проста маладым —
Хлопчыкам-малечай.

Як раней, мяне зноў абміне
Мулкая трывога,
Бо з вышынь і з хваляў
Падміргне
Сонца — Вока Бога.

## АБРАЗОК З ДЗЯЦІНСТВА

Павучынай восені дазор,
Ветрык заблудзіўся ў пазалоце…
І здаецца: аж ад самых зор
Падняліся павучкі ў палёце.

Мы сядзім, малеча, на страсе,
Заміраем: тут іх будзе фініш.
Ды нясе удалеч іх, нясе
Тонкае, як кужаль, павуцінне.

Хоць і самі лётаць — лаўкачы,
Нам да павучкоў — яшчэ далёка.
Колькі са страхі ты ні скачы,
А ляціш уніз, — не да аблокаў.

Але мы ў парыве, дзівакі,
Вісусы, зялёная блазнота…
І смяюцца, пэўна, павучкі
З нашых неабдуманых палётаў.

* * *

Ад вячэрняй смугі
Не схацеў я нічога, нічога…
О, мой край дарагі,
Як і ты — я ад Бога, ад Бога.

Адгавейся са мной —
Хай жа будзе святою вячэра…
Крыж цяжкі за спіной,
Ды ў цябе яшчэ — веру і веру.

Не пакінь жа мяне
На бязлюдна-сцішэлай прасторы:
Белабог у акне.
І ўсе самыя светлыя зоры.

## ПАЛЕТАК ЛЕТА

Гэта лета палетак
Наладзіў масты,
Каб праменіўся — я,
Ззяла золатам — ты.

Дзе за грэчкай — парэчкі,
Тур’я, Затур’я, —
Ружай-кветкаю — ты,
Сінь-валошкаю — я.

На паўсвету
Стае тут
Для нас дабраты…

Гэта лета палетак
Наладзіў масты.

## ВАЎЧЫНЫ ВІР

П’е не нап’ецца вады ашчацінены звер,
Ён ад гайні адарваўся за стромай ракі:
Сіл не стае, іх пазычыў бы ён — напавер, —
Ходзяць бакі растрывожана, як жаўлакі.

Ён угрызецца зубамі ў плывун-бервяно,
З ім паплыве ў злую бездань, віхуры-віры.

Ён — перамог. Пераможцам — ён пойдзе на дно,
Бо не дагналі сабакі і сабакары.

Будуць баяцца купацца тут больш землякі:
Тут аж да грэбняў з глыбінь падымаецца жвір.
Як абцугі, вір сціскае свае жаўлакі —
Непераможнага звера разгневаны вір.

## КУПАЛЫ

Дзень патух стары…
Вечар — хоць ты плач…
Ды ў царквы гарыць
Купалоў яснач.

Яркія мае!
Залаціце сны.
Вас мне не стае
Пасярод вясны.

Купалы мае,
Яснасветлы дар!
Дзе душа пяе, —
Там і мар пажар.

Залаціце ўсё
Ў ночы на мяжы.
Там, дзе хмар крыссё, —
Свецяць мне крыжы.



Янка СІПАКОЎ

# АПАВЯДАННІ

## *Ой, сівы конь бяжыць*

**Яна**, несумненна, была каралеваю сустрэчы.

Усе спявалі — спявала і яна, але так, што праз нейкі час усе замаўкалі і слухалі толькі яе адну: яе голас, нямоцны і пяшчотны, перасільваў моцныя, нават крыклівыя, галасы аднакласнікаў.

Усе танцавалі — танцавала і яна, аднак неўзабаве на крузе яна заставалася толькі ўдваіх з тым, каго выбрала сабе на танец. Ім падпарадкоўвалася ўсё — вальс і полька, кадрыля і лявоніха і нават далёкае, таямнічае іспанскае фламенка: яе шырокая і доўгая спадніца, як і на радзіме танца, хвалявалася і спакуслівa, нібыта дражнячыся, абвівалася вакол прыгожых і надзіва маладых яшчэ, як у дзяўчыны, ног.

Усе ўсміхаліся ёй, і яна ўсміхалася ўсім. Усе любаваліся ёю, і ёй, ён бачыў, гэта падабаецца. Сёй-той нават клаў на яе плечы рукі, і яна паблажліва глядзела на гэтае свавольства. А з некаторымі дык нават і цалавалася — нібыта не сур'ёзна, нібыта наўмысна, але ж цалавалася!

І тады ён нечакана нават для самаго сябе зараўнаваў. Зараўнаваў яе да ўсіх — як самы сапраўдны хлапчук.

Спачатку ён быў супраць гэтай сустрэчы: маўляў, мы ж ужо людзі не маладыя, цяпер хваліцца нам неяк няёмка, ды і не варта, ды і сэнсу няма дапытвацца ў аднакласнікаў, хто чаго дасягнуў, хто кім стаў. Усе сталі нармальнымі людзьмі, а гэта само па сабе не так ужо і мала.

Ён быў не адзіны — ягоную скептычнасць падзялялі і некаторыя іншыя выпускнікі, асабліва жанчыны. Яны былі шчырыя: «А што, я павязу туды напаказ свае маршчыны? Каб пахваліцца імі?»

---

**Сіпакоў Янка (Іван Данілавіч)** *нарадзіўся 15 студзеня 1936 года ў вёсцы Зубрэвічы Аршанскага раёна Віцебскай вобласці. Скончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт. Працаваў у часопісах «Вожык», «Маладосць», «Беларусь».*

*Аўтар кніг паэзіі «Лірычны вырай», «Дзень», «Веча славянскіх балад», «Усміхніся мне» і інш. Выдаў кнігі прозы «Крыло цішыні», «Жанчына сярод мужчын», «Усе мы з хат», «Зялёны лісток на планеце Зямля» і інш.*

*Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі. Заслужаны дзеяч культуры РБ.*

Але сярод аднакласнікаў знайшоўся сапраўдны энтузіяст, Толя Родны, які ўвесь груз па сустрэчы ўзваліў на свае плечы: знайшоў тэлефоны, абзваніў, састыкаваў усё, прызначыў дзень.

І вось яны, каля дваццаці аднакласнікаў, сабраліся ў роднай школе. Спачатку Толя думаў правесці сустрэчу ўрачыста — з настаўнікамі, з дырэктарам школы, з вучнямі, з прэзідыумам (цікава, як бы ён абіраў той прэзідыум?), аднак жа было самае лета — школа не працуе, вучняў няма, настаўнікаў — таксама, і таму яны, выпускнікі, засталіся ў роднай школе адны.

Праўда, на самым пачатку да іх прыйшла дырэктар школы — прывабная, па-святочнаму апранутая жанчына, аднак, калі хтосьці з выпускнікоў неасцярожна загаварыў да яе: «Ведаю дакладна, што мы вучыліся з вамі ў адным класе, але вось хто вы — ніяк не магу ўспомніць», абурылася і, знайшоўшы нейкую важкую адгаворку, пайшла дадому.

— Бачылі вы яго, які шустры, — расказваючы потым пра гэта настаўнікам, сердавала яна. — Ён са мною вучыўся! А мне ж яшчэ і пяцідзесяці няма. Мяне ж тады яшчэ і на свеце не было. А ён ужо са мною, ці чуеце, вучыўся.

І праўда, усе яны былі ўжо, як кажуць, людзі летныя, у добрых гадах. То ж столькі гадоў мінулася з таго часу, як яны развіталіся са школаю! Усё чалавечае жыццё, лічы, прайшло поразь. Многія, што ні разу не бачыліся за гэты час між сабою, ужо не пазнавалі адно аднаго — даводзілася знаёміцца нанава.

Баркаўцу не хацелася, каб гэтая сустрэча ператварылася ў нейкі сход, калі ў цябе без тваёй згоды выпытваюць, колькі ў цябе дзяцей, колькі ўнукаў, распытваюць пра твае хваробы, — а некаторыя і самі хваляцца гэтым, — калі ўсе, як вучні, баяцца, што раптам і яго выклічуць да дошкі, і ён мусіць адказваць на пытанні, хоць урока і не вывучыў.

Таму Баркавец адразу ж устаў і сказаў:

— Сябры! Дарагія мае, шаноўныя! Сёння ў нас няма тут Іванаў Пятровічаў і Пятроў Іванавічаў. Няма Валянцін Сяргееўнаў і Галін Васільеўнаў. Усе мы тыя хлапчукі і дзяўчынкі з тых нашых школьных фотаздымкаў — Вані, Валі, Люсі, Федзі, Віці, Любы, Мілы. Усе мы маладыя і прыгожыя, у нас нічога нідзе не баліць, і мы ў сваіх кішэнях ды сумачках пакуль яшчэ не носім ніякіх таблетак.

Аднак свята неяк не атрымлівалася.

Паспрабавалі заспяваць «Школьны вальс». Тады, калі яны заканчвалі школу, яго яшчэ не было, а таму слоў песні многія не ведалі, — спявалі ўроскід, не траплялі нават у мелодыю.

Нехта завёў «Касіў Ясь канюшыну», але і гэтая песня не загучала: яна, зацяганая па застоллях, не адпавядала нашаму настрою.

І тады заспявала яна.

З Мілаю Баркавец у старэйшых класах сядзеў за адною партаю. У пачатковых — ён нават не заўважаў яе, не звяртаў увагі, а, хлапчанё, быў заварожаны Галяй Мячыкавай і ўжо нават думаў, як яны пабудуюць сваю хату і як, шчаслівыя, будуць жыць у ёй, — пра гэта ён, малы дзівачок, нават расказваў самой Галі.

А вось пасля восьмага класа як усё роўна нешта між імі здарылася, яны нібыта ўпершыню ўбачылі адно аднаго: на ўроку іх рукі ўжо маглі нечакана сустрэцца на кнізе ці на сшытку, яго плячо магло адчуць ейнае, яго нага магла дакрануцца да Мілінай — быццам выпадкова, быццам яны абое і не думалі пра гэта, а вось, ведаеце, дакрануліся... І калі, здаралася, што ў іхні бок у гэты час глядзеў настаўнік, яны чырванелі і хуценька адсоўвалі ногі: ім здавалася, што настаўнік усё бачыць і ўсё разумее.

Пацалаваліся яны ўпершыню толькі на выпускным вечары. А правільней — пасля яго.

Раса той ноччу была вельмі ядраная, буйная, як боб, і яны, сустракаючы пад раніцу сонца, блукаючы па высокай і густой траве, абрасіліся як не да пояса.

Потым ён праводзіў Мілу дадому — яна жыла за рэчкаю, у вёсцы Ясенька — і ўжо на мастку, вузенькім, нібы сцежачка, з жардзінкаю, прыбітаю з аднаго боку, каб можна было за яе трымацца, падаў Міле руку, і яна неяк лёгка і спрытна ўзбегла на масток і, як птушка, уляцела ў яго абдымкі.

І вусны іх раптам сустрэліся.

Яны не разнялі ні рук, ні вуснаў нават тады, калі пад імі трэснула дошка, і закаханыя нават не паспелі апамятацца, як апынуліся ў рацэ — стаялі ў вадзе і, нібыта нічога не здарылася, цалаваліся.

Шумела рака, у кустах ужо спявалі птушкі, сонца ўжо свяціла ім у самыя вочы, а яны стаялі і нічога вакол сябе не заўважалі.

Потым шляхі іх разышліся: ён паехаў у Мінск і паступіў ва універсітэт, яна — у Горкі, у сельгасакадэмію.

Пажаніліся, нарадзілі дзяцей. Сем'і, праца, у кожнага свае клопаты. Аднак нехта — ці не Алік Ваўчок? — згадаў пра Мілу і сказаў, што ведае нумар яе тэлефона.

І ён пазваніў ёй. І яны прагаварылі тады цэлую гадзіну.

Потым гэтыя званкі пачасціліся. Ён здымаў трубку, набіраў нумар і замест прывітання пачынаў:

— Ой, сівы конь бяжыць...

І яна адразу ж падхоплівала:

— На ім бела грыва.

Яны спявалі адну песню за другою і не заўважалі часу. Толькі потым спахопліваліся:

— А мы ж яшчэ нават і не павіталіся. Добры дзень, Мілачка?!

— Добры дзень, Жэўжык! — адказвала яна. Міла яшчэ ў школе чамусьці празвала яго Жэўжыкам. Яму здавалася, што на жэўжыка ён зусім непадобны, але, калі яна гэтага хоча, хай будзе і так: Жэўжык дык Жэўжык.

Так што, калі аднакласнікі сустрэліся і яшчэ перад школаю пачалі вітацца, пазнаваць адно аднаго — усе былі ўжо такія іншыя: дзядзькі і цёткі, дзядулі і бабулі, зусім не падобныя на хлапчукоў і дзяўчынак са школьных фотаздымкаў, — ён не хваляваўся: ведаў, што пазнае Мілу па голасе. Аднак яшчэ і да таго, як яна загаварыла, ён ужо кінуўся да яе ў абдымкі — Міла амаль не змянілася, яна і тварам, і нават целам засталася маладою.

Ён абняў яе, спачатку ласкава, пяшчотна, потым лёгенька прыгарнуў да сабе і, перабіраючы ў яе за спінаю далонямі, вузячы круг рук, сціскаў Мілу ўсё мацней і мацней.

— Задушыш, Жэўжык, — пачала варушыцца ў абдымках яна.

Але ён усё падбіраў і падбіраў свае рукі, тулячы яе да сабе.

— Сінякі ж будуць, — прасілася яна. — Што я мужу скажу, Жэўжык?

Да іх падбег Алік Ваўчок.

— Баркавец, што ты робіш? — пачаў ён быццам бы жартам разнімаць іх. — Адпусці дзяўчыну. Яна ж ледзь дыхае ўжо. Ад тваіх абдымкаў.

Калі ратавальнік адышоўся, яна спыталася:

— А гэта хто такі?

— Як, ты не ведаеш Аліка Ваўчка? Нашага палкоўніка? Ён жа з Ленькавіч. Гады тры вучыўся з намі разам, потым перавёўся ў школу, што была ў ваенным гарнізоне. Там усё выкладалася па-руску і, як многія лічылі, там

давалі лепшыя веды. На пенсіі стаў марафонцам. Бегае і цяпер. Удзельнічаў у шматлікіх марафонскіх забегах і нават перамагаў.

— Не помню такога, — задумалася Міла, але ён заўважыў, што ёй Ваўчок спадабаўся.

Баркавец нібыта ў гневе ссунуў бровы, напусціў на сябе грозны выгляд, рашуча зірнуў Міле ў вочы.

— Зарэжу, — жартуючы, але строга сказаў ён. — Зарэжу абаіх.

— А кінь ты, — Міла толькі ўсміхнулася ў адказ.

— Ого, — сваім зычным голасам загаварыла раптам Галя Мячыкава. — У нас тут, сябры, такое каханне разгараецца, — і засмяялася. — Зараз нашы хлопчыкі за нашых дзяўчатак рэзацца пачнуць.

— Жартую, жартую, Галіначка! — памахаў ён рукою Мячыкавай. — Не хвалюйся, усе будуць жывыя і здаровыя.

Вядома, ён жартаваў, аднак сам адчуваў ужо, што з ім нешта робіцца. Стрымліваў сябе і супакойваў.

Ты што, дружа, усур'ёз усё гэта? Каханне? Якое каханне, якая рэўнасць! Ты зноў хочаш стаць школьнікам? Вярнуць маладосць? А ці не смешна ўсё гэта, Баркавец? Час ліхаманкавага бляску ў вачах даўно прайшоў. Час хваляванняў, калі ўсю ноч не спіш, з-за таго, што нехта не так зірнуў на тваю каханую, — мінуўся. І апантанае чаплянне за маладосць — недарэчна, а пераўвасабленне сівога чалавека ў хлапчука — і ўвогуле смешна. Восень жыцця трэба прымаць з годнасцю і ўдзячнасцю. За тое, што ўжо адбылося. У нас жа ўжо дзеці старэюць. І ўнукі хутка будуць рабіць тое, што хочам вярнуць, успомніць мы — будуць кахаць! Не, Баркавец, час немагчыма адкруціць, як стрэлкі гадзінніка, назад. А тады навошта ўсё гэта? Пачакай. Як гэта — навошта? Валасы — сівыя, а душа ж — з крыламі. Хоць ёй і нялёгка, часам, падымаць над зямлёю ўсё тое, што ўжо сівагаловае…

Рассаджваліся яны за сталы неяк зусім абыякава, не думаючы, — дзе хто стаяў, там той і сеў. Баркаўца пасадзілі амаль прысілам, а потым яшчэ ссунулі як не ў самы кут.

Міла недзе затрымалася, прыйшла самая апошняя — мусіць, прыхарошвалася перад люстэркам, прычэсвалася, папраўляла прычоску. Калі зайшла ў сталоўку, Толя Родны ўжо казаў першае слова. Яна абвяла позіркам застолле, убачыла Баркаўца, памахала яму абедзвюма рукамі, потым развяла іх — маўляў, бачыш, да цябе ніяк не дабрацца, — і хуценька села на вольнае месца.

Ён ад злосці толькі моцна сціснуў вусны — Міла села якраз насупраць Аліка Ваўчка! Спінаю да яго, Баркаўца. Цяпер ён ужо не мог бачыць яе твару — яму відны толькі вочы марафонца, які, не адрываючыся, захоплена глядзеў на суседку па стале.

Яны нават спявалі дуэтам — Алік, як і Міла, падрыхтаваўся да сустрэчы. Ваўчок дастаў са сваёй сумачкі сшытак з запісанымі папулярнымі ў савецкі час песнямі, і як толькі Міла пачынала новую, паспешліва гартаў старонкі, шукаў яе словы, а знайшоўшы, хуценька пачынаў падпяваць ёй, часта зазіраючы ў свой спеўнік. Міла спявала бездакорна, а таму гэтая Алікава падпеўка часам замінала, перашкаджала ёй, але яна цярпела і не злавала на Ваўчка.

Злаваўся якраз ён, Баркавец, і, навошта грахі хаваць, злараднічаў і радаваўся, калі ў іх не вельмі атрымлівалася: ну, ну, палкоўнік, паспявай дуэтам, паспявай...

На танцах у вестыбюлі, якія пачаліся потым, Ваўчок не выпускаў Міліну руку са сваёй далоні. Танцаваў усё засаб, што ігралі. Некаторыя пачалі з яго пасмейвацца:

— Зірніце, ён жа прыватызаваў Мілу.

Не вытрымаў і Саша, капітан першага рангу ў запасе, і рашуча падышоў да іх:

— Алік, ці ведаеш ты дзе знаходзіцца Калінінград?

— Ведаю, — усміхнуўся марафонец.

— Далёка адсюль, праўда? Дык вось я прыехаў з Калінінграда, каб патанцаваць і з Мілай. А ты мне не даеш, — і, паслабіўшы Ваўчковы пальцы, Саша ўзяў Мілу за руку.

— Дык і я ж не з Хадулоў прыехаў, — пакрыўдзіўся Алік. — Мінск жа таксама не блізка.

— Вось і добра, — супакоіў яго Саша. — А ты запрасі на танец Лену — яна ж у Днепрапятроўску жыве.

Потым ужо, калі сустрэча заканчвалася, Саша сказаў яму:

— Гэта я знарок зрабіў так. Убачыў, што ты, дружа, вельмі ж замаркоціўся.

Аднак Баркавец так і не станцаваў з Мілай ніводнага танца: ці то няёмка было пасля Сашавага прызнання, ці то ён і праўда вельмі пакрыўдзіўся на жанчыну.

Пасля танцаў, калі ўсе зноў садзіліся за сталы, яны ўсё ж селі разам — яна знайшла сабе новае месца, а ён, рассоўваючы і распіхваючы ўсіх, нарэшце, дабраўся да Мілы і сеў побач з ёю. І адразу ж абвёў позіркам застолле — хацеў гэта зрабіць незаўважна для іншых, аднак Міла прыкмеціла і шапнула яму:

— Ваўчка шукаеш? — і паказала вачыма: — Вунь ён.

Алік сядзеў на тым жа самым месцы — мусіць, спадзяваўся, не, быў упэўнены, што Міла, як і тады, зноў сядзе насупраць яго. Ён сядзеў спінаю да іх! Баркавец у душы толькі зноў жа пазлараднічаў: ну, ну, чакай, марафонец...

Баркавец паклаў руку на Міліна плячо — нібыта абняў яе. Яна таксама павярнулася да яго, паклала сваю руку на ягонае плячо. І яны неяк міжволі, проста і натуральна абняліся. Прыхінулі галовы адна да адной, дакрануліся ілбамі і так заціхлі. Ім здавалася, што ў агульным вэрхале, пакуль рассаджваецца новае застолле, на іх ніхто не звяртае ніякай увагі. Яны сядзелі так, абняўшыся, моўчкі, слухаючы, як яднаюцца іх дыханні, як паволі, вельмі паволі — нібы тады, за партаю, у іх выпускным класе — пачынаюць набліжацца іхнія ногі: яго — левая, яе — правая.

І раптам яркая ўспышка быццам абудзіла іх, быццам вярнула на зямлю, і яны выразна ўбачылі перад сабою Сашу з лічбавым фотаапаратам і пачулі яго радасны голас:

— Ну і кадрык!

Галя Мячыкава, якая сядзела насупраць іх, па-свойму пракаменціравала гэта:

— Дзіўна, ім яшчэ не надакучыла цалавацца?

— Дай паглядзець, што ты там зняў, — праігнараваўшы Галін каментар, Баркавец папрасіў у Сашы фотаапарат.

Здымак атрымаўся вельмі прыгожы, цікавы і нават мастацкі. Яго можна было б назваць «Абдымкі» і выстаўляць на паказ.

Ён перадаў апарат Міле. Яна паглядзела здымак, сказала:

— У цябе, Баркавец, вельмі прыгожыя рукі.

— І ўсяго толькі? — усміхнуўся ён.

— А што, ты лічыш, гэтага мала? Вунь адна мая сяброўка ведаеш як закахалася ў свайго мужа? Найперш улюбілася ў яго рукі! А потым пакахала і яго самога. Яна млела, каб толькі ўбачыць іх, яго рукі, яна прагла, яна смягла, каб гэтыя рукі дакрануліся да яе, пагладзілі яе, абнялі яе.

— Пакажаш здымак мужу? — нечакана і вельмі ціха спытаў ён ва ўпор.

— Абавязкова! — не задумваючыся, адказала яна. — Я ж ад яго нічога не хаваю.

— Ты любіш мужа? — яшчэ цішэй запытаўся ён.

— Каб ты толькі ведаў, Жэўжык, як я яго любіла! Жыць без яго не магла. Вар'яткаю рабілася, калі дзень ці два не бачыла яго. Калі б тады з ім што-небудзь здарылася, я і ў магілу легла б побач — абы з ім быць, абы не разлучацца, — яна крыху памаўчала і ўважліва паглядзела яму ў вочы: — А ты любіш сваю жонку?

— Вядома ж, — коратка адказаў ён.

— Давай спяём разам, — нечакана прапанавала яна і, не чакаючы адказу, заспявала:

Я люблю, як твае рукі нада мною —
Нібы лебедзі над белаю зімою,
Як яны ласкава кружаць
І са мной па леце тужаць,
Нібы лебедзі над белаю зімой.

Цяжка, рукі, расставацца з вамі дужа
І без вас мне аставацца паміж сцюжаў...
Не ляціце, рукі, ў вырай,
Нада мной кружыце шчыра —
Нібы лебедзі над белаю зімой.

Ён таксама ведаў гэтую песню са старога рэпертуару «Песняроў», помніў і мелодыю, і словы. Аднак не падпяваў, каб не замінаць Міле — так хораша, душою, яна спявала.

Потым яны ўсім гуртам фатаграфаваліся. На фоне новай дыхтоўнай школы, у якой не вучыліся, але дзе святкавалі гэтую сустрэчу, і на месцы іхняй былой, драўлянай, з некалькіх хат, дзесяцігодкі, ад якой ужо нічога, апрача бур'яну ды векавечных ліп, не засталося.

Калі яны рассаджваліся на лаўцы перад Сашам — калінінградзец шукаў ужо кадр — Ваўчок сеў побач з Мілаю і паклаў нават на плячо ёй сваю руку, аднак, убачыўшы Баркаўца, які спазніўся і цяпер з-за спінаў спяшаўся да лаўкі, каб сесці, хуценька адсунуўся, вызваляючы для яго месца каля Мілы.

Але Баркавец не паспеў яшчэ сесці, як Саша націснуў на спуск — на здымку, які ён атрымаў потым ад Толі па пошце, так усё і засталося: сядзіць Міла, сядзіць Ваўчок, а між імі незанятае месца, на якое спяшаецца сесці ён.

Даўгі летні дзень, здаецца, нікому не надакучыў, а таму, калі пачало садзіцца сонца, усе адчулі лёгкі, крыху зажураны, сум: набліжаўся час, калі трэба развітвацца. А развітвацца якраз не хацелася: усе наноў пазнаёміліся, нават падружыліся, сáма разгаварыліся.

— А давайце разам пераначуем тут, у школе, — нечакана прапанаваў Ваўчок. — Сёння, ж, здаецца, Купалле.

Аднак ніхто яго не падтрымаў. Галя Мячыкава нават запярэчыла:

— Не выдумляй, Алік. Да Купалля яшчэ далёка — яно толькі праз тыдзень будзе.

Да таго ж іх чакала ўжо маршрутка, заказаная загадзя, таму далёкія прыезджыя пачалі ўжо збірацца. Апошняй сыходзіла Галя Мячыкава. На развітанне яна, жартуючы, сказала:

— У цябе, Баркавец, ёсць шанц. Не ўпусці яго!

І неўзабаве ў школе яны засталіся толькі ўдваіх — ён і Міла. І зніякавелі — іх адразу ж агарнула, нібыта сціснула з усіх бакаў, невераемна гнят-

лівая цішыня, ад якой аж закладала вушы. Не верылася, што яшчэ некалькі хвілін назад тут было так весела і шумна, тут ігралі і смяяліся, жартавалі і спявалі.

Ён у вёсцы быў свой, мясцовы хлопец, Міла — з Ясенек, з зарэчча. Абаім нікуды не трэба было ехаць, спяшацца, і таму аднакласнікі аддалі ім ключы ад школы, папрасілі:

— Потым усё зачыніце.

Застаўшыся адны, яны стаялі і маўчалі. Цішыня ва ўсёй школе так ціснула на іх, што было боязна гаварыць: здавалася, нават ціха прамоўленае слова выбухне ў ёй, нібы стрэл. І калі абдымкі ды пацалункі пры ўсіх, на вачах аднакласнікаў былі нармальнымі, звычайнымі і ні ў кога не выклікалі здзіўлення і нездаровай цікаўнасці, то цяпер тое ж самае ўжо нават ім самім здалося б нейкім блюзнерствам: цалавацца наадзіноце немаладым ужо людзям, гэта ж...

Яны паспешліва, моўчкі выйшлі са школы, замкнулі ўваходныя дзверы і ключ паклалі ва ўмоўленае месца.

На дварэ ўжо цямнела. Яны пакрысе адыходзілі, збаўляліся ад даўкай цішыні.

— Правядзі мяне, Жэўжык, — папрасіла яго Міла і, нібы дзяўчынка, нібы школьніца, прыгарнулася да яго і ўсміхнулася: — А то я цемры баюся...

На вясковай вуліцы ўжо нікога не было — мусіць, людзі, натомленыя летняю працаю, ужо спалі. Не свяціліся вокны ў хатах, было ціха і на панадворках.

Яны адны, абняўшыся, ішлі па вясковай вуліцы, і іхнія крокі гулка аддаваліся ў цемры. Яны не гаварылі адно аднаму, куды ідуць, але абое ведалі — куды.

Хоць летнія вечары і не такія цёмныя, як восеньскія, аднак яны доўга шукалі ў прырэчных кустах тое, куды імкнуліся. Першай яго заўважыла Міла і ўзрадавана крыкнула:

— Во ён!

Тады масток заўважыў і ён. Хаця таго мастка, на якім яны ўпершыню пацалаваліся, ужо не было. Ляжала ўсяго толькі побач дзве даўно ссечаныя алешыны, якія цяпер тут былі зусім непатрэбныя — рака перасохла і яе можна было перайсці ў любым месцы і без кладачак.

І ўсё ж ён, як тады, узбег на кладачку, падаў руку Міле, і яна, таксама як тады, уляцела ў яго абдымкі. Іх вусны пачалі збліжацца, шукаць рот адно аднаго.

І раптам састарэлая алешына трэснула, і яны, зноў жа, як тады, зваліліся ў раку. Але ж стаяць у рэчышчы без вады і цалавацца было дзіўна і бессэнсоўна, — з вадою, тады, у маладосці, гэта быў нейкі шарм! Яны хуценька выбраліся з рэчышча і зноў, ужо на адной алешыне, паспрабавалі пацалавацца. Але і на гэты раз у іх нічога не атрымалася. Ім замінала нейкая штучнасць, нацягнутасць, а ён хацеў, каб усё было толькі натуральна, — як тады, у маладосці.

Але ж, Баркавец, у тваім жыцці, ды і ў Міліным таксама, усё ўжо адбылося, збылося, і змяніць нешта зараз у ім немагчыма. Усё прайшло так, як прайшло. Усё будзе гэтак, як будзе.

Тады ён спакойна, нават крыху афіцыйна прыгарнуў Мілу да сябе, пацалаваў у шчаку, сказаў:

— Дзякуй табе, Міла, за сённяшні дзень! Ты зрабіла нам свята! Асабліва свята для мяне...

Міла слухала яго моўчкі. Яна таксама крыху адсланілася, вызваляючыся з абдымкаў.

Ён адчуваў, што гаворыць нешта не тое — не тыя словы, не той настрой — і паспрабаваў быць больш ласкавым.

— Ты ж стамілася. Увесь жа дзень спявала. Табе трэба адпачыць, Міла. Ды і родзічы твае, мусіць, зачакаліся, — ён выпусціў яе далонь са сваёй і сышоў на бераг. Азірнуўся — Міла ўсё яшчэ стаяла на кладцы.

Яму хацелася прыгарнуць жанчыну, а ён, ці бачылі вы яго, адпіхнуў яе...

Ён зноў узбег на кладачку і абняў Мілу.

— Што здарылася? — недаўменна спыталася яна.

— Мілачка, я мітушуся, бо закахаўся, як самы апошні дурань. Як хлапчук. І баюся зрабіць нейкае глупства — баюся пакрыўдзіць цябе.

— Баішся пацалаваць мяне? Ты гэта лічыш вялікім глупствам?

— Не, я баюся, што потым пачну развязваць завязачкі на тваім кабаціку.

— А навошта іх развязваць? Яны ж цэлы дзень былі развязаныя. Ды і мы з табою, Баркавец, не ў тым ужо ўзросце, каб...

Ён не даў ёй дагаварыць і як тады, пры ўсіх, моцна прыціснуў да сябе, і яны заціхлі ў доўгім і страсным развітальным пацалунку.

— Ведаеш, Жэўжык, — шэптам, нібы баючыся, што нехта ў гэтых кустах пачуе яе, загаварыла яна, — я, тады малое дзеўчанё, вельмі хацела стаць тваёю жонкаю. Я марыла бачыць цябе штодзень — раніцаю, у абед, увечары, ноччу. Не спала начамі. А засынала — сніла сваю руку ў тваёй. У маіх снах мы з табою касілі сена: ты касіў, а я — сушыла. І яшчэ сніла, што ты носіш мяне на руках, — яна наблізілася вуснамі як не да самага яго вуха, зашаптала яшчэ цішэй: — Ведаеш, я і цяпер гэта часта сню...

Міла доўга маўчала. Маўчаў і ён.

— Аднак, — нарэшце, зноў загаварыла яна і прыклала палец да яго вуснаў, — не будзем, харошы ты мой, палохаць таго хлапчука і тую дзяўчынку, якія яшчэ нічога не ведаючы ні ў жыцці, ні ў каханні, цалаваліся тут. Іх, тых дзетак, даўно няма ўжо — гэта не яны. Не будзем жа абражаць тое іхняе пачуццё. Разумееш, між намі ж — аж пяцьдзесят гадоў муляюць… Ідзі, Косцік.

— А ты?

— І я пайду, — Міла лёгенька дакранулася далонямі да яго грудзей — незразумела, ці то адпіхнула яго, ці то ласкава пагладзіла.

І яны, сышоўшы з кладачкі, пачалі разыходзіцца — у розныя бакі. Ішлі і шчымліва глядзелі, як усё здаляюцца і здаляюцца, як знікаюць у цемры іхнія белыя плямы. Калі б усё гэта бачыў нехта збоку, яму было б не зразумела, чаму тыя плямы замест таго, каб найхутчэй сустрэцца, паволі, вельмі паволі адыходзяцца адна ад адной.

Ён не спяшаўся ў сваю вёску. Ішоў марудна, нага за нагу. Хацеў сабраць у адно ўвесь учарашні дзень, аднак у яго гэта не атрымлівалася: вельмі ж шмат усяго ўмясціў ён у сабе.

Калі ён ўжо ўзышоў на сваю гару, пачало світаць. Баркавец спыніўся, павярнуўся ў той бок, дзе павінна ўзысці сонца, і чамусьці нецярпліва пачаў чакаць яго ўзыходу.

І нарэшце, пстрыкнуўшы з-за небакраю, першы промень кальнуў яму ў вочы.

І ў той жа час з-за кустоў пачуўся ўсхваляваны голас:

— Добрай раніцы, Жэўжык!

І ён, як усё роўна чакаў гэтага голасу, радасна крыкнуў:

— Добрай раніцы, Мілачка!

Збег з гары і хуценька кінуўся зноў да кладачкі.

Але там ужо нікога не было.

Ён толькі збянтэжана ўсміхнуўся: чаго ты мітусішся, чалавеча? Ты хоць ведаеш, колькі табе гадоў?

І ўсё ж потым, пасля сустрэчы, калі ён пазваніў у гарадок, дзе жыла Міла, Баркавец замест прывітання зноў жа заспяваў:

— Ой, сівы конь бяжыць.

І яна адразу ж падхапіла:

— На ім бела грыва.

## *Ы,ы,ы*

Яе кінуў муж.

Ён развёўся з жонкаю.

І яны сустрэліся.

Яна ішла да яго, не — яна бегла да яго, не — яна ляцела да яго — уся ў сонцы, уся пушыстая ад промняў, — і ён нават бачыў за яе спінаю лёгкія, празрыстыя, амаль невідомыя і невагомыя крылы — яны былі нябачныя, але ён бачыў іх і дзівіўся, як яны трымцяць, купаюцца, пялёскаюцца, нібы тыя вераб'і, у сонечным святле.

Пакуль яна бегла, ён, як зачараваны, не зводзіў з яе вачэй, любаваўся ёю.

Спакуслівая постаць манекеншчыцы. Кароценькая, у абліпку, паркалёвая сукеначка, з-пад якой відаць як не ўсе яе ногі — загарэлыя, пругкія, вабныя. Грудзі, туга абцягнутыя сукенкаю. Яны — як навонку, на іх быццам нічога і няма. Толькі ўзбуджаныя вінаградзінкі нецярпліва напінаюць тканіну, і ад гэтага дотыку набухаюць яшчэ болей: яны дыхаюць разам з ёю, і ім нецярплівіцца гэтак жа, як і ёй. Гнуткае, тугое цела. Засмяглыя, пульхныя вусны — на іх чамусьці мітусіцца сонечны зайчык. Як прыліп усё роўна і зараз трымціць, адрываючыся. І пасмачка — завіток валасоў, што зманліва спадае на левае вока. На ім таксама вісіць, як гайдаецца, промнік.

Яна, не прыцішваючы свой бег, не спыняючыся, на ўсім ходу наскочыла на яго — ён нават пачуў, а то і ўбачыў, як пад ногі ім асыпаюцца, атрасаюцца з яе сонечныя яскаўкі — і тыя, што віселі, і тыя, што мітусіліся, і тыя, што, нібыта ў дыядэме, ззялі толькі што ў валасах...

Ён накінуўся на яе, як звер. І яна абхапіла яго ўсім, чым можна было абхапіць: рукамі, нагамі, вуснамі. І гэтых рук, і гэтых вуснаў ёй усё роўна не хапала, было ўсё мала, мала, мала...

І яны паваліліся ў траву.

Пад імі — прымятыя кветкі. Яе спінаю прымятыя. Над імі — агромністае неба, якое ён трымае сваёю спінаю. І ў ім, у небе, высока-высока, без гуку, ляціць самалёт. Ён не бачыць яго. А яна — бачыць. Ды і яна, здаецца, нічога не бачыць таксама.

Яна закусіла травінку. Мне яе ў роце. Яму ў лоб упёрся рамонак. Спружыніць. Усе жучкі, чарвячкі, казяўкі, якія поўзалі па іх і каля іх, цяпер былі з імі, былі іхнія. Усе мятлушкі і стракозы, што ляталі над імі, — былі таксама іхнія.

Ён любіў цяпер усё, што поўзала побач і лятала над імі.

Радасць паланіла іх, пяшчота і жаданне напоўнілі іхнія целы. І асабліва душы. Думалася, што так будзе вечна, заўсёды і хацелася, каб такое ніколі не канчалася. Яны знайшлі адно аднаго, і ім цяпер ужо болей нікога і нічога не трэба. Абняліся душы і ўжо не выпускаюць адна адну з абдымкаў. Абняліся вочы і ўжо не адводзяць адно ад аднаго прагнага позірку.

Нават пасля жарсці ён усё роўна хацеў яе зноў. І яна зноў знаходзіла яго вусны.

Ім было хораша. Яны забыліся на ўсіх, хто раней быў з імі побач. Цяпер яны былі першыя і былі адны.

І яны не памяталі нічога, што было ў іх да гэтага.

Потым яны сцішыліся, супакоіліся. Ляжалі і слухалі як усё яшчэ асыпаюцца ў траву патрывожаныя імі пушыстыя сонечныя промні.

Над імі кружыўся бухматы чмель. Ён чамусьці гуў, як самалёт...

Дзяніс расплюшчыў вочы. Доўга, вяртаючыся да сябе, глядзеў у высокае, блакітнае неба, па якім, вышэй рэдкіх воблакаў, і сапраўды павольна ляцеў, нібыта плыў, самалёт. Ён гудзеў так, як толькі што саснёны чмель.

— То ж трэба гэтак заснуць, — здзівіўся нават сам. — І такое сасніць...

Мужчына чакаў жанчыну і, прыбіраючыся на дачы, крыху прытаміўся, прылёг пад яблыню, каб адпачыць, і нечакана моцна заснуў.

Цяпер, павалі вяртаючыся ў яву, — сон усё яшчэ не адпускаў яго, — ён успамінаў сёе-тое з таго, што сасніў. І раптам, зірнуўшы на гадзіннік, спахапіўся:

— Што ж гэта я раблю! Электрычка, пэўна, прагрукатала ўжо, а Марысі ўсё яшчэ няма. Мусіць, не ведае, у які бок падацца.

Ускочыў на ногі, абтросся і шпарка пашыбаваў праз калядачны лес на прыпынак.

Перад гэтым яны дамовіліся, што Марыся прыедзе да яго на дачу, на якой ён, пасля разводу з жонкай, аддаўшы гарадскую кватэру ёй з дачкою, жыў цяпер адзін.

І вось яна чамусьці затрымліваецца... Можа, перадумала? Можа, зусім не прыедзе?

А пазнаёміліся яны неяк вельмі проста, прымітыўна і нават банальна. Дзяніс выпадкова — яго таўханулі — у тралейбусе стаў на нагу — яна аж ускрыкнула, — а потым доўга вінаваціўся, апраўдваўся, прасіў прабачэння. І Марысі гэта спадабалася.

Ён, праехаўшы тады свой прыпынак, дапамог жанчыне выйсці на ейным. Яна, трымаючыся за яго, вельмі кульгала, а таму Дзяніс давёў яе і да самага дома.

З гэтага часу і пачаліся іхнія сустрэчы. Нага неўзабаве перастала балець, а цікавасць адно да аднаго ў іх абаіх засталася...

Дык чаму ж яна позніцца? Няўжо і праўда не прыедзе зусім?

Дзяніс прыспешыў крок, і амаль у той жа час наперадзе пачуўся гоман — людзі гаварылі, жартавалі, смяяліся.

Яна ішла з натоўпам. З дачнікамі, якія прыехалі гэтаю электрычкаю і спяшаліся на свае агароды. Ішла пасярод іх.

Яны выйшлі на лясную палянку — дарога якраз вывела на яе. Усіх іх асвятліла сонца. Але дзіва — усе, і асветленыя, заставаліся звычайнымі людзьмі, а вакол яе зноў, як і ў сне, клубілася сонца, яна была ўся пушыстая ад святла і каля яе звінелі, нібы пчолы, промні — ён і зводдаль наяву чуў гэты звон.

Марыся была вабная і жаданая, як і ў сне, і Дзяніс, спадзеючыся, што яна кінецца да яго ў абдымкі, раскрыліўшы рукі, пабег ёй насустрач.

Яна ж сумелася і крыху адстала ад натоўпу — каб людзі не бачылі, якою неўтаймоўнаю будзе іхняя сустрэча.

Аднак дачнікі, наадварот, спыніліся, павярнуліся ў іхні бок, стаялі і ва ўсе вочы здзіўлена глядзелі, як ён нецярпліва сціскае ў абдымках жанчыну, якая, непрыкметная, толькі што ішла поплеч з імі...

Калі дачнікі зноў пайшлі наперад і неўзабаве схаваліся за паваротам, Дзяніс нанова згроб Марысю ў абдымкі — ніхто ж ужо не глядзіць на іх! — але яна і на гэты раз, хоць і нерашуча, ды адхінулася ад яго.

А ён, усё яшчэ думаючы, што і яна нейкім чынам ведае, што між імі нядаўна адбылося, настойліва хацеў паяднаць сон з яваю, жадаў, каб усё было гэтак жа, як і ў сне, аднак ужо і сам пачынаў разумець: сны звычайна на яве не паўтараюцца.

Хоць, здаецца, усё было гэтак жа, як і ў сне: яна стрункая, вабная, уся пушыстая ад промняў. Са спакуслівымі вуснамі. З блакітнымі вачамі. Гэткі ж самы завіток звісае на левае вока.

Аднак замест кароценькай сукеначкі на ёй былі чырвоненькая кофтачка і чорная спаднічка. «Чырвонае і чорнае, — падумаў ён, — гэта ж колеры агню, кахання і смутку. Такое спалучэнне атрымалася выпадкова, ці так яна апранулася знарок?»

Яны ўжо выйшлі з лесу. Пад ногі ім паслаўся зялёны, увесь у красках, лужок з маладымі бярозкамі, лісце якіх пахла прыемна і цкліва.

Дзяніс расцёр у далонях маладое, клейкае лісце, удыхнуў гэты водар сам, даў панюхаць і Марысі.

— Ой, у мяне закружылася галава, — сказала яна і зрабіла выгляд, што падае.

Ён не рабіў ніякага выгляду, а толькі шчыра, з прыемнасцю падтрымаў яе. І ласкава, далікатна прыгарнуў да сябе.

Яму ўсё ж хацелася, каб тое, што ён сасніў, паўтарылася вось зараз, вось тут. Каб яна была такой жа ласкаваю і неспатольнаю, як і ў сне. Каб яна жадала яго.

Яму здавалася, што яны вось зараз паваляцца ў нятоптаную траву, і трава прыме іх, і ўсё будзе гэтак, як тады, у сне.

Аднак Марыся рашуча адпіхнула яго ад сябе — бачыў, што гэта яна робіць не дзеля прыліку, а ёй і напраўду не падабаецца яго паспешнасць і настойлівасць.

Нечакана, без гуку, апярэдзіўшы гук, бомкнуўся ў яе твар, у самыя вусны нейкі, як быццам бы чымсьці ўпуджаны чмель. Марыся страсянула галавою, дастала з сумачкі насоўку і пачала старанна выціраць ёю рот.

— Ты не ўмееш, давай я, — пажартаваў Дзяніс, далікатна правёў пальцамі па яе вуснах, а затым прыгарнуў Марыську да сябе і ўсяго толькі даткнуўся да іх сваімі губамі і заціх. Марысьцы гэта спадабалася, і яна адгукнулася на такі пацалунак.

Астатнюю дарогу да Дзянісавага дамка яны ўжо ішлі ў абдымку, цалуючыся — проста раз-пораз спыняліся і прыліпалі вуснамі да вуснаў.

Спачатку нешта яму замінала, нешта было не так, нешта муляла. Паспешліва шукаў прычыну і не знаходзіў. Потым успомніў: менавіта гэтага боку заўсёды трымалася яго ранейшая жонка, калі яны разам ішлі на дачу і таксама цалаваліся.

Марыся як усё роўна адчула гэтую няёмкасць, лёгка, нібы танцуючы, перайшла на другі бок, і ён супакоіўся: тое што было злева, засталося злева, а тое, што будзе справа, — з’явілася справа.

Як толькі яны ўвайшлі на падворак, яна, яшчэ не зачыніўшы за сабою веснічкі, спынілася і здзіўлена ўгледзелася ў яго грады. Глядзела доўга і маўчала.

— Ну і зарос жа ты, Дзяніска, — нарэшце прамовіла Марыся, усміхнулася, кінула сумачку на лаўку пры дарожцы і пайшла да першай утравелай грады.

Ён паспрабаваў яе адгаварыць:

— Не трэба, мы заўтра з табою разам усё праполем...

Аднак Марыся не паслухалася — сагнулася і пачала вырываць траву. У сваёй святочнай ярка-чырвонай кофце ля зялёнай грады яна выглядала вельмі прывабна.

Працавала шчыра, нават захоплена, а ён падсвядома, нечакана для сябе параўноўваў яе з жонкаю — у Ірыны, здаецца, гэта лепш і хутчэй атрымлівалася. А Марыся робіць усё не так — і пустазелле кідае не туды, і валасы з вачэй адкідвае па-іншаму.

Цяпер ужо ён міжволі ўсё, што яна ні рабіла, параўноўваў з жончынымі звычкамі.

Калі, нарэшце, адарваўшы яе ад працы, Дзяніс паліваў ёй на рукі, яго зноў жа бянтэжыла: Марыся не так падстаўляла пад ваду далоні, не так змывала з іх мыла, не так выціралася.

Цяпер ужо, калі збіралі на стол, Марыся сама шукала ягоныя рукі і губы.

І раптам у адно імгненне яна сумелася, сцішылася, прыцьмела, зажурылася. Ён, не разумеючы, што здарылася, пачаў азірацца. І на шкляным часопісным століку ўбачыў жончын здымак у рамачцы — увесь час хацеў прыбраць яго з вачэй, аднак усё неяк не даходзілі рукі.

Прыкінуўшыся, што яму там трэба штосьці пашукаць, Дзяніс падышоў да століка, спачатку перавярнуў рамку фотаздымкам да шкла, а затым усё ж узяў яе ў руку, схаваў, як дзіця, за спіну, і робячы выгляд, што цяпер яму трэба штосьці знайсці ўжо на верандзе, вынес здымак туды і засунуў яго за кнігі.

Марыся наразала каўбаску і, здаецца, нічога не заўважыла.

Яны павячэралі. Нават выпілі крыху чырвонага віна. Марыся збіралася начаваць, таму яны расклалі канапу. Удваіх. Удваіх жа і слаліся. Яна саромелася, няёмілася, апускала вочы долу, аднак памагала слацца. Яны асцярожна бралі прасціну з двух бакоў за ражкі і паволі апускалі яе на раскладзеную канапу. Прасціна напіналася пасярэдзіне, і яны, трымаючы яе за лямоўкі, чакалі, калі посцілка сама ападзе, пакуль з-пад яе не выйдзе ўсё паветра. Потым Марыся абедзвюма далонямі разгладзіла складкі — і нават, калі ўжо не заставалася ніводнай з іх, яна ўсёроўна, як заведзеная, вадзіла і вадзіла па ёй рукамі.

Ён кінуў на канапу падушку — яна адзіная толькі і была ў яго на дачы. Марыся ўзяла яе, зноў жа разгладзіла, падбіла, падчапурыла і паклала пасярод — у галовы абаім.

Яны пачалі распранацца. А, прынамсі, — ён адзін і распранаўся сам, і распранаў яе.

Як апынуліся ў пасцелі, ні ён, ні яна ўжо не памяталі.

Дзяніс адчуў яе цела. Яно гарнулася, прыціскалася да ягонага, гатовае даастатку ўціснуцца, уплішчыцца ў яго, з’яднацца з ім.

Вусны самі сабою нецярпліва знайшлі сябе, і яны задыхнуліся ў тым пацалунку, які ўжо ні спыніць, ні перарваць, ні стрымаць немагчыма.

Гэта быў першы іх сапраўдны пацалунак, бо ўсе тыя, што здараліся перад гэтым, пацалункамі называць не хацелася б.

У ім было ўсё сапраўднае, несаснёнае.

І раптам яна ўсхапілася, адпіхнула Дзяніса ад сябе. Ён, нічога не разумеючы, здзіўлена паглядзеў на яе:

— Што здарылася?

— Яна ўсё яшчэ тут, — непрыемна сцепанулася Марыся.

— Хто — яна? — спытаўся Дзяніс.

— Твая жонка. Я вельмі выразна пачула яе парфум. Ён як усё роўна ўдарыў мяне. Гэта духі «Пур фам». Яна любіць іх?

Ён прынюхаўся да падушкі — ніякімі духамі яна не пахла, але, як ні дзіўна, менавіта гэтым «Пур фамам» Ірына і праўда часцей за ўсё карысталася.

Марыся ўжо злезла з канапы. А потым зноў прысела на край яе. Накінула на плечы сваю чырвоную кофтачку. Ціха, нібыта вінячыся, сказала:

— Мне трэба ісці, Дзяніска...

Ён, лежачы, узяў Марысю за руку, ласкава пагладзіў яе даланёю, паспрабаваў прыхінуць да сябе.

— Не трэба, Дзяніс. Я пайду.

Яна вызваліла сваю руку з ягонай, паднялася і пачала апранацца. Ён хацеў затрымаць яе:

— Куды ты? Ужо позна.

— На апошнюю электрычку яшчэ паспею. Разумееш, я не ўмею так. Яна ж усё яшчэ тут, з табою. У кожным куточку — яна, яна, яна... Ты думаеш, я не заўважыла, як ты за спінаю выносіў на веранду яе фотаздымак? Заўважыла, але змоўчала. Ты ўвесь час бачыш не мяне, а яе. Не мяне на яе месцы, а яе — на маім. Я не хачу быць трэцяй.

І Дзяніс чамусьці на гэты раз не стаў ёй пярэчыць, утрымліваць яе.

— Добра, я правяду цябе.

— Не трэба. Яшчэ ж відна — не заблуджуся.

Аднак ён цвёрда запярэчыў:

— Я правяду цябе.

Пачалі шукаць сумачку, доўга не знаходзілі, а потым неяк разам успомнілі, што яна засталася на лавачцы каля градаў...

Да самай станцыі ішлі моўчкі. Ішлі побач, а здавалася, ідуць паасобку. Толькі на станцыі, калі ўжо набліжалася электрычка, яна загаварыла:

— Даруй мне, Дзяніс, што так атрымалася. У мяне ж дзеці... Яны адны ў горадзе засталіся...

— О, я хачу паглядзець на тваіх дзяцей.

— То прыязджай.

— Калі?

— Калі захочаш, — і ўзялася за поручань, паднялася на прыступку, каб заходзіць у вагон. Ужо з тамбура крыкнула: — Адрас мой у цябе ж ёсць!

Поезд пайшоў, а ён яшчэ доўга стаяў адзін на прыпынку.

У свой дамок Дзяніс вярнуўся ўжо цёмначы. Смутак яго ў цемры зрабіўся яшчэ большы, і ён, каб зменшыць яго, усюды запаліў святло.

Ён адчуваў, што гэтая жанчына насуперак усяму ўсё больш і больш уваходзіць у яго душу.

Вядома, яна не пісаная прыгажуня. А што такое прыгажосць? Ёсць жа прыгажосць твару і прыгажосць душы. Ці заўсёды паядноўваюцца яны? Ды і ўвогуле, як кажуць, уся прыгажосць жанчыны — у вачах таго, хто яе кахае. І толькі!

Вядома, няма ў ёй нічога яркага, незямнога. Звычайная бландзінка. Носік мог быць крыху больш элегантным. Ды і вочы ў яе звычайныя, шэрыя — як пад небам дык блакітныя, а ў хаце — шэрыя. Але ж у ёй ёсць нешта такое, што цягне да сябе як магнітам. Нейкая шчырасць несусветная. І ад гэтага — даверлівасць. Здаецца, што яна з тых, хто не ўмее, ды і не можа падманваць.

Чаму яна пайшла?!

«Калекай сяджу я, самотны, у пустыні смутку свайго, — успомніў ён калісьці даўно прачытаныя словы. — Дзе ты, мая пярліна? Ці адчуваеш ты, як мне адзінока? Я плачу, сумячыся, без цябе. Акіян слёз ля мяне. Я тану ў ім, жаданая!»

І тут жа разрагатаўся. І сам спалохаўся свайго рогату: гэта ж каб хто пабачыў яго, такога, з вуліцы, падумаў бы, што звар'яцеў чалавек: сядзіць у хаце адзін і рагоча.

«Сяджу, самотны, у пустыні смутку свайго»... Пра што ты, хлопча, гаворыш?! Які смутак?! «Акіян слёз я наплакаў»... Які акіян, якіх слёз?! Ды глуп-

ства ўсё гэта! Ты ж ведаеш яе тэлефон, адрас. Пазвані, зайдзі! Вось і ўвесь твой акіян слёз!

І ён назаўтра паехаў да яе. Яна не здзівілася — адчыніла, прыняла гэты прыезд як штосьці належнае.

Кватэрка была цесненькая, але ўтульная. З трох невялічкіх пакойчыкаў.

У адным з іх гуляліся дзеці — дзяўчынка гадоў дзесяці і хлопчык, зусім яшчэ малы карапуз.

Марыся прыбіралася на кухні.

У хаце было накурана.

— Ты што, курыш? — спытаўся ён.

— Неа, — з кухні, не выходзячы, адказала яму Марыся.

— Дык жа надымлена.

— Гэта бацька прыходзіў да сваіх дзяцей.

Дзяніс зірнуў у куток, дзе былі дзеці, — яны, хлопчык і дзяўчынка, гулялі з маленькаю машынкаю, якую ім, мусіць, толькі што прынёс бацька.

Ён пайшоў на кухню. Стаў у дзвярах. Моўчкі стаяў і назіраў, як яна дамывала посуд, падмятала падлогу.

Ён глядзеў на яе вельмі пільна, уважліва, і яна, было бачна, саромеецца яго позірку: Марыся апранута ў лёгенькі, адкрыты сарафанчык і яе рукі, плечы і грудзі амаль што голыя.

— То ж толькі дзеці паелі. Пайду зірну, што яны там робяць. Міколку спаць пара, вочы ўжо даўно зліпаюцца, а яны, бач, загуляліся. Скажу, каб Алеся закалыхала яго, — сказала яна і апусціла долу вочы.

Выйшаўшы з дзіцячага пакойчыка, Марыся спыталася:

— Есці хочаш?

Ён адмоўна пакруціў галавою.

— А чаю?

— Таксама не хачу.

Яна села на канапу і вачыма паказала яму:

— Сядай.

Дзяніс сеў. І адразу ж у вочы кінулася спальня, якая была насупраць канапы. Дзверы былі расчынены, і ён убачыў ужо разасланую пасцель — пышныя коўдры, беласнежныя прасціны, пухкія падушкі. І ўсё белае, белае, белае...

Ён адразу ж устаў і пайшоў у спальню. І той жа час у нос яму ўдарыў яшчэ больш рэзкі пах танных цыгарэт — здаецца, «Астра».

— Што, ён і ў спальні курыў? — спытаўся Дзяніс.

— Ага, — з-за спіны яго адказала Марыся.

— І ў ложку таксама?

— Ага, і ў ложку. Адвернецца і курыць.

— І сёння ён быў тут?

— Дзяніска, я ўжо казала табе, што мой былы муж ходзіць да сваіх дзяцей. Пасля таго, як развяліся, ні ён да мяне, ні я да яго ніякіх дачыненняў не маем. Нас — адно для аднаго, — як не існуе. Чуеш, не існуе...

І яна хорашанька, ласкава прыгарнулася да яго, прыціснулася шчакою да ягонай шчакі.

Доўга яны стаялі вось гэтак, абняўшыся. З дзіцячага пакоя даносілася ласкавая песенька:

Ходзіць сон ля вакон,
А дрымота — ля балота...

Гэта Алеська ўкладвала Міколку спаць і спявала калыханку. Ён заслухаўся, глыбока задумаўся. Калі адплюшчыў вочы, убачыў, што стаіць з адной яе сукеначкай у руках — калі і як яна выслізнула з адзення, Дзяніс не заўважыў.

Марыся ляжала ўжо ў ложку. З-пад бялюткай коўдры выглядвала толькі адна галава яе. Яна адсунулася да сцяны, сказала:

— Кладзіся.

Яму ж распранацца чамусьці не захацелася. Ён адгарнуў коўдру і сеў з краёчку на вельмі накрухмаленую прасціну — тая, здаецца, аж зарыпела пад ім.

І дзіўна, нават ад гэткіх чысцюткіх прасцін і коўдраў яму раптам вельмі запахла ўжо мужчынскім потам.

Тая сітуацыя, якая была ўчора на ягонай дачы, амаль паўтаралася. Ён сядзеў, яна ляжала. Ён маўчаў, маўчала і яна. Маўчалі і думалі.

Гэты мужчынскі пах раздражняў яго, выклікаў нейкія непрыемныя, нават непрыстойныя малюнкі, якія маглі быць у гэтых бялюткіх, накрухмаленых посцілках.

— Так чыста, а мне вельмі выразна, рэзка пахне мужчынам.

— Не выдумляй. Я паслала пасцель толькі што, — сказала яна і ціха, амаль аднымі вуснамі, дадала: — Адчувала, што сёння ўбачу цябе.

— Даруй мне, Марыся, але я пайду.

Марыся прыўзнялася, абапёрлася на локаць, сказала:

— Ну што ж — ідзі. Я не затрымліваю цябе, — яна крыху памаўчала: — Але ведай, я ўсё жыццё буду зайздросціць той жанчыне, якую палюбіш ты. І той, якая палюбіць цябе.

Ён нічога ёй на гэта не адказаў. Дзяніс устаў, паправіў коўдру, зрабіў так, як ляжала яна раней, і не спяшаючыся, нібыта яшчэ над чымсьці раздумваючы, пайшоў да вешалкі.

Апрануў плашч, узяў у руку кепку і вярнуўся ў вітальню — каб адсюль гукнуць Марысі на развітанне «бывай!»

І раптам дзверы дзіцячага пакойчыка расчыніліся, з іх выбег маленькі Міколка — ён так і не заснуў! — і радасны, з усмешкаю на ўвесь тварык, неяк цікава — тапу-тапу, тапу-тапу! — пабег у яго бок. Ён паказваў на Дзяніса пальчыкам і не спыняючыся лепятаў:

— Тата, тата, тата...

Малы ўзяў Дзяніса за палец, а сваім пачаў паказваць у калідор:

— Ы, ы, ы.

Дзяніс падпарадкаваўся карапузу і пайшоў з ім туды, куды вёў малеча. Той падвёў яго да вешалкі і зноў настойліва тым жа пальчыкам, пачаў паказваць на яе і ўпарта паўтараў сваё:

— Ы, ы, ы.

— Ён патрабуе, каб ты распрануўся і зноў павесіў плашч на вешалку, — усміхнулася яму з-за дзвярэй Марыся.

Дзяніс не ўбачыў гэтай усмешкі, але паслухаўся малога: зноў распрануўся, павесіў плашч на вешалку і паклаў кепку на палічку, што над ёю.

## *На выставе*

Ён даўно збіраўся схадзіць на гэтую выставу, але ўсё неяк не ставала часу. А рабіць тое спехам, далучаючыся да нейкай кампаніі ці экскурсіі, яму не хацелася. Жадаў усё пабачыць на адзіноце, спакойна разгледзець, каб атрымаць насалоду аднаму, а не ў натоўпе, калі вакол цябе шумны рой, так бы мовіць, прыхільнікаў мастацтва, у якім людзі ажыўлена ўсё абмяркоўваюць, нешта жуюць і смачна, юрліва рагочуць.

Выстава гэтая называлася адным словам: «Харашыня», і ўся яна была прысвечана прыгажосці чалавечага цела.

Звычайна на такія выставы збіраецца шмат людзей, яны стаяць і за табою, і перад табою, і з бакоў, і ўсе — літаральна ўсе! — глядзяць туды ж, куды і ты! Столькі вачэй адразу касавурацца, разглядаюць, упіваюцца ў такое вабнае і такое безабароннае, да прыкладу, жаночае цела, а яно нідзе не можа схавацца ці нават хоць крыху прыкрыцца чым ад іхняй цікаўнасці.

Шчыра кажучы, на выставах ён саромеўся падоўгу разглядаць аголеныя фігуры, паставы, позы. І нават усяго толькі стаяць перад імі было яму няёмка. Стараўся не затрымліваць сваёй увагі на павабных грудзях ды на такіх жа прыгожых пагорках ніжэй таліі, заўсёды спяшаўся слізгануць па голых клубах і тут жа, паказваючы ўсім, што абыякавы да ўсяго гэтага, рашуча адводзіў вочы.

Адным словам на выставу ён сабраўся адзін. Выбраўся зранку — раніцою на такія мастацкія паказы звычайна ходзіць малавата людзей.

Быў выхадны дзень, і таму на вуліцу ніхто не спяшаўся пакуль што выходзіць.

Толькі паперадзе яго паволі, як задумаўшыся, ішла адна з густам апранутая жанчына — уся ў найлепшых формах! — і яе, крэпенькую і мякенькую, аднак з шыкоўнаю таліяй, нельга было не заўважыць нават у натоўпе, не тое, што на бязлюднай вуліцы.

Яна ішла не спяшаючыся. Ён таксама не спяшаўся, але неўзабаве амаль дагнаў яе. А яму якраз ну зусім не хацелася нікога бачыць перад сабою. Жанчына ж, спакойная, і, здаецца, абыякавая да ўсяго, муляла ягоным вачам!

Ён хацеў абмінуць яе, апярэдзіць, аднак яна таксама паскорыла крок, і адлегласць паміж імі зрабілася яшчэ большаю. Гэта яму зусім не спадабалася, але рабіць новую спробу, каб перагнаць жанчыну, ён не стаў. Чакаў да павароту — яму трэба было паварочваць на другую вуліцу, і ён думаў, што жанчына пройдзе прама, ён — паверне, і такім чынам яны размінуцца, але яна звярнула якраз на тую ж вуліцу, куды павінен быў зварочваць і ён.

Быў яшчэ адзін паварот, паўз які яна магла прайсці, аднак не прайшла, звярнула і на яго.

Тут ужо, здаецца, яго цярпенне скончылася, а раздражненне аж перапаўняла мужчыну. А самай мяжы яно дасягнула тады, калі жанчына, дайшоўшы да музея, узышла на ганак, адчыніла дзверы і зайшла ў фае. Праўда, у яго яшчэ заставалася надзея, што яна — супрацоўніца музея, аднак пасля таго, як жанчына купіла білет, у яго ўжо не было ніякага сумнення, што яна прыйшла паглядзець тую ж самую выставу, што і ён!

Калі мужчына зразумеў, што не ўдасца астацца тут аднаму, ён хацеў адразу ж павярнуцца і пайсці прэч з музея. Аднак, крыху астыўшы, пачаў пераконваць сябе, што яны ніколі не сустрэнуцца каля адной і той жа карціны: калі яна будзе ў пачатку залы — ён пойдзе ў яе канец, а калі ў канцы — пачне свой агляд з пачатку.

Ён ужо ненавідзеў яе! Не, можа, «ненавідзеў» — не тое слова, але што вельмі злаваўся на раннюю наведвальніцу музея — гэта сапраўды так.

Жанчына, не паварочваючы галавы, аднак адчуваючы, што за ёю па ўсходцах вось зараз узбяжыць і ён, спяшаючыся, пайшла наперад, да пачатку агляду.

Мужчына не ўзбег, а спакойна падняўся наверх і, робячы выгляд, што аглядае ўсю выставу адразу, незаўважна спрабаваў убачыць, з чаго пачала свой агляд жанчына.

Жанчыне гэта, ён бачыў, не спадабалася, яна нават перасмыкнула плячамі, але выказваць яму сваё незадавальненне не стала.

Жанчына ўважліва разглядала шэдэўр вялікага немца Альбрэхта Дзюрэра «Адам і Ева». Тую жывапісную работу, на якой і жаночае, і мужчынскае целы выпісаны бездакорна і з вялікай павагаю. Нават таго першароднага граху, які

неўзабаве яны здзейсняць, няма і памінам: наіўныя твары, спакойныя целы, хоць яны ўжо, здаецца, і асветлены — асабліва яе — жаданнем і пачуццём. Спакойная рука Евы, што трымае яблык, які апускае ў яе змей, спакойныя галінкі і лісточкі, што прыкрываюць ім абаім сорам, які пакуль яшчэ і не сорам, — зірніце, як далікатна трымае ў пальцах галінку з яблыкам Адам, і як голька з дрэва спяшаецца хутчэй засланіць улонне Евы.

Незнаёмка зноў перасмыкнула плячамі, і ён, каб не злаваць яе яшчэ болей, таропка пайшоў у самы канец экспазіцыі.

Дзюрэрам ён зацікавіўся яшчэ ў студэнцкія гады. І не жывапісцам, а графікам. У графіцы мастак быў жорсткі: «Прыбіванне да крыжа», «Клеймаванне праведных», «Меланхолія». І яшчэ яму тады здавалася, што мастак несправядлівы да жанчын у сваёй гравюры на медзі «Чатыры ведзьмы»: нейкія камкаватыя целы, нейкая грэблівасць да іх. Ага, зразумела, яны ведзьмы, аднак гэта ж яшчэ і жанчыны... Ды ён несправядлівы часам быў і да самога сябе: хіба можна так бязлітасна адносіцца да свайго павялага ўжо цела, як гэта Дзюрэр зрабіў у «Аўтапартрэце аголеным»?

Ёсць у мастака, ён помніў, яшчэ адзін твор «Адам і Ева» — гравюра на медзі. Гэта ўжо не целы, а адны мускулы. У іх няма наіўнасці і спакою, у іх ёсць рашучасць, жарсць і нават нахабства: гэтыя Адам і Ева ўжо ўсё ведаюць, ужо дамагаюцца таго, што павінна адбыцца. Нават лісткі, якімі прыкрытыя іх далікатныя мясціны, здаецца, трымцяць…

Ён азірнуўся — незнаёмка ўсё яшчэ стаяла каля «Адама і Евы». На хвілінку спыніўся, пашукаў вачыма ў тым баку Дзюрэраву графіку, але не знайшоў яе і таму ўзрадаваўся: яна б тут толькі замінала.

Зноў убачыўшы, як жанчына незадаволена перахапіла ягоны погляд і грэбліва адвярнулася, ён жвавей пабег да заканчэння выставы.

Выстава гэтая была арыгінальная. То ж, урэшце, не выстава саміх шэдэўраў — паспрабуй іх збяры ўсе разам! — а ўсяго толькі фотарэпрадукцыі самых вядомых твораў. Аднак здымкі мелі такую высокую якасць, такую глыбіню і аб’ёмнасць, што ўзнікала часам ілюзія, быццам у музеі на сценах вісяць не ілюстрацыі, а сапраўдныя карціны.

Цяпер ужо ён зразумеў, што той план, які склаў яшчэ дома, мяркуючы спакойна, уважліва, не спяшаючыся і нікога не баючыся, разглядзець усю выставу па парадку ад пачатку і да канца, не бегаючы і не перабягаючы ад адной карціны да другой, ужо рушыцца, і яму не ўдасца ажыццявіць сваю задуму.

Таму, калі па дарозе заўважыў нейкую нечаканую ружовую пляму на сцяне, ён адразу ж падышоў да яе.

На здымку быў невялікі кавалак ружовага мармуру.

Здавалася, проста нейкі адломак — неапрацаваны нікім, дзікі. І з гэтай пароды спакойна, сарамліва, паволі, але ўпэўнена, выходзіла, выбіралася навонкі пышнацелая жанчына. У ёй — адкрытая эратычнасць, яўная пажадлівасць. І цнатлівасць у той жа час: зірніце, — як усё роўна расказваючы камусьці пра тое, што бачыць і адчувае сам, паказваў ён, — зірніце, як закручаны яе ногі, як схілена галава, як пакладзены рукі? Ды ў іх жа ўся сарамлівасць чалавечая! Ева! Вядома ж такою пышнацелаю і павінна быць яна, прамаці ўсіх нас, людзей.

Еву малявалі сотні мастакоў, а вось такою, дзетароднаю, убачыў толькі ці не ён адзін.

Яму нават не спатрэбілася шукаць у подпісах імя скульптара. Ён ведаў яго: гэта быў Эрзя! Таленавіты мардовец з племя эрзя, славуты скульптар-селянін. І яшчэ ён ведаў і помніў, што ў Эрзі ёсць шмат іншых шэдэўраў — да прыкладу, галава іспанкі. Зноў жа кавалак пароды, з якога змаглі выбрацца

толькі яе твар ды рука на каменных валасах. Затое, як яны выпешчаны і даведзены да дасканаласці! І гэты твар, і гэтыя рукі. Яны — жывыя. Яшчэ крышку і, здаецца, пачнуць рухацца, варушыцца.

Мастак тонка адчуваў мармур — спрадвечны матэрыял скульптараў. Той слухаўся яго і падпарадкоўваўся яму. Ён струменіў, пеніўся, цёк, рабіўся пяшчотным і нават забываўся, што ён усяго толькі камень...

Яна ўсё яшчэ стаяла каля «Адама і Евы». Але не разглядала карціну, а, крыху адышоўшыся ад яе, пільна глядзела ў ягоны бок. Пад гэтым яе позіркам ён няспешна ішоў у самы канец выставы.

Яго вочы адразу ж выхапілі поўныя жаночыя грудзі, — нібы натыкнуліся на іх.

Арыгінал, з якога зроблена рэпрадукцыя, быў папсаваны, з яго прагляdaліся нейкія палосы, шрамы, падцёкі, якія ніхто не ўзяўся выпраўляць ды загладжваць — усё пакінута такім, якім яно і захавалася. На фрэсцы — ён, яна і прыгожыя жаночыя грудзі. Адну грудачку сціскае рукою ён. Сціскае пяшчотна, аднак у гэтым поціску ўжо нараджаецца сіла і страсць. І рашучасць таксама. Мусіць, гэта Дыяніс і Арыядна. Антыка. Як і вось гэты фрагмент роспісу з залы Дыянісійскіх містэрый. Культ бічавання. Пакорная асуджанасць напаўаголенай жанчыны, якая ў вялікай пакуце ўпала на калені перад жрыцаю, і радасць аголенай вакханкі, што кружыцца ў віхуры танца з кастаньетамі, паднятымі над галавою. Якое бездакорнае цела! І шаль, напяты, нібы ветразь.

Ага, кантраст. Ага, страх. І ў той жа час неператожнасць жыцця.

Непераможнасць жыцця? Якая непераможнасць, якога жыцця? Не прыдумляй, дружа. Гэтыя ж творы ўжо зведалі смерць. І былі аднойчы мёртвыя. Яны — з Пампеі. З горада, які, лічы, у адно імгненне знік пад глыбокім пластом вулканічнага попелу. Знік горад, а ў ім зніклі і людзі.

Спрадвек спакойны і велічны Везувій, акружаны вінаграднікамі ды аліўкавымі гаямі, узвышаўся над райскаю далінаю на беразе Неапалітанскага заліва з багатымі гарадамі і віламі.

Людзі так прывыклі да яго ціхамірнасці, што ўжо зусім не баяліся вулкана — ён быў як свой, як хатні, як сем’янін у кожным двары.

І раптам Везувій узбунтаваўся. Вілы, квітнеючыя гарады ўвачавідкі былі засыпаны і пахаваны пад тоўстым пластом попелу.

Людзі патаналі ў попеле, як у вадзе.

Авечыя статкі па шэсцьсот і болей галоў правальваліся ў вялікія і глыбокія прорвы.

Мора ўцягвалася ў сябе. Клекатала лава, з неба падалі кавалкі пемзы.

Людзі гінулі там, дзе стаялі, дзе ў гэты час былі.

Гінулі мужчыны — яны ратавалі сваіх каханых жанчын і золата.

Гінулі жанчыны — яны засланялі сабою дзяцей і разам з імі заставаліся назаўсёды пад попелам.

Гінулі па розных прычынах.

У казарме гладыятараў пры раскопках знайшлі маладую, багата апранутую, прыбраную ва ўпрыгажэнні і каштоўнасці матрону, якая менавіта гэтую жнівеньскую раніцу выбрала сабе для спаткання з гладыятарам.

А ў іншым доме попел засыпаў яго і яе ў ложку ў самы шчаслівы і той жа час самы нешчаслівы для іх момант — так і засталіся яны назаўсёды ў позе насалоды і экстазу.

Ён усё яшчэ быў там, у Пампеі, калі раптам адчуў, што нехта стаіць за спінаю, сочыць за ім і слухае яго. Краем вока зірнуў назад і ўбачыў яе. Яна і праўда была за ім. Яна слухае яго! Яна слухае тое, што ён думае! І гэта, ён адчуваў, падабаецца ёй!

Перахапіўшы яго стоены позірк, жанчына адвярнулася. Нехаця, але адвярнулася і пайшла да супрацьлеглай сцяны. Ён зірнуў смялей услед ёй і ўбачыўшы, што незнаёмка ўжо зацікаўлена штосьці разглядае там, слізгануў позіркам па сваёй сцяне.

Рэльеф з вілы Сан Марка ў тых жа Пампеях. Атлет, які адпачывае. Апалон на парозе свайго храма. Якія прыгожыя мужчынскія целы! Мускулістыя і мужныя. Яму хацелася, каб і яна ўбачыла іх...

«Даная» Тыцыяна. Дачка цара Аргоса, якая прымае ў сваё лона Зеўса, што, пакахаўшы яе, скінуўся залатым дажджом. Вунь як сеецца ён на прыціхлае ў чаканні жаночае цела, як залатымі ясвамі лашчыць дзявочыя грудзі.

Рубенс. «Вакханалія». А гэта навошта тут? Выстава ж называецца «Харашыня».

Ён не любіў гэтую карціну. Непрыгожыя, нават пачварныя і мужчынскія, і жаночыя целы. Валасатыя ногі. Усе з капытамі. Усе ўпокат п’яныя. І нават жаночыя грудзі непрыгожыя, брыдкія — бачыце, як іх, смокчучы, адцягваюць у розныя бакі ці то дзеці, ці то звераняты...

Не, што вы, я не кажу, што не люблю Рубенса, — ён як быццам і цяпер нешта некаму тлумачыў. — І гэты мастак захапляўся прыгажосцю жаночага цела. Памятаеце яго «Выкраданне дачок Леўкіпа»? Там усе гожыя: жанчыны, мужчыны і нават коні! А якая кампазіцыя! Там усе — адна харашыня: і тыя, каго крадуць, і тыя, хто крадзе.

Ганарлівая прыгажосць і годная пастава жаночага цела ў «Саюзе Зямлі і Вады». А Вірсавія, з лона якой, не зважаючы на прысутнасць негрыцяняці і сабачкі, хочацца адхінуць чорнае і таму, здаецца, цяжкаватае покрыва. Ды і ў «Футры» зноў жа карціць, каб ню-жанчына, ледзь-ледзь ахінутая шубкаю, паслабіла крыху пальцы, каб футэрка зляцела з яе...

Падумаўшы так, ён тут жа засаромеўся, яму зрабілася няёмка нават ад таго, што так падумаў...

А, П’ер Банар! «Люстэрка перад умывальнікам». Якою светлаю і вабнаю плямаю на фоне грубага і, здаецца, бруднага рукамыйніка, гладышоў з вадою ды іншых рэчаў выглядае са спіны вабнае жаночае цела! Жанчына ўжо выйшла адсюль, а цела ўсё яшчэ засталося ў люстэрку.

Карыфей, мудрэц, чараўнік. Мікеланджэла.

Вялікі творца, які пакланяўся прыгажосці чалавечага цела. Вось ён, ягоны «Давід». Бездакорна высечаны, створаны майстрам. Дзіўна, што сучаснікі тады не зразумелі гэтага — нават стварылі камісію, каб вызначыць мастацкую вартасць скульптуры. І ў яе даў згоду ўвайсці старэйшы за Мікеланджэла Леанарда да Вінчы, якога яшчэ пры жыцці называлі геніем.

Магчыма, вось гэты Мікеланджэлаў Вакх — п’янаваценькі, з піўным жывоцікам, з чашаю ў руцэ — можа здацца не такім жывапісным, як самавіты яго цёзка ў Леанарда да Вінчы.

Але ж мікеланджэлаўскі Давід... Няма яму роўных! Які ён грунтоўны, упэўнены, як цвёрда ён стаіць на нагах. Ва ўсім — сіла і моц.

Не, Мікеланджэла ведаў мужчынскае цела і любіў яго!

Паглядзіце, во побач з «Давідам» ягоны рэльеф «Бітва кентаўраў». Цэлы клубок мужчынскіх целаў. Якая ў іх дужасць, упэўненасць, прыгажосць! Трэба, абавязкова трэба, каб рэльеф пагледзела і незнаёмка.

Дарэчы, а дзе ж гэта яна?

Жанчына, адчуўшы, што ён шукае яе, сама выйшла з-за ягонай спіны, стала амаль упобачкі з ім і пачала ўважліва разглядаць «Кентаўраў».

А ён паціху, не спяшаючыся, каб не замінаць ёй, пайшоў туды, дзе толькі што была яна. Яны нібыта памяняліся месцамі.

Ну, ну, дык чым жа цікавілася ўвесь гэты час незнаёмка? А, во яно што, — усміхнуўся ён. — Кентаўры! І тут былі кентаўры. Антычныя метопы, амаль квадратныя пліты, упрыгожаныя скульптурай. «Сутычка кентаўра з Лапіфам». Лапіф б’е кентаўра каленам у грудзі, а той, вышчара́ўшыся, ужо схапіў яго за горла. «Кентаўр, які збівае з ног Лапіфа». Імклівасць нападу, моц удару, і, дзіўна, прыгажосць кожнага руху — страшная, ведаеце, такая прыгажосць: «Лапіф, які наносіць удар кентаўру». Вядома ж, і чалавек можа ўдарыць кентаўра — целы ж у іх абодвух моцныя. Але ж перамагчы кентаўра... «Кентаўр, які радуецца над пераможным Лапіфам»...

Голыя мужчынскія целы. Колькі ў іх абодвух моцы і сілы! І ў чалавека, і ў напаўканя.

Натхнёны Фідзій. Славуты старажытнагрэчаскі скульптар. Галоўны памочнік Перыкла. І ў кентаўра, і ў чалавека прыгажосць і жыццёвасць. Імі немагчыма не любавацца. І яна, вядома ж, любавалася...

Ага, а вось яшчэ адзін кентаўр. Бацічэлеўскі. Ён нейкі добры, рахманы. Нават падстаўляе галаву пад далоні Палады, якая ці то лашчыць яго гэтак, ці то ўсяго толькі кудлаціць яму валасы. Яна ў лёгкай светлай сукеначцы — з кветкамі, падобнымі да матылькоў ды аліўкавымі галінкамі, што ўпрыгожваюць яе. Ён зусім голы. Яна — апранутая, аднак нібыта таксама голая.

Аголены кентаўр. Цікава, а хіба ён можа быць іншым? Як і ў што яго можна апрануць? Накінуць нейкую папонку? Пашыць нейкую надзеўку? Такую, якія цяпер шыюць сваім сабачкам сённяшнія жанчыны?

Ён усміхнуўся — во смешна б выглядаў кентаўр, калі б яго апранулі ў такую кашульку на гузічках...

І азірнуўся. Яна ўжо была далёка ад яго — зноў на самым пачатку экспазіцыі.

Здалёку ўбачыў як насупраць яго, на супрацьлеглай сцяне аж свецяцца жаночыя целы і адразу ж паспяшаўся туды.

Ён даўно чакаў гэтай сустрэчы з ім, з тым чараўнікам, які так любіў прыгажосць пышнага, поўнага радасці і жыцця, здаровага жаночага цела. Яно і праўда ў яго заўсёды свеціцца. А яшчэ больш яркнуць на ўсіх ягоных палотнах прыгожыя і сакавітыя, вабныя і поўныя жаночыя грудзі. Мастак лашчыць іх і абагаўляе іх, любуецца імі і моліцца на іх. Ён часам хоча адвесці вочы, зажмурыцца, але не можа гэтага зрабіць — усё роўна лашчыць іх вачамі.

Жанчыны і дзяўчаты ў яго купаюцца, заходзяць у ваду і выходзяць з яе, выціраюцца і адпачываюць, сядзяць і ляжаць, гавораць між сабою і маўчаць, а яны, грудкі, усюды смяюцца і сваволяць, гарэзуюць і спакушаюць — нібыта самі шукаюць пацалунка і ўжо нецярпліва высоўваюцца насустрач яму.

Рэнуар. Ніхто не любіў гэтак жаночыя грудзі, не надаваў ім гэтулькі ўвагі, як ён. Рэнуар сам казаў, што калі б не было жаночых грудзей, ён бы не стаў мастаком.

Яна — амаль дзяўчынка. Усё на сабе прыкрыла, а яны — не даюцца. Не ёй, а яму, Рэнуару, не даюцца. Ён не мае сіл, каб прыкрыць такую прыгажосць — яе грудкі.

Вялікае купанне. І ўсюды грудзі, грудзі, грудзі. Лона мастак не паказвае — на яго заўсёды нешта накінута. Цнатлівасць! Толькі зрэдзь калі здыме, прыме гэтую засцілачку, але зноў жа схавае ад гледача самы сапраўдны сорам: ці то жанчына так закруціць ногі, ці то сядзе гэтак, што, колькі не глядзі — нічога не ўбачыш. Усё бачыш — гожае, чароўнае, вабнае, а лона — спадзяёмся, яшчэ прыгажэйшае — не.

Купальшчыца, якая сядзіць. Па-мойму гэта яго самая лепшая праца. Ногі — цуд. А над імі яшчэ большы цуд — яе грудзі. Прыгажосць! І таго шмат-

ка-выціральніка, які мастак кінуў ёй на ногі, так мала, каб засланіць тое, што не засланяецца.

Дарэчы, Рэнуар, здаецца, так нідзе і не паказаў лона.

Пачакай, дык а дзе ж гэта сучаснае мастацтва? Там ужо, мусіць, лона будзе хоць адбаўляй — многа! І квадратнае, і кубічнае, і шматвугольнае...

Ён абвёў позіркам экспазіцыю — хацеў па пляме, па знерваванасці ліній знайсці наш неспакойны час. І, здаецца, убачыў тое, што хацеў, і падышоў туды.

Не, гэта не зусім мадэрнізм. Гэта сучаснікі Рэнуара. Імпрэсіяністы і постімпрэсіяністы.

«Алімпія» Манэ. Цудоўна! Але ж плоскаснае выражэнне, няма святлаценяў. Фатаграфія? Не! Арыгінал? Так задумана!

Дэга. «Дзяўчына, якая кладзецца спаць». І яго ж «Тры прастытуткі, што сядзяць у фас». Толькі лініі, а целы яшчэ не напоўніліся жыццём, не выбраліся з ліній, не пачалі пакуль што жыць самастойна. А ў «Прастытутках» яшчэ і тое, што было ў «Вакханаліі» — адмоўная энергетыка: грудзі ўроскід, і ў жанчын нейкая абыякавасць да ўсяго.

«Нуд Сезана» — усяго толькі накіды.

«Танцоўшчыца, якая сядзіць». Тулуз Латрэка. Толькі стома. Адна стома. Ва ўсім — і ў нагах, і ў руках, і ў вачах.

Сезан. «Дарослыя купальшчыцы». Іх многа. Усюды зелянковы колер бірузы, колер мора і неба. І рытм целаў. Калі яго прадоўжыць, постаці перасякуцца недзе там, дзе перасякаюцца нахіленыя адно да аднаго дрэвы.

Сёра. «Натуршчыцы». Класічны варыянт: спераду, спінаю і збоку. Хочацца ж настрою. А ёсць будзённасць. Яно і зразумела — гэта ж усяго толькі праца. Хоць і таленавітая. Вельмі!

Гювi дэ Шаван. «Надзея». І праўда, гэта ўжо надзея. Ёсць цела. Ёсць вочы, ёсць рашучасць — і ў целе, і ў вачах. Хоць навокал — крыжы, крыжы, крыжы.

Гаген. «Страта нявіннасці». Нудліва-пустэльны пейзаж на беразе нейкай вады. Спакойная сцішанасць аголенага цела і ў той жа час напятасць яго — бачыце, як пра гэта гавораць амаль звітыя адна з адной расхваляваныя ногі. І нейкі звярок ля яе галавы, якога яна абдымае, туліць да сябе.

Пачакай, пачакай, дык а дзе ж гэта яго найвядомейшыя таіцянкі? Напісаныя яркімі, буйнымі мазкамі на фоне бучной, дзікай прыроды Палінезіі і трапічнага сонца. Жанчыны, намаляваныя на прыродзе, як у палацы харастве. І сама прырода Акіяніі пададзена інтымна!

Ага, вось яна, таіцянская карціна Гагена «А ты раўнуеш?» Дзве голыя таіцянкі шэпчуцца сярод неймаверна яркіх фарбаў і колераў. Адна сядзіць, абапёршыся рукою на зямлю, другая — ляжыць. Дык якая ж з іх пытаецца: «А ты раўнуеш?» Хутчэй за ўсё тая, што ляжыць. Яна шчаслівая, яна задаволеная і яшчэ, здаецца, не астыла ад кахання — грудачкі, маленькія, як дзявочыя, усё яшчэ не супакоіліся.

«Куды ідзеш?» Чароўная дзяўчына з пасудзінай, зробленай з гарбуза, у руках спакойна стаіць і, як цяпер мадэлі, здаецца, пазіруе. І нікуды яна не ідзе, і ніхто ў яе так не зможа запытацца, і сама дзяўчына ні ў кога пра гэта не пацікавіцца, бо нікога побач з ёю няма. Значыць, пытаецца сам мастак?

А во яна, ці не самая галоўная карціна Гагена з Амазоніі. «Дзве таіцянкі». І ў ёй — таямніцы Таіці, глыбокая цішыня і загадкавасць начэй, здароўе і жыццёвая энергія саміх таіцянак.

А ці ведаеце вы, што на Таіці зусім не бывае змяркання: толькі што быў дзень і адразу ж ноч?

Гэтыя словы ён сказаў амаль уголас. Адчуў, што незнаёмка зноў за ягонай спінаю, і таму пра жыццё Гагена на Таіці ён ужо расказваў толькі ёй.

А пра той перыяд у жыцці мастака ён ведаў, здаецца, усё.

Ведаў, што на Таіці Гагена звалі «чалавекам, які робіць людзей». Ведаў, што адна з дзвюх жанчын на карціне «Дзве таіцянкі» — тая, што злева, — Тахура — яго вахіна, яго жонка. Падчас падарожжа зусім незнаёмы маарыец спытаўся ў мастака, што ён шукае. А той вазьмі ды і адкажы: «Жонку». «Табе ж, зразумела, трэба, каб яна была прыгожая і добрая? — пацікавіўся чалавек і тут жа прапанаваў: — Вазьмі маю дачку». Пайшоў у сваю хацінку і вярнуўся адтуль з рослаю, спелаю дзяўчынаю. Скрозь сукенку з зусім празрыстага мусліна відаць была залацістая скура яе плячэй, рук, задзірыста тырчалі два вострыя саскі. Прыгожы твар, спелае цела. Калі яму сказалі, што ёй усяго толькі трынаццаць гадоў, яна яшчэ дзіця, ён не паверыў — Гаген пакуль не ведаў, што маарыйскія жанчыны спеюць гадоў на пяць раней, чым у краінах з памяркоўным кліматам.

Астраўлянка была прыгожая сваёй першабытнай прыгажосцю, сваімі, як дзіцячымі, капрызамі і мела сур’ёзную, сузіральную душу.

Ён кахаў Тахуру і гаварыў ёй пра гэта, а яна ў адказ толькі ўсміхалася — навошта пра тое гаварыць, калі яна і сама ўсё гэта бачыць.

Ён кахаў сваю дзікунку і хацеў палюбіць увесь яе народ — маарыйцаў. І яна дапамагала яму зразумець іхнюю душу.

Ён пісаў яе, голую, а часам уначы, адпачываючы, у глыбокай і напятай таіцянскай цемры, бачыў, як на залацістай удзень скуры Тахуры прабягалі ўспышкі, іскры, сполахі.

Гаген безупынку пісаў таіцянку, і гэта, як ён сам прызнаваўся, было для яго амаль фізічнаю насалодаю.

Ранняя наведвальніца музея ўсё яшчэ, ён адчуваў, стаяла за ім, не зводзячы вачэй з рэпрадукцыі «Таіцянак», і вельмі ўважліва слухала яго.

Ён гаварыў ціха, амаль шэптам, і гэта хвалявала, нават узбуджала жанчыну — пра яе зацікаўленасць мужчына здагадваўся па тым, як стоена дыхае тая, што стаіць у яго за спінаю.

— Ужо восенню Гаген пісаў сябрам: «Хутка тут, у Акіяніі, я зноў стану бацькам. Бачыць Бог, нічога не зробіш: усюды сею я семя сваё. Праўда тут, дзе дзяцей з радасцю чакаюць усе родзічы, гатовыя ўзяць іх да сябе на выхаванне, гэта не стварае ніякіх клопатаў. Тут кожны хоча зрабіцца прыёмным бацькам ці прыёмнай маці: самы лепшы падарунак, які ты можаш зрабіць на Таіці — гэта дзіця».

А я, ведаеце, гледзячы вось цяпер на Тахуру, чамусьці ўяўляю яе на беразе акіяна, на прыстані. Адзінокую, самотную, усю ў слязах.

Карабель усё далей і далей адплывае ад берага. Ён назаўсёды звозіць яе каханага. Гаген у бінокль глядзіць на сваю дзікунку, якая плача, на райскі востраў, які вось-вось назаўсёды схаваецца за небасхілам і на якім потым народзіцца яго дзіця, якое будзе ўжо маарыйцам.

Вось ён, гэты шэдэўр Гагена. У ім мастак прызнаўся ўсяму свету, як ён кахаў дзікунку. Кахаў тое цела, па якім уночы прабягалі іскры.

Бачыце, тыя ж залацістыя плечы і рукі, тыя ж грудзі, сасочкі якіх настойліва ўпіраюцца ў тую ж лёгкую, празрыстую муслінавую сукенку...

І раптам мужчына рэзка павярнуўся назад і апынуўся твар у твар, вочы ў вочы з незнаёмкаю. І тая не спалохалася гэтага, спакойна прыняла ягоны погляд — усхваляваны, ласкавы, здзіўлены...

Тая ж пастава, тая ж фігура, тыя ж вінаградзінкі, якія напінаюць лёгкую празрыстую сукенку...

«Ды яна ж падобая да Тахуры!» — як не крыкнуў ён на ўсю залу.

Жанчына ўбачыла, што незнаёмы ўжо лашчыць вачамі яе, усё ж засаромелася, адвярнулася і адышлася да іншай сцяны.

Ён пайшоў за ёю. Стаў за яе спінаю і, пакрысе адыходзячы, супакойваючыся, астываючы ад нечаканасці, угледзеўся ў чарговую рэпрадукцыю.

Арысцід Маёль. Не меншы прыхільнік прыгожага жаночага цела і дасканалых грудзей.

Вялікі каменячос. Утаймавальнік мармуру.

Маёль усё сваё жыццё не ведаў і не хацеў ведаць ніякага іншага сюжэта, акрамя аднаго: стварэнне, выяўленне аголенай, ці, часам, зрэдзь калі, драпіраванай жаночай фігуры. Ён усё сваё жыццё вызваляў з матэрыялу голую жанчыну!

На любым матэрыяле, з якім збіраўся працаваць, ён адразу ж чарціў чатыры кружочкі — там, дзе будуць твар, грудзі і жывот. І потым выбіраў усё лішняе. А гэтыя чатыры галоўныя пагоркі, ды яшчэ, можа, два ўзвышшы, што ніжэй спіны, скульптар даводзіў, высліжваў да дасканаласці. Пакуль любы каструбаваты кавалак не ператвараўся ў шэдэўр.

Яго жанчыны ці то ўсаджваюцца на падстаўку, альбо ўжо сядзяць на ёй, ці то хаваюць твар у мармур, альбо ўстаюць з яго, ці то ўкленчваюць, альбо напаўляжаць, ці то стаяць, аголеныя, альбо якраз скідваюць з сябе покрывы.

А рукі! Бачыце, як яны працуюць. Здзіўляюць і прыцягваюць да сябе. Яны, чуйныя і асцярожныя, ласкавыя і пяшчотныя, уважлівыя і далікатныя. Ці то дапамагаюць садзіцца, ці то закінутыя за галаву, ці то пакладзены на клубы, ці то папраўляюць каралі на шыі.

Ці гэтак жа, як у «Сёстрах», узнятыя далонямі да неба.

Ці то сарамліва засланяюць твар — як у «Дзяўчыне, якая сядзіць».

Рукі, пакладзеныя пад сябе. Рукі, паднятыя да плеч. Рукі за галавою.

Рукі, пакладзеныя на калені. У іх аголеная схавала, утапіла свой твар. Гэта «Ноч, або Мара».

Рукі ў гарэльефе «Жаданне». Іх двое — ён і яна. Іх рукі — абуджэнне пяшчоты. Яны адпіхваюць адна адну і ў той жа час прыцягваюцца між сабою, сустракаюцца і тут жа разыходзяцца. У іх — нясмеласць і ўжо нецярплівасць.

«Флора». Спераду і ззаду. Пяшчота жаночай мяккасці і акругленасці. Круглае тут усё: твар, жывот, калені, грудзі, дзве палавінкі ніжэй спіны, і нават вінаградзінкі на іх — таксама круглыя. Ён усё яшчэ стаіць за ёю, незнаёмкай. Абое разглядаюць «Флору». Са спіны. І раптам ён аж скаланаецца — як тузануў хто. Усхвалявана пераводзіць позірк са скульптуры на незнаёмку, што перад ім, з незнаёмкі — зноў на скульптуру. Яны зноў такі падобныя! Як дзве кроплі вады! Копія! Пастава. Спіна з распушчанымі па ёй валасамі. Два бездакорныя пагоркі, якія аж вылузваюцца з-пад драпіроўкі.

Флора была падобная на незнаёмку! Як усё роўна Маёль ляпіў Флору менавіта з яе! Яна раптам зноў нечакана павярнулася да яго. І тут жа ўбачыла, што мужчына разглядае не скульптуру, а яе самую. Засаромелася і апусціла вочы.

Яны ўжо былі ў самым канцы экспазіцыі, блізка каля выхада.

У зале, на ўваходзе, з’явілася першая экскурсія. Прыглушаны, ціхаваты голас экскурсавода як усё роўна стараўся не замінаць ім.

Яны неяк нехаця, паволі пайшлі на выхад. Ішлі поплеч, амаль плячо ў плячо. Маўчалі. І раптам абое адначасова спыніліся, замёрлі, стаялі і, як апантаныя, глядзелі перад сабою.

Радэн! «Пацалунак»! Фотарэпрадукцыі паслядоўна падаюць гэты шэдэўр з усіх бакоў. І яны, нібыта ходзячы вакол скульптуры, адусюль любаваліся ёю.

Экскурсія ўжо гаманіла непадалёку ад іх, аднак яны не зважалі на гэта — матэрыял, які раптам стаў жывым, ужо быў мацнейшы за ўсялякі шум і розныя клопаты ды мітрэнгі.

Тут была вечнасць.

Дзеля гэтай рамантычнай пары Радэн адклаў усе свае пачатыя работы. Каміла, каханая Радэна, таксама мастачка, якую ён угаворваў пазіраваць для «Пацалунка», згадзілася толькі пры ўмове, што ляпіць ён будзе яе адну, а мужчынскую фігуру зробіць па памяці. І ён згадзіўся з гэтым. І знайшоў дастойнага натуршчыка.

Любоўніка ён ляпіў з сябе — маладым, стройным, высокім, гнуткім, шыракаплечым. Такім, якім помніў.

І Каміла, хоць ёй было яшчэ толькі трыццаць чатыры, здалася яму цяжкаватай. Ён прымусіў яе пахудзець і спалохаўся: Каміла зрабілася зусім маладою, нават юнаю. Яна худзела і ўсё болей і болей рабілася падобнай да той дзяўчынкі, якую ён сустрэў многа гадоў таму назад. А яна ж была равесніцай яго сына!

Ён дакранаўся да яе цела пяшчотна, а яна адчувала прыемную сілу рук скульптара.

Ён мучыў ёй грудзі, мяў і ціскаў іх, нават падвязваў бінтамі, каб напісаць найлепей.

І аднойчы нечакана выклікаў у яе нават жаданне. Тут жа спахапіўся, прыбраў свае рукі, прыкрыў ёй грудзі і ціха, аднак упэўнена прамовіў:

— Не! Мы ж працуем...

Незнаёмка усё бліжэй і бліжэй падыходзіла да яго. Нарэшце, яна неяк вельмі ж ласкава, па-жаночы цнатліва прытулілася да ягонага пляча, і ён пяшчотна прыгарнуў яе да сябе.

«Сказаць ці не сказаць? Пра тое, што Каміла ўрэшце звар'яцела? — задумаўся мужчына і тут жа сам сабе запярэчыў: — А навошта? Хай вось гэтае даўняе каханне, ушанаванае ў вечным пацалунку, застанецца для яе светлым і радасным».

Экскурсія ўжо добра шумела. Некаторыя нецярплівыя наведвальнікі набліжаліся нават да іх, стаялі побач і таксама зацікаўлена разглядалі «Пацалунак».

Нечакана мужчына ўжо ля самых дзвярэй убачыў яшчэ адну скульптуру Радэна і тут жа далікатна, але ўпэўнена засланіў яе сабою — каб не ўбачыла незнаёмка. На здымку была таксама вядомейшая скульптура майстра «Тая, што была цудоўнай Аміер» — старая жанчына, худое цела, выпіраюць лапаткі...

Чамусьці яму не хацелася, каб яна ўбачыла гэта.

Ён ужо шанаваў яе і абараняў незнаёмку ад усялякіх адмоўных эмоцый.

Калі яна спускалася па прыступках з музея, мужчына, як закаханы, далікатна падтрымліваў жанчыну пад локаць.



## Святлана ЯВАР

* * *

Ты пакінуў мяне ў адзіноце
І сам-насам з бядою маёй.
Ты змушаў на адной спяваць ноце,
Замуціў мой ранейшы спакой.

Але я не крыўдую. Навошта?
Як не хочаш кахаць — не кахай.
Прынясе хай касмічная пошта
Думку-ліст ад мяне — прачытай.

Як шкада, што сяброўства няма,
Што навечна між намі — зіма.

* * *

Здавалася, што я кахаю,
Ды там *любові* не было.
Зачыненыя дзверы раю —
Каханне-жарсць само прайшло.

Нібы ад страшнае напасці,
Уратавацца я хачу.
Знайсці зноў спадзяюся шчасце.
Я не іду — ужо лячу…

Пакінь маю душу, нячысты.
Ты прэч ідзі, не пі мне кроў.
Сягоння абвяшчу ўрачыста:
І без любошчаў ёсць любоў!

---

**Святлана Явар (Сачанка Святлана Барысаўна)** *нарадзілася 11 ліпеня 1968 года ў Мінску. Скончыла філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта (1990) і аспірантуру Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа АН Беларусі (1993). Працавала ў Нацыянальным навукова-асветным цэнтры імя Ф. Скарыны, Беларускім універсітэце культуры, часопісе «Крыніца», штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва», Інстытуце мовазнаўства, Беларускім дзяржаўным універсітэце інфарматыкі і радыёэлектронікі. Цяпер — у Мінскім дзяржаўным лінгвістычным універсітэце і Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі.*

*Аўтар паэтычных кніг «Белы месяц» (1994), «Раніца ў туманах» (1994).*

* * *

Прывабным я агіднае назвала
І палюбіла грэх. За што? — пытаю я.
Прыходзіў ты, а мне было замала
Таго, што не кахаеш ты, — кахаю я.

Балюча мне і цяжка расставацца
Было, і ад тугі Бог ратаваў.
Ды з часам пачало ўжо мне здавацца:
Я не кахала. Ты мяне кахаў…

І, адхварэўшы, жыць хачу здаровай.
Забыта ўсё. Любоў ратуе свет,
З якім я гавару бацькоўскай мовай,
Што дадзена мне, быццам запавет.

Нікому так не зычу я ўлюбіцца,
Каб не дазволіць марам сваім збыцца!

* * *

У адказ на пытанне: «Ці буду шчаслівай?» —
Толькі зоры халодныя моўчкі дрыжаць.
Не магу я сказаць: не была я цярплівай.
Ды чамусьці не ўмела, не смела кахаць…

## ЗВАНОК

Уночы тэлефон раптоўна зазвінеў,
Трывожна клічучы званком працяжным…
Каханнем ты, відаць, запалымнеў —
А ўсё астатняе зусім не важна.

Я не паспела слухаўку падняць,
Але паўночы ўжо амаль не спала.
Чамусьці не магу цябе прыняць,
Хоць да кахання застаецца мала.

Ужо праз месяц… Не магу сказаць,
Калі цябе нарэшце пакахаю.
І толькі Бог паможа адказаць,
Ці я свая… пасля чужога краю.

* * *

Я прачынаюся ўначы,
І зноў цябе раўную страшна,
І ад сябе хачу ўцячы,
Сказаўшы «не» табе адважна.

І не магу заснуць, бо сон
Ужо не йдзе. Халодны ранак.
А нада мной вісіць праклён,
Як над адной з тваіх каханых.

Цяпер хіба ў бяздонні сну
Скажу я «так» табе адчайна:
«Не пакідай мяне адну!
Не выдам я нікому тайну…»

* * *

Не адбылося нашае спатканне,
Я не зайшла да Вас у пэўны час.
Той непакой душэўны — стан чакання —
Мне шчасця не прынёс на гэты раз.

Ці Вы хацелі б зноў мяне пабачыць?
Ці непрыязь я выклікаю ў Вас?
Хіба што за адно хачу аддзячыць —
За тое, што агонь ва мне не згас.

Змагаюся з апошніх сіл, дарэчы,
Я за жыццё. І веру, што яно
Не ляжа ўсім цяжарам мне на плечы,
Што будзе Бог са мною заадно…

* * *

Безабаронны чалавек
Крыўдзіцеляў перамагае,
Таму што праз увесь свой век
Ён зло любоўю абвяргае.

Любоў магутнай сілай быць,
Непераможнай сілай можа.
І дапаможа ўсё забыць,
Што сэрцы нашы растрывожыць.

* * *

Усё роўна любоў пераможа
У сусвеце, што б там ні было.
Так, занадта я добрая, можа:
Я хачу, каб знікала ўсё зло.

Вы даруйце мне, светлыя сілы,
Калі здрадзіла вам хоць калі.
Тады свет мне здаваўся нямілым,
Тады жыць не магла на зямлі.

Галаву бы схіліць прад любоўю,
Усеўладнай, магутнай такой.
Захапляюся свету сумоўем,
На душы — непаўторны настрой.



Анатоль БРЫТУН

# ПАХ МУСКУСУ

*Раман**

## *15. Зубрыная помста*

Утры гадзіны ночы галоўны распарадчык падняў падначаленых. Ніхто ўжо і не спаў.

— Сёння ў нас цяжкі дзень. Мы збіраемся злавіць замежных браканьераў. Ніякіх неабдуманых дзеянняў. Асабліва гэта датычыць маладых стралкоў. У вас яшчэ вецер гуляе ў галаве, прашу не рабіць ніякіх глупстваў. Памятайце, што страляць можна толькі ў коней. На нашым баку эфект раптоўнасці. На зыходныя пазіцыі будзем прабірацца ў цемры, залішне не шумець, не размаўляць, не кашляць.

Обер-фарстмайстар расклаў на стол карту і прысунуў бліжэй падсвечнік. Пасля нядоўгага маўчання сказаў:

— Паўторым план дзеяння. Калі прыедзем у пушчу, раздзелімся на дзве групы. Першая прабіраецца па левай прасецы да скрыжавання, там нас павінен сустрэць Рыгор. Гэтую групу ўзначалю я. Другая група прабіраецца дарогай да прасекі справа, там вас чакае Сцяпан, ён і ўзначаліць. Страляць толькі пасля стрэлаў прускіх паляўнічых. Страляць спачатку ўверх для страху. Рыбалоўныя сеткі і вяроўкі прыгатаваныя, імі перагароджваем прасеку адразу ж пасля стрэлаў. Яшчэ раз прашу, будзьце ўважлівыя і асцярожныя. Задача зразумелая? Тады з Богам! — Фёдар Канстанцінавіч перахрысціўся, гледзячы на абраз у куце.

З двара выехалі разам. Праехаўшы з вярсту, падзяліліся на дзве групы. Трое вершнікаў скакалі далей дарогай, астатнія звярнулі на прасеку. Прабіраліся павольна, каб залішне не шумець.

Нечакана пачулі голас Рыгора:

— Стойце! Ваша высокаблагароддзе, неабходна тут спыніцца і чакаць майго сігналу. Там іх, разам з Пупком, сем чалавек. Сядзяць поруч кастрышча, п’юць і размаўляюць, спаць не клаліся. Адзін з іх размаўляе з нашым Пупком на польскай мове, астатнія гергечуць па-нямецку. Я вяртаюся да іх, хутка ўжо будзе віднецца.

Рыгор бясшумна знік у цемры.

Усе злезлі з коней. Паволі вочы абвыклі і пачалі адрозніваць блізкія дрэвы і кусты. Напруга паступова нарастала. Фёдар Канстанцінавіч дастаў папяросу і прыкурыў, хаваючы яе ў кулак.

---

Заканчэнне. Пачатак у № 1-2, 2010.

Са змроку выступілі бліжнія ствалы дрэў. З кожнай хвілінай станавілася святлей. Ужо можна было адрозніваць прадметы на адлегласці дваццаці крокаў.

Чакаць давялося нядоўга.

Шумна дыхаючы ад бегу, з’явіўся Рыгор.

— Яны выехалі са стаянкі, і нам трэба спяшацца.

Стражнікі і стралкі імкліва ўскочылі ў сёдлы. На скрыжаванні прасек звярнулі направа. Праехаўшы міма будана, саскочылі з сёдлаў і пачалі перагароджваць прасеку сеткай і вяроўкамі.

Тут грымнулі тры стрэлы. Гучнае рэха пакацілася па ранішнім лесе. Праз некаторы час, у тым жа напрамку, адзін за адным, нібы кананада, прагучалі дзесяткі стрэлаў. Пасля невялікай паўзы трохі правей прасекі прагучаў адзінкавы стрэл. Калі рэха апошняга стрэлу згубілася ў далёкай нетры, наступіла цішыня.

Затаіўшы дыханне, прыслухваліся, чакалі наступнага развіцця падзей.

Раптам лес напоўніўся дзіўнымі гукамі. Гукі нарасталі і ўзмацняліся, набліжаліся, як лава.

Прадчуванне нейкай незразумелай трывогі закралася ў Рыгорава сэрца. Ён глянуў на каня. Яго жарабец нервова перабіраў капытамі, а вочы былі поўныя страху. Да ўсяго можна было адчуць, як пад нагамі дрыжала зямля.

Обер-фарстмайстар здзіўлена спытаў:

— Ч-чорт! Рыгор, што гэта за шум?

Рыгор замахаў рукамі і гучна закрычаў:

— Усе залазьце на дрэвы, жыва! Ваша высокаблагароддзе, і вы таксама залазьце. Хутчэй!

Выразны цяжкі тупат нарастаў і ўжо грымеў на ўсю моц.

Рыгор падбег да галоўнага распарадчыка, тузануў за рукаў і паказаў на разлогую хвою. Обер-фарстмайстар працягваў стаяць. Рыгор падхапіў яго пад пахі і сілай пачаў падсаджваць на дрэва. Кінуўшы пістоль, іх высокаблагароддзе з цяжкасцю пакараскаўся наверх. Стражнік падцягнуўся следам.

У гэты момант на прасецы з’явіліся вершнікі, якія наўскач несліся да сваёй хованкі, да будана. Коні ляцелі як на злом галавы.

Напярэймы ім з ельніка нечакана выскачыў велічэзны барадаты зубр. Не спыняючыся, ён нізка нахіліў велізарную галаву з налітымі крывёю вачамі і высалапленым языком — ляцеў да першага каня.

Вараны жарабец, убачыўшы зубра, рэзка затармазіў і ўстаў на дыбкі. Велізарная рагатая галава знікла пад брухам — бык з усяго разгону стукнуў знізу. Конь падляцеў у паветра. Вершнік аддзяліўся ад сядла, паляцеў у густы ельнік, а жарабец, перабіраючы капытамі і храпучы, забурыўся на спіну. Зубр пераскочыў яго і пабег далей. А конь забіўся ў перадсмяротных курчах, блытаючыся нагамі ва ўласных вантробах.

На прасеку пачалі выскокваць іншыя зубры, робячы замяшанне ў шэрагах вершнікаў.

Прускія коні збіліся ў шчыльную кучу, яны то станавіліся на дыбкі, то падалі на калені. З усіх сіл коннікі намагаліся ўтрымацца ў сядле. Ахопленыя страхам, з пенай на губах, коні гучна храплі. Побач з імі імкліва праносіліся адзін за адным зубры.

Адзін з велічэзных зуброў выскачыў на прасеку насупраць кучы вершнікаў. З разгону ўваліў рогамі ў натоўп. Коні разляцеліся ў розныя бакі. Ніхто з наезнікаў не ўтрымаўся, усе павылятали з сёдлаў на зямлю.

Пад хвояй, на якой сядзеў Рыгор з обер-фарстмайстрам, спачатку пранёсся з віскатам статак дзікоў. Следам за імі пачуўся цяжкі тупат, трэск кустоў’я, і на

прасеку вынесся стралой малады зубр, які з разгону наскочыў на сетку з вяроўкамі. Яна, як павуцінне, з трэскам разарвалася. Зубр не ўтрымаў раўнавагі, спатыкнуўся і ўсім целам забурыўся на бок, змінаючы пад сабой хмызняк на краі прасекі, але вось бык жвава ўскочыў на ногі і ў імгненне вока знік у гушчары.

Адначасова чуўся тупат соцень ног, трэск сухога ламачча, віскат дзікоў, іржанне раненых коней, крыкі аб дапамозе на незразумелай мове. Усё гэта змяшалася ў дзікую какафонію жаху, якая працягвалася некалькі хвілін, але для ўдзельнікаў здарэння здавалася вечнасцю.

Тупат і трэск галля ад статка зуброў пачаў паступова аддаляцца і заціхаць.

Не маючы адвагі саскочыць, людзі працягвалі сядзець на дрэвах.

Рыгор паглядзеў на обер-фарстмайстра. Той учапіўся рукамі ў пальчатках за галіну, быў з бледным як у мерцвяка тварам. Яго вочы былі поўныя жаху.

Рыгор саскочыў на зямлю першым, рукою паказаў іх высокаблагароддзю зрабіць тое таксама. Обер-фарстмайстар, як пад гіпнозам, асцярожна спускаўся ўніз. Саскочыць яму дапамог, подбегшы, малады стралок. Ён падняў з зямлі пістоль і працягнуў яго обер-фарстмайстру. Фёдар Канстанцінавіч узяў пістоль і як ні ў чым не бывала распачаў яго старанна чысціць ад наліплага бруду.

Неўзабаве спусціліся на зямлю з дрэў іншыя стралкі і стражнікі. Без каманды яны дружна беглі да таго месца, дзе зубры атакавалі прускіх наезнікаў.

Насустрач ім з дзікім іржаннем шэры з чорнай грывай конь цягнуў па зямлі цела чалавека. Яго нага заблыталася ў стрэмені і была ненатуральна вывернутая. Адзін са стралкоў злаўчыўся і злавіў каня за аброць. Ашалелы конь станавіўся на дыбкі, брыкаўся, трос галавой. Стралок і голасам, і жэстам супакойваў каня. Нарэшце разгарачаны скакун скарыўся, нават дазволіў пагладзіць сябе. Тады і выцягнулі нагу. Чалавек не падаваў прыкмет жыцця. Яго твар быў запэцканы брудам уперамешку з крывёй.

Са стрэльбамі напагатове стражнікі акружылі месца здарэння. Перад імі адкрылася жахлівая карціна. Два кані ляжалі на зямлі з разарванымі жыватамі, іх скрываўленыя вантробы валяліся побач. Трэці конь яшчэ спрабаваў падняцца, але ў яго, хутчэй за ўсё, былі зламаныя пярэднія ногі. З краю прасекі, абхапіўшы рукамі галаву, сядзеў чалавек, побач з ім моўчкі стаяў другі. Яны былі бледныя як палатно і дрыжалі ўсім целам. Трэцяга вершніка знайшлі ў кустоўі, яго абедзве нагі знаходзіліся пад тулавам мёртвага каня. Ён махаў рукамі і нешта крычаў.

Стражнікі пачалі яго выцягваць, спрабуючы адваліць каня.

Яшчэ адзін вершнік вісеў на галіне елкі. Прыйшлося стралку лезці на дрэва і дапамагчы таму расчапіць рукі.

Адзін з паляўнічых выйшаў з густога ельніка на прасеку сам, яго рукі былі высока паднятыя. Яшчэ аднаго з паднятымі рукамі прывёў Ціхан.

Обер-фарстмайстар падышоў да каня з перабітымі нагамі, прыставіў да вуха пістоль і стрэліў. Конь адразу ж перастаў тузацца.

Прычуўся камандны голас Фёдара Канстанцінавіча:

— Збярыце і перапічыце ўсіх незаконных паляўнічых, ні адзін з іх не павінен сысці. Праверце, ці ўсе нашы жывыя. Паклічце сюды тых, хто сядзіць у другой засадзе. Дзе нашы коні?

Рыгор падышоў да обер-фарстмайстра і сказаў:

— Ваша высокаблагароддзе, а нашых коней таксама няма. Яны ад спалоху паўцякалі богведама куды.

Падышоў Ціхан і даклаў:

— Паляўнічыя затрыманыя, збег толькі Пупок. Усе нашы жывыя. Я паслаў ужо некалькіх стралкоў па Сцяпана.

— Ціхан, ты можаш растлумачыць, як так атрымалася? Яшчэ хвіліна і мог быць канфуз. Статак зуброў разнёс бы нас ушчэнт. Ледзь уратаваліся. Рыгор малайчына — сцяміў і загадаў нам лезці на дрэвы, — з захапленнем тлумачыў усё яшчэ дрыготкім голасам галоўны распарадчык.

— Ваша высокаблагароддзе, растлумачыць магу, — хітнуў галавою Ціхан. — Мы са Сцяпанам прывезлі мяшок нарэзаных яблыкаў, бручкі і бульбачкі. Перад самым світанкам прынеслі гэты мяшок і высыпалі на паляне. Ну, каб гэтыя два зубры елі. Сцяпан вярнуўся да засады, а я застаўся на паляне. Вецер якраз дзьмуў у той бок, дзе пасвіўся статак. Мяркую, учуўшы свежы пах яблыкаў, звяры рушылі да паляны. А тут якраз выехалі гэтыя шасцёра конна, і з імі выйшаў наш Пупок. Ён паказаў гэтым спадарам двух зуброў на паляне. Я ляжаў на зямлі крокаў за пяцьдзесят ад іх і ўсё добра бачыў. Той, якога я прывёў, ён у іх, лічу, галоўным будзе. Па яго камандзе трое стрэлілі. Потым нашы стралкі ў засадзе. Гэтыя шасцёра, пачуўшы стрэлы, спачатку разгубіліся, потым ачомаліся і ламануліся якраз на тое месца, дзе я ляжаў. Што мне заставалася рабіць? Я ўскочыў на ногі і стрэліў у грудзі першага каня. Той, які камандаваў,ываліўся з сядла. Астатнія завярнулі назад, на прасеку і наўскач панесліся да вас. Я тут чую ззаду тупат. Краем вока бачу: нясуцца дзікі, а за імі следам зубры. Відаць, зубры якраз падыходзілі да паляны, а тут прагучалі стрэлы і яшчэ, як на тое ліха, кабаны сустрэліся. Ад вялікага шуму яны па ўсёй верагоднасці і раз’юшыліся. Я, ваша высокаблагароддзе, ледзь дабег да хвоі. Лезу наверх, а гэты ўскочыў на ногі і караскаецца за мной. Так мы і праседзелі на адным дрэве. Калі ўсё скончылася, ён саскочыў на зямлю, а я следам. Але ён не ўцякаў. Небарака так спалохаўся, што адразу, як саскочыў з дрэва, тут жа прысеў і зняў нагавіцы. На яго ад спалоху напала мядзведжая хвароба. Пупка, мяркую, ужо і след прастыў. Вось, ваша высокаблагароддзе, і ўся гісторыя.

— Пупок? — перапытаў распарадчык, — ліха яго бяры, — махнуў ён рукою. — Нікуды ён ад нас не дзенецца. Няхай яго жандары шукаюць. А гэтых аматараў палявання трэба даставіць у галоўную сядзібу. Я толькі не ведаю, што нам з мерцвяком рабіць? Ашалелы конь да смерці зацягаў. Што з ім рабіць? — разважаў обер-фарстмайстар.

— Ваша высокаблагароддзе, а калі паведаміць туды, за кардон? Хай яны забіраюць свайго, — прапанаваў Ціхан.

— Т-так! Гэта добрая думка. Сапраўды, няхай прыязджаюць і забіраюць свайго нябожчыка, а астатніх мы забяром. Рыгор, ты дзе? Што гэта ты тамака ў руках круціш?

— Ваша высокаблагароддзе, тут знайшоў у аднаго з іх забаўную штучку. Я яе яшчэ звечара ў яго запрыкмеціў.

— Гэта завецца бінокль. Дай яго сюды.

Обер-фарстмайстар узяў бінокль і паднёс да вачэй.

— Так, рэч выдатная.

Узяўшы Рыгора пад руку, адвёў трохі ўбок.

— Ты скачы да Ахрэма. Распавядзі, што мы арыштавалі ўсіх. Няхай ідзе за кардон і неяк паведаміць прускім уладам, што яны павінны забраць свайго мёртвага вайскоўца.

Недзе за вярсту Рыгор спаткаў свайго жарабца і іншых коней. Яны спакойна пасвіліся ў невялікай лагчыне, дзе яшчэ была зялёная трава. Сеў на свайго жарабца і паскакаў на сялібу да Ахрэма.

Той, як было яму загадана, сядзеў дома. Стражнік перадаў просьбу обер-фарстмайстра. Ахрэм апрануўся і хутка сышоў.

Рыгор вярнуўся ў селішча. Адчуўшы моцны голад, пад’ехаў да карчмы і замовіў яечню. Калі з апетытам распачаў ёсці, дзверы рэзка адчыніліся, на

парозе з’явіўся высокі, пад два метры ростам, улан у форме паручніка, пры кавалерыйскай шаблі. Тонкія вусы ліха закручаныя ўверх, з-пад фуражкі, нядбайна надзетай набок, тырчаў бялявы павойны чуб.

Прыгожая ў яго форма, падумаў Рыгор. Асабліва яму спадабалася вышываная чырвоная куртка.

Убачыўшы Рыгора, афіцэр накіраваўся да яго і бесцырымонна ўсеўся насупраць.

— Ты стражнік Белавежскай пушчы?

— Так, а што? — адказаў Рыгор.

— Вельмі добра, дазвольце прадставіцца, паручнік Бялькевіч Сяргей Пятровіч. Шукаю галоўнага распарадчыка пушчы Тарана Фёдара Канстанцінавіча. Нам загадана перакрыць кардон. Мы толькі што гэта зрабілі, а што далей?

— Чакайце, ён хутка тут з’явіцца, — сказаў стражнік.

Дзверы ў карчму зноў расчыніліся, праз парог уваліліся два знаёмыя кардонныя аб’ездчыкі. Проста з парога накіраваліся да ўлана.

— Вы камандзір эскадрона? — усхвалявана спытаў адзін з аб’ездчыкаў.

— Так, а ў чым, уласна, справа? — адказаў і адначасова спытаў паручнік.

— Мы аб’язджалі кардон, а там усюды вашы. Хацелі нават нас затрымаць. Маем права знаць, што тут дзеецца? — ускіпеў аб’ездчык.

— Сам толкам не ведаю. А вось гэты стражнік можа быць у курсе. У яго запытайце, заадно і я паслухаю, — паручнік кіўнуў галавою на стражніка.

Аб’ездчык, які некалькі дзён таму ўжо задаваў пытанні, раптам здзіўлена ўтаропіўся ў Рыгора:

— Гэй! А я цябе ўжо дзесьці бачыў? Сапраўды, бачыў!

— Мы ў аўторак тут з вамі разам снедалі, толькі я быў без мундзіра, — адказаў Рыгор.

— Во-ой! Я ўспомніў. Мы яшчэ хацелі высветліць, хто ты? — узрадавана ўсміхнуўся аб’ездчык і пстрыкнуў абцасамі. — Дазволіце нам далучыцца да вашага стала. Лейбель! Бягом сюды!

— Я імгненна, прысаджвайцеся, — Лейбель знік у суседнім пакоі, тут жа вярнуўся з талеркамі ў руках і распачаў звыкла сервіраваць стол.

— Стражнік, не цягні, распавядай: што тут без нашага ведама задумалі? — шэпатам спытаў аб’ездчык.

Рыгор звярнуўся да карчмара:

— Лейбель, схадзі на вуліцу, прасачы, каб нам ніхто не перашкаджаў размаўляць.

— Слухаюся, мяне ўжо няма, — з паклонам адказаў гаспадар карчмы, — з вашага дазволу вашых коней напаю.

Пасля нядоўгага маўчання Рыгор пачаў свой аповед.

— Панадзіліся да нас у пушчу прускія афіцэры на паляванне. Пастрэльваюць употай зуброў і цягнуць іх праз кардон. Мы зрабілі засаду і ўсіх іх узялі. На ўсялякі выпадак для ўзмацнення запрасілі сюды эскадрон уланаў.

Тут адзін з кардонных аб’ездчыкаў ажывіўся:

— Сапраўды, мы таксама гэта падазравалі, след бачылі. Як быццам хтосьці цягнуў нешта цяжкае праз кардон. Спачатку меркавалі, што цягнулі дрэвы, але які ў гэтым сэнс? Збіраліся сёння ўначы засаду зрабіць.

Звярнуўшыся да свайго напарніка, сказаў:

— Ігнат, скачы на заставу, скажы адбой засадзе. Распавядзі старшаму мытніку, што тут чуў.

Тым часам да карчмы пад’ехала рысорная брычка, запрэжаная парай скакуноў. З яе высадзіўся вусаты, камлюкаваты мужчына ў мундзіры мытніка. За ёю пад’ехаў галоўны распарадчык пушчы ў суправаджэнні стралкоў.

— Спадары, вітаю вас. Прашу падрабязней увесці мяне ў курс...

Обер-фарстмайстар прадставіўся і выказаў яму сутнасць справы.

Мытнік уважліва выслухаў галоўнага распарадчыка і сказаў:

— Нябожчыка можна даставіць на заставу і перадаць на прускі бок.

У гэты час нейкі ўлан ліха асадзіў побач свайго жарабца.

— Дазвольце звярнуцца. Мы затрымалі аднаго чалавека, які прабіраўся праз кардон на наш бок. Кажа, што мясцовы жыхар, пытаў обер-фарстмайстра або стражніка Рыгора.

Обер-фарстмайстар узрадавана скамандаваў:

— Хутчэй яго сюды!

Неўзабаве з’явіўся і Ахрэм. Ён расказаў пра свае апошнія прыгоды.

— Выдатна, Ахрэм, ты малайчына, службу нясеш як належыць. Спадар старшы мытнік, і ты, Ахрэм, давайце на адну хвіліначку адыдземся. Спадары, прашу мяне выбачыць, у нас будзе канфідэнцыяльная гутарка, — звярнуўся да астатніх.

Галоўны распарадчык зняў бінокль з шыі і адкрыў футарал.

— Ахрэм, ты такую штучку бачыў?

— Так, бачыў, ваша высокаблагароддзе, у тых вайскоўцаў, якія сёння прыходзілі ў хату да майго сваяка. У дваіх на шыі віселі такія футаралы.

— А ты мог бы дастаць нам такія біноклі. Я збіраюся ў Пецярбург, намерваюся паказаць іх у міністэрстве маёмасцей. Гэта вельмі неабходная рэч для нашых вайскоўцаў. Лічу, гэтая справа дзяржаўнай важнасці. Як вы на гэта глядзіцё? — пытальна паглядзеў на мытніка.

— А як жа мыта? Без мыты я не магу. Усё, што да нас увозіцца, абкладаецца мытай, такі парадак, — скрывіўся як ад зубной болі мытнік.

— Разумею, гэта вельмі далікатная справа, і афіцыйна вы не можаце прапусціць, — хітнуў галавою обер-фарстмайстар. — Спадзяюся, вы прызнаеце важнасць дадзенага мною даручэння? Я таксама, як і вы, дзяржаўны чалавек, дараднік, у чыне палкоўніка. Я не клунак з мануфактурай прашу прапусціць. Каб у вас не было праблем, зробім так. Вы не будзеце бачыць, і не будзеце ведаць. Мой чалавек гэтым займецца. Мяркую, мы прынясём вялікую карысць Расійскай дзяржаве. Няхай на тым баку лічаць, што гэта звычайны кантрабандыст. Дамовіліся?

— Дамовіліся, — махнуў рукою мытнік. — Як я разумею, гэта ваш чалавек, а я яго не ведаю і ніколі не бачыў. Чым ён займаецца, не ведаю. Буду бачыць, адвярнуся, аб’ездчыкі зловяць, для выгляду паўшчуваю і адпушчу. Так можа быць?

— Вельмі добра. Прыемна было пазнаёміцца з разумным чалавекам. Давайце вернемся да астатніх. А ты, Ахрэм, вольны, дзякую за службу. Ідзі адпачывай і чакай наступных распараджэнняў.

— Слухаюся, ваша высокаблагароддзе, — збянтэжана ляпаў вачыма кантрабандыст.

У гэты час пад’ехаў улан. Прытрымаўшы жарабца, ён пачаў дакладваць.

— Панове, на тым боку трое вершнікаў у вайсковых мундзірах з белым сцягам просяцца да нас. Што загадаеце рабіць?

Обер-фарстмайстар узрадавана закрычаў:

— Выдатна! Рыгор, прывядзі мне і старшаму мытніку лепшых коней. Гаспадзін старшы мытнік і гаспадзін паручнік, давайце пад’едзем бліжэй да іх і пагутарым. Астатнім заставацца тут. Рыгор, вазьмі бінокль і схавай яго пад мундзір.

Надзеўшы белыя пальчаткі, іх высокаблагароддзе сеў на мышастага жарабца, і начальства адправілася ўслед за ўланам.

Сапраўды, поруч кардона конна стаялі тры афіцэры ў форме прускага войска.

Пад'ехаўшы да іх, обер-фарстмайстар лёгкім нахілам галавы выказаў знак прывітання. Прускія афіцэры таксама аддалі чэсць.

Першым гутарку распачаў обер-фарстмайстар:

— З кім маю гонар?

Руды афіцэр пачаў казаць на рускай мове з невялікім акцэнтам.

— Дазвольце прадставіцца. Гаспадзін маёр Крафт, — паказаў рукой на афіцэра ў пенснэ. — Обер-лейтэнант Зірман, — паказаў на іншага афіцэра, які знаходзіўся побач з Крафтам. — Паручнік Фэдэрс, — сам кіўнуў галавою.

Обер-фарстмайстар кожнаму з іх рабіў ветлівы паклон.

— Вельмі прыемна. Дазвольце, прадстаўлю сваіх афіцэраў.

Правай рукой паказаў на ўлана.

— Гаспадзін Бялькевіч, вайсковы паручнік. — Потым левай рукой паказаў на старшага мытніка. — Гаспадзін Грыцэвіч, начальнік заставы. — Обер-фарстмайстар Таран Фёдар Канстанцінавіч, галоўны распарадчык Белавежскай пушчы, палкоўнік Яго Імператарскай Вялікасці, — сам ветліва кіўнуў галавою. — Чым абавязаныя вашаму візіту?

Першым з іх боку пачаў гаварыць маёр Крафт:

— Гаспадзін палкоўнік, у нас зніклі тры афіцэры разам з ад'ютантамі. Мы жадаем даведацца, ці не заблудзіліся яны на вашай тэрыторыі?

— Гаспадзін Крафт, мы сёння раніцай затрымалі шасцярых паляўнічых, якія незаконна палявалі на зуброў. Падобна, яны не мясцовыя і вельмі неспрактыкаваныя паляўнічыя. Стралялі па зубрах і раззлавалі іх. Статак пакалашмаціў гэтых гора-паляўнічых. У выніку адзін з іх загінуў, другі атрымаў траўмы ног, конь, падаючы, прываліў. Ды і астатнія чацвёра вельмі моцна перапалохаліся. Мы ім своечасова прыйшлі на дапамогу. А вашых афіцэраў мы не сустракалі, затрыманыя паляўнічыя апранутыя ў цывільную адзежу.

— Гаспадзін палкоўнік, мы можам на іх зірнуць? — спытаў маёр.

— Зірнуць можна, чаму не? Запрашаю вас, толькі хутка, мы вельмі занятыя.

Трое вершнікаў перасеклі кардон і разам накіраваліся ў селішча.

Едучы, Крафт праз паручніка спытаў:

— Гаспадзін палкоўнік, скажыце, калі ласка, што ім пагражае за паляванне на зуброў.

— О-о-о! Гаспадзін маёр, паляванне на зуброў — гэта дзяржаўнае злачынства. Паводле нашых законаў паляваць на зуброў можна толькі з найвысокага дазволу самога імператара. А пагражае ім катарга ў Сібіры, пажыццёвая.

— У вас вельмі строгія законы. За паляванне на зуброў пажыццёвая катарга?

— Так, сурова, але што зробіш? Кажуць, раней зубры былі ўсюды, нават на вашай тэрыторыі, а захаваліся толькі ў нас. Усё дзякуючы нашым законам. Так што не нам судзіць у дадзеным выпадку аб строгасці закона, — суха сказаў галоўны распарадчык.

Шасцёра вершнікаў наблізіліся да калёс, на якіх панура сядзелі звязаныя арыштанты. Загінуты ляжаў на зямлі побач. Вакол іх стаялі стражнікі і стралкі. Убачыўшы обер-фарстмайстра, расступіліся, зрабіўшы праход. Іх высокаблагароддзе і тры прускія афіцэры спыніліся побач з арыштаванымі.

Пазнаўшы свайго камандзіра, затрыманыя людзі ажывіліся, з надзеяй у вачах у адзін голас загаварылі на нямецкай мове.

— Маўчаць! — выкрыкнуў палкоўнік Таран. — Я не даваў сваёй згоды размаўляць. Гаспадзін маёр, гэта вашы людзі?

— Так, гаспадзін палкоўнік, гэта мае людзі. Мы іх можам забраць? — дрыготкім голасам спытаў маёр прускага войска.

— Во-ой! Гаспадзін Крафт, спадзяюся, вы ўсведамляеце ўсю далікатнасць сітуацыі, — обер-фарстмайстар развёў рукамі. — Вашы афіцэры са зброяй у руках на нашай тэрыторыі? Гэта можа прывесці да сур'ёзнага канфлікту паміж нашымі дзяржавамі. Лічу, вас чакаюць цяжкасці ў кар'еры. Як вы маглі гэта дапусціць? Мы з вамі сур'ёзныя дзяржаўныя людзі, а вы мне галаву марочыце, што яны заблудзіліся. Ды яны ўжо шматкроць палявалі на зуброў. Мы за імі даўно сачылі. Цяпер гэтая справа прымае зусім іншы кірунак, — адначасова разводзіў рукамі і тэатральна круціў галавою обер-фарстмайстар.

— Гаспадзін палкоўнік, — цяжка уздыхнуў маёр. — Давайце мы спакойна абгаворым становішча, якое склалася. Дзе гэта можна зрабіць?

— Дамовіліся, толькі нябожчыка можаце адразу забраць, — хітнуў галавою Фёдар Канстанцінавіч. — Таксама дазваляю вам задаць некалькі пытанняў вашым падначаленым. Я за гэты час зраблю неабходныя распараджэнні.

Обер-фарстмайстар адышоў і паклікаў старшага стражніка.

— Ціхан, павязеш арыштантаў у Белавеж. Вышлі аднаго стралка да жандараў. Іх абавязак знайсці гэтага пройду Пупка. Што яны, дарма казённы хлеб ядуць? Уланы, на ўсялякі выпадак, павінны быць тут да раніцы. Прысутнасць уланаў астудзіць іх ваяўнічы прускі запал, а то яшчэ што-небудзь дурное замысляць.

Іх высокаблагароддзе падышоў да фурманкі і сказаў:

— Мы з вамі, гаспадзін Крафт, зойдзем у мясцовую піцейную ўстанову і там спакойна пагаворым.

Прускім афіцэрам нічога не заставалася, як падпарадкавацца просьбе обер-фарстмайстра. Прускі обер-лейтэнант у суправаджэнні двух уланаў паскакаў да кардона. Маёр Крафт, паручнік Фэдэрс і обер-фарстмайстар накіраваліся ў карчму Лейбеля.

Утрох прыселі за адзін стол. Іх высокаблагароддзе распарадзіўся прыгатаваць што-небудзь з ежы. Спытаў у Лейбеля:

— Галубчык, а французскі каньяк у цябе ў запасе маецца?

— Дзве бутэлькі, толькі яны ў мяне дома.

— Злётай дадому, прынясі абедзве.

Гаспадар карчмы знік за дзвярамі.

Палкоўнік Таран прыняў самавітую паставу і сказаў:

— Ну што? Даведаліся, гаспадзін Крафт, хто вінаваты ў смерці вашага чалавека?

— Так, гаспадзін палкоўнік, вашы людзі тут не прычым. Я падрабязна распытаў, яны сапраўды палявалі на зуброў. Статак зуброў накінуўся на іх, а вашы людзі ім толькі дапамаглі ўратавацца.

— Ну вось, з гэтага і пачнём нашу гутарку. Як будзем выходзіць з вельмі складанай для нас сітуацыі? — узвысіў голас галоўны распарадчык.

— Не буду перад вамі хаваць, — часта залыпаў вачыма маёр. — Два гады таму даслалі да мяне ў часць для праходжання службы аднаго лейтэнанта. Разгільдзяй поўны, але з вельмі шляхетнай і багатай прускай сям'і. Фрыдрых фон Вэбер, той, які з вяснушкамі на твары. Паляванне і гулянкі ў пустой галаве, але званні і служба яму даюцца лёгка. Мне ўсё жыццё прыйшлося гарбом усяго дамагацца. Пачынаў службу салдатам, за дваццаць гадоў дaслужыўся да маёра. А малады смаркач за тры гады дaслужыўся да капітана. Усё робяць сувязі і грошы.

Убег Лейбель. Паставіў дзве бутэлькі каньяку. Іх высокаблагароддзе ўзяў адну і пачаў разглядаць этыкетку, раскаркаваў, наліў у тры чаркі.

— Спадары, вып'ем за знаёмства.

Крафт працягваў:

— Дык вось, яшчэ два гады таму ў нас былі зубры, трохі, але былі. Гэты Фрыдрых выбіў усіх. Страляе і плаціць штраф, ізноў страляе, ізноў плаціць, плаціць наперад і страляе. Так усіх зуброў і знішчыў. Частка з іх знайшла прытулак на вашай тэрыторыі, але ён не супакоіўся. Знайшоў двух афіцэраў, якія за яго грошы глядзяць яму ў рот і пачаў з імі рабіць вылазкі да вас. Я яго неаднакратна папярэджваў, але…

— Гаспадзін Крафт, я гэта разумею, — перабіў яго обер-фарстмайстар. — Але як вырашаць там, наверсе, не ведаю. Іх лёс будуць вызначаць іншыя. Я таксама зорак з неба не хапаў, сваю кар'еру рабіў сам. Чын, званне, узнагароды, усё давялося дамагацца самому, сумленным і старанным служэннем Айчыне. У дадзенай сітуацыі мне толькі шкада, што з-за гэтых разгільдзяяў можаце пацярпець вы, гаспадзін Крафт.

Маёр цяжка уздыхнуў:

— Хоць я ні ў чым не вінаваты, а давядзецца падаваць у адстаўку. Але, галоўнае, каб паміж нашымі дзяржавамі засталіся добрасуседскія адносіны. Вось якая праблема мяне больш за ўсё хвалюе. А маёй кар'еры прыйшоў канец, гэта і так вядома.

Галоўны распарадчык пушчы спытаў:

— Гаспадзін маёр, хто гэты нябожчык?

— Звычайны добры салдат — дзяншчык Фрыдрыха фон Вэбера. Проста небараку не пашанцавала з камандзірам.

Лейбель падаў гарачую ежу: яечню з каўбаскамі. Обер-фарстмайстар прапанаваў выпіць за супакой душы нявінна загінуўшага салдата.

Стоячы, афіцэры моўчкі выпілі.

— Дзякую вам, гаспадзін палкоўнік, што вы так з павагай ставіцеся да простых салдат, — маёр Крафт добразычліва глядзеў на палкоўніка. — Гэтага Фрыдрыха не шкадуйце, трымайце яго на хлебе і вадзе, а калі будзе буяніць, хлеба можна і не даваць. Можа, гэты выпадак чаму-небудзь яго навучыць. Я напішу свайму начальству дакладную аб самавольнай вылазцы на чужую тэрыторыю. Што будзе далей, адкрыта скажу — не ведаю. Мяркую, бацькі Фрыдрыха падымуць свае сувязі. Грошай у іх досыць.

— Дазвольце задаць адно пытанне вашаму паручніку, — раптам змяніў тэму размовы галоўны распарадчык.

Палкоўнік кіўнуў.

— Гаспадзін паручнік, адкуль вы так добра ведаеце рускую мову?

— Мой дзядуля служыў у Расіі. Пачынаў яшчэ пры Паўлу I, сыне Кацярыны II. Скончыў службу пасля вайны з Напалеонам. У 1813 годзе вярнуўся дадому, прывёз з сабой рускую жанчыну Варвару. Пасля майго нараджэння яна ў мяне была нянькай, ад яе я і вывучыў рускую мову. Дзед заўсёды ганарыўся сваёй службай пры рускім двары. Гаварыў, што Расія вялікая краіна, вучы рускую мову, у жыцці спатрэбіцца, — адказаў паручнік.

— Дазвольце пацікавіцца: а якое мінімальнае пакаранне за паляванне на зуброў? — нечакана спытаў маёр.

— Нашым законам прадугледжана за забойства зубра выплата штрафу ў памеры дзвюх тысяч рублёў. Сёння застрэлена два зубры, таму вінаватыя абавязаны выплаціць чатыры тысячы рублёў. Але, паводле дакладных звестак, яны некалькі разоў палявалі на нашай тэрыторыі. Вядома аб адстрэле яшчэ траіх зуброў. Акрамя таго, былі выпадкі, калі з нашай тэрыторыі наганялі зуброў на вашу тэрыторыю. Зубры самі па сабе часта мігруюць, для іх кардона не існуе. Таму гэтая справа патрабуе ўсебаковага вывучэння.

У гэты час расчыніліся дзверы, на парозе стаяў Рыгор.

— Ваша высокаблагароддзе, прыбыла фурманка з-за кардону, жадаюць забраць нябожчыка.

Палкоўнік хітнуў галавою Рыгору і звярнуўся да афіцэраў:

— Спадзяюся, нашы кантакты з вамі будуць працягвацца, мы ўсё-такі суседзі. Жадаю вам поспеху ў вашай нялёгкай службе.

Обер-фарстмайстар падняўся з-за стала, падклікаў Лейбеля і працягнуў яму асігнацыю. Рыгору паказаў, каб захапіў неадкаркаваную бутэльку. Яны выйшлі на вуліцу і накіраваліся да фурманкі з нябожчыкам. Там жа знаходзілася брычка галоўнага распарадчыка. Загінуўшага на паляванні салдата перанеслі на калёсы з-за мяжы.

Обер-фарстмайстар аддаў чэсць прускім афіцэрам, паказваючы, што ім можна з’язджаць, паклікаў Рыгора да сябе ў брычку.

Фурман нацягнуў павады, брычка лёгка пакаціла прасёлкавай дарогай.

Фёдар Канстанцінавіч дастаў з-за сядзення сакву. Разгарнуў паперу; там былі каўбаса і рэзаны хлеб. Адкаркаваў на хаду бутэльку і разліў у паходныя кубкі.

— Рыгор, давай вып’ем за спрыяльны зыход справы. За тое, што ўсе нашы людзі жывыя і цэлыя. Дзякуй богу, гэтым разам пранесла.

Выпіўшы, палкоўнік Таран крэкнуў і рукамі адламаў кавалак каўбасы і працягнуў Рыгору:

— Ты не саромейся, закусвай. Прыедзем дадому, павялічу норму харчавання — мяса, дзякуй богу, хапае. Тушы зуброў трэба сёння ж разабраць і засаліць. Ты пераначуеш у Ціхана, а раніцай можаш вяртацца дадому.

Трохі памаўчаў, нібы абдумваючы нешта, спытаў:

— Ты мне па сакрэце скажы, вы з братам так спрытна і ў мінулы раз дзейнічалі? Я маю на ўвазе са старымі зубрамі. Ну, калі мы Шаурава бралі.

Рыгор разгубіўся і маўчаў, не ведаючы, што адказаць свайму высокаму начальніку. Сказаць праўду — можа пакрыўдзіцца.

Обер-фарстмайстар торгаў хвалісты вус і, хаваючы ўсмешку, глядзеў на яго дапытліва.

— Нешта нешматслоўны ты. Тут як ні скажы ўсё дрэнна, — нібы чытаючы яго думкі, працягваў: — Так, братка ты мой. У нашым жыцці вельмі часта бываюць складаныя моманты. Давай кубачак, яшчэ нальём па адной. А то пасля такіх спраў трэба трохі расслабіцца, каб усякае глупства не сніць.

Перакуліўшы кубак, Фёдар Канстанцінавіч працягваў гутарку:

— Я дагэтуль акрыяць як след не магу. Усё ўяўляю, як на цябе нясецца такая гара з вострымі рогамі. Ты бачыў, як зубр на рогі каня падняў? Нібы куль саломы падкінуў, толькі падковы ў паветры бліснулі, — галоўны распарадчык здзіўлена круціў галавою. — Скажу праўду. Зусім не чакаў, што яны такія жвавыя. Як спакойныя, здаецца, самая маруда. А раззлуй яго — каня абгоніць!

— І вельмі лёгка, — пагадзіўся Рыгор, аплятаючы каўбасу.

Перад Белавежам дагналі падводы з тушамі забітых зуброў і разам спыніліся ля брамы галоўнай сядзібы.

Обер-фарстмайстар даў апошнія на сённяшні дзень распараджэнні і накіраваўся да сабе ў хату.

На другі дзень раніцай Таран запрасіў да сабе лесапрамыслоўца Сімунда. З яго дапамогай гутарыў з кожным пруcкім афіцэрам і салдатам. Асабліва надаў шмат часу гутарцы з Фрыдрыхам. Фон Вэбер быў настолькі спалоханы, што аб усім распавёў падрабязна і без утойвання. Галоўны распарадчык пушчы склаў пратакол допыту, Фрыдрых яго падпісаў.

Фёдар Канстанцінавіч на працягу двух дзён вылічваў штраф за браканьерства і налічыў ажно пяцьдзесят тысяч рублёў.

Дакладную і прапановы пра суму штрафу запячаталі ў канверт і адправілі фельд’егерам у Пецярбург, у міністэрства маёмасцей.

Жандары, выконваючы даручэнне обер-фарстмайстра, наляцелі ў жыллё Пупка, але яго там не знайшлі. Зрабілі засаду, некалькі дзён вартавалі, але безвынікова, толькі нечакана зніклі два яго сабакі, якія сядзелі на ланцугах. Пупок як скрозь зямлю праваліўся.

Мо праз тыдні тры галоўны распарадчык атрымаў адказ з Прусіі. Сям’я Фрыдрыха фон Вэбера згаджалася заплаціць неабходную суму. Неўзабаве ў Белавеж прыбыў руды паручнік Фэдэрс з грашыма, і яны былі ўнесены ў казначэйства.

Обер-фарстмайстар дазволіў паручніку сустрэцца з арыштаванымі. Фрыдрыху былі надзетыя на ногі кайданы, іх пазычылі ў жандараў. Паручнік Фэдэрс падзякаваў палкоўніку Тарану за прадстаўленую магчымасць сустрэцца з арыштаванымі. Таксама паведаміў, што маёр Крафт працягвае несці службу і перадаваў прывітанне.

Обер-фарстмайстар запрасіў паручніка ў дом. За вячэрай яны дапазна гутарылі. Фёдар Канстанцінавіч яму растлумачыў, што чакае распараджэння з Пецярбурга, якое вызначыць лёс затрыманых. Паручнік Фэдэрс, у сваю чаргу, паведаміў, што сям’я Фрыдрыха фон Вэбера напісала аж некалькі лістоў і самому расійскаму імператару.

Па распараджэнні галоўнага распарадчыка пушчы Рыгор атрымаў у казначэйстве чатырыста рублёў. Гэтыя грошы ён павінен быў распалавініць і адвезці Ярашуку Ахрэму і Гарфінкелю Арону.

25 студзеня 1847 года з Пецярбурга прыбыў фельд’егер. Ён прывёз тэрміновую дэпешу аб памілаванні Фрыдрыха фон Вебэра і іншых прускіх афіцэраў, а таксама салдата, падпісаную самім імператарам Мікалаем I.

На наступную раніцу галоўны распарадчык у парадным мундзіры, у суправаджэнні атрада стралкоў і Ціхана адвёз арыштаваных на заставу. Пасля абеду на заставу з іншага боку прыбыў маёр Крафт і паручнік Фэдэрс. Палкоўнік Таран і маёр Крафт сустрэліся як сябры. Пагутарыўшы, палкоўнік перадаў пяць чалавек прускаму боку. Інцыдэнт быў цалкам вычарпаны.

## *16. Глеб*

Неўзаметку мінула пяць гадоў. За гэты час змянілася многае. Скончыўся тэрмін службы обер-фарстмайстра Тарана Фёдара Канстанцінавіча. Накрыўшы перад ад’ездам багаты стол і запрасіўшы сяброў і знаёмых, ён з жонкай і двума дзецьмі з’ехаў у Пецярбург.

Замест яго прыбыў малады обер-фарстмайстар, паручнік з цікавым прозвішчам Штральборн. Ён атрымаў ад свайго папярэдніка падрабязную інструкцыю, як трэба жыць і працаваць у Белавежскай пушчы, каб не загубіць даручаную справу. Ён яе і прытрымліваўся.

Было ў новага начальства адно захапленне — паляванне з сокаламі. Такое паляванне, зразумела, даступнае толькі людзям багатым і праводзілася яно на палях, дзякуй богу, не ў лесе.

Кожны аматар такога палявання трымаў на той час мноства разнастайных парод паляўнічых сабак, цэлыя атрады рэзідэнтаў з бедных дваран, часцей за ўсё адстаўных афіцэраў. У іх меліся адмыслова аб’езджаныя і прыстасаваныя для сакалінага палявання коні. У ранейшыя часы паляванне праводзілася амаль круглы год, але асабліва славіліся восеньскія аблавы на мядзведзяў, ваўкоў, кабаноў, ласёў і аленяў. Тады звычайна з’язджаліся ўсе суседзі, кожны

са сваімі сабакамі і рэзідэнтамі. Часам збіралася да сотні паляўнічых. Аблавы суправаджаліся markдзел рознымі забавамі і цягнуліся цэлымі тыднямі.

Бывала і так, што багатыя дваране са сваёю шматлікаю світаю рабілі гонар якому-небудзь сціпламу і не так багатаму шляхціцу, наязджалі ў яго фальварак, палявалі дзень, другі, з'ядалі ўвесь гадавы запас харчоў. Праўда, потым госці высылалі яму са сваіх маёнткаў усякага дабра.

Звяроў заганялі сяляне паўколам у адным крыле, другое займалі рэзідэнты, якія па сігнале спускалі сабак, каб турыць звера на паляўнічых. Самі конна скакалі за сабакамі, падбадзёрваючы іх гукам рагоў. Па адмысловым брэху ганчакоў добры паляўнічы пазнае, што за звер бяжыць наперадзе. Расстаўленыя на дарозе сяляне крыкам і грукам прымушаюць жывёліну бегчы ў той бок, дзе стаяць стралкі. Уся здабыча належыць гаспадару лесу. Паляванне на дзікага звера здзяйсняецца ўрачыста, са шматлікімі цырымоніямі.

Паручнік Штральборн адразу пераззнаёміўся з такімі аматарамі палявання. Увесь свой вольны час праводзіў на сакаліным паляванні, зрэдку наязджаючы ў галоўную сядзібу. Ведаючы, што ўсюды дасведчаныя людзі, у службу асабліва не ўлазіў. Яго маладая жонка сядзела дома і займалася выхаваннем дачок.

Стражнік Рыгор са сваім чатырохногім сябрам Рыкам працягваў спраўна служыць.

Рыгораваму сыну Глебу споўнілася пяць гадоў. Гэта быў жвавы і дапытлівы хлопчык. Прабабуля Марфа ўклала ў яго выхаванне ўсю сваю душу. Ён рос акружаны клопатам і любоўю.

Праз два гады пасля нараджэння Глеба ў сям'і стражніка нарадзілася дзяўчынка. Яе назвалі Алёнкай.

Неяк зімой у добрае надвор'е Рыгор вырашыў паказаць малому зуброў. Дарогай бацька паказваў сыну сляды дзікіх жывёл. Хлопчык з вялікім захапленнем слухаў бацькавы аповеды аб лясных жыхарах. Яго цікавіла ўсё: назовы дрэў, звяроў, птушак. Так неўзаметку яны падышлі да лясной паляны.

Рыгор падвёў Глеба да свайгоназіральнага пункта. Падсадзіў сына на галіны, ускараскаўся на дрэва сам. Зручна размясціліся ў буданчыку на жэрдках.

Рыгор адной рукой абняў сына за плечы, другой паказаў кірунак, куды трэба глядзець.

Пяцігадовы Глеб упершыню бачыў зуброў. Яго маленькае сэрца ад захаплення моцна і радасна грукала. Хлопчык глядзеў вялікімі вачыма на зуброў, і былі ў гэтым позірку дапытлівасць і цікаўнасць.

— Тата, а іх там многа? — ён спрабаваў палічыць, загінаючы пальцы на руках, як яго вучыла бабуля Марфа. Але ў яго не хапіла пальцаў, і ён збіўся.

— Многа сынок, павінна быць дваццаць чатыры, — адказаў Рыгор, паспрабаваў сам пералічыць, атрымалася толькі дваццаць.

— Чатырох адгэтуль не відаць… Недзе за стагамі.

— А нам можна падысці бліжэй? — спытаў сын.

— Нельга, Глеб, гэта небяспечна. Могуць раззлавацца і кінуцца на нас.

— Раскажы мне пра зуброў…

Рыгор усміхнуўся.

— Слухай… Зубр чуе чалавека за сто і больш крокаў. Але зубр ніколі не ўцякае, наадварот, спакойна ідзе насустрач, і калі сыдуцца, ён спыняецца і не кранаецца з таго месца датуль, пакуль чалавек не абыдзе яго.

Глеб уважліва слухаў.

— Аднойчы наш стралок узімку вёз зубрам сена на санях. Сядзеў сабе спакойна наверсе, можа, нават задрамаў. Зубр пачуў сена, падкраўся ззаду, запусціў рогі ў сані і выкінуў з іх чалавека разам з сенам. Потым з'еў сена і спакойна пайшоў сабе.

— А дзядзька моцна спалохаўся?

— Спалохаўся! Конь таксама спалохаўся! Во ўцякалі, — весела сказаў сыну бацька.

Рык спакойна сядзеў пад хвояй і разглядаў зуброў. Гэта было яго звыклае месца. Калі яго гаспадар сядзеў на сваім назіральным пункце, ён заўсёды быў побач унізе і ахоўваў яго.

Да Глеба ён звык не менш чым да гаспадара. Як толькі маленькі чалавечак пачаў поўзаць, а потым хадзіць, Рыку даводзілася часам цярпець некаторыя нязручнасці. Гэты маленькі чалавечак цягаў яго за вушы, дзёр за шкуру, спрабаваў садзіцца конна, дужацца. Але Рык гэта мужна і цярпліва пераносіў. Нават калі ён забіраў у яго костку з міскі, сабака не дазваляў сабе нават гыркаць. Ставіўся, як да свайго шчанюка, не звяртаючы ўвагі на яго свавольства. Праўда, калі гэты чалавечак падрос, ён ужо абдымаў і гладзіў Рыка. Яны былі сапраўднымі сябрамі.

Зуброў сабака не чапаў. Ён зразумеў, што яго гаспадар нейкім чынам звязаны з гэтымі жывёламі. Інстынкт яму падказваў, што ахоўваць статак гэта і яго абавязак.

Рык убачыў, як ад статка аддзяліўся вялікі зубр і накіраваўся ўперавалку ў іх бок. Гэта быў яго колішні знаёмы.

Сабака пабег насустрач. На сярэдзіне паляны яны сустрэліся, адзін аднаго абнюхалі.

Убачыўшы гэта, Глеб прыйшоў у захапленне. Велізарны дарослы зубр быў побач, сабака каля ляснога волата здаваўся такім маленькім. І аказваецца, гэты волат сябруе з яго Рыкам.

— Тата, а чаму Рыку можна падысці блізка да зубра? — здзіўлена спытаў Глеб.

Прыйшлося распавесці сыну ўсё з самога пачатку.

— Мы з дзядзькам Ціханам назвалі гэтага зубра Хрэснікам. Усё, сынку, давай злазіць з дрэва і збірацца дадому.

Па вяртанні Марфа і мама дапамагалі Глебу распранууцца, сам ужо не мог. Трохі з’еўшы, пачаў церці маленькімі кулачкамі вочы. Як толькі лёг, праз хвіліну спаў без задніх ног.

Раніцай наступнага дня, калі яшчэ яго сын працягваў спаць, стражнік адправіўся ахоўваць зуброў.

Праз вярсту заўважыў, як Рык насцярожыўся. Поўсць на карку ўздыбілася, падабраў хвост, спыніўся і пачаў прынюхвацца. Яго мускулы напружыліся і бязгучна ашчэрылася пашча. Гэты бязгучны выскал быў страшнейшы за рык і брэх.

Стражнік прадбачліва зняў з пляча стрэльбу і агледзеўся. Адчуў, як трывожны холад прабег па спіне. Прадчуванне небяспекі паступова мацнела.

Сабака гучна і папераджальна гыркнуў. У адказ з лесу данёсся глухі хрып.

Мядзведзь? У гэтую зімовую пару? Ранавата, падумаў стражнік. Сустрэча з галодным мядзведзем нічога добрага не абяцала. Мядзведзі-бадзягі вельмі небяспечныя. Згаладаўшыся, яны губляюць усякую асцярогу і паводзяць сябе як сапраўдныя бандыты.

Стражнік напружана ўзіраўся — прыгатаваўся да нападу.

Мядзведзь не прымусіў сябе доўга чакаць. Прычулася сапенне і бурчанне. Раздаўся трэск… і велізарны цёмны сілуэт звера апынуўся зусім недалёка.

Сабака апантана заекатаў, Рыгор ускінуў стрэльбу і націснуў цынгель. Калі парахавы дым рассеяўся, мядзведзь на задніх лапах ішоў у напрамку стражніка, расставіўшы пярэднія лапы так, нібы жадаў абняць чалавека. На сабаку, які хапаў яго ззаду, мядзведзь не звяртаў увагі. Быў ён, здавалася, невымернага

росту з трохкутнай цяжкай, як валун, галавою. Шырока разяўленая пашча звера вывяргала страшныя гукі, ад якіх у Рыгора па спіне папаўзлі мурашкі.

Божа!.. Які вялікі!.. Які пачварна вялікі!..

Перазараджваць стрэльбу часу не было. Ён адкінуў яе і выхапіў з кайстры пістоль — стрэліў проста ў грудзі.

Навакольны лес здрыгануўся ад лютага рову.

Чалавек і звер глядзелі адзін аднаму ў вочы.

Рыгор на імгненне адчуў, як ледзянымі іголкамі праціяло ўсё цела, а ў сэрцы ўзнікла захапленне барацьбой. Чалавек таксама быў ужо звер. Ён не баяўся, не разважаў, толькі як і яго далёкія продкі адчуваў салёны смак крыві ў роце.

Стражнік выхапіў другі пістоль і стрэліў дробам у шырока разяўленую пашчу. Мядзведзь закруціў галавой, але працягваў ісці на чалавека.

Рыгор намацаў на поясе дзяржальна нажа, выцягнуў яго. Закрычаў гарлавым, страшным крыкам і кінуўся на звера, уцэліў сталь туды, куды і хацеў — пад левую верхнюю лапу, у жаўтаватую поўсць і адскочыў убок. Падаючы, адчуў гарачае смуроднае дыханне звера і пачуў трэск кажуха пад доўгімі кіпцюрамі.

Паранены звер зваліўся на снег і захрыпеў. Крывавая пена валіла з пашчы. Сабака ашалела працягваў рваць мядзведзя за заднія лапы. Яго нос і рот былі забітыя мядзведжай поўсцю.

Рыгор, трымаючы ў руцэ акрываўлены нож, узняўся на ногі.

У некалькіх кроках ад яго, прыціснуўшыся да зямлі, шырока раскінуўшы лапы, ляжаў мядзведзь. Яго гарбатая спіна і велізарная касматая галава ўздрыгвалі. Ён, нібы ў сне, ціха бурчэў. У любы момант мядзведзь мог яшчэ ўскочыць.

Стражнік кінуўся да стрэльбы, пачаў яе зараджваць. Адчуў, як ад гарачкі ў яго трасуцца паджылкі. Каб не зваліцца, прыхінуўся да хвоі. Зарадзіў стрэльбу, загнаўшы ў ствол кулю. Яго пачало ўсяго трэсці. З жахам думаў, чым усё гэта магло скончыцца. Стражнік разумеў, што яшчэ хвіліну таму ён знаходзіўся паміж жыццём і смерцю. Яшчэ аднаго стрэлу не спатрэбілася. Мядзведзь паступова заціхаў. Ад яго зыходзіў смуродны пах. Толькі што вылез з берлагу і яшчэ не паспеў як след выветрыцца. Мусіць, восенню недастаткова нагуляў тлушчу, вось і прачнуўся раней часу.

Трэба вяртацца дадому, запрагаць Каштана і забіраць здабычу, а то могуць з'явіцца няпрошаныя госці — ваўчугі.

Ён падышоў да мядзведзя, нахіліўся і адарваў ад нібыта сталёвых кіпцюроў, загнутых на канцы, жмут свайго кажуха. Прыклаў да таго месца на плячы, дзе была дзірка.

— Прыйдзецца латаць, нічога не зробіш, — сумна сказаў услых.

Клікнуў сабаку і накіраваўся ў зваротным напрамку.

Дома стражнік выцягнуў некалькі тоўстых дошак, узяў вяроўку, сякеру; усё гэта пагрузіў у сані. Калі запрог Каштана, на парозе з'явіліся Малання з Глебам. Усе разам селі, і жарабец пабег лясной дарогай.

Глеб не змаўкаў:

— Тата, распавядзі, як ты застрэліў мядзведзя?

— Як, як? Вельмі проста, стрэліў са стрэльбы і забіў.

— Рыгор, у цябе кажух на правым рукаве разадраны, — з трывогай у голасе сказала Малання.

— Учапіўся дзесьці, вось і парваў…

— Ты мяне не падманваеш? Ці не мядзведжых лап гэта справа?

— Не, не мядзведзь, за сук дзесьці зачапіўся, — каб не палохаць, зманіў Рыгор. — Не перашкаджай, дай падумаць, як лепш даехаць.

Неўзабаве Рыгор спыніў жарабца.

— Малання, вазьмі вяроўку і сякеру, а я распрагу каня, — скамандаваў жонцы.

Каштан баязліва касавурыўся фіялетавым вокам на мёртвага звера і нервова перабіраў капытамі.

Стражнік звязаў вяроўкай мядзведзю заднія лапы, затым канцы вяроўкі прывязаў да гужоў. Узяўшы жарабца за аброць, тузануў. Мядзведзь пакідаў крывавы след на снезе. З лесу выцягнулі хутка, складаней было завалачы мядзведзя ў сані. Тады і спатрэбіліся дошкі.

— Без цябе, Глеб, мы б не справіліся. Скажы? — Рыгор весела падміргнуў Маланні.

Глеб меў ганарлівы выгляд. Малання ўзяла малога за руку, і яны пешшу пайшлі за санямі.

## *17. Найсакрэтна*

Прайшлі гады. Рыгораваму сыну Глебу споўнілася чатырнаццаць. Разам з бацькам ён хадзіў у лес, дапамагаючы яму ва ўсім. Глеб дасканала ўмеў карыстацца зброяй. У яго паляўнічых трафеях ужо былі застрэленыя ваўкі, ласі, дзікі, алені і казулі. Ён ведаў пра лес усё, што ведалі яго продкі, што неабходна ведаць, каб жыць з прыродай у згодзе.

Як і належыла ў іх родзе, калі яму споўнілася дзесяць гадоў, бацька прывёў яго да святога дуба і каменя. Перад наведваннем узяў з яго слова, што ён нікому, акрамя сваіх сыноў, не выкрые таямніцу. З яго вырастаў сапраўдны памагаты бацьку. Як калісьці і яго бацька, ён павінен будзе пайсці вучыцца на стралка. У сям'і Рыгора было ўжо чацвёра дзяцей: нарадзіліся яшчэ дачка Марыя і самы малодшы сын Павел.

Адной вясною ціха памерла бабуля Марфа. За дзень да смерці яна яшчэ раз здзівіла стражніка сваёй адданасцю мужу-нябожчыку.

Раніцай яна не выйшла снедаць. Калі Малання зайшла ў пакой, старая папрасіла яе прысесці побач. Спакойным голасам яна паведаміла, што памірае. Папрасіла паклікаць Рыгора.

Узяла свой вузельчык, сабраны на смерць, дастала адтуль ільняную кашулю і выпетралую сукенку. Ціхім і спакойным голасам сказала, каб пасля смерці кашулю надзелі на яе. У гэтай кашулі яна правяла з мужам сваю першую шлюбную ноч. А сукенку павінны пакласці ў труну побач. У ёй яна брала шлюб у царкве.

Гэта было яе апошняе жаданне. Пахавалі старую побач з мужам.

Сабака Рык быў ужо стары, але працягваў старанна несці сваю цяжкую службу. На яго рахунку было больш як трыццаць мацёрых ваўкоў. У смяротных сутычках з імі ён набыў велізарны досвед — ведаў усе ваўчыныя звычкі і хітрасці.

Цікава, што ў Рыка дагэтуль захавалася сяброўства з Хрэснікам. У дрымучым лесе часта можна было бачыць, як старога калматага зубра суправаджае белы сабака. Увесь статак прывык да частага з'яўлення сярод іх гэтага сабакі, звяры ўжо не звярталі на яго ўвагі. Толькі самкі зуброў з маладымі зубранятамі апускалі рогі, калі Рык прабягаў паўз іх цяляткаў.

У студзені 1860 года ў цэнтральную сядзібу з Пецярбурга прыбыў фельд'егер. Ім быў дастаўлены тэрміновы загад з міністэрства маёмасцей. Калі галоўны распарадчык Белавежскай пушчы паручнік Штральборн у сваім працоўным кабінеце яго распячатаў, ён ледзь не страціў мову.

Яму паведамлялася, што ў пачатку восені ў Белавежскую пушчу прыбудзе сам імператар усея Русі Аляксандр II на паляванне. Неабходна таемна, каб не

прыцягваць лішняй увагі, падрыхтаваць Белавеж да прыезду яго са шматлікай світай.

Паручнік Штральборн паглядзеў на размашысты подпіс міністра дзяржаўных маёмасцей генерала Зялёнага.

— Гэта не жарт, гэта сур'ёзна, — прамармытаў паручнік і цяжка ўздыхнуў.

Як усё ў гэтым жыцці пераменліва! Жыў сабе спакойна, без напругі, а тут на табе, калі ласка, сам бацюхна цар едзе, ды яшчэ са шматлікай світай. Світу я вашу добра ведаю — давай, думаў паручнік, ім асобныя раскошныя нумары, залы для танцаў і забаў усякіх. Ну і што цяпер загадаеце рабіць? Дзе я ўсё гэта вазьму? На ўсю Белавеж толькі адзін будынак прыстойны, гэта дом-кантора лесапрамыслоўца Сімунда.

На вуліцы пачынала шарэць. Паручнік Штральборн падняўся з крэсла і запаліў на стале свечку. Яго ўвагу прыцягнула дапіска на лісце дробным почыркам з правага боку.

Доўга ўзіраўся і па складах прачытаў услых:

— «Копія гарадзенскай палаце дзяржаўных маёмасцей». О! Дзякуй богу, не аднаму мне давядзецца ўсё арганізоўваць, — ён выпусціў з рук паперу і апусціўся ў крэсла.

Праз дзень брычка на палазах у суправаджэнні дзесятка добра ўзброеных стралкоў па глыбокім снезе несла галоўнага распарадчыка Белавежскай пушчы ў губернскі горад Гародню. Да месца прызначэння яны прыбылі толькі вечарам другога дня.

Разам са старшынёй гарадзенскай палаты дзяржаўных маёмасцей яны вырашылі ў цэнтры галоўнай сядзібы ўзвесці вялікі будынак, а вакол яго збудаваць прыгожыя драўляныя хаткі для світы. Наяўныя хаты таксама пераўтварыць. Унутраным убранствам хат зоймецца гарадзенская палата дзяржаўных маёмасцей. Нічога іншага, лепшага, на дадзены момант яны не прыдумалі.

Раніцай галоўны распарадчык адправіўся ў зваротную дарогу.

На наступны дзень па прыездзе обер-фарстмайстар наведаў лесапрамыслоўца Сімунда.

— Сёлета збіраемся пераўладкаваць Белавеж. Усё будаўніцтва будзе аплачваць наша казначэйства. Так што, спадар Сімунд, у вас ёсць добрая магчымасць зарабіць прыстойныя грошы, — сказаў паручнік.

— Ваша высокаблагароддзе, а чаму такая паспешлівасць? Што, чакаецца наведванне нашага з вамі месца пражывання кімсьці вельмі важным, можа, самім імператарам? — здзіўлена спытаў Сімунд.

— Нават не смейце ўслых прамаўляць гэта, спадар Сімунд, — паручнік спалохана замахаў рукамі. — Разумееце? Спадзяюся, вы разумееце.

— Ваша высокаблагароддзе, з задавальненнем прымаю вашу прапанову. Дзякую за аказаны мне гонар, — хітры Сімунд падняўся з мяккага крэсла і зрабіў невялічкі паклон паручніку.

— Можаце запрасіць дадатковую колькасць людзей, розных адмыслоўцаў: цясляроў, сталяроў. Цяпер зіма і за гэты час мы разам можам падрыхтаваць, так сказаць, план. Усё павінна рабіцца так якасна, як для каранаваных асоб. Але аб гэтым нікому ні слова, — вочы паручніка загадкава і спалохана глядзелі на Сімунда.

— Заўтра ж ушчыльную займуся вашым даручэннем. Людзей, якіх неабходна запрасіць, ведаю. Толькі ўсё гэта будзе залежаць ад вашага фінансавання, — хітравата бліснуў вачыма лесапрамысловец.

Падсохлі дарогі, і з навакольных селішчаў у пушчу пацягнуўся працоўны люд. Насельнікаў у Белавежы з кожным днём большала, прыходзілі ўсё новыя і новыя людзі. Працы хапала ўсім, работы было па горла.

З-пад Высока-Літоўска вазамі прывозілі каменне, сартавалі і ўкладвалі ў кучы. За камяні плацілі тут жа, на месцы. Прывезеным жвірам з камянямі засыпалі лужыны, раўнялі дарогі, будавалі масты.

Праца кіпела цэлымі днямі, з невялікімі перапынкамі на абед. Па распараджэнні обер-фарстмайстра падлоўчыя прывозілі тушы ласёў і дзікоў. Быў збудаваны падстрэшак з лаўкамі і сталамі. Сілкаванне нанятых працаўнікоў было за казённы кошт. Шматлікія работнікі ўпершыню ў жыцці маглі наядацца ўволю, таму і працавалі з вялікай стараннасцю.

Канец красавіка выдаўся сонечны і цёплы. На складах, поруч тартака Сімунда, пад вясновым сонцам падсыхаў лес. Перш за ўсё пачалі ўзводзіць велізарны будынак. З чатырох бакоў былі прыбудаваны назіральныя пляцоўкі, упрыгожаныя разьбянымі парэнчамі. Усё гэта майстравалася з парод драўніны розных гатункаў, будынак атрымаўся вельмі прыгожы.

Вакол леснікоўства дадаткова збудавалі меншыя дамкі, але яны не саступалі прыгажосцю і вытанчанасцю.

Ужо да сярэдзіны лета Белавеж было не пазнаць. Невялічкая вёска на вачах ператваралася ў шматлюднае мястэчка. Калі прыбыў старшыня гарадзенскай палаты з інспекцыяй, ён быў здзіўлены зменамі.

Параіўшыся з паручнікам Штральборнам і лесапрамыслоўцам Сімундам, старшыня вырашыў будынак леснікоўства пераўтварыць у стылізаваную паляўнічую хату. Былі закуплены і завезены лепшыя ўзоры трафеяў: рогі, пудзілы разнастайных жывёлін, якія насяляюць пушчу. На дыванах вісела ўсялякая паляўнічая зброя; нажы, пікі, лукі, арбалеты і сучасныя стрэльбы. Былі і рэдкія экспанаты, годныя знакамітых музеяў. Акрамя таго, на сценах віселі карціны са сцэнамі палявання, дзе сабакі наганялі дзікіх жывёлін і ўступалі з імі ў сутычку. Пачалі завозіць старадаўнюю мэблю, упрыгожаную разьбой, і ўсё неабходнае для выгоды пражывання.

Сімунд спачатку ўклаў свае грошы, а цяпер атрымліваў з казны вялікія дывідэнды. Кожны дзень разам з паручнікам абыходзіў будаўнічыя пляцоўкі. Пад шумок адрамантаваў і сваю кантору. Колькі пры гэтым паклаў разам з галоўным распарадчыкам у сваю кішэнь, гісторыя замоўчвае. Але вынікам іх дзейнасці, уключаючы казначэйства і гарадзенскую палату, усе засталіся задаволеныя.

Не ў крыўдзе былі і майстры. Добрыя працаўнікі зараблялі ад сямі да дзевяці рублёў, а працаўнік з канём, які займаўся перавозкай камянёў і лесу мог атрымаць да дваццаці рублёў у месяц.

У пачатку верасня галоўны распарадчык пушчы склікаў сваіх падначаленых. Трэба было параіцца, як лепш сустрэць гасцей і чым іх забаўляць. Былі выслуханыя розныя прапановы. Але патрабавалася нешта такое, што магло б уразіць, нешта такое, чаго высокія госці ў жыцці не бачылі.

Ціхан сказаў:

— Ваша высокаблагароддзе, у нас ёсць прапанова. На абходзе майго брата маецца ўчастак нерушы. Там вельмі шчыльна растуць дрэвы. Іх галіны і кроны перапляліся так, што нават у сонечны дзень стаіць цямрэча. Мы можам зрабіць невялікі, у рост чалавека, тунель-галерэю. Лічым, нічога падобнага яны не бачылі. Паверце, на іх гэта зробіць уражанне.

— Я так і ведаў, што вы прыдумаеце што-небудзь, — узрадавана сказаў паручнік. — Нездарма мой папярэднік вас рэкамендаваў як самых надзейных людзей. Давайце, не адкладаючы, заўтра раніцай разам туды з’ездзім.

— Ваша высокаблагароддзе, гэта будзе зрабіць вельмі няпроста. Тамака вам давядзецца поўзаць, прашу прабачэння, на карачках, — усміхнуўся Ціхан.

— Нічога, Ціхан, ты думаеш я так ніколі не поўзаў? — іранічна сказаў обер-фарстмайстар. — Хе-хе! У гэтым жыцці даволі часта бывае так, што

не толькі ракам папаўзеш, але, калі трэба, на галаве навучышся стаяць. Гэта, браткі, жыццё.

Як і дамаўляліся, назаўтра браты стаялі каля дома обер-фарстмайстра. Паручнік Штральборн запрасіў іх зайсці да яго ў кабінет.

Пераступіўшы парог, Рыгор уважліва агледзеўся. Усё ў кабінеце было як і пры былым іх любімым начальніку, за выключэннем таго, што на сцяне вісеў партрэт другога цара. Вочы з партрэта пільна глядзелі на братоў, нібы вывучаючы, што яны маюць супраць Расійскай імперыі.

Камердынер прынёс каву і паставіў яе на столік каля акна.

Рыгор неўзаметку ўсміхнуўся. Яго раптам апанавалі ўспаміны пра ранейшага начальніка. Цікава, як ён цяпер жыве ў Пецярбургу? Ці ўспамінае гады, праведзеныя ў Белавежскай пушчы? Пасля таго, як обер-фарстмайстар палкоўнік Таран Фёдар Канстанцінавіч пакінуў галоўную сядзібу, Рыгор першы раз трапіў у гэты кабінет.

Пасля кавы паехалі на месца. Хутка брычку давялося пакінуць і далей ісці пешшу. З кожным крокам лес станавіўся гусцейшы. Даводзілася часта нагінацца. Хоць на вуліцы стаяла сонечнае надвор’е, паступова іх пачынаў абступаць змрок.

— Усё, ваша высокаблагароддзе, далей давядзецца паўзці, — галосна сказаў Рыгор.

Обер-фарстмайстар спачатку рухаўся на каленях, потым лёг на зямлю і пачаў паўзці за Рыгорам, ззаду чмыхаў Ціхан. Яны прапаўзлі прыкладна крокаў сто. Вакол панавала цямрэча. Ад зямлі цягнула волкасцю, перагнілым лісцем і мокрай драўнянай карой.

У цемры пачуўся голас Рыгора:

— Ну, як вам, ваша высокаблагароддзе? Паўзем далей, або годзе?

— Не, Рыгор, даволі, — дрыготкім голасам сказаў обер-фарстмайстар. — Я меркаваў, вы мне казкі расказваеце, гэтага не можа быць. А вось пераканаўся, што такое магчыма, цемрадзь самая сапраўдная. Я вас не бачу. І пры гэтым вакол цішыня якая, нават птушак не чуваць. Страхоцце!

— Тады паўзём назад, ваша высокаблагароддзе? — крэкнуў Ціхан.

— А ў які бок паўзці, я не арыентуюся? — пачуўся злёгку спалоханы голас паручніка Штральборна.

— Ваша высокаблагароддзе, паўзіце за мной, на шоргат, — весела адказаў старшы стражнік.

— Ты, Ціхан, не спяшайся, — прастагнаў паручнік.

— Не бойцеся, ваша высокаблагароддзе, мы вас тут не кінем, — жартаўліва адказаў Ціхан.

— Я не баюся, але не магу ўцяміць, адкуль вы ведаеце, куды рухацца? Хацеў у цябе, Ціхан, удакладніць, якую плошчу мае гэты дрымучы ўчастак?

— Калі паўзці, за дні тры перапаўзём, — смеючыся, адказаў Ціхан.

Калі канчаткова ўсталі на ногі і атрэсліся ад бруду і іголак, обер-фарстмайстар зірнуў уверх. Над верхавінамі дрэў яскрава зіхацела сонца. Паручнік Штральборн нават зажмурыўся.

— Та-ак, бываюць жа ў прыродзе такія цуды. Ваша прапанова прымаецца цалкам. На гэтым месцы прасячыце тунель у чалавечы рост, крокаў на сто, сто пяцьдзесят, не больш. Ну і шырынёй так, каб два чалавекі маглі размінуцца. А нам і трэба зрабіць так, каб важныя госці доўга ўспаміналі наведванне Белавежскай пушчы, — адначасова разважаў і даваў даручэнне галоўны распарадчык.

## *18. Царскае паляванне*

За тры тыдні да прыезду цара ў Белавеж прыбыў міністр дзяржаўных маёмасцей генерал Зялёны. Для арганізацыі палявання разам з ім прыехаў егермайстар граф Ферзен.

Рыгор знаходзіўся ў хаце і разам з жонкай рыхтаваў новы парадны мундзір да прыезду высокіх гасцей. Рык, лежачы на сваім дыванку, раптам прыўстаў і ціха гыркнуў, даючы знак, што з'явіўся хтосьці чужы. Рыгор зірнуў праз акно, там малады стралок прывязваў каня.

Стражнік выйшаў на ганак.

— Што здарылася? — спытаў насцярожана.

— Ваш брат прасіў мяне вам перадаць, каб вы неадкладна прыехалі да яго, зараз жа, — перадаў просьбу Ціхана стралок.

— Зразумела, хадзі ў хату, перакусіш, а я хутка, — сказаў стражнік.

У братавай хаце Рыгора чакала неспадзяванка.

Насустрач яму з-за стала падняліся двое мужчын.

— Ваша высокаблагароддзе, вы? Добрага вам здароўечка, спадар оберфарстмайстар! — ад нечаканасці Рыгор ускрыкнуў, ліха пстрыкнуў абцасамі.

Насустрач яму, шырока раскінуўшы рукі для абдымкаў, ішоў былы оберфарстмайстар Таран Фёдар Канстанцінавіч. Яны моцна, як даўнія сябры, абняліся. З шчаслівымі тварамі селі за стол. Іх высокаблагароддзе напоўніў чаркі.

— За сустрэчу, — мужчыны чокнуліся і адным махам выпілі.

Ціханава жонка ставіла на стол талеркі з гарачымі мяснымі стравамі.

— Ну што, Рыгор, не чакаў майго прыезду? — глядзеў дапытліва былы распарадчык.

— Так, ваша высокаблагароддзе, не чакаў, ніяк не чакаў — проста не верыцца. Раскажыце, як вы тама жывяце, як жонка, дзеткі? — усё яшчэ не верачы вачам гарачыўся здзіўлены Рыгор.

— Жыву ў Пецярбургу, купіў невялікі мур. Выйшаў у адстаўку, але працягваю працаваць у міністэрстве маёмасцей дараднікам па агульных пытаннях. Хацеў з новага года пайсці цалкам на адпачынак, але даведаўся аб арганізацыі палявання ў Белавежскай пушчы. Міністр дзяржаўных маёмасцей генерал Зялёны прапанаваў суправаджаць яго ў паездцы. І я з радасцю пагадзіўся; калі яшчэ атрымаецца сустрэць старых сяброў. Мы ўжо колькі — гадоў дзесяць як не бачыліся. Прызнаюся, часта ўспамінаю вас і пушчу, бо тут мінулі мае лепшыя гады. А ў сталіцы што, там мітусня, няма жывой працы, так, вожкаюся з паперкамі. Жонка таксама ўспамінае Белавеж. Гэтых жанчын немагчыма зразумець. Ніяк не чакаў, калі жылі тут — імкнулася ў Пецярбург, пераехалі туды — нудзіцца па пушчы. Прасіла перадаць вам і вашым супружніцам ад яе паклон. Дзеткі падраслі, у іх свае сем'і. Дачка выйшла замуж за афіцэра і з'ехала да яго ў Цвер. Сын жыве са мною, у дадзены момант канчае Пецярбургскі універсітэт…

Рыгор уважліва слухаў і разглядаў іх высокаблагароддзе. Вочы былі, як і раней з агеньчыкам, толькі вакол з'явілася мноства дробных маршчын. Валасы на галаве обер-фарстмайстра зусім пасівелі, з'явіліся залысіны над скронямі, але пышныя сівыя вусы, як і калісьці, былі ліха падкручаныя ўверх. Сядзеў за сталом трохі згорбіўшыся. Здаецца, мінула толькі дзесяць гадоў, а як моцна чалавек змяніўся — пастарэў. Рыгор глядзеў на яго з жалем. Усё той самы румяны, сівы, добразычлівы — харошы рускі чалавек.

Для Рыгора і Ціхана ён быў усё такім жа родным і блізкім, настолькі моцна яны паспелі прывязацца за сумесныя гады службы.

— Што гэта я ўсё аб сабе распавядаю, як ты жывеш, як твой хвалёны сабака, жывы яшчэ? — вочы былога обер-фарстмайстра свяціліся цеплынёй.

— Аг-га, ваша высокаблагароддзе, Рык яшчэ жывы. Праўда, зубы ўжо губляе, але службу цягне. З тых часоў, як вы з’ехалі, у мяне нарадзілася яшчэ двое дзяцей. А ў астатнім усё як і калісьці. Жыву, службу нясу, асабліва распавесці і няма чаго.

— А новы начальнік як? На службе не прыгнятае?

— Не, усё ў парадку. Зразумела, з вамі не параўнаць — але жыць можна, — уступіў у гутарку Ціхан.

— Адкрыю вам сакрэт, — Фёдар Канстанцінавіч нахіліўся над сталом. — Калі я здаваў справы, строга, вельмі строга папярэдзіў яго, каб вас не чапаў.

— Дзякуй, ваша высокаблагароддзе, нядаўна ён нам пра гэта сам прызнаўся, — з усмешкаю на вуснах сказаў Ціхан.

— Так, гляджу ў вас тут усё змянілася, — былы распарадчык адкінуўся на спінку крэсла. — Галоўную сядзібу не пазнаць. Вярнуся ў Пецярбург, распавяду жонцы — не паверыць. Эх, добрыя вы мае, калі б толькі ведалі, як я хваляваўся, калі сюды ехаў. Апошнюю ноч нават заснуць не змог. І ўявіце сабе, ні аднаго дрэннага выпадку не ўзгадаў, толькі ўсё дабрае. Залаты быў час, але яго ўжо не вярнуць. Вось убачыў вас і быццам памаладзеў, гадоў гэтак на дваццаць. Як выдатна, што я зноў тут з вамі. Бо вы для мяне як родныя дзеці. Я вас памятаю яшчэ бязвусымі юнакамі, калі вы ў будачцы на варце стаялі… — А ў Пецярбургу таго няма, — Фёдар Канстанцінавіч зайшоўся моцным працяглым кашлем. — Тамака ў міністэрстве ўсе з падхалімскай усмешкай кланяюцца, а думкі ў іх адны: каб ты стары хутчэй спруцянеў і вызваліў месца для кар’ернага росту, — адстаўны обер-фарстмайстар нечакана злосна грукнуў пяцярнёю па стале і развёў рукамі. — Тут такога няма. Нават калі і разгон вам маладым даваў, ніхто з вас мне дрэннага не жадаў. Тут, у пушчы, зусім іншыя людзі.

Вочы яго зрабіліся вільготныя, рука пацягнулася да бутэлькі. Ён наліў і прапанаваў:

— За нас, за наша выдатнае залатое мінулае, — прыплюшчыў вочы і кульнуў чарку.

— Ваша высокаблагароддзе, вяртайцеся да нас, жывіце спакойна да старасці. А мы, каб вам не сумна было, будзем да вас у госці на кофій хадзіць, на паляванне разам ездзіць, — гледзячы шчыра ў вочы, сказаў Рыгор.

— І то праўда, пераязджайце жыць да нас разам з жонкай сюды, у Белавеж, — падтрымаў брата Ціхан. — Вось, паглядзіце на Сімунда. Раней часта з’язджаў да сабе на радзіму, а цяпер ужо колькі гадоў запар жыве тут невылазна.

— Дзякую вам, мае дарагія, за цёплыя словы, — дабрадушна ўсміхнуўся палкоўнік Таран. — Я і не сумняваюся, што вы з душой прыміце мяне, старога. А гэта выдатная прапанова, ёсць над чым задумацца. Трэба са старой параіцца. Вой, ледзь не забыўся! — узрадавана падняў галаву палкоўнік і ажывіўся. — За два дні да ад’езду сюды наведаў нашых зуброў у Царскасельскім парку. Распавёў ім, што еду ў Белавежскую пушчу. Мне здаецца, яны вам прывітанне перадавалі. Жывуць яны добра, прыстасаваліся, за імі там догляд адпаведны. Кормяць добра, я правяраў. Толькі цяпер іх там ужо больш, амаль цэлы статак — шэсць прыгажуноў. Летась і наша маладая самка зубраня прывяла. Я там часта бываю. Як стане журботна, бяру вазака і еду. Пастаю каля загарадзі, палюбуюся. Пагутару з імі, праўда, так, каб ніхто ні чуў, і адразу ж станавіцца неяк лягчэй.

Застольная гутарка мужчын зацягнулася далёка за поўнач. Чалавеку ўласціва ўспамінаць свае лепшыя гады з мінулага. Гэта сагравае і амаладжвае душу.

На галоўнай сядзібе працягвалася падрыхтоўка да высокага візіту. На дзевятай вярсце ад Белавежы, зблізку дарогі, што вяла ў вёску Гайнуўка,

расцягнулі тэнты. Былі зроблены ложа для імператара і ў адну з ёю лінію адзінаццаць альтанак для высокіх гасцей.

4 кастрычніка прыбылі ў Белавеж: прынцы Карл і Альберт Прускія, прынц Аўгуст Віртэмбергскі і прынц Фрыдрых Гесен-Касэльскі.

На другі дзень раніцай іх павезлі паказваць навакольныя мясціны. Важныя замежныя госці доўга рассаджваліся ў карэты і брычкі. Па камандзе генерала Зялёнага працэсія кранулася з галоўнай сядзібы ў пушчу. Лясной дарогай яны з цікавасцю глядзелі вакол і захапляліся векавымі дрэвамі. Навакольная прыгажосць выклікала захапленне ў іншаземцаў. Якраз у пушчы стаяла залатая восень. Дрэвы афарбаваліся ў розныя колеры і выглядалі нібы спецыяльна прыбраныя. Здавалася, пушча гарыць рыжым, чырвоным, пурпурным, залатым агнём. Навакольны векавы лес быў сапраўды казачна прыгожы.

Вось госці паглыбіліся ў самую глухмень пушчы. Давялося спыніцца. Ім прапанавалі ісці далей пешшу. Наперадзе крочыў Ціхан, за ім обер-фарстмайстар Фёдар Канстанцінавіч, генерал Зялёны і замежныя госці. Рыгор пабег папярэдзіць стралкоў, каб былі гатовыя. Каля ўваходу ў тунель, не міргаючы вокам, як варта ў палацах, стаялі два рослыя стралкі.

Госці з цікавасцю, адзін за адным, пачалі ўваходзіць у тунель. Усярэдзіне, праз кожныя дзесяць крокаў, па стойцы смірна, стаялі рослыя стралкі; кожны трымаў у левай руцэ запалены ліхтар. Тунель паступова напаўняўся людзьмі. Чуліся словы захаплення і здзіўлення на рускай і нямецкай мовах.

Па ўмоўным сігнале Ціхана ўваход запнулі, а стралкі крысамі шынялёў адначасова атулілі ліхтары — наступіла поўная цемра. Ад нечаканасці ўсе спыніліся і заціхлі, было чуваць толькі дыханне людзей.

Першым прагучаў голас генерала Зялёнага:

— Фёдар Канстанцінавіч! Гэтага не можа быць? Сярод белага дня, такая непранікальная цямрэча — гэта цуд!

— Вы самі генерал, бачыце, што ў пушчы гэта ёсць! — збянтэжана азваўся ўсхваляваны палкоўнік.

— Дык, брат, цяпер табе веру. Можа, тут ніколі не ступала нага чалавека, як ваша меркаванне, Фёдар Канстанцінавіч?

— Усё можа быць, цалкам магчыма, што і не ступала, — усё яшчэ спуджана мармытаў у адказ палкоўнік.

Замежныя госці маўчалі, слухалі гутарку. Каб не атрымаўся канфуз, па сігнале Ціхана стралкі адначасова дасталі ліхтары з-пад крысоў. У шэрагах замежнікаў пачуўся ўздых палёгкі, прычуліся абрадаваныя жаночыя галасы.

Госці паволі з’яўляліся з тунеля.

Лёгка зразумець, якое ўражанне зрабіла пушчанская глухмень, дзе самая апантаная бура не магла запалохаць сваім гневам, куды не прабіваліся нават прамяні яркага сонца.

На невялічкай, нібы казачной, палянцы госці спыніліся і пачалі разглядацца. Вакол ганарліва і велічна стаялі велізарныя, у некалькі абхватаў, дрэвы-волаты.

Са збянтэжаным выглядам обер-фарстмайстар адышоў і стаў паводдаль. Неўзаметку падазваў братоў.

— Вы рашылі спалохаць усіх? Чаму вы мне гэта раней не паказвалі? Вы што, не разумееце, нельга так людзей палохаць? — палкоўнік пагрозліва патрос кулаком.

У гэты момант да іх далучыўся генерал Зялёны.

— Фёдар Канстанцінавіч, паглядзі, якія здзіўленыя твары ў замежнікаў. Абвыклі ў сябе па рэгулярных парках шпацыраваць, а тут хоць раз у жыцці сапраўдны лес убачаць, — весела ўсміхаючыся, ён злёгку ткнуў обер-фарст-

майстра ў бок. — Ты таксама гусак добры. Сябар завецца. Мог бы загадзя папярэдзіць. А то я ў першыя хвіліны, як ліхтары патушылі, прызнаюся, здрэйфіў.

Генерал выцягнуў з кішэні хустачку і старанна выцер шыю.

— Ну, што? Час вяртацца ў Белавеж. Лічу, досыць, прагуляліся, — звярнуўся да братоў Селіванаў. — А вы малайцы, выдатна прыдумалі! Яшчэ б трэба было каму-небудзь з вас мядзведзем зараўці, пацеха была б поўная, — генерал засмяяўся са свайго жарту.

Імператар Аляксандр II прыбыў у Белавеж разам з вялікім герцагам Саксен-Веймарскім Карлам-Аляксандрам ноччу з 5-га на 6-га кастрычніка 1860 года.

А дванаццатай гадзіне гасудар з шматлікаю світаю адправіўся на паляванне. Яго вялікасць заняў сваю ложу; у альтанках размясціліся вялікі герцаг і прынцы з світамі. Паступова запоўніліся запрошанымі высокімі гасцямі адзіннаццаць альтанак, а таксама галерэя для публікі.

Ціхану і Рыгору было даручана глядзець за парадкам між альтанкамі. На ўсялякі выпадак яны мелі зараджаныя стрэльбы і пістолі. Але страляць маглі толькі ў крайнім выпадку, калі ранены звер будзе пагражаць жыццю гасцей. Побач з імі знаходзіўся былы обер-фарстмайстар Таран. Генерал Зялёны меў гонар прысутнічаць у царскай ложы.

Непасрэдна само паляванне арганізоўвалі егермайстар граф Ферзен, галоўны распарадчык Белавежскай пушчы паручнік Штральборн, старшы лоўчы Кусаў. У іх падначаленні былі падлоўчыя і ляснічыя. Таксама былі выпісаныя з розных месцаў самыя лепшыя паляўнічыя сабакі, запрошаныя сотні людзей.

А бедныя зубры прыглядаліся да ўсяго гэтага з цікаўнасцю, не здагадваючыся, які лёс іх чакае.

Дзед Ян з унукам Глебам і сабакам Рыкам стаялі на прасецы і чакалі сігналу пачатку загону звяроў. Перад гэтым яны атрымалі падрабязныя тлумачэнні, у якім напрамку трэба рухацца. Замест паляўнічых стрэльбаў трымалі ў руках звычайныя дрыны. У іх абавязку было гучна крычаць і грукаць па ствалах дрэў. Перамяшчацца павінны разам, шэрагам, да паляны, на якой размясціліся высокія госці.

Роўна ў гадзіну з імператарскай ложы быў дадзены сігнал, і сотні загоншчыкаў адначасова прыйшлі ў рух. Падлоўчыя затрубілі ў паляўнічыя ражкі, спусцілі са смычак ганчакоў. Густы чалавечы ланцуг, з крыкам і грукатам рухаўся наперад.

Дзед Ян і яго ўнук Глеб таксама пачалі гучна крычаць. Рык некаторы час бег побач. Прайшлі з вярсту, сабака раптам пачаў старанна прынюхвацца і кінуўся наперад.

— Рык, ты куды? Рык, да мяне! — закрычаў Глеб, але яго голас патануў сярод грукату. Адданы сабака не мог чуць каманды маладога гаспадара.

Наперадзе была невялічкая паляна. Людзі ўбачылі, як сабака дагнаў велізарнага зубра. Перагарадзіў яму дарогу, спрабуючы брэхам завярнуць яго ў іншым напрамку.

Лясны волат стаяў і глядзеў, як напалоханыя шумам і гнаныя сабакамі зубры знікаюць сярод дрэў.

— Глядзі, дзед, гэта Хрэснік! Наш Рык спрабуе яго выратаваць, не дае яму бегчы, — гарачыўся Глеб.

Нейкі чужы сабака падбег з брэхам да зубра ззаду. Рык адразу кінуўся на яго і пачаў душыць. Велічны зубр спакойна глядзеў на валтузню сабак. У гэты час далёка наперадзе прычуліся стрэлы. Зубр нахіліў галаву і цяжкімі скокамі панёсся ў той бок. Рык кінуў сабаку і следам за ім знік у дрымучым лесе.

На паляне перад тэнтамі паляўнічых першымі з’явіліся ваўкі, самыя абачлівыя з усіх звяроў. Яны спрабавалі сысці ад аблавы. Аднак, выбегшы на

паляну і ўчуўшы небяспеку, яны зноў завярнулі ў лес, каб знайсці іншае выйсце. Затым з ляснога гушчару вынырнулі дзікі і чорным ланцугом панесліся праз паляну.

Першы стрэл прагучаў з імператарскай ложы. Пачуўся віск вепрука з белымі вялікімі ікламі, і статак рассеяўся, як ад удару маланкі. Дзікі замітусіліся, мяшаючыся з іншымі звярамі, якія рынуліся ўжо на паляну. Пачалася няспынная страляніна. Дзікія звяры: казулі, ласі, алені, гнаныя паляўнічымі сабакамі, выскоквалі з лесу і траплялі проста пад стрэлы.

Праз некаторы час пад цяжкімі капытамі загудзела зямля, і на паляну вымкнуў статак зуброў. Барадатыя быкі, каторыя беглі наперадзе статка, рэзка спыніліся. Раптоўнае з'яўленне зуброў, іх грозны выгляд, унеслі некаторае замяшанне ў шэрагі паляўнічых. Амаль адначасова спынілася стральба. Усе замерлі ў чаканні, што будзе далей.

Зноў з імператарскай ложы прагучаў стрэл.

Упэўненыя ў сваёй страшнай сіле зубры, нахіліўшы да зямлі нізка галовы, панесліся праз паляну, перакананыя, што змятуць усе перашкоды на сваім шляху. Лютыя самкі вострымі рогамі на хаду адганялі паляўнічых сабак ад зубранят. Сыходзячы ад ашалелай пагоні, статак разбегся па паляне.

Зноўку пачалася няспынная страляніна.

Рыгор і Ціхан кожны раз уздрыгвалі, з заміраннем сэрца глядзелі, як падкошаныя, падаюць іх гадаванцы і рыюць капытамі зямлю.

Палкоўнік Таран стаяў побач, апусціўшы галаву, вінавата пазіраў на братоў, імкнучыся не глядзець ім у вочы.

Няспынная страляніна працягвалася даволі доўга, але паступова пачала заціхаць. Дзікі роў параненых звяроў, крыкі людзей таксама заціхалі.

І тут Рыгор здрыгануўся і адразу збялеў:

— Гэй! Ціхан, глядзі!

З лесу на паляну насупраць імператарскай ложы выскачыў велізарны, проста жахлівых памераў зубр з магутным, цяжкім, як гара, гарбом. Побач з ім бег белы сабака, увесь час спрабуючы завярнуць яго ўбок. Убачыўшы тушы сваіх сабратоў, лясны волат рэзка спыніўся. Ён рыў капытамі зямлю і напружваўся, нібыта рыхтуючыся да барацьбы. Рагатая, лабастая і барадатая галава яго была нізка апушчана. Сабака забег наперад і заступіў яму шлях.

З царскай ложы пачуўся стрэл.

Лясны волат здрыгануўся, зрабіў велізарны скок. Пераскочыў, не закрануўшы, сабаку, нахіліў галаву з вострымі чорнымі рогамі і, задраўшы хвост, цяжкімі скокамі панёсся на стрэл. Сабака паляцеў за ім, з усіх сіл імкнучыся яго абагнаць.

З ложы прагучаў яшчэ стрэл.

Зубр спатыкнуўся, зваліўся на пярэднія ногі, але адразу ж падняўся. Сабака апынуўся ізноў перад ім. Лясны волат матлянуў галавою, і тут над палянай пачуўся такі жахлівы роў, што коні, якія стаялі за тэнтамі, тузануліся і прыселі на заднія ногі. З ноздраў ляснога волата валіла пара, а з-пад чорнай грывы крывавыя вочы вызірвалі ўтоенага ворага.

Над палянай запанавала цішыня. Здзіўленыя гэтым відовішчам прысутныя замерлі ў чаканні наступных падзей.

Прысеўшы на заднія ногі жахлівы барадаты бык матлянуў галавою і скокнуў наперад, імкнучыся не закрануць сабаку. У гэтае імгненне зноў прагучаў стрэл. Зубр паваліўся проста на белага сабаку.

Убачыўшы гэтую страшную карціну, над палянай пранёсся захоплены гул чалавечых воклічаў.

Рыгор кінуў стрэльбу, выскачыў на паляну і пабег да зубра.

Ззаду прычулася:

— Рыгорка! Ты куды? Туды нельга!

Але яго нішто не магло спыніць. Падбегшы да зубра, які моўчкі яшчэ тузаў у сутаргах чорнымі капытамі, ён укленчыў ля сабакі, які ляжаў побач з ім без прыкмет жыцця. Асцярожна ўзяў яго на рукі, узняўся з каленяў і прыціскаючы да грудзей, пайшоў прэч.

Ціхан і Фёдар Канстанцінавіч, зняўшы шапкі, глядзелі на Рыгора.

Ён падышоў да іх і асцярожна паклаў сабаку на зямлю.

Тут падбег нейкі афіцэр з імператарскай світы і пачаў гучна гарлапаніць:

— Ты што, звар'яцеў? Парадку на паляванні не ведаеш? Пад кулі лезеш!

Але стражнік не звяртаў ніякай увагі на крык афіцэра, быццам не чуў.

Палкоўнік Таран узяў афіцэра пад руку і адвёў убок. Ён нешта яму казаў, той ківаў галавою. Потым афіцэр вярнуўся да імператарскай ложы.

Рыгор моўчкі стаяў і глядзеў на мёртвага сябра.

На іншым баку паляны шчыльнай сцяной стаялі людзі, якія прымалі ўдзел у загонцы. Напружваючы вочы, яны намагаліся здалёку разгледзець цара.

Аляксандр ІІ у суправаджэнні світы выйшаў на паляну і паволі аглядаў свае паляўнічыя трафеі. Па выразе яго твару было відаць, што паляванне атрымалася.

Даўжэй усяго ён затрымаўся каля велічэзнага зубра, якога ўласнымі рукамі застрэліў напрыканцы.

Лясны волат ляжаў на правым баку. Вялікая галава з чорнай грывай і вострымі рогамі была прыціснутая да грудзей, нібы ён рыхтаваўся да сутычкі. Застылыя вочы былі расплюшчаныя.

Гледзячы на бурую велізарную тушу зубра, імператар спытаў паручніка Штральборна:

— Як ты лічыш, колькі важыць гэты прыгажун?

— Ваша Імператарская Вялікасць, лічу пудоў трыццаць пяць, не меней, а можа і больш, — развёў рукі паручнік.

— Распарадзіцеся зрабіць з яго чучала і перадаць у Кунсткамеру для ўсеагульнага агляду, — закамандаваў Аляксандр ІІ.

— Ваша Імператарская Вялікасць, будзе зроблена, — пстрыкнуў абцасамі галоўны распарадчык Белавежскай пушчы.

— І яшчэ, паклічце гэтага смельчака, які выбег за сабакам пад стрэлы, — хрыпла дадаў імператар, і ў суправаджэнні світы накіраваўся ў сваю ложу.

Паручнік пабег выконваць просьбу манарха. Знайшоў Рыгора хутка.

— Рыгор! Цябе тэрмінова жадае бачыць сам імператар, — цяжка дыхаючы ад бегу, скрозь зубы працадзіў паручнік.

Ціхан падышоў да брата і паправіў на ім мундзір.

— Давай, трэба ісці. Рыка я павартую.

Рыгор моўчкі накіраваўся за паручнікам. Узышоў у царскую ложу, прыклаў руку да фуражкі і адрапартаваў:

— Ваша Імператарская Вялікасць, па вашым загадзе прыбыў.

Аляксандр ІІ паставіў фужэр на стол і павярнуўся да яго:

— А, смяльчак! Ты чаго проста пад кулі палез?

— Ваша Імператарская Вялікасць, свайго сабаку ратаваў, — з болем адказаў Рыгор.

— Твой сабака табе такі дарагі, што ты рызыкаваў сабой, — здзіўлена падняў вочы на стражніка імператар.

— Ваша Імператарская Вялікасць, ён мне некалькі разоў жыццё ратаваў, — шчыра адказаў стражнік.

— Тады ўсё зразумела. Ну што ж, гэта пахвальна. З нагоды згубы сабакі прымі мае спачуванні. Мне генерал гаварыў, што цябе мой бацька ўзнагароджваў?

— Так, Ваша Імператарская Вялікасць, узнагароджваў, вось гэтай шабляй, — стражнік пляснуў левай рукой па дзяржальні шаблі, якая вісела на баку.

— Ну што ж, бацька ўзнагародзіў, і я ўзнагароджу, хоць неяк пакрыю страту сабакі, — Аляксандр II узяў адну з дзясятка паляўнічых стрэльбаў і працягнуў стражніку. — Трымай і нясі службу спраўна. Толькі з-за сабакі больш так не рызыкуй жыццём.

Рыгор прыняў стрэльбу і адрапартаваў:

— Служу Айчыне, Ваша Імператарская Вялікасць! Дазвольце ісці?

Гасудар кіўнуў галавою і павярнуўся да світы, даючы зразумець, што размова скончана.

Рыгор выйшаў з царскай ложы. Але прыём у цара і падарунак яго зусім не цешылі. Ён ішоў журботны і не ўяўляў, што будзе цяпер рабіць без свайго Рыка. Падышоў да Ціхана:

— Ціхан, знайдзі бацьку і Глеба. Бацьку скажы, каб ішоў дадому, а Глеба, калі знойдзеш, прывязі сюды. Я буду чакаць там, — стражнік паказаў рукой у той бок, дзе знаходзіўся яго жарабец.

— Рыгорка, я ўсё зраблю, як ты просіш, — Ціхан хутка пабег.

Стражнік узяў сабаку на рукі і з дзвюма стрэльбамі на плячы накіраваўся да прывязаных коней. Палкоўнік Таран моўчкі ішоў следам. Па яго твары было відаць, што ён таксама перажывае.

Праз некаторы час з'явіўся Ціхан з Глебам. Яны саскочылі з каня, і падышлі да Рыгора. Глеб адразу ўкленчыў ля сабакі і гучна заплакаў.

Стражнік паклаў руку на плячо сыну і сказаў:

— Глеб, вытры слёзы і кінь раўці, будзь мужчынам, — стражнік моцна сціснуў плячо сына.

— Брат, хай Глеб возьме майго каня, я застаюся тут, — крануў за руку брата Ціхан.

— Дзякуй, Ціхан. Апоўначы вярнуся, — адказаў Рыгор.

Стражнік сеў у сядло, Ціхан падаў яму Рыка. Ён асцярожна паклаў мёртвага сябрука на карак жарабца перад сядлом. Прытрымліваючы сабаку адной рукой, другой накіраваў жарабца ў напрамку сваёй хаты. Глеб ехаў побач на кані Ціхана з дзвюма стрэльбамі.

Дарогай ім сустракалася вялікая колькасць людзей, якія спяшаліся пабачыць цара.

Неўзабаве іх аклікнуў Рыгораў бацька. Глеб саступіў дзеду месца ў сядле, сам прымасціўся ззаду.

Праз некаторы час пад'ехалі да хаты. Стражнік адразу распачаў капаць яму каля лазні, на тым самым месцы, дзе Рык першы раз загрыз ваўка. Ужо змяркалася, калі Рыгор скончыў працу. Сям'я стражніка моўчкі стаяла каля сабакі, успамінаючы, якім выдатным сябрам быў іх адданы Рык.

Раптам высока над лесам, асвятляючы небасхіл, узляцелі рознакаляровыя іскры агню. Данеслася далёкая кананада. Яны з цікаўнасцю глядзелі на гэта нябачанае імі відовішча. А рознакаляровыя агеньчыкі ўсё ўзляталі і ўзляталі, асвятляючы вечаровае неба. Гэта выглядала як салют загінулым зубрам і Рыку. Твары ў сваякоў стражніка Белавежскай пушчы пасвятлелі — жыццё працягвалася.

У той самы час на паляне на беразе ракі Нараўкі, дзе адбыўся феерверк, прысвечаны царскаму паляванню, распачалося народнае гулянне з багатым пачастункам, у якім удзельнічала некалькі тысяч чалавек.

Рыгор спытаў бацьку і сына:

— Ну як, бачылі цара?

— Бачылі, праўда здалёк, але бачылі. Калі ён аглядаў забітых звяроў, дзе мы якраз стаялі, — адказаў бацька і пагладзіў галаву ўнука.

Той глухім голасам сказаў:

— Дзеду. Рыка шкада.

Вочы Глеба былі журботныя. Стары схапіў яго за плечы і патрос.

— Не сумуй Глеб! Пэўна, у нашага Рыка такі лёс. Ён загінуў, ратуючы свайго сябра, Хрэсніка. Хрэсніка таксама шкада, і іншых зуброў шкада. Але што зробіш? Ён жа цар і мае права страляць. Гэта па яго ўказу мы ахоўваем зуброў. Калі б не закон, даўно б ужо ўсіх зуброў выбілі. Нічога, падрастуць новыя зубры — нашчадкі Хрэсніка. Паглядзіш, усё будзе ў парадку, — стары спрабаваў развеяць сумны настрой унука.

Рыгор узяў стрэльбу і працягнуў сыну.

— Гэта мне імператар падарыў, нясіце ў хату. Да сустрэчы!

Рыгор ускочыў у сядло. Глеб падаў яму повад каня Ціхана і стражнік растварыўся ў начной імгле.

Дзед з унукам пайшлі ў хату. Там, пры святле свечак, разглядалі новую паляўнічую стрэльбу. Стрэльба была хвацкай і зграбнай, багата інкруставанай. Стары з сумненнем круціў галавою, асцярожна ўзвёў куркі і здзівіўся — там замест месца пад капсулі былі байкі. Ян націснуў рычажок зверху і куркоўка лёгка адчынілася. Першы раз убачыў стары дзіўныя зарады — патроны.

— У-ух якая! Глядзі, Глеб, — цмокаў былы стражнік. — Аж рукі прыкіпелі. Вось гэта дык стрэльба.

Выгляд у старога быў як у дзіцяці, што атрымала цацку. Ён прыкладваў стрэльбу да пляча і цаляў на агонь свечкі — мерыў, ці ёмісты прыклад. Звыкла, як кожны паляўнічы, што беражэ сваю зброю, стары прадзьмуў ствалы. Разам з унукам доўга не кладліся спаць, абмяркоўваючы царскі падарунак…

Прыйшлося ўмяшацца Маланні. Яна сілком забрала дубальтоўку з рук свёкра.

Калі дзед з унукам паснулі, Маланння з уздыхам прыбрала Рыкаў дыванок у камору.

Рыгор ехаў конна начной дарогай. Горыч страты сабакі не давала ні аб чым іншым думаць. Яго думкі зноў і зноў вярталіся ў мінулае. Дарогай насустрач ішлі людзі з свята. Начную цішыню перарываў смех і радасныя гутаркі простых людзей, якія дзяліліся ўражаннямі.

Стражнік даехаў да ракі Нараўкі, дзе належала несці службу, ахоўваючы намётавае мястэчка. Цэлыя тушы забітых дзікіх жывёл гатаваліся на ражнах над вогнішчамі. Запечанае мяса разразалася на невялікія кавалкі і раздавалася ўсім, хто жадаў. З бочак налівалася віно. Гарэлі сотні вогнішчаў, а вакол стаялі, сядзелі, ляжалі тысячы вясёлых людзей.

Працы было шмат; люд на падпітку абавязкова жадаў бачыць імператарскую ложу і альтанкі. Маладыя стралкі і стражнікі ўсімі сіламі адваджвалі і адганялі цікаўных. Некаторых свавольных гулякаў нават давялося вязаць вяроўкамі.

Перад світанкам усе стаміліся ад начнога гуляння. Моцна хмельных грузілі на падводы і адвозілі далей з паляны ў процілеглы бок ад галоўнай сядзібы. Неўзабаве месца палявання было ачышчана ад простага люду.

З надыходам дня пачалі пад’язджаць карэты і брычкі высакародных асоб. За гадзіну да пачатку новага палявання прыбыў сам імператар са сваёй світай.

У палове адзінаццатай з імператарскай ложы ізноў прагучаў сігнал і тысяча людзей зноў шчыльным ланцугом пад гукі паляўнічых ражкоў і брэх сабак рушыла ў загон.

Сярод гэтых людзей у старых, часам і залатаных мундзірах ішлі былыя падлоўчая, стражнікі, ляснічыя, аднадворцы, адстаўныя афіцэры і салдаты з унукамі і сынамі. Разам з імі плячо ў плячо ішлі колішні стражнік Селіван Ян і яго чатырнаццацігадовы ўнук Селіван Глеб. Гэтыя людзі мелі гонар ад таго, што прымаюць непасрэдны ўдзел у царскім паляванні. Для ўдзельнікаў гэта было вялікае і маляўнічае свята, паданні аб якім яшчэ доўгія гады будуць перадавацца з пакалення ў пакаленне.

Аблаўшчыкі ачапілі ў векавым лесе велізарную прастору і ішлі здалёку, так што нават брэх сабак, спушчаных з смычак, не далятаў да слыху паляўнічых, якія сядзелі ў альтанках.

Спачатку на паляне з'явіўся адзін сабака, які ці вырваўся раней часу, або які адбіўся ад зграі яшчэ на ўчарашнім паляванні. Ён, водзячы па зямлі носам, перасек паляну і праслізнуў між альтанкамі з паляўнічымі. Праз некаторы час да слыху паляўнічых ужо выразна даносіліся гукі ражкоў, брэх сабак і далёкі гоман — гэта людская і звярыная лава рухалася з нетраў пушчы.

Неўзабаве на паляну адзін за адным пачалі выскокваць дзікія звяры, гнаныя зграямі ганчакоў. Звар'яцелыя жывёлы кідаліся ў розныя бакі і падалі пад стрэламі з царскай ложы і альтанак.

Стражнікі стаялі з стрэльбамі напагатове.

Зноў паляна напоўнілася ровам дзікіх звяроў, брэхам сабак і гукамі бесперапыннай стральбы.

Усё жывое захлыналася ў чорным адчаі і перадсмяротнай тузе. Вішчэлі дзікі, біліся ў сутаргах і хрыпелі алені, моўчкі паміралі зубры (зубр заўсёды памірае моўчкі, не прыніжае сабе нават у смяротны час). Рэха стрэлаў разносілася па навакольным векавым лесе. Паветра прапахла порахам, і аблокі белага дыму віселі нізка над палянай. Здавалася, пушча аглохла ад стрэлаў.

Праз некаторы час сярод дрэў паказаўся натоўп. Гэта азначала канец паляванню. Як і ўчора, гасудар з світай абышоў паляўнічыя трафеі. Імператар застаўся задаволены паляваннем і шчодра, па-царску, падзякаваў галоўнаму распарадчыку і знаўцу ў гэтай справе паручніку Штральборну — павысіў яго ў званні.

Нічога падобнага дагэтуль нельга было бачыць на іншых землях, дзе не было такой пушчы. Па пышнасці, па колькасці забітага звера яна пераўзыходзіла ўсе раней знаныя ў гісторыі паляванні. Адных зуброў за два дні было забіта каля трыццаці.

Пушча заплаціла цяжкую, вельмі цяжкую даніну за гэтую планамерную і абыякавую бойню. У памяць палявання Аляксандр II уласнаручна пасадзіў каля імператарскай ложы дрэўца ліванскага кедра. Запрошаныя госці сядалі ў карэты і ўслед за расійскім манархам адпраўляліся на абед у галоўную сядзібу.

Пасля ад'езду каранаваных асоб і высокіх гасцей падлоўчыя і ляснічыя грузілі на фурманкі паляўнічыя трафеі. Разбіраліся альтанкі і намёты, тэнты скручваліся ў рулоны і грузіліся на фурманкі. Апахмеленыя вазніцы дзелавіта снавалі між фурманак, пры гэтым, падкрэсліваючы сваю значнасць, гучна лаяліся і брыдкасловілі. Ланцуг гружаных павозак расцягнуўся лясной дарогай у напрамку Белавежы. Паляна і бераг невялічкай ракі Нараўкі паступова сірацелі. Цікаўны навакольны люд разыходзіўся, для іх свята таксама скончылася.

Падвячоркам, на мокрым скакуне, да братоў пад’ехаў начальнік варты.

— Усё! Тут праца скончылася, вяртаемся ў Белавеж і там працягваем несці ахову. Трымацца, браткі, пасля адпачнём, — і паскакаў так, што пыл падняўся над дарогаю.

Браты накіраваліся ў галоўную сядзібу. Заскочылі на хвіліну ў хату, на хаду перакусілі і адправіліся несці далей вартавую службу.

У паляўнічай стылізаванай хаце ярка свяціліся вокны. Над парадным ганкам лунаў велізарны расійскі сцяг з двухгаловым арлом. Двор вакол быў ярка асветлены паходнямі. Да глыбокай ночы працягвалася святкаванне ўдалага царскага палявання. Да трох гадзін ночы карэты адвозілі замежных гасцей у палац лесапрамыслоўца Сімунда. Астатнія начавалі ў новых хатках побач.

На світанку Рыгор неўзаметку адправіўся ў лес да стагоў з сенам. Там ён дастаў з кайстры торбу, выбіраў з сена зуброўку. Напакаваў поўную торбу, шчыльна перавязаў скураной папружкай і прывязаў да сядла.

Калі ён вярнуўся ў галоўную сядзібу, госці рассаджваліся ў карэты і рыхтаваліся да ад’езду.

Расійскі імператар Аляксандр II са сваёй світай і ўзмоцненай аховай пакінуў Белавеж яшчэ пад покрывам ночы.

Фёдар Канстанцінавіч з’язджаў з пушчы разам з міністрам дзяржаўных маёмасцей генералам Зялёным. Былы обер-фарстмайстар стаяў і размаўляў з Ціханам. Убачыўшы Рыгора, ён узрадаваўся і замахаў рукамі:

— Дзякуй богу, а я ўжо пачаў хвалявацца. Ну што, мае дарагія сябры, вось і надышоў час расстання. Не ведаю, ці ўбачымся мы яшчэ калі-небудзь. Але я ўдзячны табе, Божа, што ты даў магчымасць яшчэ раз наведаць гэты славуты куток прыроды і сустрэць надзейных і выдатных сяброў.

Браты і палкоўнік моцна абняліся. На іх вачах былі слёзы.

— Ваша высокаблагароддзе, Фёдар Канстанцінавіч, у мяне да вас ёсць просьба. Калі прыедзеце ў Пецярбург, перадайце нашым зубрам пачастунак з Белавежскай пушчы, — Рыгор працягнуў обер-фарстмайстру торбу з пахкай гаючай травой: лясным бальзамам і зуброўкай.

Стражнік Белавежскай пушчы ехаў конна ў напрамку свайго дома. Перад вачыма стаяла жудасная карціна царскага палявання. Рыгор ніяк не мог зразумець такую бойню. Навошта забіваць столькі? Сотні аленяў, дзікоў, ласёў, зуброў. Царскае паляванне нашмат зменшыла звярынае насельніцтва пушчы. Пушча змоўкла і сцішылася. Здавалася, яна зрабілася нямой. Толькі чуваць, як шумяць лясныя волаты-дубы.

Стражнік ехаў, смутна апусціўшы галаву. Нібыта ён быў сам вінен у тым, што адбылося. У грудзях ад крыўды шчымела сэрца, а ў галаве цясніліся гаротныя думкі. Стары жарабец, узмахваючы чорнай грывай, павольна цягнуўся лясной дарогай.

Раптам прычуўся далёкі асенні крык аленя. Стражнік нават уздрыгнуў ад нечаканасці. Тузануў повад, затрымаў Каштана. Сядзеў у сядле і слухаў далёкі мілосны гук, як песню. Яго твар кранула ўсмешка. Праз нейкі момант, нібы ачнуўшыся, зноў тузануў павады. Праехаў з вярсту і павярнуў жарабца на ледзь прыкметную сцяжынку, якая вывела на паляну. Там сіратліва стаялі агароджаныя стагі сена.

Гэта быў яго абход, праз які наганялі звяроў у напрамку царскай паляўнічай забавы.

Стражніку стала сумна. Яму падалося, што цяпер да стагоў не прыйдуць яго выхаванцы. Ён сядзеў у сядле і ўспамінаў свой зубрыны статак. Пэўна, усе загінулі на тым паляванні. Выцершы рукавом слязу, стражнік скіраваў жараб-

ца да першабытнага кутка пушчы. Туды, дзе знаходзіліся дуб і святы камень. Яму раптам захацелася папрасіць прабачэння ў тысячагадовага волата.

Жарабца пакінуў на маляўнічай паляне. Праз некатары час ён ужо стаяў ля дуба і размаўляў з ім. Стражнік жаліўся дубу як жывому чалавеку, як свайму сябру, як бацьку. Расказаў аб усім, чаго быў сведкам: пра царскае палянне, пра абыякавую бойню жыхароў пушчы, пра гібель зуброў, пра страту Хрэсніка і Рыка, пра ўсё тое, што накіпела на сэрцы.

Стражнік укленчыў і ад імя людзей перапрасіў у цар-дуба за здзекі і страты. Падняўся з каленяў і зірнуў на верхавіну.

Стройны, як калона, у мноства абхватаў ля зямлі, дасканалы ў сваёй велічнасці і зграбнасці дуб раптам счырванеў, нібыта на яго села жар-птушка, азараючы магутную верхавіну крыламі. Стары дуб быў сведкам усёй пісанай гісторыі Белавежскай пушчы, сведкам гісторыі беларускай зямлі. Ён стаяў тут, калі яшчэ пушчу насяляла дзікае і ваяўнічае племя ятвягаў. Велізарны дуб быў сведкам палявання Вялікага князя Вітаўта, калі пушча ахвяравала тысячы лясных жыхароў на знакамітую Грунвальдскую бітву. Быў сведкам палявання каралёў Баторыя, Аўгуста III, а цяпер і расійскага цара.

Здавалася, зараз дрэва нешта скажа, але дуб маўчаў, толькі зрэдку з яго падалі асеннія лісты ды шпокалі аб галіны жалуды.

Стражнік пакланіўся дубу і каменю і вярнуўся да каня.

Калі выходзіў з гушчару на дарогу, адчуў, як жарабец пачаў нервавацца, застрыг вушамі. Рыгор уважліва агледзеўся і заўважыў у гушчары бурую вялізную тушу. Магутны цяжкі малады зубр рухаўся праз дарогу ў напрамку паляны. За ім следам павольна крочылі крыху меншыя тры самкі з лабастымі зубранятамі.

Заўважыўшы чалавека, малады зубр спыніўся і пакасавурыўся на стражніка. Затым, матлянуўшы барадатаю галавою, гаспадар пушчы рушыў далей.

Стражнік стаяў нерухома, на яго вачах блішчэлі слёзы радасці. Памыліцца нельга. Малады зубр быў дакладнай копіяй загінулага Хрэсніка. Яшчэ некалькі хвілін Рыгор стаяў і глядзеў у той бок, куды пайшлі зубры. Затым павярнуўся ў напрамку дуба і пакланіўся.

— Дзякуй за ўратаванне нашчадкаў Хрэсніка.

Спрытна скочыў у сядло і тузануў повад. Стары жарабец галопам рушыў у напрамку стражніцкай хаты.

Калі пад’ехаў да роднага котлішча, заўважыў на падворку незнаёмага каня. Прывязаў Каштана і пераступіў парог хаты.

За сталом сядзелі бацька, сын Глеб, Маланне і Яўстафій. Яны глядзелі на Рыгора і ўсміхаліся.

Стражнік павярнуў галаву.

На старым, яшчэ Рыкавым, кілімку цiснуліся адзін да аднаго два бялюткія шчанюкі. Сядзелі і насцярожана глядзелі на свайго будучага гаспадара.

## *Эпілог*

Працаўнікі Царскасельскага парку назіралі цікавую карціну. Дзіўны стары ў параднай, нібыта вайсковай форме, паважліва зняўшы перад вальерам галаўны ўбор і не звяртаючы ўвагі на халодны дождж, клапатліва карміў з рук сенам зуброў, якое даставаў з нейкай торбачкі. Пры гэтым ён ім нешта паціху і доўга распавядаў.

Зубры стаялі поруч загарадзі, моўчкі жавалі, патрэсваючы чорнымі барадамі, і ўважліва слухалі сівагаловага старога.



**АБАЙ**
**(1845—1904)**

# На грунце Абая

*Неяк давялося слухаць выступленне пасла Рэспублікі Казахстан у Рэспубліцы Беларусь спадара Смірнова. Не маглі не падштурхнуць да многіх разваг і такія яго словы: «...плануецца прыняць у Казахстане Дактрыну нацыянальнага адзінства Казахстана. Дактрына павінна стаць, з аднаго боку, абагульненнем ужо немалога вопыту, а з другога — трывалым падмуркам для руху наперад, доўгатэрміновых ...стратэгій правядзення нацыянальнай палітыкі, далейшага ўмацавання палітычнай стабільнасці, адзінства і згоды ў краіне. Гэта будзе цэласная праграма дзеянняў па ўсім комплексе міжэтнічных і міжканфесійных адносін...» Беларусь, як і Казахстан, — краіна з рознымі нацыянальнымі і канфесійнымі вытокамі. Гэта накладвае сваю пячатку на жыццё і развіццё культуры, увогуле на лёс нашай краіны. Мо таму і з'яўляецца шматзначнай роля неўміручай класікі нацыянальных літаратур у вызначэнні прыярытэтаў духоўнага сталення і маральнай трываласці народа Беларусі, як і народа Казахстана?!.*

*Абай у апошнія дзесяцігоддзі па-новаму загучаў у сябе на радзіме, па-новаму ўваходзіць у кантэкст сусветнай культуры. І гэта не магло не закрануць беларускіх творцаў... Як першая ластаўка — пераклады неўміручай паэзіі, зробленыя лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь Міколам Мятліцкім. Абай, пераўвасоблены на мову Купалы і Коласа, прадстае і ў кантэксце беларускай гісторыі геніяльным празарліўцам і прадказальнікам, радкамі сваімі, выпеставанымі далёка ад Беларусі, падаецца родным і зразумелым. Яго «дактрына» святла і шчодрай дабрыні і ёсць найвышэйшая мастацкая мудрасць, якая спрыяльная для сённяшніх і наступных часін.*

***Алесь Карлюкевіч***

* * *

О сэрца, свой жар астудзі,
Часіна спачыць нам з табой.
Усё, што шукаеш, — знайдзі,
Трывогу сваю супакой.
А змоўкне аднойчы біццё, —
Не мець чарнавокім бяды.
Каханага знойдуць заўжды,
І шчасце азорыць быццё.
Блукаеш з тугою начной,
Імкнеш да дзяўчыны адной.
Я з крыўдай спыніцца малю,
Сябе безаглядна гублю.
Ад горкіх ты высахла дум.
Калі ж твой суцішыцца сум?
О сэрца, дарогай ідзі,
Пакутны ты выбрала шлях.

О сэрца, свой жар астудзі,
Агнём не палай у грудзях.
Ды словы падобных парад
Табе дапамогуць наўрад,
Красуні не зразумець,
Што схованак не займець
І ззянню апушчаных воч,
Бо позірк іх агнявы;
Што абвяшчае — кроч! —
Каханне свае правы;
Што песні тваёй ручай
Знікае ў бясплодных пясках.
І зноў засамоціцца шлях
І волю падменіць адчай.

О сэрца, свой жар астудзі,
З самотай расстанься пустой.
О сэрца, дарогай ідзі,
Пад поўняю залатой
Ўжо наша юнацтва прайшло,
Табе адзінотна было,
Стамілася ты ад хады.
Не тыя ўжо нашы гады!
Далей што? Спыніся, пастой.
Звароту не будзе назад.
Хай вернасцю шчырай святой
Я любай прывеціў пагляд —
Не выпіта радасць да дна,
І зможа, як колісь, яна
Паўстаць у сваёй варажбе,
Каханнем адкажа табе, —
Ці ж нам дачакацца дабра?
Не тая ўжо наша пара!

А грэшнасць — пагібель дваім,
Прад Богам адкажам сваім…
Хай жаркі агонь не згас,
Красуні кахаюць нас, —
Не лепей было б нам з табой,
О сэрца, знайсці супакой?
О сэрца, свой жар астудзі,
Чаго ж яшчэ сёння хацець?
О сэрца, таго і глядзі,
Не доўга табе грукацець…
Гады прамільгнуць чарадой,
Агонь болей не шугане,
Табе не скажу я: «Стой!» —
Замоўкнеш само ўва мне.
Не цешся завабай пустой,
Астынь, не палай, не млей,
Не хопіць цябе, зразумей,
Маланка цябе апячэ!
Будзь скарбам адзіным маім.
Хай джаляць іскрыны вачэй,
А ты не адказвай ім…
Спакоем рызыкаваць,
Прад позіркам маляваць
Уцехі мінулых дзён?
Мы будзем не раз шкадаваць,
Што явай не стаўся сон.
На вочы патрапім другім,
Сябе ператворым у дым,
У чэзлы, маркотны цень.
У прошласць сышоў наш час,
Насмешкай зняважаць нас:
На захад схіліўся наш дзень…

О сэрца, свой жар астудзі,
Таго, што прайшло, не будзі,
Ад жару пачуццяў спачынь,
Красунь у спакоі пакінь,
Адну абяры для любві,
Сяброўкай яе назаві,
Сяброўкай на ўсе гады.
Яна прынясе з сабой
Мне — радасць, табе — спакой,
І будзе між нас заўжды…

***1881***

* * *

Вершнік з беркутам скача ў густых снягах.
Будзе пільным — здабудзе лісу ў гарах.
Вось знаходка ў дарозе: чаму ж не ўбор?
Конь імклівы ды вершнік… Забыты страх

Ды лісы асцярожны зваротны след,
Што на вочы патрапіў у чорных кустах.

Ля падножжа гары — паляўнічы стан.
Вершнік з беркутам мчыцца, нібы ўраган.
Ён сарве клабучок з пільна ўзнятых воч:
Беркут крылы раскіне — высокі сан.
«Як жа нізка мы скачам, ліса збяжыць!» —
Ён падумае так, калыхне туман.

Не ўратуе лісу спрытны бег цяпер.
І замрэ, і пакажа зубоў ашчэр,
Заякоча-затужыць і гляне ўвыш.
І яна хоча жыць, у яе — свой намер!
Вось відовішча! Вершнік прадоўжыць шлях,
Гулкі цокат капытны ўспалошыць ціш.

Беркут ведае сілу лісіных зубоў —
Выпускае адразу сорак клінкоў.
Ды не будзе марудзіць беркут-батыр:
Восем лёзаў аголіць сваіх кіпцюроў,
Крылы дужа раскіне, пад неба ўзляціць,
Важкім каменем зрынецца з вышы зноў.

Вось сышліся, спляліся ў бліскоце зары,
Быццам адзінаборцы-багатыры.
Як царыца зямлі і нябесны цар.
Пажадаў чалавек — і яны, цары,
На смерць б'юцца… І толькі — бліскота-бель.
Футра чырвань і крыл чарната ўгары.

Як купанне дзявочае ў горнай рацэ,
Бітва тая, калі яна на руцэ
Дзве касы смаляныя трымае, плыве,
Юнь-пяшчота краплінай зырчыць на шчацэ,
Свеціць целам бялюткім, усмехам вачэй
Нагадае якраз табе — гэткай слыве

Жаніха і нявесты першая ноч.
Ім на ложы зацесна… Ліса наўскоч:
Беркут змяў і згарнуў яе пад сабой.
Лоўчы, спешна цяпер па здабычу кроч!
Перамога лунае над хітрай лісой,
Пераможцы імчацца — з дарогі збоч!

І хваляць старэйшыны зноў смельчака:
«Які малайчына, не ўздрыгне рука!»
І ты задаволены… крэпкі тытунь
Кладзеш за губу — і нямее шчака.
Бы ягад у лесе — хай будзе лісіц,
Каб чуў паляўнічы азарт юнака.

І ведай, ніякай не будзе бяды,
Як зноўку на ловы прыбудзеш сюды.

Няма мне пад сонцам занятку лацвей,
Быць між паляўнічых гатоў я заўжды.
Хто мае праніклівы розум, той сам
Мяне зразумее з паўслова тады.

Не бачна сляпому у стэпах трава,
Не ўцяміць пустая мой сказ галава.
Ды ўзнікне карціна ў тваёй душы,
Калі ўцяміш тое, як двойчы два,
Сапраўднаму лоўчаму радасць чутна,
Хто беркута высачыў зноў з-пад брыва.

***1882***

* * *

Быццам месяц, што выгнуты ў небе начным,
Лоб ільсніцца, як срэбра, і броў лёгкі ўздым
Над стаёнасцю чорных, як поўнач, вачэй.
Нікне свет — і нямее душа перад ім.

Носік вузкі, прамы, дыша звабаю сам.
Зыркі водсвет ланіт — на здзіўленне вачам.
Сэрца, бачачы ўсмешку, хмялее, калі
Бліснуць зубы — сапернікі ўсім жэмчугам.

Як разліў ручая — мовы светлай бруя,
Смех залівісты мкне, быццам трэль салаўя,
Шыя — шоўк беласнежны, о гнуткасць і бель!
Падбародак, о свежасць, адзнака твая!

Рост сярэдні ў яе ды прываблівы стан.
Тонкі выгіб спіны, позірк — сінь-акіян.
Чарацінкаю лёгкаю гнецца яна, —
Спелых яблык-грудзей саладжавы дурман.

Па-дзіцячы пяшчотны яе галасок,
Пальцы гладкія, вуснаў малінавы сок,
І стаёны туманіцца светлы пагляд,
Калі косы рассыплюць свой чорны паток.

Тут дзяўчаты — усе! — з патаемнай красой.
Іх нядоўгі па часе душэўны спакой —
На чароўнай зары васемнаццаці год
Накіруе жыццё іх пуцінай цяжкой.

Затаілі хітрынку прытворства адны,
Бы не ведаюць полымя страсці яны.
І залішне адважныя тыя, каму
Плесці сеткі какецтва, пустой балбатні.

Нам дзявочыя хітрыкі ведамы ўсе:
Той ім любы, хто век паважаны людзьмі.

Так і хлопцы: адны, бессаромна паўсюд,
Непрыступнасці гнеўны выносяць прысуд,
А другія, хто сціплы, — без пыхі і зла
Пазіраюць на юных красунь, як на цуд.

Толькі лепшы з усіх той, хто ў лёсе сваім
Не прабавіў і дня ў марнатраўстве пустым,
Хто свой дух гартаваў у працоўным агні,
Мае статак і з раніцы ходзіць за ім.

***1884***

* * *

Я не думаў пра веды, як быў маладзей,
Хоць і бачыў, што з імі жывецца лягчэй.

Вырас я, але веды мяне абышлі,
І пабег я за імі як можна хутчэй.

Хто ж у тым вінаваты, што ў невуках я?
Не пакутваў бы так, знатным быў між людзей.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Найвышэйшая радасць — дачушкі, сыны.
Сам жадаў, каб пабачылі веды яны.

Ў медрэсэ іх аддаў, каб былі разумней,
А не з тым, каб ішлі ад людзей ім чыны.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Як імкнуўся я ўвысь, аж сягаў да аблок,
Першым быў між казахаў — засвоіў урок.

Ды нікога няма, хто б за мною ступіў, —
Я пагасну адзін, бы ў кастры вугалёк.

***1885***

* * *

Вось і старасць. Скуты думкі, дрогкі сон.
Дух самотны, зноўку гнеў бярэ ў палон.
Думкай з кім мне падзяліцца? Дзе і хто
Той, хто здатны падтрымаць мой творчы плён?

Ёсць народзін і мярлін жывыя дні,
Дзён мінулых не вярнуць мне з цішыні.
Радасць недзе застаецца ў схове год,
Гаснуць-меркнуць шчасця знанага агні.

Будзь разважным, дух гартуй у барацьбе,
Толькі дурань лёс скупы, як стог, скубе.
Толькі лены, патураючы другім,
Бедны духам і няўпэўнены ў сабе.

Не прымае працы чэснай чэзлы люд,
Хваласпеў і пустата балююць тут.
Ды за подласць паквітацца прыйдзе час:
Не мінае ліхадзеяў Божы суд.

Трэба скарб жыццёвы свой не пагубляць,
Вострым розумам і думкаю крыляць.
Ці не сорам па аулах дзень пры дні
Час у жартах ды ў крыўлянні прабаўляць?

Чужы невуку мой розум, ён хутчэй
Верыць глупству, думак высахлы ручэй.
Хіба здатны кожны праўду ацаніць?
Небыліцы верыць дурань — жыць прасцей.

Марыць дурань пра багацце ў галыззё!
Што ў адзенні, срэбрам шытым, — не рыззё.
Ён з пагардаю адносіцца да слоў
Аксакала, хто ў жыцці спазнаў усё.

Мудры зорка пранікае ў сутнасць спраў,
Усё, што трэба, па паліцах ён расклаў.
Ён асудзіць, ён і ўзважыць нейчы грэх,
Ну а невук тым жыве, што гурт сказаў.

Вораг слова шле прыхільнае яму —
Родных згубіць і аплача. А таму,
Хто спазнае ўдачы дзіўнае святло,
Скажа: «Богу зразумела аднаму!»

Рады горычы народа сыч-шайтан,
Сам Анёл прагнаны хціўцам — блуд і зман.
Цвёрда ведаю — не каецца вампір,
Ён папоўніць сатаны прадажны стан.

Быць жадае ўладаром махляр любы,
Раць збірае для паходу зык трубы,
Ды не будзе, здраднік, першым між людзей —
Дол сыры накрые хутка ўздых слабы.

Шлях не кожнаму пад зоркамі відзён.
Хто праўдзівы, той шануе сам закон.

Валасным усё спрабуе стаць махляр, —
Ды праклятым, як сабака, будзе ён.

***1886***

* * *

Адыходзіць жыццё, убывае — адно.
Дзе ні глянеш — круцельства паўсюд і відно.
Маладое хвалюе мяне пакаленне,
Не хінецца да працы стваральнай яно.

Бай бярэ і гаворыць: «Пабачыш, нідзе,
Калі сплоціш спаўна, не пакіну ў бядзе».
Валасны а ці бій пажывіцца гатовы:
«Так насолім яму — вораг твой прападзе!»

Пазычае бядняк: «Працай я заплачу».
Сотнік: «Чутку-знявагу ў ауле пушчу!»—
Вымагае, аж ходзяць яго жаўлакі:
«Адыду — і не знойдзеш, і след мой прастыне,
Буду дзейнічаць супраць цябе. Я такі!»

А хітрэц не шкадуе напышлівых слоў:
«Расхвалю цябе гэтак, што будзь ты здароў!»
Ён надумаўся ўсё ж бараном пажывіцца.
Як пачуеш — у скроні затахкае кроў!

Што ж, свяжуй барана і частуй ім паўдня.
«Галасуй за мяне, мяса дам я!» Хлусня!
Прыйдуць мігам усе, затрашчаць, як сарокі:
«Хто дасць болей, таму я і друг, і радня!»

Здрадзіць хтосьці — на праўду яму напляваць.
Парушальнікаў клятвы прывыклі трываць.
Вось адзін з іх зноў брэша, як злосны сабака:
«Я кусок адхаплю — і пайду балеваць!»

Ашчасліціць начальнік акругу сваю:
«Выбірай каго хочаш, свабоду даю».
І ад гэтага многа паўсюд беспарадку.
Кіраўніцтва з пагрозаю: «Знішчу! Заб’ю!»

Застанецца, хто здрадзіў, сам з бруднай душой.
Папракнеш — агрызнецца: «Не ў ласцы з табой!»
Чалавека не бачу, які мне сказаў бы:
«Задаволены доляй шчаслівай сваёй».

Бацьку сын прадае, брата роднага — брат.
Я стаміўся, такому жыццю я не рад.
Калі золату гонар з сумленнем слугуюць,
Вусны змоўкнуць няхай, ім знямець акурат.

Заблудзіліся людзі — і зло ў іх грудзях.
Чыняць здзекі сябрам, цемень стыне ў вачах.
Карыслiўцы шукаюць багацця і славы.
Ты навошта стварыў іх такімі, Алах?

Дык пракляцце таму, хто для ўласных выгод
Гонар свой прадае, счэз душою на лёд,
Хто клянецца прылюдна, а потым маною
Здабывае пашану сабе і даход,

Хто у коле сямейным прыстойны, паважны,
Ды гатовы прадаць за драбніцу шчадрот.

***1886***

* * *

Бай жыве і пільнуе статак свой,
Дзесяць дорыць — а сотня брыдзе жывой.
А той, хто здабудзе дзесятак галоў,
З дзевяноста здзярэ шчэ з ухмылкай крывой.
Адзін аднаго зняважаць спярша.
У горад едзе, пап'е вады з Іртыша,
Напіша данос напалову з грахом,
І скача дадому — спявае душа!
Коні схуднелі ад скачкі такой,
Кішэні пустыя — не мацай рукой!
Хоча ўсяведам і хітрым праслыць,
Век ганарыцца павагай людской.
Хто маўчун, то гаворадь: «Спужаўся ён!»
Бай спяшаецца сам абмінуць закон.
Махляр біты не раз, ды яшчэ жывы.
У багатага сіла уся здавён.
На сумленнага, каб абняславіць-збіць,
Налятае сабакам — гудзе трызвон.

***1886***

* * *

У аблуднага, вядома, не шляхі, а горкі дым.
Толькі вузкая сцяжына засталася перад ім.
Ён заўжды высакамерны, як джайран сярод авец,
І такія дзеі чыніць — іх не бачыць бы зусім.

Ходзіць ён павольна-важна, павязаны кушаком,
Дарагі чапан суконны, плеш прыкрыты башлыком,
Малахай свой самы лепшы ён спяшае апрануць,
У пустых гаворках-спрэчках хвацка менціць языком.

Нават летам яго шапка не запыліцца ў кутку,
Гладка струганая палка як падпора хадаку.
Ў керэге ўтыркне ён палку, кіне шапку на яе,
Азіраецца нядбайнік, пазяхае ў халадку.

І штаны яго здарэнняў многа бачылі не раз,
Ён трымаецца за гузік, абдурыць жадае вас.
Быццам птушцы ў цеснай клетцы, тут няма заняцца чым,
Застаецца пустасловіць, выстаўляцца напаказ.

З юні дзён усім ён роўня — сустракайце малайца!
Зубаскаліць, лезе ў бойку, зневажае мудраца.
У размове казырыцца, круціць носам, хмурыць лоб,
Пазірнеш і пасміхнешся: проста певень без званца!

Жаль які, што ў нашым людзе многа ёсць такіх аблуд,
Іх жыццё, што гасне марна, хцівасць хіжая і бруд.
Іх мастацтва — ў тым, што носяць хвацка хітрыя штаны,
А надзённыя турботы — для цябе, згібелы люд!

Так штодня — адны гулянкі, і няма другіх клапот.
Каб аддаць павагу працы, а жыццё — за свой народ?!
Толькі шнырaць па аулах, хвошчуць плёткай рысакоў,
Не вітаюцца пры стрэчы і з ухмылкай крывяць рот.

***1886***

* * *

О юнацтва пара — квет жаданы вясны!
Ды не думай — табе не прыдбаць сівізны.
Толькі ў юныя дні хмеліць нас весялосць,
Ну а старасць прыйшла — вее холад труны.

У юнацтве так лёгка песенькі ўсім распяваць,
Трапным гуллівым слоўцам сэрцайка чараваць.
І да грудзей гарачых зноў прыгажунь хінуць, —
Большага шчасця, мабыць, нельга ўжо і жадаць.

Мудры жыццё такое глупствам жадае назваць —
Лепш табунам ды навукам беглыя дні аддаць.
Дзеўчыну пакахаеш — толькі кахай адну,
Ад перабору ў каханні шчасця табе не знаць.

Ды за скацінай лена моладзь услед брыдзе.
Бавіць жыццё ў гулянках — а значыць, быць бядзе.
Лепей за ўсё ў юнацтве сёння вучыцца нам.
Хто не сумее — ад працы чэснай не прападзе.

Ходзіш зачаста ў госці, марна губляеш дні,
Век гарцаваць гатовы на вараным кані!

Толькі схуднее конь, знікне пашаны след.
Гэты пусты разгул розумам ацані.

Стрыманасць — вось ён, шчыт. П’яны загул — ярмо.
Цяжкасці перамагаць вучыць жыццё само.
Ці ж варта рабом заставацца тлумных, пустых забаў?
Волі адчуй узлёт, ці прытаміўся мо?

Будзе зашмат спакус — прама ступай, не збоч.
Стрэнеш няшчасце ты, страху агорне ноч.
Будзеш, як той жабрак, хлеба прасіць кусок.
Памятай пра другіх, мужна дарогай кроч.

Як жа нявечаць нас пыха і франтаўство.
Мецяць заўжды яны ў вока, а не ў брыво.
Злодзеем можа стаць ці апрануць лахманы
Той, хто сваім мазалём не прывітаў жніво.

Розуму не навучыў бацька нас з юных год,
Вопыту для жыцця не перадаў твой род.
Вось і глядзі — сышла марна твая маладосць,
Рады б разумным стаць, ды паміраць чарод.

Тых юнакоў няма, хто б мяне падтрымаў,
Голас надзей пустых подаўна ўжо сканаў.
Каб аніхто не змог нас, старых, папракнуць,
Простыя словы свае я для другіх пісаў.

***1886***

* * *

Да ступняў як, скажы, тваіх,
Тварэц, знайсці мне шлях прамы?
Калі сцінае горла кат —
Дрыжу ад ярасці, нямы.
Аргынцам і найманцам, тым
Радкі мае — настой густы,
А для суродзічаў маіх
Іх вешчы сэнс, што гук пусты.
Ім злітак золата даю,
Ды павялося так, што ім
Ён меддзю здасца, залаты,
Падай ім з Самарканда бязь,
І, ёй спакушаныя ўраз,
Яны расстануцца з парчой.
Іх фанабэрства супыні.
Калі ж, Тварэц, туман хлусні
Развееш ты сваёй рукой?
О міласэрнасці Тварэц,

Калі ж вар’ят і лгун-хітрэц
Падуць прад веліччу тваёй?

***1886***

* * *

Кожны па тавары едзе на базар.
Там гандлюе меднік, пекар і ганчар.
Вам патрэбны жэмчуг, а камусьці — хлеб.
Знойдзецца прыдатны кожнаму тавар.

Кожны тут спатоліць смагу прагных мар,
Кожнаму па сродках дасць сваё базар.
Ды не ўсім даступны жэмчуг слоў маіх,
Не па смаку многім слоў маіх нектар.

Многім не па сэрцы творцы Божы дар,
Не абросіць слова душ пустых папар.
Хай не ўсім да слыху тое, што кажу,
Ды ахопіць слова душы, як пажар.

Паспытай, чытач мой, слоў жывы нектар
І прымі належна мой пакорны дар.
«Жэмчуг не для дурня!» — кажа так мудрэц.
Гэта разумее і халоп, і цар.

***1886***

* * *

Пакуль не маеш, — маўчы,
Пакуль блукаеш, — маўчы.
Ў бязмэтных днях і ўначы
Дары забаў не лічы.
Каб чалавекам ты быў,
З другімі ўпоравень жыў,
Ты кволасць духу змажы,
Агонь душы зберажы.
Лухта, хлусня і хвальба,
Гультайства, п’янка-гульба —
Пяць грозных ворагаў, знай.
А розум і дабрыня,
Упартасць, праца, любоў —
Яны з надзейных сяброў.
Будзь чыстым, зла пазбягай,
Світанне справай страчай,
Каб розум жыў дабрынёй.
Няхай вучоным не стаў,
Інакшым стаўся лёс твой,

Ды ў смазе ведаў залог
Тваёй дарогі прамой.
Не гавары: «Не змагу».
Да ведаў мкніся душой,
Іх скарбы смела бяры.
Жыць станеш звабай пустой —
Пагасіш іскру ў душы.
Багацце, шчасце, спакой
Дадуць навукі табе,
Святло іх бач прад сабой.
І ўсё, што скажуць з журбой —
Ці аксакал, а ці бай —
Пачуй і сам спасцігай.
Будзь верным думцы жывой.
Не цешся зманнай хвалой!
Адзінай праўдай жыві,
Чым пошласць будзе зычней,
Тым з ёй змаганне лягчэй.
Адметным сціпласцю будзь,
Мой горкі вопыт засвой.
Аб тым, хто кажа табе,
Не думай: «Хто ён, герой?» —
Лепш цешся сутнасцю слоў.
Свет мае шмат песняроў,
Прарокаў і мудрацоў,
Вялікіх справай сваёй.
Сягоння думай аб ёй!
Павер жа слову, юнак,
Не дай свой розум на глум.
Не згубіць розум няўзнак
Спакусаў моташны тлум!
Дайдзі да мэты спаўна —
Маё жаданне адно.
На мудраца — сто дурных,
Вось горкай ісціны дно.
І ведай, юны мой друг:
Не ў словах блізкіх сваіх
Ты знойдзеш праўды агмень.
Даўно ў іх сэрцах патух.
Хлусня там — цемра начы.
Душа — як змрочлівы схоў.
Там шмат бяздумлівых слоў.
Вучыся сам і вучы.
Да ведаў мкне чалавек,
Хай веды ўславяць твой век!
Бо веды — светач жывы.
Не мае вучняў — то ён,
Настаўнік, як удавец.
Людзей па розуме мер —
Заўжды разумнага ўваж,
Шануй у клопатах дзён.
З праўдзівым розумам будзь

У справах, думках сваіх —
Гаворацць так мудрацы.
Прымі наказ мудры той,
У тлуме дзён не забудзь,
І будзе ў высі імкнуць
Палёт душы маладой.

***1886***

## ЛЕТА

Летам, калі цяністыя дрэвы,
І бела ад кветак на росных лугах,
І на шырокіх рачных берагах
Качэўе раскінецца на санцагрэве, —
Такія высокія ў стэпе травы,
Што хваляю коціцца ветрык млявы.
Добра наеўшыся, кабыліцы
Не ў сілах, здаецца, паварушыцца:
Ціха стаяць яны ля ракі,
Хвастамі гнюс адганяюць ляніва.
Адно скачуць весела і імкліва
Ля іх жарабяты і стрыгункі.
Гусей і качак зборышчы-зграі
То зноў садзяцца, то зноў узлятаюць…
Смехам і ўскрыкамі асыпаюць
Жанчыны прастор далёка наўкруг,
Ставяць са спрытам юрты лоўка,
Бачны упэўненасць і падрыхтоўка
У плаўных рухах іх белых рук.
Бай аб’язджае свае атары,
Сабой і жывёлай давольны зноў.
На статным кані трусіць дамоў
Увагу аддаць пузачу-самавару.
Лье гаспадыня з сабы кумыс,
Спрабуе, ці ў меру на сонцы падкіс,
А хлопчык, прысланы сюды батракамі,
У маці круціцца пад рукамі.
Просіць жалліва: «Мяса дай!»
У ценю навеса гатуюць чай,
І ў чаканцы гарачага чаю,
На кошмах седзячы важна, баі
Вядуць гаворку паміж сабой.
Пакуль адзін, такі гаварлівы,
Трашчыць не змаўкае, другія цярпліва
Ківаюць з пашанаю галавой.
Дзед здрахлелы ў белай кашулі
Крычыць чабанам: «Ганіце авец!»
Марыць аб тым, што бай-удалец
Яго пачастуе — увагай атуліць.

Табуншчыкі на сваіх скакунах
Дарогай імчаць — наладзілі скачкі,
Твары азызлыя, як ад спячкі,
Паясы ўзорныя на чапанах.
Чародка юнцоў з птушкай у полі
Палюе на качак — гарлае-сваволіць,
Калі, з рук выпушчаны, у выш
Беркут імкліва ўзмывае чорны
І шустрага качара схопіць праворна.
Усё, што мінула, агортвае ціш
У памяці хліпкай дзеда сівога.
Ён крочыць ужо сыходнай дарогай,
Прыстаўшы на беразе плыткай ракі,
Вітае юнцоў усмешкаю зорнай.

***1886***

***Пераклад з казахскай***
***Міколы Мятліцкага.***

## *Слоўнік да публікацыі*

Б а т ы р — волат.
Б і й — правіцель і старэйшына роду, родавы суддзя.
К е р э г е — рашотчаты каркас юрты.
К л а б у ч о к — навочнік для лоўчай птушкі.
М е д р э с э — мусульманская духоўная школа.
С а б а — бурдзюк для заквашвання кумысу.
Ч а п а н — мужчынскае верхняе аддзенне, разнавіднасць халата.

**Анжэла МЕЛЬНІКАВА**

# «ДЗЕ СКАРБЫ СЭРЦА ВАШАГА...»

*(Паэзія Яна Чыквіна)*

Ян Чыквін — асоба шматгранная: паэт, празаік, перакладчык, вучоны, даследчык беларускай і рускай літаратур, сябра Саюза польскіх пісьменнікаў і ганаровы — Саюза пісьменнікаў Беларусі, з 1989 года — старшыня Беларускага літаратурнага аб'яднання «Белавежа», рэдактар выдавецкай серыі «Бібліятэка Беларускага літаратурнага аб'яднання «Белавежа», літаратурна-мастацкага і беларусазнаўчага часопіса «Тэрмапілы». Аўтар наступных паэтычных зборнікаў: «Іду» (Беласток, 1969), «Святая студня» (Беласток, 1970), «Неспакой» (Беласток, 1977), «Светлы міг» (Мінск, 1989), «Кругавая чара» (Беласток, 1992), «Свет першы і апошні» (Беласток, 1997), «Крэйдавае кола» (Беласток, 2002), «Жменя пяску» (Беласток, 2008), кнігі выбранага «Адно жыццё» (Беласток, 2009). А яшчэ Яну Чыквіну належаць шматлікія літаратуразнаўчыя даследаванні, літаратурна-крытычныя артыкулы, пераклады на польскую мову твораў А. Разанава, на беларускую — твораў польскіх паэтаў XX стагоддзя. У сааўтарстве з Галінай Твардовіч Ян Чыквін пераклаў «Запіскі янычара Канстанціна Міхайловіча, серба з Астравіцы».

Вызначальная рыса паэзіі Яна Чыквіна, на наш погляд, — у своеасаблівасці яе культуралагічнага кантэксту: народна-беларускае выступае тут як арганічная частка выкшталцона-еўрапейскага. Паэзію Яна Чыквіна вылучае высокая культура творчасці, шырокі культурны кантэкст увогуле, глыбокае пранікненне, адчуванне спрадвечна беларускага. Еўрапейскі інтэлігент, якому дадзена адчуванне «родных каранёў». Еўрапейскасць і беларускасць Яна Чыквіна — ва ўраўнаважанасці, інтэлігентнай стрыманасці яго вершаў, самім стылі мыслення. Творам паэта ўласцівы арганічны інтэлектуалізм, што выяўляецца ў глыбокім веданні айчыннай і сусветнай літаратур, філасофіі, культуры.

Ян Чыквін — паэт, схільны перш за ўсё да **самааналізу, роздуму**. Ён імкнецца «*ўбачыць яснасць з боку тайнай цемнаты*» [1, 16], адлюстроўвае жыццё ва ўсёй яго складанасці, супярэчлівасці: «*іх жа ніхто не бача, // двух анёлаў — смутку і яснот*» [2, 16]; «*усё імгненнае жыццё*» [2, 22].

Паэзія Яна Чыквіна — **медытатыўная, сузіральная,** паэт засяроджаны ў сабе. Ён — «*той, хто вось ішоў і ўзіраўся // ў навакольны свет і заадно ў сябе самога*» [2, 24].

Значнае месца ў паэзіі Яна Чыквіна займае **духоўная** праблематыка, што сведчыць пра **вертыкальны** ўзровень яго твораў (у «Пасланні да Каласянаў» сказана: «*І вось, калі вы ўваскрэслі з Хрыстом, дык шукайце **вышыняў***» [Кал. 3: 1-1]). Паэт імкнецца супрацьстаяць каштоўнасцям спажывецкага свету, гэтай «спекуляцыі на паніжэнне», згодна з Б. Вышаслаўцавым («*Гарыць мая свяча...// Адным сваім святлом змагаецца з пачварным воблікам эпохі»)* [3, 9], імкнецца да вышэйшага, пазачасавага:

— Хай Гасподзь ратуе і дае надзею!..
Будзем, будзем, Божа, ў Бога верыць [2, 14].

Галоўныя для паэта катэгорыі — Любоў, Сумленне, Краса, Дабрыня. У вершы «Яздок без сядла» паэт выгукне: «**а я на зямлі свечкаю перад іконай»** (вылучана намі. — **А. М.**) [4, 418]. У вершы «Не проста сена воз» паэт заклікае: «*Стварайце культуру»* [4, 420].

Ян Чыквін шмат і глыбока разважае над праблемамі сэнсу жыцця зямнога:

Няхай здаецца вам, што ён не ўваскрос
І што гармоніі няма ў душэўных муках.
А ўсё-такі, калі заляжа ноч наўсцяж
І лекар не пакіне вам надзеі,
Не срэбнікаў і золата ўчэпіцца душа,
А вышняе спадзевы [5, 256].

Чалавек у творах Яна Чыквіна асэнсоўваецца праз усведамленне такіх маштабных катэгорый, як **жыццё і смерць, уваскрэсенне, сям'я**. Ян Чыквін даволі шмат у сваіх вершах звяртаеццца да Усявышняга, «*Бацькі, Сына і Духа Святога, Усёдаравальнага»,* асэнсоўвае праблемы духоўнага:

Таму ідзе самазгаранне,
Калі каго Ўсявышні абміне [2, 18].

У кантэксце хрысціянскіх каштоўнасцей гучаць і словы Яна Чыквіна пра «*Хараство адзінае»*. Паэт верыць у «*Вышэйшую мудрасць, якой жывуць людзі»* [3, 28].

Ён сцвярджае ў сваіх вершах **Любоў**, галоўную хрысціянскую каштоўнасць: «*Насустрач людзям душа ўсё імкне»* [3, 26]. Трэба зазначыць, што духоўная плынь у сучаснай беларускай літаратуры — адна з самых прадстаўнічых і змястоўных: творы Зніча (Алега Бембеля), М. Вайцяшонак, Д. Бічэль-Загнетавай, Г. Тварановіч, Н. Мацяш, В. Коўтун, Х. Лялько, В. Аксак, Г. Каржанеўскай, І. Багдановіч. Гэтыя пісьменнікі асэнсоўваюць галоўныя, асноватворныя праблемы: для чаго створаны чалавек і на якіх прынцыпах будаваць сваё жыццё.

Яну Чыквіну, «*сыну вёскі, брату крыніц і травы»* [3, 26]*,* уласціва адчуванне, **перажыванне Быцця** ва ўсёй яго **натуральнасці, сапраўднасці** («*Як срэбны вецер кліча бярозы!»* («Vita mea») [2, 5], «*Слыхам ледзь ловіш рух лісцяў бясконцы»* («Гарадок на ўскраіне вёскі») [2, 47], «пакланенне перад жыццём», згодна з А. Швейцэрам [6]. Паэт «*заслуханы ў сонцазвон і вецер барвовы»*. Што сведчыць пра адпаведнасць творчасці Яна Чыквіна нацыянальнай беларускай мастацкай традыцыі. Творы беларускіх пісьменнікаў моцныя сваім інтуітыўным, непасрэдным перажываннем і адчуваннем Быцця: «*Прагнасць жыць паўсюль»* [2, 32]*; «Я чую, як шумяць бярозы родныя санскрытам // ратавальным»* [2, 35]. Прырода, навакольнае, быццёвае ператвараецца ў набытак унутранага свету, форму духоўнага вопыту. Тое, пра што піша Ян Чыквін, прасякнута асабістым успрыманнем, бачаннем: «*Гэтым пахам перагрэтым // Ашчасліўленая рэчка // Замірала ў захапленні, // Ў меланхоліі цячэння»* [1, 69]. Паэту ўласціва своеасаблівая «сімпатыя», пранікнёнасць у жыццё («*Добры дзень, сястра мая, бяроза, // Прывітанне вам, браты дубы»*) [1, 19]. Сцвярджэнне свайго гістарычнага быцця беларусамі ў цеснай узаемасувязі з наваколлем абумовіла выключна інтымнае перажыванне рэчаіснасці. Ян Чыквін сцвярджае эстэтычную значнасць і самакаштоўнасць Быццёвага. Менавіта праз простае, тое, што такое далёкае ад клопату і заклапочанасці спажывецкага свету, і выяўляе сябе вечнае, сапраўднае.

У вершах Яна Чыквіна натуральнае, жыццёвае адначасова выступае і высокім, біблейскім: *«І сказаў Гасподзь Бог: нядобра быць чалавеку аднаму»* [Быццё: 2, 18]. У Яна Чыквіна:

А мы ў самотнасці тугу ўсёчалавечую галубім…
Ці нас жыццё не любіць? Ці мы жыцця не любім? [2, 22].

У вершы «Божая кароўка» выяўлены хрысціянскі падыход да **Жыцця як радасці**:

> …жыццё бурліла на усіх паверхах,
> судакраналася, і з кожнага яго найменшага скрылёчка
> ва ўсе напрамкі пасылаўся той жа таямнічы імпульс,
> вестка-**радасць існавання**, што і ў ім не згасла [2, 24].

У вершы «Лодка і вёслы»:

> Лёс даў вось шчасце моўчкі глядзець
> Нашым мокра-чорным ценям,
> Як вёслы бясследна бягуць па вадзе [1, 84].

Аўтарытэтны праваслаўны прапаведнік А. Шмеман пісаў: «Страшэнная памылка сучаснага чалавека: атаясамліванне жыцця з дзеяннем, думкай і г. д. і ўжо амаль поўная няздольнасць жыць, гэта значыць, адчуваць, успрымаць, «жыць» жыццё як бесперапынны дар. Ісці на вакзал пад дробным, ужо вясеннім дажджом, бачыць, адчуваць, усведамляць рух сонечнага промня па сцяне — гэта не толькі «таксама» падзея, гэта і ёсць сама рэальнасць жыцця. Не ўмова для дзеяння і для думкі, не іх безуважны фон, а тое, па сутнасці, дзеля чаго і варта дзейнічаць і асэнсоўваць. І гэта так таму, што толькі ў гэтым дае нам Сябе адчуць і Бог, а не ў дзеянні і не ў думцы» [7, 15].

Адзін з вершаў Яна Чыквіна так і называецца «Мы жывём, якая радасць гэта!»:

> Радуемся ўсяму на свеце,
> У жыцці бываючы неспадзяваным госцем [1, 65].

У вершы «Клён і вішня»:

> Жыццё зноў для нас святам,
> Калі запрасіў Усявышні [4, 428].

Скразная ў творах Яна Чыквіна — **філасофская праблематыка**:

> Што ёсць быццё? Што — чалавек? Што — Бог?
> Чаму нікому нельга лёсу перайначыць? [4, 426].

Паэт асэнсоўвае пытанні жыцця і смерці («Vita mea», «Вячэрні роздум», «Камень»), шукае сэнс існавання («Свет, як адна міска на стале для наймітаў», «Крык начны савы»), перадае адчуванне хуткаплыннасці, скарацечнасці індывідуальнага жыцця:

> Адно жыццё на ўсё жыццё — як гэтага нямнога! [1, 85].

І адвечнасці Жыцця ўвогуле:

> І зацвіце жыццё пад гэтым небам зорным,
> Як год таму і тысячы таму гадоў [2, 22].

Гэта дыялектыка, ці, як выказаўся сам паэт, «*гэта боская формула жыцця»* [2, 39] адлюстравана ў вершы «Зноў на магіле бацькоў вясна». Гэтай тэме прысвечаны і верш «Яна ляжала ў забыцці», верш пра Маці:

> Яна не ўспомніць не можа
> Імгненна і прагна пражыты
> Палёт свой над спеючым жытам
> У трапятанні трывожным.
> Успомніць — і станецца кветкай мурожнай [2, 26].

І верш, прысвечаны Бацьку:

Даўно нежывы бацька полем ідзе.
Ён арэ.
Ён і плуг.
Ён і скіба раллі, і зерне,
І водсвет далёкага раю.

Вочы, якімі ён глядзіць на свет,
Тыя самыя вочы, што яго сузіраюць.

Аўсу бацька ўзяў у радно
Ды сее той бок, дзе вечнасць даўно [2, 27].

Гэтыя два вершы складаюць своеасаблівы паэтычны дыптых.

У творы «Даўно нежывы бацька полем ідзе» ў адно з’яднаныя вобразы Бацькі, Селяніна, Захавальніка жыцця, яго асновы. Тут ізноў жа мы можам гаварыць пра адпаведнасць творчасці Яна Чыквіна беларускай нацыянальнай традыцыі. Сялянства ўсведамляецца як субстрат нацыі. Традыцыі, створаныя сялянскай культурай, успрымаюцца як першакрыніца этычных уяўленняў.

Зварот да сялянскай тэмы — зварот да асноватворных момантаў нацыянальнага жыцця, імкненне асэнсаваць, спасцігнуць карэнныя пытанні быцця народа. Гэта прадвызначае своеасаблівую танальнасць такіх твораў (іх велічнасць, урачыстасць, лірычнасць), пэўны тып героя і канфлікту, пэўны маральны патэнцыял. Нездарма верш «Даўно нежывы бацька полем ідзе» Яна Чыквіна перакладзены на многія замежныя мовы, бо выступае як рэпрэзентатыўны, паказальны для беларускай культуры, адлюстроўвае і спецыфіку нацыянальнага светабачання, і тып культуры. І, урэшце, гаворыцца ў гэтым вершы пра галоўнае: жыццё, смерць, бяссмерце, пра таго, хто дае жыццё.

У вершы «Песнятвор» паэт здолеў дакладна і ў той жа час паэтычна-вобразна выказаць сутнасць працы земляроба, селяніна. Зямля для яго — ***Песнятвор***: *«Зямелька, пухкі пыл, бацькоўскі песнятвор»* [4, 425]. Праца селяніна — уваскрашэнне жыцця:

Яна зярняты сыпала са жмені,
Яна ўваскрашала загоны [3, 18].

Быццёвы, матэрыяльны пачатак нацыянальнай ментальнасці выражаны і ў пільнай увазе нашых пісьменнікаў **да рэчыўнага, побытавага свету**, у нейкай асаблівай натуральнасці, лірычнасці ў выяўленні будзённых рэалій жыцця (*«Над вёскай міску неба трымаў бусел»* [1, 39]*; «За вёскай з сена ўставала надранне»* [1, 39]). І разам з тым гэтае будзённае паэтызуецца, апяваецца, узнімаецца да пантэістычных канцэпцый рэчаіснасці («*Слухаць музыку любіў мой дзед: // Ад незапісаных гадоў // Круціў пласцінку жорнаў. // І коўш мукі быў поўны»* [2, 30]*).* Адсюль і вобразы *поля, плуга*, *жыта, раллі, зерня, хаты* і г. д. Быццёвасць мыслення, заземленасць мастацкага вобраза, паводле В. Каваленкі, — у аснове верша «На папасе»:

Мы паслі ноч.
Гарэў касцёр духмяна,
І падалі,
Бы скваркі,
Зоркі ў атмасферу [1, 75].

Адсюль і шчымліва-інтымныя звароты паэта: «*Сад мой, садок, // Душа найлепшая з душ, // Прыбяжы да мяне ў Беласток // У белай кашулі груш. // Зялёным сваім нутром // Надыхаеш даўніх мне сноў»* [1, 43].

Пра філасофскі склад мыслення Яна Чыквіна сведчаць пастаянныя звароты да **катэгорыі Часу (**вершы «Крык начны савы», «Элегія ночы», «Элегія фаталіз-

му», «Феномен дня» і інш.), імкненне спасцігнуць сутнасць Часу: «*Паспрабаваць бяздоння часу // У міг адзін, ў шчыліне — дні, // Калі жыццё стаіць ў вачах // Глытком адвечнай цішыні*» [1, 72]*; «І што ёсць час — рака ці акіян? // Вытокі дзе яго? І дзе яго скрыжалі?»* [4, 426], «*А ці імгненне тое будзе помніць пра мяне?»* [5, 252]. Паказальныя ўжо назвы зборнікаў Яна Чыквіна «Светлы міг», «Свет першы і апошні».

**Сімволіка** твораў Яна Чыквіна таксама мае філасофскі падтэкст: «*Замыкаецца кола лёсу»* [2, 5]. Жыццё як кола («*Жыццё імкнецца ў форму кола»* [2, 50]*; «І чысты час прымае ўрэшце форму кола»*). Кола сімвалізуе адвечнасць, бясконцасць жыцця. Адсюль і адпаведныя назвы паэтычных зборнікаў: «Кругавая чара», «Крэйдавае кола».

Вершы Яна Чыквіна вылучаюцца паэтычнай **вобразнасцю, асацыятыўнасцю,** метафарычнасцю: «*у срэбналістай цішы», «аквамарынная бярозастройніца».*

Паэзія Яна Чыквіна звернута да **Прыгожага,** традыцыйныя ў яго вершах вобразы Пані, Рамэа і Джульеты, Адысея, імёны Бетховена, Сафо, дэ ля Крус, Клеапатры, Беатрычэ, Г. Лоркі. Ян Чыквін працягвае матывы апалонаўскай лірыкі М. Багдановіча, звяртаецца да так званых адвечных тэм, апявання Красы, Прыгажосці. Паэт прызнаецца, што ён «*красы староннік найзвычайны».* Яну Чыквіну блізкая думка «аб эстэтычным як аб глыбіннай сутнасці свету… асэнсаванне і ўспрыманне свету ў эстэтычных катэгорыях» [8, 185]. Тут нельга не ўзгадаць і апяванне Хараства, Красы Ул. Жылкам, Ул. Дубоўкам, Я. Пушчам. В. Максімовіч пісаў, што эстэтызацыя хараства, красы — адна з вызначальных прыкмет адраджэнскай літаратуры: «Краса для мадэрністаў выступала своеасаблівым сінонімам духоўнасці. Калі дапусціць існаванне трох вымярэнняў Абсалюту — Ісціны, Дабра і Красы, — то для мадэрністаў менавіта Краса ёсць тая іпастась Абсалюту, якая найбольш поўна заключае ў сабе патэнцыі рэалізацыі, раскрыцця духоўнай субстанцыі. Толькі праз абагаўленне красы, прыгожага, хараства яны бачылі шлях адраджэння магутнага патэнцыялу нацыі» [8, 187].

Беларускімі даследчыкамі (А. Бельскі) заўважана, што восень — самая апетая пара года ў беларускай паэзіі [9]. Да вобраза восені часта звяртаецца і Ян Чыквін. Яго творы насычаны **вобразамі, алюзіямі, рэмінісцэнцыямі з нацыяльнай культуры:** «*На двары позні Рым пад сінім небам айчыны».* У вершы «Паэт на чужыне»: *«У тым адхоне, дзе я сканаю, // У тым пранізлівым бляску // Я вельмі самотны — айчыны не маю, // Матчынай ласкі»* [1, 51]*)* — алюзія на М. Багдановіча. Радок з верша «Яздок без сядла»: «*а я на зямлі свечкаю перад іконай»* [4, 418] перагукваецца з вершам Ул. Жылкі «Я — грамнічная свечка прад Богам».

Трэба асабліва вылучыць спецыфіку **культурнага кантэксту** твораў Яна Чыквіна. Паэзія яго ўгрунтаваная не толькі на нацыянальным мастацкім вопыце, але і на вопыце **сусветнай культуры** (вершы «Адысей і Найзікая», «Раздвоенасць», «Прыдарожны бар», «З анахарэтавых запісаў», «Паверыўшы ў паэзіі крыло», «Ноч ясная тваёй душы», «Майстэрня паэта», «Крык начны савы» і інш.). Паэт звяртаецца да вобразаў, гісторыі, культуры Старажытных Грэцыі і Рыма, Сярэднявечнай Еўропы, часоў Адраджэння, усходняй міфалогіі. Вядома, што якраз грэка-рымская культура і хрысціянства выступаюць агульнымі культурнымі пачаткамі еўрапейскай літаратуры, з'яўляюцца вызначальнымі адзнакамі еўрапейскай культуры.

Такім чынам, «дзве душы» беларуса, «дзве душы» як скразны матыў беларускай літаратуры своеасабліва трансфармаваліся і ў творчасці Яна Чыквіна:

Здарылася ж жыць на ўзбочыне
Шляху дзікіх гусей і бетховенскіх гукаў [2, 32].

Паказальны радок з верша «У Дубічы штогод прыходзіла вясна»:

Глядзела маці на усход, а бацька спазіраў на захад [2, 38].

Паэт знайшоў досыць трапнае слова — ***заўсходні чалавек,*** якое дакладана адлюстроўвае ўнутранае адчуванне самога Яна Чыквіна, выхаванага на памежжы Захаду і Усходу. Верш «Бемоль Сяднёва» — узор спалучэння Культуры і Цывілізацыі: «*Я чую, як шумяць бярозы родныя санскрытам // ратавальным»* [2, 35]. Гэты радок Яна Чыквіна — раскоша для філолагаў. Грунтуючыся на гэтым радку, можна разважаць і пра спецыфіку нацыянальнай ментальнасці (інтуітыўнае пранікненне ў жыццё, рэчаіснасць, інтуітыўнае перажыванне Быцця), і спецыфіку мастацкай індывідуальнасці самога паэта (спалучэнне, сінтэз нацыянальна-беларускага і вопыту сусветнай культуры, філалагічную вывучку, у рэшце рэшт), пра культуралагічны погляд на Беларусь як на прарадзіму славянства. *Санскрыт* у гэтым радку — сінонім спрадвечнага.

Пададзены ў вершах Яна Чыквіна і традыцыйныя нацыянальныя **мастацкія архетыпы** (дарогі, роднага кута, жывой вады («*як ажыўляльную ваду»*), культуралагічныя і міфалагічныя вобразы (Лета, Дрэва, Дажбога, Жалі), сімвалы. Прывязанасць беларуса да родных мясцін, архетып Роднага кута выяўлены ў вершах «Дубічы, Дубічы, Гайнаўшчына», «Слупы бязвер'я». Даследчык беларускіх мастацкіх архетыпаў І. А. Чарота заўважыў, што ў «беларускім мастацтве зусім не выпадкова распаўсюджаныя матывы мяжы і пераходнасці. Якраз гэтая семантыка ўласціва ці не большасці вобразаў, шырока і трывала замацаваных...» [10, 104].

Памежныя, пераходныя вобразы (захаду, змяркання, світання) — скразныя ў творах Яна Чыквіна («Захад сонца ў ваколіцы Дубіч Царкоўных», «Сонечная дарога змяркання», «Ноч кнігу вечнасці чытае», «Смуга вячэрняя» і інш*).*

Паэту блізкая думка пра **роднаснасць музыкі і паэзіі** (вершы **«**Бемоль Сяднёва», «Сонечная меса», «Партытура», «Элегія фаталізму», «Беластоцкая элегія» і інш.). У вершы «Лета 1980»: *«Радасць учарашняя, сумна-прыгожая, // Усё намагаецца ў мелодыю выліцца»* [1, 53]**.** У вершы «Партытура»: *«З грацыі кветак музыкай тхне. // Восень на нотах развешана»* [1, 55]. Узгадваюцца словы рамантыка Навaліса пра паэзію як прамежкавае мастацтва паміж жывапісам і музыкай.

Ян Чыквін шмат уносіць у распрацоўку беларускай **лірыкі кахання** (вершы «Раздвоенасць», «Шарая гадзіна. Вочы ў вочы», «Водгулле», «Цябе няма, і ўся зямля маўчыць», «Ноч ясная тваёй душы», «Ікона», «Трыпутнік мілавання», «Малітва», «Кветка болю», «Айкумена», «Жанчына-ноч»):

Шарая гадзіна. Вочы ў вочы.
Два анёлы, ўжо без крылаў.
Дзве душы… Ах, Госпадзе, памілуй!
Міласці нябеснай і тартарскай змрочы [2, 16].

У вершы «Раздвоенасць»:

І к палкаму жанчыне-дрэву схіліцца мужчына-дрэва,
На ўсё імгненнае жыццё сябе рукамі абаўюць без слоў.
У ззянні свету будуць для сябе яны Джульетай і Рамэа,
І здасца ім, што перад імі тысячы гадоў [2, 22].

Каханне як самарастварэнне ў каханым чалавеку перадаецца ў вершы «Асіметрыя»: *«Тваімі словамі малю, // З табой сама сабе адпавядаю»* [4, 431].

Паэт выказвае **захапленне Жанчынай**, прыгажосцю Жанчыны, якая, «*нібыта музыка жывая».*

Пранікненне ў сутнасць жаночага, спасціжэнне жаночага — у вершах «Смуга вячэрняя»:

Запаланіла некалі мяне твая ўсёчалавечнасць,
Жаноча-боская цярплівасць, дабрыня, ласкавасць [4, 429].

«Малітва»*:*

Ты ствараеш свет і ночы
Нараджэння, пахавання.
Уся ты ў яснасці вялікай,
Як ікона Багамаці.
Хараства, дабра і праўды
Дай мне, грэшнаму, пазнаці [4, 424].

У вершах Яна Чыквіна выяўлены выразна мужчынскі пачатак, калі мужчына выступае адказным — Мужчынам, які вядзе за сабой Жанчыну:

Бог выбраў цябе, жанчына,
Паслаць па шляху за мною [2, 13].

Паэзія — калі ёсць гэтае славутае «перавышэнне» сэнсу тых слоў, з якіх складаецца верш. Там, дзе паэзія, творчасць, там і абнаўленне, **моватворчасць**, нараджэнне. Нараджэнне новага слова: *трысмутэніі, адсонцаўлялася, абаклуненыя, заўгоднік*, сонца ледзь *кругліцца, табе не матуліцца, // мне не татуліцца, моўкня, мірсціцца, завокнены, дадумы, прастромім, духасветлы, фіялець, ветрамузычны, сумілаванне*. Нecho Наватворамі насычаны верш «Сонечная меса»: *лагодзіца, асонцаяўлены, сонцазвон*. Ізноў жа ўзгадваецца Ул. Дубоўка, які таксама ўвёў у беларускую мову шмат слоў-наватвораў. Р. Якабсон пісаў, што «поэзия — это просто язык в его эстетической функции…Поэзия есть оформление самоценного, «самовитого», как говорит Хлебников, слова» [10, 10—11].

**Філалагічны клас** Яна Чыквіна выяўляецца ў высокай культуры творчасці, паводле А. Адамовіча. Пра што сведчаць ужо і назвы вершаў («Элегія фаталізму», «Элегія ночы», «Vita mea», «З анахарэтавых запісаў», «Айкумена» і інш.). Філалагічны склад мыслення паэта своеасабліва праяўляе сябе ў вершы «Праз нас жыццё»:

Праз нас жыццё
Шукае сабе формулу
Навелы [2, 52].

Ці «*Пад ліпамі душна, як у форме санета*» [1, 13].

Яну Чыквіну не чужая думка пра **дзейснасць рытму,** што ў свой час было пераканаўча даведзена А. С. Яскевічам. Так, літаральна заварожваюць сваім тэмпам вершы «Божая кароўка», «Веравызнанне», «Кветка болю».

І не быў бы Ян Чыквін беларускім паэтам, каб не прагучала ў яго творах **патрыятычная праблематыка**. Ян Чыквін «*загледжаны ў прыгажосць роднага краю*» [1, 77]. Традыцыйная для нашай літаратуры дылема Волі-Долі ў Яна Чыквіна вырашаецца адназначна на карысць Волі:

Будзе жыць айчына
Небам сваім і зямлёю!
Ёсць такая памклівасць!
Ёсць такая патоля!..
Ёсць такая мажлівасць!
І духу такая воля… [2, 44].

У вершы «З анахарэтавых запісаў» гучаць характэрныя для беларускай паэзіі матывы смерці і ўваскрэсення Беларусі. Янку Купалу «*сніліся сны аб Беларусі*». Яну Чыквіну таксама сніцца радзіма:

Буслы і коні на волі!
І неспадзеўна ў грудзях, да болю,
Шчым зашчыміць, нібы так, без прычыны…
А гэта, як цельца карала,
На душу апала
Сляза пякучая айчыны [4, 424].

Таямніца Сапраўднага мастацтва не паддаецца лагічнай расшыфроўцы, прачытанню. Да канца неспасцігальнай засталася для мяне і паэзія Яна Чыквіна. Здаецца, справа ў рытме яго вершаў, гэтых пераходах думкі, асацыяцый, сінтэзе высокай, вытанчанай еўрапейскасці і быццёвасці, угрунтаванай на беларускай вясковай глебе.

А. Шмеман пісаў: «Уся культура і ўсё ў культуры — у рэшце рэшт — пра Боскае Царства, за ці супраць. Таму што культура складаецца з «рэалізацый» скарбаў сэрца («Дзе скарбы сэрца вашага …») [7, 188]. Скарбы сэрца паэта Яна Чыквіна — з Вышэйшым, з Родным, з Прыгожым:

кожны дзень
я паўтараю як малітву:
роднае мяне выратавала!
Дзе былі мы народжаныя,
у цэнтры сусвету,
дзе вечна ўстае
і велічна заходзіць
нашае сонца,
і жыватворыць тайну
вокадух [5, 288].

**Спіс літаратуры:**


1. Чыквін, Ян. Светлы міг / Ян Чыквін. — Мн.: Мастацкая літаратура, 1989.
2. Чыквін, Ян. Крэйдавае кола / Ян Чыквін. — Беласток: БЛА, 2002.
3. Чыквін, Ян. Кругавая чара / Ян Чыквін. — Беласток, 1992.
4. Чыквін, Ян. // Беларускія пісьменнікі Польшчы — Мн.: Беларускі кнігазбор, 2000.
5. Чыквін, Ян. Адно жыццё / Я. Чыквін. — Беласток, БЛА, 2009. — 304 с.
6. Швейцер, А. Благоговение перед жизнью \ А. Швейцер. — М.: Мысль, 1991.
7. Шмеман, А., прот. Дневники. 1973—1983 / А. Шмеман // Сост., подгот.текста У. С. Шмеман, Н. А. Струве, Е. Ю. Дорман. — 2-е изд., испр. — М.: Русский путь, 2007.
8. Максімовіч, В. Эстэтычныя пошукі ў беларускай літаратуры пачатку 20 стагоддзя: дапам. для студэнтаў філалаг. фак. ВНУ / В. Максімовіч. — Мн.: Аракул, 2000.
9. Бельскі, А. І. Свет ад травы да зор: Беларуская паэзія: сістэма вобразаў прыроды, паэтыка пейзажу: дапаможнік для настаўнікаў. — Мінск, Народная асвета, 1998.
10. Чарота, І. Пошук спрадвечнай існасці: Беларуская літаратура 20 стагоддзя ў працэсах нацыянальнага самавызначэння / І. Чарота. — Мн. : Навука і тэхніка, 1995.


Артыкул паступіў у рэдакцыю 11 студзеня 2010 года.

Анжэла Мельнікава

«Дзе скарбы сэрца вашага…»

**Рэзюме**

У артыкуле разглядаюцца адметнасці светапогляднай і эстэтычнай сістэмы паэзіі Яна Чыквіна. Указваецца, што творы Яна Чыквіна вылучае высокая мастацкая культура, шырокі культурны кантэкст увогуле і глыбокае пранікненне, адчуванне спрадвечна беларускага. Чалавек у творах Яна Чыквіна асэнсоўваецца праз усведамленне такіх маштабных катэгорый, як жыццё і смерць, уваскрэсенне, сям'я.

Anzhela Melnikova

«Where the treasures of your heart...»

**The Summary**

The peculiarities of the philosophic and aesthetic system of Yan Cheekvin's poetry are considered in the article. The high art culture, the wide cultural context in general and the deep penetration into the inner life of a Byelorussian are distinguished qualities of Yan Cheekvin's works. The person in his poems is depicted through his understanding of such global categories as life and death, revival, family.

Мікола МЯТЛІЦКІ

## БАГУШЭВІЧ У СМАРГОНІ

Ўзараўшы роднае нівы гоні,
Пасеяўшы роднага слова зерні,
У парку звонкагалосай Смаргоні
Ён прыпыніўся
У час вячэрні.

О, сейбіт! Табою разбуджаны зоры.
Грэе нас сёння роднасць святая.
Гэта ў сусветнай духоўнай прасторы
Імем тваім
Беларусь світае.

Слову народа — не быць безгалосым
І не глядзець палахліва-пудка.
Спевам сардэчным лучыць лёсы
Твая беларуская дудка.

І край наш, у войнах не раз руйнаваны,
Жыта сваё пераможна сее,
Бо Вязынку мае
І мае Кушляны —
Свайго Бурачка Мацея.

Язэп ЯНУШКЕВІЧ

# ЧАРОЎНАЯ ДУДКА

**Збіраючыся** ў няблізкую вандроўку, апроч рэчаў побытавых чалавек іншым разам бярэ з сабою нешта для душы: пачытаць у прынагодную часіну. Гэткім спажыткам для свядомага беларуса, бясспрэчна, можна лічыць «Дудку беларускую» Мацея Бурачка ці Францішка Багушэвіча.

Францішак Багушэвіч — наш самы яркі нацыянальны паэт XIX стагоддзя. Менавіта творчасць Мацея Бурачка і Сымона Рэўкі з-пад Барысава ў адной асобе — ягоная хай сабе і невялікая (нават па мерках XIX стагоддзя), аднак яркая літаратурная спадчына адназначна сцвердзіла: беларуская літаратура была, яна ёсць, а значыць, у яе будзе і годны працяг.

Францішак Бенядзікт, сын Казіміра Багушэвіча, нарадзіўся 21 (9) сакавіка 1840 года «ў двары Свіранах» (цяпер у Літве, пад Вільнюсам). Гадаваўся будучы паэт у маёнтку Кушляны (34 сялянскія душы). Там мінула маленства Францішка. Адтуль пацягнуліся сыны кушлянскага гаспадара ў Вільню, па навуку. Пасля заканчэння Віленскай гімназіі (1861) здольны юнак паступіў у Пецярбургскі універсітэт, але вучобу так і не пачаў: вымушана вярнуўся ў родны край, дзе працаваў у школцы, адкрытай на Лідчыне ўладальнікам маёнтка Доцішкі Аляксандрам Зsyяровічам. Тут, на Лідчыне, у Доцішках, заспела Францішка паўстанне 1863 года. Год, які застаўся ў гісторыі станаўлення і развіцця новай беларускай літаратуры і новай беларускай нацыі. Там, у маладосці паэта, належыць шукаць першаспеў Багушэвічавай музы? Ці ён абудзіўся тут, на радзіме, і прагучаў на роднай мове? Ці ўпершыню муза ягоная прамовіла па-польску на ўкраінскай зямлі, дзе пасля паўстання, адвучыўшыся ў

Нежынскім юрыдычным ліцэі (1865—1868), Багушэвіч пражыў, бадай, дваццаць гадоў? Ці, можа, маюць рацыю тыя ўкраінскія даследчыкі, што сцвярджаюць: першыя свае творы Ф. Багушэвіч напісаў па-ўкраінску?

Пакутная вучоба скончылася 26 ліпеня 1868 года, а 17 жніўня, калі Багушэвічу выпісвалі атэстат, ён ужо «состоял на службе» ў г. Чарнігаве, адкуль у 1869 годзе пераведзены ў Кралявецкі павет судовым следчым. Праз два гады (за гэты час ён папрацаваў у Старадубскім павеце) мы зноў бачым Багушэвіча ў Чарнігаве. Але і тут 30-гадовы следчы не затрымаўся надоўга, яшчэ раз змяніўшы месца працы: 21 ліпеня 1871 года загадам Міністэрства юстыцыі прызначаны судовым следчым у Гразявецкі павет Валагодскай губерні. Дзіўны парадокс: туды, куды Багушэвічавых паплечнікаў-паўстанцаў гналі пад канвоем, ён падаўся, можна сказаць, самахоць. Наогул, калі разважаеш над працоўнай адысеяй выпускніка Нежынскага юрыдычнага ліцэя (праз год ён вернецца на Украіну, каб 7 месяцаў папрацаваць старшым следчым Барзнянскага павета і перайсці на службу ў Канатоп), заўважаеш адно: на радзіму будучы паэт не вяртаўся, пераводу па службе туды не прасіў. Не дзіва, бо мясцовыя губернскія ведамасці яшчэ друкавалі абвесткі пра канфіскацыю маёмасці паўстанцаў 1863 года. Толькі ў 1876 годзе на Беларусі скасуюць асаднае становішча, уведзенае пасля задушэння паўстання Каліноўскага; у 1883 годзе (27 траўня) каранацыя Аляксандра III, новага цара (імператарам Аляксандр стаў у 1881), суправаджалася, па традыцыі, амністыяй палітычных злачынцаў: тысячы паўстанцаў, «виновных в польском мятеже 1863 года», з Захаду і з Усходу пацягнуліся на радзіму.

2 лютага 1884 года Багушэвіч падаў прашэнне ў Нежынскі акруговы суд з просьбаю звольніць са службы, а 25 сакавіка ступіў на віленскі брук, камяні якога памяталі ягоныя крокі з гімназічных часоў, убачыў горад сваёй маладосці. Быў ужо цяпер ён не адзін, а з жонкаю Габрыэляй з дому Шклёнікаў, мінчанкаю, з якой узяў шлюб у 1874 годзе і ад якой меў дачку Канстанцыю (Туньку) і сына Тамаша Вільгельма. Такім чынам, пакідаў Францішак Беларусь у той час, калі на ёй заставаўся самотны Дунін-Марцінкевіч, які знаходзіўся ва «ўнутранай ссылцы». Вярнуўся, калі тут падрасталі Цётка, Ядвігін Ш., калі першыя самастойныя крокі рабілі Купала і Колас.

Царскія маніфесты ды амністыі выдаваліся падчас падзейных (хрост, шлюб, каранаванне манаршых асобаў) ці юбілейных урачыстасцей і распаўсюджваліся на пэўныя катэгорыі «палітычных злачынцаў», але ніколі не адрасаваліся «літвінска-беларускай» літаратуры. Раз не дазвалялася фінансаваць аніякіх тубыльскіх часопісаў, рэдакцый, а тым больш выдавецтваў, значыць, і літаратуры такое не існавала.

Бо калі маўчаць паэты — знямее давеку народ. «Марудна (дужа марудна, бо ад жыццёвых клопатаў застаецца мала вольнага часу і думак) нараджаюцца песні і іншага складу вершы», — скардзіўся Францішак у лістах да Яна Карловіча, спавядальна прызнаючыся ненашмат старэйшаму сябру (апекуну-мецэнату, з дапамогаю якога змаглі пабачыць друкарскі варштат за мяжою прыжыццёвыя Багушэвічавы паэтычныя зборнікі, найперш «Дудка беларуская»), што юрыдычныя талмуды адбіраюць лепшыя хвіліны жыцця.

З беларускага слова тады не было як пражыць анікому на абшарах былога Вялікага Княства, нават будзь ты таленавіцейшым за Байрана, Гётэ альбо за Міцкевіча ці хай сабе за Пушкіна. Рэкруцкі лёс паднявольнага Шаўчэнкі, выкупленага з «кріпацтва» лепшымі прадстаўнікамі расейскай культуры (25 красавіка 1838 года ў пецярбургскай майстэрні К. Брулова паэт В. Жукоўскі ўручыў Тарасу «адпускную»), а потым зноўку здадзенага «ў маскалі» без аніякага права пісаць хоць што-небудзь, сведчыў пра адно: расійскі царызм дэклараваў развіццё толькі «дзяржаўнай» мовы.

Чаму? Апалагеты «адзінай і непадзельнай» пры самым першым з’яўленні зборнічкаў Мацея Бурачка пабачылі «в такого рода сочинениях тенденцию... разбить и ослабить литературное и национальное единство, а вследствие этого и политическое могущество русского народа»[1]. Але чаргуючы ўздымы і заняпады (апошняга было для нас куды болей), Беларусь праз усё XIX стагоддзе ішла да сябе — вольнай і незалежнай. Таму калі 15 (28) красавіка 1900 года ў сваім маёнтку Кушляны адышоў Францішак Багушэвіч, alias Мацей Бурачок, vel Сымон Рэўка з-пад Барысава — з ім адышла цэлая змагарная эпоха. Бо менавіта аўтару «кантрабандных» (спрэс

замежных зборнікаў) поруч з заснавальнікам Вінцэнтам Дуніным-Марцінкевічам ды іншымі пачынальнікамі ўдалося закласці падваліны для развіцця новай беларускай літаратуры.

У гісторыі станаўлення славянскіх літаратур зборнічак «Дудка беларуская», які выйшаў у свет увосень 1891 года ў кракаўскай друкарні У. Анчыца, не меў (дый да сёння не мае) аналагаў. Ні згаданым еўрапейскім сучаснікам Багушэвіча — Байрану, Гётэ з Шылерам, Міцкевічу са Славацкім, Пушкіну з Цютчавым і нават Шаўчэнку з Франко, ні потым у XX стагоддзі ягоным наступнікам Купалу, Коласу, Багдановічу — не давялося пісаць да паэтычных слоў уступу, гэтак пафаснага і лёсавызначальнага.

«Братцы мілыя, дзеці Зямлі-маткі маёй! Вам афяруючы працу сваю, мушу з вамі пагаварыць трохі аб нашай долі-нядолі, аб нашай бацькавай спрадвечнай мове, каторую мы самі, ды і не адны мы, а ўсе людзі цёмныя «мужыцкай» завуць, а завецца яна “б е л а р у с к а й”».

Як было тутэйшаму «цёмнаму» селяніну, што ўвесь век звекаваў у сваёй вёсцы, не верыць больш дасведчанаму, бываламу і разумнаму супляменніку, што гаворыць на адной з ім гаворцы: «...я шмат гдзе быў, шмат чаго відзеў і чытаў: і пераканаўся, што мова нашая ёсць такая ж людская і панская, як і французская, альбо нямецкая, альбо і іншая якая». Як было ім не верыць чалавеку, хай сабе чужому-незнаёмаму, калі ў кожным яго сказе, у кожным слове гучала засцярога: «Шмат было такіх народаў, што страцілі наперш мову сваю, так як той чалавек прад скананнем, катораму мову займе, а потым і зусім замёрлі». Як было не пачуць закліку: «Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!»

У праграмнай «Прадмове» паэтам дакладна праведзена вызначэнне асноўных прыкмет існавання самастойнай беларускай нацыі: даўняя, праз якія эканамічная і культурная супольнасць люду, што жыве на адной тэрыторыі разам з іншымі народамі, якія ўваходзілі ў склад Вялікага княства Літоўскага («ад Балтыцкага мора ўдоўжкі аж да Чорнага, ад Дняпра і Днястра ракі да Нёмна...») і адзінства мовы («...гдзе ж цяпер Беларусь? Там, братцы, яна, гдзе наша мова жывець: яна ад Вільна і да Мазыра, ад Вітэбска за малым не да Чарнігава, гдзе Гродна, Міньск, Магілёў, Вільня і шмат мястэчкаў і вёсак...»). Тэма нацыянальнага адраджэння ў прадмовах да зборніка «Дудка беларуская» (а неўзабаве і да зборніка «Смык беларускі») становіцца асновай творчасці Ф. Багушэвіча. Яна была сугучная запатрабаванням эпохі канца пазамінулага стагоддзя. Калі трохі раней, у сярэдзіне XIX стагоддзя, Італія ўрэшце пайшла па шляху аб’яднання, словы яе вялікага паэта Франчэска Петраркі, напісаныя яшчэ ў XV стагоддзі з заклікам да нацыянальнага ўз’яднання, захавалі тую ж, калі не большую, моц. Аналагічнае энергетычнае ўздзеянне захавае за сабой слова Багушэвіча праз чвэрць стагоддзя — да часу абвяшчэння незалежнай Беларусі. Прадмова Ф. Багушэвіча стала своеасаблівым маніфестам беларускага нацыянальнага адраджэння.

Рукапіс зборніка «Дудка беларуская» не захаваўся, таму даты напісання большасці твораў невядомыя. У лістах паэта да Я. Карловіча ёсць пачатковыя варыянты твораў «Мая Дудка», «У судзе», «Воўк, ягня, авечка» (у зборніку ён змешчаны пад назвай «Воўк і авечка»), «Думка», а таксама згадкі пра гісторыю і час напісання легенды «Хцівец і скарб на Святога Яна». Аўтографы даюць падставу меркаваць, што «Дудка беларуская» кампанавалася ў 1886—1890 гадах. Акурат да гэтага перыяду адносяцца частыя згадкі-выказванні Э. Ажэшкі пра Ф. Багушэвіча: «...Ён чытаў мне свае беларускія творы і нават пакінуў мне іх копіі з асобным вершам, таксама напісаным па-беларуску, адрасаваным мне. Ці ж няпраўда, што гэта цудоўныя рэчы, яны маюць нейкае асаблівае хараство, і я вельмі зацікавілася, ці здолеюць нашы сяляне зразумець і адчуць іх? На будучае лета паспрабую чытаць іх маім міневіцкім знаёмым». У іншым лісце да Я. Карловіча (22.02.1888) польская пісьменніца зноў падзялілася ўражаннем ад чарговай сустрэчы з беларускім песняром: «Быў у мяне нядаўна п. Багушэвіч і чытаў мне сваю, толькі што напісаную па-беларуску казку, доўгую, поўную фантазіі, цудоўную. Прыгожы гэта талент. Польскія вершы яго слабыя, але беларускія, на маю думку, выдатныя. Трэба з усёй сілы заахвочваць яго да працы ў гэтым кірунку».

Усяго ў паэтычнай спадчыне Ф. Багушэвіча 48 беларускіх вершаваных твораў, а польскіх 14; фактычна, трэцяя частка. Да гонару Ф. Багушэвіча ягоныя прыжыццёвыя

зборнікі «Дудка беларуская», «Смык беларускі» склалі вершы выключна на беларускай мове. Малаверагодна, што першыя паэтычныя спробы былі ў Францішка беларускамоўнымі.

Эх, скручу я дудку!
Такое зайграю,
Што ўсім будзе чутка
Ад краю да краю!

У назве праграмнага верша, якім распачаты зборнік «Дудка беларуская», не хапае толькі сцвярджальна-радаснага клічніка, як у загалоўку паэмы «Кепска будзе!» або ў не менш вядомым творы «Быў у чысцы!». Але ўжо тое, што паэт першым у XIX стагоддзі, задоўга да Купалы і Коласа (10—15 гадоў нацыянальнага руху канца XIX — пачатку XX стагоддзя можна спакойна прыраўняць да 40, калі не больш, гадоў розніцы паміж выхадам зборнікаў Дуніна-Марцінкевіча і самога Багушэвіча) паставіў на друкарскі варштат выданне кніг, тое, што загалоўным творам выбрана менавіта «Мая Дудка», сведчыць, што напрыканцы XIX стагоддзя паэзія беларуская знайшла ўжо так патрэбныя ёй, адэкватныя формы мастацкага, паэтычнага самавыражэння. Адгэтуль і назаўсёды слова беларускае стане адзіным валадаром беларускіх абшараў.

Тэма народнага жыцця — цэнтральная ў паэзіі паэта. Трагічны пафас большасці твораў якраз і абумоўлены абмалёўкай штодзённага побыту беларускага сялянства. Паэт нярэдка выносіць у загаловак вечныя каштоўнасці («Мая Дудка», «Праўда», «Як праўды шукаюць»), пашыраючы свае жанрава-стылявыя пошукі. Матывы паэзіі Ф. Багушэвіча самыя разнастайныя: ад сацыяльнага аналізу рэчаіснасці («Бог не роўна дзеле») да міжнацыянальных і міжканфесійных («Немец»). Папулярнасць паэтавых вершаў, завезеных кантрабандаю ў Беларусь, была настолькі вялікай, што кракаўскі выдавец Анчыц у 1896 годзе паўтарыў выданне «Дудкі беларускай».

З вышыні стогадовага шляху, пройдзенага новай беларускай літаратурай ад часу выхаду ў свет паэтычных кніг Францішка Багушэвіча, яскрава бачыцца, што можна і аднаму быць у полі Змагаром, калі ты Народны Паэт; і адзін Абаронца, калі ты жыццё і талент ахвяруеш за пакрыўджаных і бяздольных; калі, як апостал, робіш усё, каб напоўніць іх духоўнай моцаю. Дзеля адраджэння беларускай літаратуры і нацыянальнай свядомасці Францішак Багушэвіч на схіле XIX стагоддзя зрабіў тое, што для чэшскай — геніяльны містыфікатар Вацлаў Ганка сваім «Краледворскім рукапісам».

Творчасць Ф. Багушэвіча — вяршыня нацыянальна-ўсвядомленай ідэі беларускага адраджэння ў XIX стагоддзі, звяно, якое аб’ядноўвае ўсю беларускую літаратуру XIX стагоддзя з яе ўздымам на пачатку XX. Яна ўвасабляе прадвызначэнне адметнага шляху для нацыянальнага прыгожага пісьменства, прадчуванне магутнага ўздыму духоўнасці на роднай зямлі. Засваенне і развіццё папярэдніх дэмакратычных традыцый адразу было падхоплена маладой генерацыяй. Паэзія Багушэвіча паўплывала не проста на асобных творцаў, яна здзейсніла вялізны ўплыў на абуджэнне нацыянальнай свядомасці. «Рашучы штуршок беларускаму руху надала кніжка Мацея Бурачка «Дудка беларуская», якая выйшла ў Кракаве ў 1891 годзе на беларускай мове», — канстатаваў Я. Карскі. Гэтую думку яшчэ больш упэўнена паўтарыў італьянскі даследчык Дж. Месіна ў капітальнай манаграфіі «Беларуская літаратура» (Рым, 1952). Ён вобразна, дакладна выказаўся пра неацэнную ролю першых Багушэвічавых кніжак: «Калі ў новай беларускай літаратуры і можа быць метрычны выпіс яе нараджэння, дык гэта час апублікавання ў Кракаве твораў Мацея Бурачка (Ф. Багушэвіча)».

Чаму і праз стагоддзе «Дудка беларуская» запатрабаваная? Нават у выглядзе факсіміле. Бо ў ёй ад першага і да апошняга верша пульсуе праўда пра наш паднявольны, але нескароны народ. А ў паэзіі, як і ў жыцці, самы цікавы жанр — Праўда.

---

[1] З афіцыйнай рэляцыі віленскага цэнзара да зборніка Ф. Багушэвіча «Беларускія апавяданні» (1899); гл. Францішак Багушэвіч. Творы. Мінск, «Беларусь». 1967. С. 201.

Дзяніс КУЛЕШ

# У КУЛЬТУРЫ — СВАЕ ДАРОГІ

## ТОЕ, ПРА ШТО ТРЭБА ВЕДАЦЬ

Пры слове Клеччына пераважная большасць тых, хто неабыякавы да нацыянальнай гісторыі, канечне ж, у першую чаргу згадае знакамітую Клецкую бітву, што адбылася 5—6 жніўня 1506 года, калі войска Вялікага княства Літоўскага пад кіраўніцтвам Міхаіла Глінскага на Краснаставе пад Клецкам разграміла крымскіх татар. Сёй-той не праміне нагадаць, што землі гэтыя некалі знаходзіліся ва ўладанні італьянкі Боны Сфорцы, якая стала жонкай караля польскага і вялікага князя літоўскага, які ўвайшоў у гісторыю як Жыгімонт I Стары. Засведчыць таксама, што гісторыя Клецка, аднаго з самых старажытных гарадоў Беларусі, звязана і з магнацкім родам Радзівілаў, прадстаўнікам якога ён належаў амаль 400 гадоў. Некаторыя напомняць і пра тое, што першая кніга на беларускай мове «Катэхізіс», выдадзеная на тэрыторыі Беларусі, хоць і выйшла ў Нясвіжы, але была падрыхтавана Сымонам Будным у Клецку. Зразумела, нельга забываць пра тое, як мужна змагаліся кляччане ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Як нельга не помніць, што 30 кастрычніка 1941 года фашысцкія нелюдзі здзейснілі адно са сваіх жудасных злачынстваў — ажыццявілі масавы расстрэл яўрэйскага насельніцтва ў Клецку. Абавязкова будзе сказана і пра вялікія працоўныя набыткі гэтага рэгіёна, тым больш апошнім часам. Але, гаворачы пра Клеччыну, недаравальна забываць, што як сам горад, так і раён славіцца сваімі поспехамі і ў культурнай галіне. У сувязі з гэтым першым трэба назваць знакаміты Морацкі народны хор.

## ВЫТОКІ Ў ПЕСЕННАСЦІ НАРОДА

Морач — вёска спеўная. З даўніх часоў жыхары яе любяць песню. Здавалася б, і ў суседніх населеных пунктах ёсць нямала тых, каму блізкае гэтае захапленне, ды з морачцамі ім не параўнацца. Адназначна і не скажаш, чаму атрымліваецца так, што калі яны заспяваюць, дык нельга заставацца абыякавым да гэтага. Ды, бадай, асноўная прычына ў тым, што, калі карыстацца цяперашнімі паняццямі, яны на працягу дзесяцігоддзяў, а то і стагоддзяў вельмі ж старанна захоўвалі свой генафонд.

Цяпер, праўда, даўняя традыцыя часам парушаецца, а раней і гаворкі не магло ісці аб тым, каб морацкі хлопец узяў сабе ў жонкі дзяўчыну з іншай, нават суседняй вёскі. Тое ж самае тычылася і дзяўчат: замуж яны выходзілі толькі за сваіх, тутэйшых хлопцаў. Паколькі ж многія юнакі і дзяўчаты вельмі любілі песню (дарэчы, як дзяды і прадзеды іх), то і дзеці ў новых сем'ях нараджаліся да спеваў здатныя.

Так працягвалася з году ў год, з дзесяцігоддзя ў дзесяцігоддзе, а дзесяцігоддзі складваліся ў стагоддзі — упершыню Морач, назва якой паходзіць ад аднайменнай ракі, згадваецца паміж 1440—1447 гадамі, калі вялікі князь літоўскі Казімір IУ даў некаму Івану Вяжэвічу на гэтай рацэ звярыныя ловішчы і 10 чалавек.

Як і ўсю Беларусь, розныя навалы Морач не мінавалі, ды менавіта песня дапамагала морачцам у самыя цяжкія часіны выжыць, выстаяць, нараджаючы

аптымізм, упэўненасць у тым, што ў далейшым усё будзе добра. Не пакідала спадзяванне іх аб шчаснай долі і пасля таго, як вёска была вызвалена ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. А пакольні даўно пераканаліся, што песня ў працы падмога, то знайшліся энтузіясты, якія выказалі жаданне збірацца разам, каб спяваць.

Было гэта ўвесну 1946 года. 18 самых актыўных юнакоў і дзяўчат, развучыўшы колькі песень, паспяшаліся даць свой першы канцэрт. Месцам правядзення яго выбралі памяшканне мясцовай школы. Жадаючых паслухаць іх сабралася нямала. Падобная цікаўнасць да іхняй задумкі падахвоціла самадзейных артыстаў, і яны, як кажуць, пачалі выкладацца поўнасцю, разлічваючы на дружныя воплескі аднавяскоўцаў. Але адбылося непрадбачанае: гледачы чамусьці пачалі свістаць, узняўся шум.

Хто ведае, як усё адбывалася б далей, калі б не пачалася выконвацца добра вядомая ўсім беларуская народная песня «Бульба». Толькі загучала яна, як тыя, хто прыйшоў на выступленне, адразу сцішыліся. Надта ж кранула яна душу кожнага сваёй задушэўнасцю, мілагучнасцю, як бы нагадаўшы пра тое, што пройдзе колькі часу і будзе ўдосталь і гэтай самай бульбы, і збажыны ў засеках.

Пасля прэм’еры адбыліся і іншыя выступленні. Адны з іх праходзілі з большым поспехам, другія — з меншым. Апошняе некаторых артыстаў засмучала. Сёй-той гатовы быў апусціць рукі, а некаторыя ўвогуле паспяшаліся развітацца з хорам. Праўда, на іх месца прыходзілі новыя энтузіясты. Ды і «ветэраны», і навічкі паступова зразумелі, што асноўная бяда іх у тым, што няма належнага кіраўніка, які б не проста згуртаваў усіх, а дапамагаў у падборы рэпертуару, адначасова быў бы і добрым арганізатарам.

Такі кіраўнік з’явіўся, калі восенню 1951 года з арміі дэмабілізаваўся свой, морацкі, Яўген Абабурка. Ён, па сутнасці, і стаў сапраўдным арганізатарам і першым кіраўніком таго хору, які трывала трымаўся на нагах. Дый і не мог не трымацца, бо меў для гэтага ўсе задаткі. Абабурка і сам хораша спяваў, у яго быў добры музыкальны слых. Да ўсяго належаў да тых людзей, якія сваю апантанасць, захопленасць лёгка перадаюць іншым. Вяскоўцы ахвотна адгукнуліся на ягоны покліч ісці ў хор. Вярнуліся нават некаторыя з тых, хто, засмучаны першымі няўдачамі, паспеў расчаравацца. Неўпрыкметку колькасць удзельнікаў хору наблізілася да 45 чалавек. Аднак істотна не толькі гэта. Гэта былі людзі, якія не проста хацелі спяваць у самадзейным калектыве роднай вёскі, а ўмелі спяваць, у пераважнай большасці сваёй валодаючы цудоўным голасам.

Што хор адбыўся, засведчыла раённае свята песні і працы, якое праходзіла ўлетку 1952 года ў Клецку. Толькі некалькі месяцаў мінулася, як калектыў узначаліў Абабурка, а якое выканальніцкае майстэрства прадэманстравалі ягоныя ўдзельнікі! Які багаты рэпертуар прапанавалі! Раённыя ўлады, не задумваючыся, праз некаторы час накіравалі Морацкі хор для ўдзелу ў абласным свяце мастацкай самадзейнасці. Вынік той жа самы...

Менавіта з гэтага моманту і пачаліся частыя выступленні хору не толькі ў раёне, але і за яго межамі. Пашыраўся рэпертуар. Поруч з беларускімі народнымі песнямі выконваліся рускія, польскія. Загучалі і творы сучасных кампазітараў. Не менш важна і тое, што ў рэпертуар пачалі ўключацца песні, напісаныя мясцовымі аўтарамі. Найбольш цеснае супрацоўніцтва хору атрымалася з клецкім кампазітарам Міхаілам Кашубам. Так з’явілася «Клецкая лірычная» на словы Уладзіміра Дзікевіча (пазней імі былі напісаны «Морацкія прыпеўкі»), «Клецкая фестывальная» — плён супрацоўніцтва Кашубы і Леаніда Кавалерчыка. Дый іншыя песні, што найперш узнімалі настрой саміх самадзейных выканаўцаў, якія ўсё больш упэўніваліся ў тым, што здатны на большае: ёсць жа на Клеччыне і спевакі свае, і кампазітары, і паэты.

## ПЛЯЧО ПРАФЕСІЯНАЛАЎ

Да супрацоўніцтва прыцягваліся і прафесіяналы. Шмат дало Морацкаму хору тое, што ён трапіў у поле зроку вядомага беларускага кампазітара Дзмітрыя Лукаса. Дзмітрый Аляксандравіч неаднойчы прыязджаў у Морач, даваў самадзейным артыстам творчыя парады, прапаноўваў у рэпертуар свае творы, тым самым становячыся, па сутнасці, аднадумцам калектыву, што набываў усё большую вядомасць. Дапамагаў морацкім самадзейнікам і Канстанцін Паплаўскі. Дый шмат хто іншы, гэтаксама ўлюбёны ў песню, як і морачцы.

Ды Лукас на Клеччыну наведваўся асабліва часта. Прысутнічаў ён і на чарговым раённым аглядзе мастацкай самадзейнасці, што праходзіў восенню 1962 года. Перад гэтым хор паспеў ужо засведчыць сваё нязменна высокае выканаўчае майстэрства на абласным аглядзе мастацкай самадзейнасці. Выступаў таксама на першай дэкадзе беларускага самадзейнага мастацтва ў Мінску, прымаў удзел у адной з перадач тэлебачання. Але справаздача перад землякамі — не менш значная. Што і засведчыў агляд.

Дзмітрый Лукас не хаваў свайго захаплення, выступаючы на старонках газеты «Літаратура і мастацтва»: «Маладыя галасы, яркія святочныя нацыянальныя касцюмы, разнастайны рэпертуар. Паўнюткая глядзельная зала Дома культуры пасля кожнай песні, якую выконваў Морацкі хор, выбухала гарачымі заслужанымі апладысментамі. Зладжаны калектыў пад кіраўніцтвам вялікага аматара харавога народнага спявання Я. Абабуркі многа папрацаваў над рэпертуарам».

## БЫЎ І ДРУГІ БОК МЕДАЛЯ

Толькі правільнае вядомае выслоўе: у кожнага медаля — два бакі. Морацкі хор не стаў выключэннем. Гаворка не аб тым, што, як і ў любой справе, так і ў творчай ёсць тое, што як бы вызначае фасад, але адначасова прысутнічае і такое, якое знаходзіцца на другім плане, таму асабліва і не афішуецца. Наадварот, морацкія артысты працавалі сумленна, паказухай ніколі не займаліся. Тым не менш цяжкасці абмінуць ім не ўдавалася.

Калектыў з'яўляўся не проста вялікім, а нават велізарным. Быў перыяд, калі ў ім удзельнічала больш як трыста чалавек. Гэта, безумоўна, патрабавала і немалых выдаткаў. На тыя ж касцюмы, паездкі на конкурсы, агляды, святы, гастролі. У не меншай ступені неабходна была зладжанасць у рабоце, дысцыпліна. Аднак сельскагаспадарчая вытворчасць, як вядома, суцэльны працэс, што не ведае ні святаў, ні выхадных.

Хоць кіраўніцтва гаспадаркі і ішло насустрач, не без уплыву, вядома, раённага начальства, якому для прэстыжу неабходна было, каб Морацкі хор і надалей заставаўся тым самадзейным калектывам, які прыносіць гонар Клеччыне не толькі ў Беларусі, а і далёка за яе межамі, але лёгка ўсё бывае толькі на паперы. Калі набыццё касцюмаў, выдаткі на паездкі аплачваліся, то нярэдка маладыя спевакі, завёўшы сем'і, не хацелі заставацца ў хоры, бо пасля гэтага ў іх ставала іншых праблем. Тое ж тычылася і некаторых старэйшых выканаўцаў. Не ўсе з іх, дасягнуўшы сталага ўзросту, гатовы былі і надалей прымаць актыўны ўдзел у мастацкай самадзейнасці.

Спачатку хор, не зважаючы на ўсе гэтыя цяжкасці, не здаваў сваіх пазіцый. Толькі так бясконца працягвацца не магло. Недзе ў 70-я гады мінулага стагоддзя морацкія артысты пачалі ўсё радзей з'яўляцца на сцэне. Дый падрыхтавацца да якога-небудзь свята ці агляду ім станавілася цяжэй і цяжэй. Спрабавалі дапамагчы работнікі раённага Дома культуры, прыязджалі спецыялісты з Мінскага абласнога Дома народнай творчасці, але ўсё было безвынікова. Морацкі хор на той час

«выдыхнуўся». Ён, па сутнасці, нагадваў сабой вялізную рыбіну, якую хвалямі выкінула на бераг. Калі своечасова не дапамагчы ёй, то яна не выжыве.

Ішоў 1980 год...

## АДРАЗУ Ж — НА ПРАРЫЎ

Акурат у гэты час, пасля размеркавання, у распараджэнне Клецкага раённага аддзела культуры прыехала выпускніца Мінскага музычнага вучылішча імя Міхаіла Глінкі Яўгенія Пілiпеня, якая скончыла аддзяленне харавых спеваў. Тым самым напрошвалася выйсце, лепшага не прыдумаеш. Праўда, было адно сумненне: а ці пацягне малады спецыяліст такую цяжкую ношу. Дый была Пілiпеня не тамашняй, нарадзілася ў Лёзненскім раёне. Таму магло стацца так, што адпрацуе неабходныя тры гады і падасца на сваю азёрную Віцебшчыну. Але іншага варыянту, чым прапанаваць узначаліць Морацкі хор Пілiпені, у аддзеле культуры, пры ўсім жаданні, знайсці не маглі.

— Цяжка было? — пытаюся ў Яўгеніі Ніканаўны, цяперашняга мастацкага кіраўніка Морацкага народнага хору.

— Цяжка — не тое слова, — адказвае Пілiпеня. — Ехала, па сутнасці, у невядомасць. Усё было для мяне новым: вёска, людзі. Дый сама праца. Адна справа — тэарэтычная падрыхтоўка, і зусім іншая — самой кіраваць такім вялікім самадзейным калектывам. Не ведаю, ці справілася б, калі б... — Яўгенія Ніканаўна задумалася. — Многія дапамагалі мне тады, але, бадай, асабліва шмат значыла падтрымка старшыні мясцовага калгаса «Прагрэс» Дылеўскага. Аляксандр Іосіфавіч мае турботы ўспрыняў як свае асабістыя. Ён належаў да тых кіраўнікоў, якія развіццё грамадскай гаспадаркі не аддзяляюць ад развіцця культуры, бо разумеюць, што першае і другое арганічна ўзаемазвязаныя. Калі звярнулася да яго, уважліва выслухаў. Першае, чым дапамог мне, паспрыяў сабраць харыстаў.

Гэта цяпер у хоры спяваюць толькі морачцы. На той час некаторыя з ягоных удзельнікаў жылі ў вёсках Колкі, Комлеўшчына... Для падвозу іх на рэпетыцыі і быў выдзелены транспарт. Убачыўшы, што хору надаецца такая вялікая ўвага, спяваць у ім пачалі старшыня Морацкага сельсавета Адам Груша, намеснік старшыні калгаса Анатоль Бойка, дырэктар мясцовай школы Уладзімір Журкоўскі.... Сталі наведвацца на рэпетыцыі і ранейшыя ўдзельнікі.

## ВЯРТАННЕ БЫЛОЙ СЛАВЫ

Неўзабаве ў хоры ўжо было 48 чалавек. Усе яны з такім энтузіязмам узяліся за адраджэнне былой славы гэтага самадзейнага калектыву, што літаральна праз тры месяцы хор паспяхова выступіў у Мінску перад дэлегатамі абласной партыйнай канферэнцыі. Пры тым з рэпертуарам у многім абноўленым. Была ў ім і песня кампазітара Івана Кузняцова на вершы Віктара Шымука «Красуйся, Міншчына!», якую ўдзельнікі канферэнцыі сустрэлі асабліва цёпла. Воплескі выклікалі і іншыя нумары ў выкананні морачцаў.

У кароткі тэрмін хор набыў другое дыханне. Як і ў свае лепшыя гады, яму стала цесна ў родных сценах. Зноў пачаліся паспяховыя гастрольныя паездкі — Слуцк, Салігорск, Нясвіж, Стоўбцы... Гэта было вяртанне былой славы, але на якасна новым узроўні. Канечне, не забылася ўсё тое добрае, што было набыта, але прыйшло і новае, увязанае з рэаліямі сённяшняга часу, калі запатрабавана ўжо не проста песня, няхай і народная, а творы аўтэнтычныя, тыя, што на доўгі час забыліся, аднак, вернутыя з небыцця, па-ранейшаму вабяць слухачоў сваёй нерушавасцю, лішні раз пераконваючы, наколькі шчодрыя фальклорныя крыніцы, песенныя не ў апошнюю чаргу.

Дарэчы, у хоры ёсць асобная фальклорная група «Спадчына», у якой спявае і сама Піліпеня. Асноўны ж склад яе — ветэраны хору. Старэйшай Таццяне Ахрымені споўнілася 73 гады. Таццяна Мікалаеўна ўдзельнічае ў хоры з дня ягонага заснавання. Калі можна так сказаць, стары касцяк хору — гэта і Ніна Мінец, і Ніна Мацвейка. Спявачкі са стажам і Марыя Каляіна, Соф'я Рамашка. Самая ж маладая ў гэтым праслаўленым калектыве, што двойчы выступаў нават у Германіі, прымаў удзел у рэспубліканскім фестывалі самадзейнага мастацтва «Пеўчае поле», дый у шмат якіх іншых рэспубліканскіх, абласных мерапрыемствах, не кажучы ўжо пра раённыя і міжраённыя, дваццаціпяцігадовая Ірына Мінец. Ёсць жа яшчэ і самыя юныя спевакі, якія ўваходзяць у групу «Марачаначка», што таксама сведчыць на карысць моцнасці, трываласці песенных традыцый у Морачы.

На сучасны момант гэтая вёска працягнулася ажно на пяць кіламетраў. Некаторым удзельнікам хору даводзіцца дабірацца на рэпетыцыі ці не з самага канца яе. Ды ўсё адно спяшаюцца, у тым ліку і старэйшыя ўдзельнікі. Бо не ўяўляюць сабе без песні жыцця. Як не ўяўляюць яго без удзелу ў хоры. Свае ж любімыя нумары па-ранейшаму выконваюць з гэткім жа натхненнем, як і раней. Асобныя ж з іх прапісаны ў морацкай рэпертуарнай афішы пастаянна. Такія, скажам, як «Вячоркі», «Спявай, душа». Усе ж цікавыя народныя песні і пералічыць цяжка, таму назаву толькі некаторыя з іх: «Як паедзем мы ў госці», «Ажаніцца — трэба знаць», «Ой, у полі азярэчка»...

— Не заўважыла, як трыццаць гадоў праляцела, — зазначыла Піліпеня, але па тым, як яна гэта прамовіла, шкадавання не адчувалася, бо гэта былі гады надзіва плённыя як для яе самой, так і для калектыву, які Яўгенія Ніканаўна ўзначальвае. Там жа, дзе творчасць, час бяжыць хутка, непрыкметна, але яго надта і не шкадуеш, калі ўсведамляеш, які вялікі плён прынёс ён.

## ШКОЛА «БАЦЬКАЎШЧЫНЫ»

Хутка бяжыць час і ў начальніка аддзела культуры Клецкага райвыканкама Святланы Чалык, ураджэнкі тамашняй вёскі Галавачы. Святлана Аляксандраўна — таксама выпускніца Мінскага музычнага вучылішча імя Міхаіла Глінкі. Толькі ў часе навучання яе і Піліпені ёсць пэўная разбежка. Дый, пакуль узначаліць аддзел культуры, паспела папрацаваць на іншых участках. Была метадыстам у раённым Цэнтры культуры — спачатку займалася з дзецьмі, потым кіравала мастацкай самадзейнасцю. Далейшая прафесійная прыступка яе — мастацкі кіраўнік, потым дырэктар РЦК. На цяперашняй пасадзе з 2003 года. Завочна скончыла Беларускі універсітэт культуры і мастацтва, а так праца, праца... Калі ж гэта любімая праца, тым больш заўсёды звязаная з творчасцю, то і не застаецца часу азірацца назад. Пастаянна прысутнічае іншае жаданне — глядзець наперад, жыць новымі задумамі і быць упэўненай, што яны абавязкова будуць здзейсненыя.

Святлана Чалык пераканана:

— Не любі́ць сваю працу, асабліва калі ты звязаў лёс з культурна-асветніцкай галіной, проста нельга. Толькі гэтая любоў дапамагае пераадольваць цяжкасці, якіх, скажу шчыра, стае. Хоць, — разважае Святлана Аляксандраўна, — без цяжкасцей і працаваць сумна.

— А так весела?

— А чаму б і не. Памятаеце: «Нам песня строить и жить помогает».

Яна і сапраўды дапамагае Чалык. І нават не з пачатку самастойнай прафесійнай дарогі. Святлана любіла спяваць яшчэ падчас вучобы ў школе. Не развіталася з песняй і тады, калі займалася ў музычным вучылішчы. Пачала ж працаваць у Цэнтры культуры, прадоўжыла гэты занятак, да якога ў яе прызванне. Шмат

выступала як салістка, а потым у складзе жаночай вакальнай групы, якую сама і стварыла.

— На той час ужо працаваў інструментальны ансамбль народнай музыкі, — успамінае Чалык. — Арганізаваў гэты калектыў цудоўны чалавек і музыкант Кашуба. Асабліва хораша, задушэўна іграў Міхаіл Іосіфавіч на гармоніку. Ужо і не памятаю, у каго такая ідэя ўпершыню нарадзілася, але мы вырашылі гэтыя два самадзейныя калектывы аб'яднаць. Так і нарадзіўся ансамбль народнай музыкі «Бацькаўшчына». Пасля Кашубы яго ўзначальваў Вайцахоўскі. Васіль Іванавіч — таксама з тых людзей, ужо адна прысутнасць якіх узнімае настрой. Калі ж ты звязаны з культурай, са спевамі — гэта вельмі важна.

## «НЕРУШ» І ІНШЫЯ

Ансамбль «Бацькаўшчына» па сённяшні дзень — адзін з самых вядомых калектываў мастацкай самадзейнасці на Клеччыне. Але поруч з ім працуюць і іншыя, што даўно вызначылі свой мастакоўскі воблік. Для прыкладу, зводны духавы аркестр раённага Цэнтра культуры і раённага аддзела Міністэрства па надзвычайных сітуацыях.

Кіруе гэтым калектывам Аляксандр Печурэнка. Хоць Аляксандр Пятровіч і не мае спецыяльнай музычнай адукацыі, але праз усё сваё жыццё пранёс не проста захапленне музыкай, а і жаданне іграць на трубе. Пачаў гэта яшчэ ў маленстве, а прадоўжыў у юнацтве. Потым быў актыўным удзельнікам духавога аркестра. Дый, пайшоўшы на пенсію, адпачываць не збіраецца. Працуе шафёрам у аддзеле культуры і кіруе зводным духавым аркестрам. Калектыў неаднаразова выходзіў пераможцам у абласным фестывалі «Майскі вальс». Годна выступае і на іншых мерапрыемствах, акрасу ў якія прыўносіць музыка.

Глыбокай самабытнасцю вызначаецца і народны вакальны мужчынскі ансамбль «Неруш», які ўзначальвае харавы дырыжор па прафесіі Сяргей Галубкоў. Калектыў невялікі, усяго пяць чалавек, а пачнуць спяваць — заслухаешся. І сам Сяргей Іванавіч, і тыя, каго ён сабраў пад сваё крыло — Васіль Палівода, Алег Качубей, Анатоль Клапаценка, Сяргей Максіменка, — улюблёныя ў народную песню, таму гэтак шчыра прапагандуюць яе. Верыцца, што так будзе працягвацца, бо ўзрост «нерушаўцаў» — ад 30 да 45 гадоў — сама спяваць яшчэ ды спяваць.

Добрыя перспектывы і ў народнага сямейнага клуба «Асалода», удзельнікі якога збіраюцца амаль кожны месяц. Кожнае пасяджэнне не падобнае на папярэдняе, бо для яго загадзя распрацоўваецца спецыяльная праграма. У адным выпадку — яна звязана з конкурсам на лепшае выкананне песні, у другім — мае экалагічны ўхіл, калі падбіраюцца верш, замалёўкі, іншыя матэрыялы прыроднай тэматыкі. Само сабой зразумелая скіраванасць той, якая прысвечана жаночаму святу 8-га Сакавіка. У сяброўскім коле адзначаюцца і дні нараджэння. Дый іншыя памятныя для чалавека даты.

## ЗАЎСЁДЫ СЯРОД ЛЮДЗЕЙ, ЗАЎСЁДЫ НА ЛЮДЗЯХ

Згаданыя калектывы, як і некаторыя іншыя працуюць пры РЦК, які ўзначальвае Галіна Крук. Чалык асабліва прыязна адзываецца аб ёй, бачачы ў асобе Галіны Леанідаўны такога кіраўніка, які пастаянна генерыруе новыя цікавыя ідэі. Да ўсяго яна вельмі добра спявае, артыстычная. Выступае і як салістка, а таксама разам з ансамблем «Бацькаўшчына». Ніводзін канцэрт не абыходзіцца без яе. Дый саму Святлану Аляксандраўну ні ў якім разе не аднясеш да кабінетнага начальніка. Яна заўсёды сярод людзей, яна заўсёды на людзях. Чалык пастаянна

штосьці падкажа важнае, што натхняе на новыя ідэі і задумкі. Па такім прынцыпе дзейнічае і Галіна Крук. Узяць, скажам, работу таго ж сямейнага клуба «Асалода». Галіна Леанідаўна сама прымае ўдзел у падрыхтоўцы сцэнарыя ягоных праграм. Здавалася б, гэта ў яе непасрэдныя абавязкі і не ўваходзіць, ды, як чалавек творчы, не можа знаходзіцца ўбаку.

Такіх прыкладаў можна прывесці шмат. Таму дзейнасць Цэнтра культуры і мае featured рознабаковы характар. Па сутнасці, ім не абыдзена ўвагай ніводная катэгорыя насельніцтва. Прынамсі, для моладзі ладзяцца шоу-праграмы, праводзяцца конкурсы «Міс-Клецк», «Ты — лепшы». На дзяцей малодшага ўзросту зарыентаваны конкурсы «Міс-малютка».

— А яшчэ мы, — з захапленнем гаворыць Чалык, — выбіраем і «Міс-бабулю».

— Няўжо шмат жадаючых удзельнічаць у падобных конкурсах? Усё ж ...

Святлана Аляксандраўна здагадваецца, куды я хілю:

— Ды кожная з нашых бабуль, — слова «нашых» яна падкрэслівае, — па-свойму прыгожая. Ці то надзіва спартыўная, ці то музыкай так захапляецца, ажно пазайздросціш. Ёсць і такія, што стравы падрыхтуюць, — пальчыкі абліжаш.

У фестываля ж «Зорачкі над Клецкам», як ужо і відаць з ягонай назвы, юныя ўдзельнікі. Узрост іх ад 6 да 14 гадоў. «Эстрадны дождж» збірае тых, каму ад 15 да 30 гадоў. Прыжыўся на Клеччыне і фестываль «Песні ваенных дарог». Яго роля асабліва ўзрасла ў сувязі з 65-годдзем вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў і 65-годдзем Вялікай Перамогі. Арганічна ў гэтыя мерапрыемствы ўпісаўся і фестываль патрыятычнай песні.

А яшчэ адзін — «Клецкая скарбонка» — хоць і мясцовай прапіскі, але з такіх мерапрыемстваў, якія не лішне і ў іншых раёнах праводзіць. У час яго аматарскія калектывы маюць магчымасць паказаць, як у іх адраджаюцца народныя традыцыі, што робіцца для правядзення ў сябе таго ці іншага свята, альбо абраду.

## ВЁСКА — ГОРАДУ, ГОРАД — ВЁСЦЫ

Ёсць у кляччан яшчэ адна традыцыя, якая, думаецца, вартая пераймання. Ужо на працягу дзесяці гадоў сельскія ўстановы культуры трымаюць свайго роду творчую справаздачу перад гараджанамі. Праходзіць яна ў два этапы. У час першага вясковыя самадзейнікі паказваюць свае шоу-праграмы, а таксама такія, што звязаны з народнымі абрадамі. Другі этап — канцэртнае выступленне з сюжэтнай скіраванасцю. У гэтых справаздачах, якія ладзяцца ў РЦК, прымаюць удзел усе калектывы мастацкай самадзейнасці. Агляд праходзіць з 10 студзеня па 1 мая. Потым самыя лепшыя выступаюць у парку, у амфітэатры.

Горад, у сваю чаргу, шмат робіць дзеля культурнага абслугоўвання вяскоўцаў. У тым ліку і жыхароў аддаленых і маланаселеных вёсак. Для іх рыхтуецца спецыяльная праграма «Ад душы і для душы», якая цалкам адпавядае сваёй назве. Да работнікаў культуры далучаюцца прадстаўнікі сельсаветаў, спецыялісты, якія могуць адказаць на пытанні, што цікавяць вяскоўцаў. Такія сустрэчы пакідаюць глыбокі след у душы і саміх арганізатараў і, вядома ж, тых, для каго яны ладзяцца. Часам збіраецца ўсяго чалавек восем, але якая гэта радасць для ў пераважнай большасці старых людзей, якія могуць пачуць жывое слова, пачуць задушэўную песню.

## НАТХНЕННЕ НА САЛОМАПЛЯЦЕННЕ

Аксана Горбік — тамашняя, нарадзілася ў Клецку. Пасля атрымання сярэдняй адукацыі паступіла ў Пінскі індустрыяльна-педагагічны тэхнікум. Размеркавалі ў родныя мясціны. Праўда, не ў сам раённы цэнтр, а ў вёску Гурнаўшчына, дзе Аксана Міхайлаўна пачала працаваць у мясцовай школе. Потым

уладкавалася ў раённы Цэнтр культуры. Узначаліла гурток, у якім дзеці рабілі мяккія цацкі.

Магчыма, так працягвалася б і далей. Педагог Горбік удасканальвала б сваё майстэрства і працягвала б перадаваць яго дзяўчынкам і хлопчыкам. Балазе, ахвочых займацца ў гэтым гуртку ставала. Асабліва дзяўчынак. Ды нярэдка ў жыцці надараецца так, што з'яўляецца нейкі штуршок, які прыпыняе плынь звыкласці і ўносіць у паўсядзённасць штосьці новае.

Такім штуршком для яе стала знаёмства з кнігай па саломапляценні. Аксана Міхайлаўна і запамятавала ўжо, як называлася яна, забылася і прозвішча аўтара. Ды галоўнае для яе не гэта, а тое, што пакінула глыбокі след у душы. След жа гэты адразу стаў прыкметным. Ён пачаўся быццам з маленькай баразёнкі, якая тым не менш не толькі не знікала, а яшчэ больш прыцягвала да сябе ўвагу. Аказваецца, са, здавалася б, звычайнай саломы можна рабіць тое, што патрапляе пад вызначэнне мастацтва. Пры тым вырабы гэтыя могуць быць самыя розныя.

Асабліва зацікавіла яе тое, што гэтым матэрыялам можна аздабляць і касцюмы. Тады і нарадзілася задумка стварыць новы гурток, гэтым разам па саломапляценні. А паколькі Аксана Міхайлаўна — з людзей, якія на паўдарозе ніколі не спыняюцца, а абавязкова даводзяць задуманае да яго лагічнага завяршэння, то неўзабаве ў РЦК такі гурток і з'явіўся. Адразу ж знайшліся і жадаючыя займацца ў ім.

Некаторых дзяцей прыводзілі да Горбік бацькі, а сёй-той і сам завітаў. Прынамсі, вучаніца трэцяга класа з клецкай сярэдняй школы № 3 Насця Зайкоўская. Яна, а таксама яшчэ адна Насця, Савеня, Карына Дземух, дый сын самой Аксаны Міхайлаўны Арцём апынуліся сярод тых, хто з захапленнем узяўся за новую для іх справу. Праўда, Арцём, паколькі ўжо вучыцца ў восьмым класе, знайшоў сабе іншую справу, а дзяўчаткі працягваюць заняткі.

## ДЗІВОСЫ — ГЭТЫМ СКАЗАНА ЎСЁ

Цяпер гэта ўжо не гурток, а народная студыя «Натхненне». У ёй працуюць тры ўзроставыя групы — малодшая, сярэдняя і старэйшая. У малодшую ўпершыню завітваюць тыя, хто вучыцца ў другім класе. Не сказаць, каб у студыі было шмат чалавек: усяго 15. Ды гэта той выпадак, калі не ў колькасці справа. Тым больш, што студыйцы займаюцца стварэннем, мадэліраваннем адзення і далейшага ўпрыгожвання яго элементамі саломкі. Гэты ж працэс на паток не пусціш. Кожная новая рэч патрабуе да сябе асаблівай увагі. Як і кожны студыец — індывідуальнага падыходу.

Паколькі Аксана Міхайлаўна ў адной асобе спалучае і мастацкага кіраўніка (гэта паводле штатнага раскладу), і выхавацеля, і настаўніка ў самым шырокім значэнні гэтага слова (хочаш не хочаш, а без ускладання на сябе такіх абавязкаў не абысціся), то і даводзіцца круціцца, як той вавёрцы ў коле. З адной, праўда, але вельмі істотнай розніцай. Рухі, якія робіць звычайная вавёрка, ніякага плёну не даюць, хіба што спрыяюць яе фізічнай трэніроўцы. Тое ж, што натхнёна, самаахвярна робіць Горбік, прарастае з нічым не параўнальнымі кветкамі хараства. Толькі гэта не звычайныя кветкі, якія можна напаткаць у прыродзе, а рукатворныя. Узоры з саломкі, што нараджаюцца, дзякуючы таленавітым рукам дзяцей, на тых касцюмах, якія яны ствараюць.

— Мы ўжо зрабілі чатыры калекцыі адзення, — гаворыць Аксана Міхайлаўна, калі прашу расказаць яе пра пра набыткі студыйцаў.

— Яны ўсе выкананы па адным і тым жа ўзоры, ці нечым вылучаюцца адзін ад аднаго?

— Не проста вылучаюцца, — тлумачыць Горбік, — а кожная калекцыя — адзінкавая ў сваім родзе. Узяць, для прыкладу, першую з іх —«Саламяныя дзівосы». Няцяжка заўважыць, што ўжо сама назва сведчыць на карысць шчодрага выяўлення творчай фантазіі, — развівае Аксана Міхайлаўна сваю думку. — Ды



*Юныя выхаванцы Аксаны Горбік.*

і як жа іначай, калі гаворка ідзе пра дзівосы. Дзівосы праз вялікія выяўленчыя мажлівасці саломкі. Дзівосы — як вынік смелага мастакоўскага пошуку. Акурат на яго і здатны нашы дзеці, бо яны прыходзяць у студыю, не пабаюся гэтага слова, па прызванні. А дзе прызванне, там і жаданне найлепей самавыявіць сябе. Таму гэтаксама прывабная і калекцыя касцюмаў, што называецца «Чароўны вобраз». Ёсць жа ў нас яшчэ і «Модны стыль». Ёсць і камплект «Сучасныя рытмы». Цікава тое, — разважае Горбік, — што захопленасцю ў працы асабліва вылучаюцца дзеці малодшага і сярэдняга ўзросту. Вытлумачыць гэта, бадай, трэба тым, што гэта такі перыяд у жыцці чалавека, калі вельмі хочацца зрабіць штосьці важнае, значнае. Такое, каб і самому прынесла радасць, дый іншым спадабалася.

Цяпер студыйцы працуюць над калекцыяй «Беларускія матывы», што, у параўнанні з папярэднімі, найбольш блізкая народным традыцыям. Гэта нацыянальны беларускі касцюм, у які хораша, арганічна ўплятаюцца элементы саломкі. Падобная стылізацыя надае яму асаблівую вабнасць. Дзяўчаткі, як ніколі дагэтуль, працуюць старанна. А яшчэ стараюцца па меры гатоўнасці касцюмаў прымяраць іх на сябе. Пры гэтым загадзя робяць прычоскі, макіяж. Стараюцца выглядаць як мага лепш.

— Паглядзіш на іх, калі яны апрануцца ў гэтыя строі, — усміхаецца Аксана Міхайлаўна, — няйначай каралевы. Дый на чарговыя заняткі так ахвотна спяшаюцца, што часам нават бягуць наперагонкі. Зразумець іх можна. Кожнай жа хочацца хутчэй пачаць любімы занятак, калі ёсць магчымасць ва ўсю праявіць сваю фантазію.

## ЯК ЖА БЕЗ НАС?

Пра тое, што ўдзельнікі студыі «Натхненне» майстэрствам не абдзелены, засведчылі «Дажынкі-2005», якія праходзілі ў горадзе Слуцку. Тады, як, дарэчы, і заўсёды ў час правядзення гэтых штогадовых святаў-кірмашоў, да арганізацыі святочнай праграмы ставіліся вельмі патрабавальна. Таму з самадзейных калектываў у горад над Случчу трапілі толькі тыя, што ў нечым асабліва вылучаюцца з

іншых, ім падобных. Такі гонар выпаў і клецкім студыйцам. І яны яго апраўдалі. Калі ў час «Дажынак» праводзіўся конкурс «Міс — Жытнёвая Баба», ад клецкай саламянай Бабы былі ўсе ў захапленні. Настолькі яна выглядала арыгінальнай.

Годна адчувалі сябе студыйцы і ў час іншых мерапрыемстваў, на якія яны запрашаліся, каб прадэманстраваць лепшыя ўзоры сваёй творчасці. Так, прынамсі, было на Міжрэгіянальным семінары кіраўнікоў метадычных службаў Мінскай вобласці, на абласным семінары Цэнтраў рамёстваў Міншчыны, на абласной настаўніцкай канферэнцыі, што ладзілася ў Клецку. Выступалі ў сваіх строях нават перад удзельнікамі рэспубліканскага конкурсу «Лесаруб-2008», які праходзіў у Нясвіжы. З задавальненнем з касцюмамі, створанымі ў Клецку, пазнаёмілася і дэлегацыя з горада Кашырына, што ў Маскоўскай вобласці, якая завітала ў свой горад-пабрацім Клецк.

Сваім з’яўленнем студыйцы ўпрыгожылі і ўрачыстасці, прысвечаныя 70-годдзю Мінскага абласнога Дома народнай творчасці, яны праводзіліся па месцы ягонага размяшчэння ў горадзе Маладзечна. Адно з апошніх выступленняў адбылося ў снежні мінулага года ў сталіцы — у справаздачным канцэрце лаўрэатаў Спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі. Характэрна тое, што самі студыйцы такой высокай адзнакай пакуль не ўдастоены. Ды ўдзел у згаданым канцэрце сведчыць на карысць таго, што яны ўжо належным чынам заўважаны.

Калі я выказаў меркаванне, што, мабыць, цягам часу такую стыпендыю атрымае і студыя «Натхненне», Аксана Міхайлаўна ўсміхнулася:

— Што загадваць наперад.

Усё ж думаецца, што клецкія студыйцы вартыя падтрымкі з боку Спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Як і верыцца ў ажыццяўленне далейшых іхніх задумак па стварэнні касцюмаў, у якіх звычайная саломка становіцца важным элементам аздаблення, надання прывабнасці строям, што, у сваю чаргу, спрыяе станоўчаму эстэтычнаму ўздзеянню як на тых, хто выступае ў іх, так і на гледачоў — на апошніх, бадай, яшчэ ў большай ступені.

## З КНІГАЙ, ЯК З ПЕСНЯЙ, ДУШЫ ЦЕСНА

Бібліятэкі на Клеччыне бяруць свой пачатак з часоў Радзівілаў. Пра наяўнасць іх захаваліся сведчанні ў гістарычных крыніцах. У прыватнасці, у дамове аб падзеле зямельных уладанняў паміж двума прадстаўнікамі гэтага роду ў 1641 годзе гаворыцца пра тое, што бібліятэка павінна пастаянна знаходзіцца ў самім Клецку, а ўладальнікі не маюць права яе раздаваць. У вопісе ж горада, які таксама датаваны згаданым годам, адзначаецца, што для бібліятэкі вылучаны асобны пакой у княжацкім палацы. Асабістыя бібліятэкі мелі і некаторыя багатыя гараджане. Адным з іх з’яўляўся стараста Клецка Андрэй Ямяліта, пасля смерці якога, як сведчыць вопіс ягонай маёмасці, у адной са скрыняў знойдзена 20 кніг, а таксама яшчэ 3 кнігі ў іншых скрынях. Сярод іх аказаўся і Гербоўнік.

Цяпер жа ў склад Клецкай цэнтральнай бібліятэчнай сістэмы ўваходзіць 41 бібліятэка, з якіх 22 сельскія і 17 бібліятэк-клубаў, што ўяўляюць сабой комплексную ўстанову новага тыпу, якая спалучае ў сваёй дзейнасці дзве функцыі — бібліятэкі і клуба.

Як паведала дырэктар Клецкай цэнтральнай бібліятэчнай сістэмы Людміла Цімавец, апошнім часам кожная з вясковых бібліятэк вызначылася са сваім накірункам у рабоце.

У Заастравецкай сельскай бібліятэкі — ён мае экалагічны характар. Загадчык яе Валянціна Фалітар і супрацоўніца Святлана Несцер настолькі паспяхова праводзяць сваю работу, што іхняя ўстанова культуры адзначана Дыпломам Рэспубліканскага агляду-конкурсу сярод бібліятэк па экалагічным выхаванні.

У Заастравеччы працуе літаратурна-экалагічны клуб «Фларыда», штогод праводзіцца акцыя «Падары бібліятэцы кветку». Сумесна з сельскім Домам культуры для дзяцей арганізаваны літаратурна-музычны клуб «Імяніннік».

Сіняўская і Морацкая сельскія бібліятэкі, а таксама Логнавіцкая і Узногская бібліятэкі-клубы плённа працуюць у галіне краязнаўства. У іх створаны адпаведныя куткі — свайго роду беларускія хаткі, у якіх ёсць кнігі, часопісы згаданай тэматыкі, папкі з матэрыяламі краязнаўчага характару. Тут жа знаходзяцца прадметы, што ўзнаўляюць даўні побыт беларусаў. Атрымліваецца як бы міні-музей, зайсці ў які заўсёды шмат ахвочых, асабліва дзяцей.

Цікава, з выдумкай працуюць з юнымі наведвальнікамі Шчэпіцкая, Даматканавіцкая, Янавіцкая і Грыцэвіцкая сельскія бібліятэкі, у якіх створаны клубы «Кніжчына бальніца», «Маленькая краіна». У Янавіцкай жа і Рассветаўскай бібліятэках арганізаваны дзіцячыя пакоі, у якіх ёсць цацкі. Дый самі хлопчыкі і дзяўчынкі з задавальненнем робяць іх, балазе фантазіі ў іх стае.

Цэнтральная бібліятэка, каардынуючы работу на месцах, і сама праводзіць нямала цікавых мерапрыемстваў. У Клецку, напрыклад, рэгулярна арганізоўваюцца літаратурна-музычныя кампазіцыі, вусныя часопісы, на якія запрашаюцца вучні з усіх трох гарадскіх школ, а таксама ўсе тыя, каму дарага роднае слова, хто шануе матчыну мову, любіць беларускую літаратуру.

Не абыдзена ўвагай і клубная форма работы. Адно з такіх фарміраванняў — клуб аматараў шашак «Дэбют», які ўзначальвае загадчык аддзела абслугоўвання і інфармацыі ЦБС Уладзімір Раманаў, добры знаўца гэтай даўняй гульні.

У культурна-аздараўленчым клубе «Аір» (ім кіруе бібліятэкар чытальнай залы Алена Ляшкевіч) вывучаюцца азы культуры здароўя, што, як вядома, на сённяшні дзень вельмі важна.

Работа ж клуба «Субяседнік» наладжана сумесна з рэдакцыяй раённай газеты «Да новых перамог» і літаратурным аб'яднаннем «Голас». Аб папулярнасці яго сведчыць ужо тое, што творчыя інтарэсы аб'ядналі больш як 18 чалавек.

## ЧУЦЕН ГОЛАС «ГОЛАСУ»

Літаратурнае аб'яднанне пры раённай газеце пачало працаваць у канцы 50-х гадоў мінулага стагоддзя, а ў чэрвені 1957 года ўпершыню ў ёй з'явілася спецыяльная старонка «Маладыя галасы», дзе былі змешчаны творы Івана Абабуркі, Дзмітрыя Байдакова, Уладзіміра Дзікевіча, Аляксандра Жукоўскага, Канстанціна Конча.

Праз некаторы час выпускі з публікацыямі пачынаючых літаратараў Клеччыны сталі рэгулярнымі. Пашыралася кола аўтараў, змяшчаліся нават творы прафесіяналаў — у прыватнасці, Паўлюка Пранузы, які на той час жыў і настаўнічаў у Нясвіжы. Праўда, свайго першага калектыўнага зборніка тым, хто ўваходзіў у літаб'яднанне, давялося чакаць доўга. Ён з'явіўся толькі ў 1993 годзе і называўся «Верыцца ў лепшае». Свае вершы на чытацкі суд вынеслі Таццяна Бурмакова, Уладзімір Дзікевіч, Аляксандр Жукоўскі, Анатоль Курыльчык, Альдонія Наўчанкова, Марыя Пабудзей, Віктар Худавец, Таццяна Цвірка. А ўжо 1996 і 1997 гадамі пазначаны першыя ўласна аўтарскія кніжкі — паэтычныя зборнікі Святланы Стромскай і Анатоля Курыльчыка.

На вершы клецкіх аўтараў звярнулі ўвагу і кампазітары — як самадзейныя, так і Эдуард Зарыцкі, які напісаў некалькі песень на словы А. Курыльчыка. Сярод іх шырокае гучанне набыла песня «Не гаснет дружба ветеранов», прысвечаная сустрэчы 25 красавіка 1945 года на Эльбе А. Сільвашкі і амерыканца У. Робертсана. Песня гэтая была ўключана ў рэпертуар ансамбля песні і танца Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь. Паклаў Зарыцкі на музыку і некаторыя вершы А. Жукоўскага.

Сапраўды, голас «Голасу» чутны і за межамі Клеччыны. У прыватнасці, Лілія Мялешка, якая цяпер узначальвае гэтую літаратурную суполку, друкавалася ў

штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва», іншых выданнях, яе вершы неаднаразова гучалі па радыё. Таццяна Цвірка таксама выступала ў «ЛіМе». Ёй прадстаўляў свае старонкі часопіс «Першацвет».

## КАЛІ ШУКАЦЬ ПРЫЗВАННЕ, — ТО Ў МУЗЫЦЫ

Менавіта такімі памкненнямі жывуць выкладчыкі і выхаванцы Клецкай дзіцячай школы мастацтва. Пра гэтую навучальную ўстанову, у сценах якой заўсёды гучыць музыка, лунае светлае і пранікнёнае, мне шмат расказалі завуч па выхаваўчай рабоце Вераніка Картамышава і кіраўнік узорнага ансамбля скрыпачоў «Канцэрціна» Эва Уласень.

Слухаў іх, і не пакідала думка аб тым, што як бы хораша было, каб такія людзі працавалі паўсюдна. Самі ўлюбёныя ў прыгожае, яны старанна перадаюць гэтую захопленасць сваім вучням, якіх у школе і яе філіялах на сённяшні дзень — 538 чалавек. Філіялы ж працуюць у Сіняўцы, Азярэччы, Морачы, Даматканавічах. Прычым некаторыя з іх адкрыліся апошнім часам, што, безумоўна, не можа не радаваць.

У гэтым заслуга і дырэктара школы — маладой, энергічнай Аксаны Дудук, бо Аксана Пятроўна працуе ў цесным кантакце з кіраўніцтвам раёна, а яно, трэба аддаць яму належнае, разумее важнасць эстэтычнага выхавання падрастаючага пакалення. Яшчэ адзін доказ таму — адкрыццё летась у ДШМ тэатральнага аддзялення. Дарэчы, 2009 год для школы быў надзіва плённы: 31 навучэнец, 3 калектывы і 4 выкладчыкі сталі прызёрамі розных конкурсаў і фестываляў. 16 жа выпускнікоў і педагогаў паступілі ў вышэйшыя і сярэднія спецыялізаваныя навучальныя ўстановы.

У самой жа школе працягвала бурліць творчае жыццё. Адметна, што на базе яе працуе пяць творчых калектываў. Гэта народны аркестр «Гармонія» пад кіраўніцтвам Уладзіміра Кляшчова, а таксама ансамбль скрыпачоў «Канцэрціна», які ўзначальвае Эва Уласень, ансамбль танца «Ювента» — яго апякае Маргарыта



*Народны аркестр «Гармонія».*

Паўлоўская, духавы аркестр на чале з Баляславам Змачынскім, якія носяць ганаровае званне «заслужаны калектыў», і ансамбль песні «Дзянніца».

Гэтыя калектывы не проста сфарміраваліся, а жывуць актыўным творчым жыццём. У прыватнасці, ансамбль скрыпачоў працуе ўжо 15 гадоў, і ўвесь час яго нязменным кіраўніком з'яўляецца Уласень. Рэпертуар «Канцэрціна» пастаянна абнаўляецца. У ім класічныя творы суседнічаюць з тымі, што напісаны сучаснымі кампазітарамі. Знаходзіцца ў рэпертуары месца і апрацоўкам народных песень і танцаў, выконваюцца таксама эстрадныя мініяцюры.

Юныя скрыпачы ўдзельнічалі ў заключным канцэрце творчых калектываў «Міншчыны творчы вянок», тэлефестывалі «Сузор'е надзей». Нядаўна ж яны вярнуліся з фестывалю беларускай музыкі «Заслаўе-2010», што праходзіў пад патранажам Міхаіла Фінберга. Высокі выканальніцкі ўзровень «Канцэрціна» адзначаны Лістом падзякі, накіраваным на адрас старшыні Клецкага райвыканкама Анатоля Бойкі.

Аркестр «Гармонія», у якім выступаюць выкладчыкі ДШМ, маладзейшы, заснаваны ў 2002 годзе. Увесь час ім кіруе Кляшчоў. Дзякуючы таму, што ў калектыве шмат разнатэмбравых музычных інструментаў: цымбалы, баян, акардэон, струнныя смычковыя, ударныя і духавыя, гэта дазваляе калектыву выконваць самыя розныя творы. Галоўнае дасягненне «Гармоніі» апошніх гадоў — запіс дыска і выступленне на абласным фестывалі «Напеў зямлі маёй», адкуль ансамбль вярнуўся з дыпломам III ступені.

## ЛЮБОЎ ВЯЛІКАЯ — ЗЯМЛЯ РОДНАЯ

Даўным-даўно любілі сцвярджаць, што зямля трымаецца на трох кітах. Канечне, калі б хто-небудзь паспрабаваў сёння сцвярджаць нешта падобнае, з яго ў лепшым выпадку пасмяяліся б. Затое на ўсе часы праўдзівае іншае меркаванне: кожнае добрае пачынанне немагчыма без энтузіястаў.

У гэтым я лішні раз упэўніўся, знаёмячыся з работнікамі культуры Клеччыны. Але на карысць падобнага сцверджання сведчылі і справы шмат каго з тых, хто, на жаль, адышоў ад нас, ды, на шчасце, тое, што зрабіў, знаходзіць годны працяг у памкненнях наступнікаў. Адзін з такіх людзей, пра каго на Клеччыне гавораць з асаблівым гонарам і пашанай, Дарафей Чорны.

Дарафей Максімавіч таму і быў да самазабыцця ўлюбёны ў гэтую зямлю, што ў Клецку нарадзіўся і з ім звязаў усё сваё жыццё. Праўда, былі ў ягонай біяграфіі пяць гадоў, калі мусіў развітацца з роднай старонкай: са зброяй у руках абараняў сваю зямлю ад фашысцкай навалы. Вайна для яго, аднак, не скончылася з Вялікай Перамогай. Давялося яшчэ ваяваць і з мілітарысцкай Японіяй. А ўвогуле працягваў вайсковую службу да 1949 года.

Але менавіта гэтая адарванасць ад зямлі маленства яшчэ ў большай ступені выклікала ў ягоным сэрцы любоў і замілаванасць да яе. Верыў: калі выжыве, то абавязкова зробіць усё для таго, каб і іншыя пераканаліся ў тым, наколькі гэта важна любіць сваю радзіму, а каб любіць яе, трэба ведаць і тое, што ў гэтых мясцінах адбывалася раней.

Задуманае, праўда, удалося здзейсніць не адразу. Паколькі перад вайной не паспеў набыць спецыяльнасць, мусіў разам з бацькам нягледзячы на тое, што быў паранены і кантужаны, заняцца цяжкой фізічнай працай у кузні. Але разумеў, што без ведаў кепска, таму неўзабаве паступіў на геолага-геаграфічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Вучыўся завочна і выкладаў у школе — настаўнікам геаграфіі, астраноміі і малявання працаваў да 1979 года.

Ды быў не такім настаўнікам, які ў выкладанні толькі прытрымліваецца школьнай праграмы, не праяўляе ў рабоце самастойнасці. Наадварот, стараўся сам болей даведацца пра гісторыю Клеччыны дый пазнаёміць з падзеямі, якія

адбываліся некалі на гэтай зямлі, сваіх вучняў. Разам з імі ездзіў на экскурсіі, хадзіў у паходы. Дый увогуле займаўся пошукава-даследчыцкай працай.

Яна дала жаданы плён, калі ў тарфяніку каля вёскі Капланавічы пашчасціла знайсці драўлянае рала. Як высветлілася, яно найбольш старажытнае сярод адшуканых ва ўсёй Усходняй Еўропе. Зразумела, што на яго звярнулі ўвагу навукоўцы, і яно трапіла ў фонды дзяржаўнага гістарычнага музея.

Былі і іншыя цікавыя знаходкі. Асабліва тады, калі Дарафей Максімавіч выйшаў на Інстытут гісторыі Акадэміі навук Беларусі і атрымаў дазвол разам з археолагамі прымаць удзел у раскопках старажытных замчышчаў на тэрыторыі раёна. Ці не ў кожнай вёсцы пабывалі юныя даследчыкі са сваім настаўнікам. Затое і плён іхняй працы стаў значным. У пластах зямлі яны знайшлі прылады працы і быту нашых продкаў, якія жылі ў XI—XIII стагоддзях, а таксама некаторыя прадметы даўняга ўзбраення, шыферныя прасліцы, фрагменты шкляных бранзалетаў. Дый шмат што іншага з таго, чым не могуць не нарадавацца прафесійныя археолагі. Што ўжо ў такім разе казаць пра археолагаў-аматараў!

## ПРАВА ПАДАРЫЦЬ... МУЗЕЙ

Як і трэба было чакаць, самыя значныя і цікавыя знаходкі трапілі ў Мінск, але шмат чаго засталося і ў школе. Магчыма, у маштабах рэспублікі яно і не мела вялікага значэння, чаго не скажаш пра саму Клеччыну. Гэта і падштурхнула Чорнага на стварэнне школьнага гісторыка-этнаграфічнага музея.

Першая экспазіцыя, што складалася са звыш тысячы экспантаў, была адкрыта 29 кастрычніка 1961 года і размясцілася на трэцім паверсе будынка школы. Але матэрыялаў аказалася так шмат, што ўжо тады было відавочна — музею патрабуецца асобнае памяшканне. Аднак усё аказалася не так проста, як думалася. Дарафею Максімавічу давялося шмат у якія дзверы стукацца, пакуль не знайшоў разумення і яму не пайшлі насустрач.

Будаўніцтва ішло добры дзесятак гадоў. У ім прымалі актыўны ўдзел і вучні са сваім настаўнікам. Другім днём нараджэння музея стала 1 верасня 1979 года, калі ён са школьнага ператварыўся ў Клецкі гісторыка-этнаграфічны музей, дырэктарам якога і стаў Чорны. Колькасць жа экспанатаў павялічылася ў тры разы. Але пошукавая работа не спынялася. Дый усё больш знаходзілася жадаючых падарыць музею шмат якія старыя рэчы, што валяліся без патрэбы дзе-небудзь на гарышчах дамоў, але ўяўлялі гісторыка-краязнаўчую каштоўнасць.

Сам жа Дарафей Максімавіч на гэты час працягваў займацца і публіцыстычнай дзейнасцю. За пяро ён узяўся яшчэ тады, калі быў уражаны першымі значнымі археалагічнымі знаходкамі, таму і пачаў выступаць у перыёдцы з гісторыка-краязнаўчымі артыкуламі і нарысамі. А паколькі знойдзеных прадметаў было нямала, засталося шмат уражанняў. Дый прысутнічаў ужо вопыт, якім не лішне было падзяліцца з іншымі, хто гэтаксама апантана захоча пазнаваць свой край.

Дарафей Максімавіч вырашыў напісаць кнігу, у якой узяўся падсумаваць тое, што было ўжо зроблена. Пад назвай «Горят костры походные» яна пабачыла свет у 1965 годзе. Пазней з’явіліся новыя: «Краязнаўчая работа ў школе» (1978), «Познай Родину, воспитай себя» (1983). Нарэшце, Чорны ажыццявіў сваю даўнюю задуму — напісаў гісторыка-эканамічны нарыс «Клецк», у якім прасачыў усю гісторыю роднага яму горада, а таксама той тэрыторыі, што ўваходзіць цяпер у склад Клецкага раёна.

Гэтая кніжка выйшла ў 1991 годзе і была з цікавасцю сустрэта не толькі землякамі Дарафея Максімавіча, а і ўсімі тымі, хто па-сапраўднаму цікавіцца гісторыяй Беларусі, разумее, што яна, гісторыя гэтая, складаецца і з гісторыі вялікіх і малых паселішчаў, з гісторыі гарадоў і вёсак, з усяго таго, што сёння мы

называем ужо не проста краязнаўствам, а радзімазнаўствам, бо дасканала ведаць сваю Радзіму — гэта значыць, ведаць, вобразна кажучы, радавод яе.

Толькі пражытае ў ваенныя гады і цяжкае раненне не прайшлі бясследна: 21 жніўня 1997 года Чорнага не стала. Ды засталася справа ягонай няўрымслівасці на карысць любай сэрцу Клеччыны, на карысць Бацькаўшчыны. Артыкул пра Дарафея Максімавіча, змешчаны ў томе гісторыка-дакументальнай хронікі «Памяць», прысвечанай Клецкаму раёну, названы надзіва дакладна — «Нашчадкам у спадчыну — музей».

Нашчадкі ж, калі прытрымліваецца гэтага вызначэння, годна працягваюць справу, распачатую першапраходцам на ніве клецкага радзімазнаўства. Таму музейнымі работнікамі не спыняецца пошукавая работа, а сам ён пастаянна папаўняецца цікавымі экспанатамі. У гэтым, безумоўна, вялікая заслуга цяперашняга дырэктара Марыны Леанені. Марына Анатольеўна гэтаксама ўлюбёны ў свой край чалавек, як і Чорны. Таму пад яе кіраўніцтвам невялікі калектыў і працуе так плённа, бо захопленасць кіраўніка гэтай установы культуры перадаецца яе супрацоўнікам.

* * *

Няма такога паэта, які б не прысвячаў сваім родным мясцінам твораў. Не абышлі тэму Клеччыны і тыя, хто нарадзіўся на гэтай зямлі. Пры жаданні можна было б прывесці радкі і слынных аўтараў, ураджэнцаў тамашніх мясцін. Ды сваёй шчырасцю, прастатой, але разам з тым і важкасцю думкі мяне асабліва хвалюе верш Ліліі Мялешкі «Любы мой край ...»:

Клёкат бусліны пад небам вясновым,
Лаўка ля весніц, квітнеючы сад,
Елка ў раскошы шатаў шаўковых
Цешыць душу мне, і слых, і пагляд.
Клён над азерцам вільготнай накрыўся
Аркай вясёлкі ў час летніх дажджоў.
Любы мой край, ты надзейна згубіўся
Ў засені пышных палескіх лясоў.
Радасна мне — тут усюды я дома.
Астры мне ззяюць і пчолы гудуць...
Ногі мае тут не ведаюць стомы —
У неабсяжныя далі вядуць.

Можа, таму так і хвалюе гэты твор, што ў ім адлюстравана і тое, што даводзілася бачыць і мне самому, наведваючыся на Клеччыну, бо гэта было звычайна ўлетку ці пад восень. Гэтая ж камандзіроўка адбылася ў першы месяц гэтага года, у сярэдзіне зімы, якая паспела засведчыць, што размовы пра пацяпленне застаюцца размовамі, а маразы адступаць не збіраюцца. Дый завея пры першым жа выпадку гатова напомніць аб сабе.

Так і было тым днём. Праз дарогу з Мінска, асабліва на тым участку яе, што вёў з Нясвіжа ў Клецк, хвалямі прабягала пазёмка, а ў самім горадзе па баках відаць былі гурбы — гэта своечасова пастараліся дарожныя рамонтнікі. Падумалася: работы ж ім стае, бо ў Клецку, хоць ён невялікі, шмат вуліц — сказваецца тое, што ў пераважнай большасці сваёй дамы аднапавярховыя.

Дарэчы кажучы, самая доўгая з іх — Перамогі — цягнецца на 2 кіламетры 860 метраў. Не вуліца, а самая што ні на ёсць дарога, паабапал якой стаяць дамы. Дарога — гэта ж заўсёды жыццё. Жыццё ж — вечнае. Ды, каб яно не спынялася ў сваёй хадзе, не абысціся без людской рупнасці. Пра гэта ніколі не забываюць і работнікі культуры Клеччыны.

Міхась МУШЫНСКІ

# ЯКУБ КОЛАС У СТАСУНКАХ З ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫМІ ДЗЕЯЧАМІ БЕЛАРУСІ

**Удзельнікі** мінулагодняй канферэнцыі яшчэ раз пацвердзілі неабходнасць і надалей калектыўнымі намаганнямі працягваць распрацоўку тэмы «Якуб Колас і яго асяроддзе», бо тэма гэтая сапраўды невычэрпная. У прыватнасці, слаба асветлены такі яе аспект, як узаемаадносіны народнага паэта з дзяржаўнымі, грамадска-палітычнымі дзеячамі Беларусі — з П. К. Панамарэнкам, М. В. Зімяніным, К. Т. Мазуравым, В. І. Казловым, Ц. Я. Кісялёвым, І. Ф. Клімавым, М. Я. Аўхімовічам і іншымі. Іх імёны неаднаразова згадваюцца ў лістах і ў дзённіку Якуба Коласа, а пра свае сустрэчы, размовы з народным паэтам ідзе гаворка ў кнігах, напісаных некаторымі з пералічаных вышэй дзеячаў. Фактаалагічная насычанасць гэтых мемуараў, вядома, розная.

Маю ўвагу прыцягнула кніга Мікалая Сямёнавіча Патолічава пад назвай «Совестью своей не поступись» (Масква, 1995). На працягу шасці гадоў — з ліпеня 1950 па ліпень 1956 года — Патолічаў (10.09. 1908—1.12.1989) быў першым сакратаром ЦК КП Беларусі, а потым, працуючы дваццаць восем гадоў міністрам знешняга гандлю СССР (1958—1985), заставаўся да 1960 года дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР. Мікалай Сямёнавіч — двойчы Герой Сацыялістычнай Працы (1975, 1979). Пры жыцці выдаў кнігу «Испытание на зрелость» (М., 1977).

З часу выхаду гэтай кнігі ў свет прайшло ўжо амаль пятнаццаць гадоў, але яна з-за малога накладу, на жаль, не стала для беларускіх даследчыкаў прадметам сур'ёзнага разгляду. А між тым пасля знаёмства са зместам успамінаў фігура Якуба Коласа, пісьменніка-грамадзяніна, паўстае ў новым, нават крыху нечаканым асвятленні. Каштоўна і тое, што гаворка ў кнізе ідзе пра апошнія гады жыцця Канстанціна Міхайлавіча, гэта значыць, пра перыяд, які не пазначаны вялікімі творчымі набыткамі. Тлумачылася гэта шэрагам фактараў, у тым ліку і жыццёвымі нягодамі — заўчаснай смерцю жонкі Марыі Дзмітрыеўны, адсутнасцю звестак пра сына Юрку, які не вярнуўся з вайны. Для Коласа як чалавека і грамадзяніна незагойнай ранай, пачынаючы ўжо з 30-х гадоў, быў і заставаўся трагічны лёс многіх таленавітых пісьменнікаў, дзеячаў культуры, навукі, знішчаных таталітарнай сістэмай. Мастака-гуманіста не мог не прыводзіць у жах маштаб страт, панесеных нацыянальнай творчай інтэлігенцыяй. Аўтар кнігі «Вынішчэнне» (2001) Леанід Маракоў сцвярджае, што з 2000 рэпрэсіраваных у СССР літаратараў каля 500 (чвэрць) прыходзіцца на Беларусь. У сумны мартыралог ахвяраў мірнага часу новыя імёны ўпісала вайна. А па вяртанні з Ташкента ў разбураны, спалены Мінск у Якуба Коласа хапала новых клопатаў, звязаных з бытавой неўладкаванасцю. Усё гэта, грамадскае і асабістае, разам узятае, моцна адбівалася на светаўспрыманні пісьменніка.

Адбівалася і на стане здароўя. Даволі часта ў апошнія гады дактары накіроўвалі Якуба Коласа ў бальніцу: так, у 1950 годзе ён знаходзіўся там на працягу кастрычніка — пачатку студзеня; у 1951 — у жніўні і ў снежні; у 1952 — у лютым і ў маі; у 1953 — у студзені, у красавіку і пачатку мая, у лістападзе і снежні; у 1954 — з канца сакавіка да пачатку красавіка; у маі, у чэрвені, у кастрычніку і пачатку лістапада, у снежні; у 1955 — у студзені — лютым і ў маі. У лісце да сястры Алены ад 16 красавіка 1956 года Канстанцін Міхайлавіч паведамляе: «Усю зіму хварэю. Два разы давялося паехаць у Маскву, і кожная паездка канчалася паганым грыпам. Грып падаў на лёгкія». А далей прыведзены лічбы, якія не могуць не крануць чытача,

не выклікаць у яго душы глыбокага спачування: «26 разоў за апошнія 10 гадоў я хварэў на запаленне лёгкіх». І яшчэ адно журботнае прызнанне: «Я зусім абяссілеў, аслабеў, хадзіць трудна. Пры такім здароўі і жыць не хочацца»[1]. Трэба толькі схіліць галаву ў глыбокай павазе і захапленні мужнасцю паэта, які пры цяжкім фізічным стане, маральнай прыгнечанасці не пакідаў творчую працу.

Галоўным клопатам для пісьменніка ў той перыяд была трэцяя кніга палескіх аповесцей, завяршэнне вершаванага рамана «На шляхах волі». Шмат часу забіралі рэдагаванне Збору твораў у 7-мі тамах і асабліва — удзел у пасяджэннях Вярхоўнага Савета СССР і БССР, у рабоце Камітэта абароны міру. Даводзілася паэту адгукацца — вершаванымі творамі і публіцыстычнымі артыкуламі — і на падзеі грамадска-палітычнага, міжнароднага жыцця, на юбілейныя даты. Але значных мастацкіх твораў узроўню «Новай зямлі», «Сымона-музыкі» ў гэты час з-пад пісьменніцкага пяра і сапраўды не з'явілася. І ўсё ж, калі прачытаеш адпаведныя старонкі ўспамінаў М. С. Патолічава, у ранейшыя ўяўленні пра невысокую творчую актыўнасць Канстанціна Міхайлавіча апошніх гадоў жыцця даводзіцца ўносіць пэўныя карэктывы, бо мемуары партыйнага дзеяча паказалі, што думка Коласа-грамадзяніна працавала напружана і сфера яго інтарэсаў як публіцыста была шырокай.

Так, у размовах з сакратаром ЦК КПБ аўтар «Новай зямлі» прадэманстраваў зайздросную дасведчанасць у пытаннях сельскай гаспадаркі, якая тады знаходзілася ў вельмі складаных умовах. Меркаванні, ацэнкі, прапановы Канстанціна Міхайлавіча ўражваюць сваёй глыбінёй. Як быццам гэта развагі вучонага-аграрыя і адначасова спецыяліста-практыка. Падчас адной з такіх сустрэч было закранута надзённае для тых гадоў пытанне пра цаліну. Якуб Колас, вядома ж, падтрымліваў мерапрыемствы, якія партыя праводзіла ў жыццё ў сувязі з асваеннем цалінных зямель. Але адначасова яго моцна турбавала пытанне ўраджайнасці, пытанне ўгнаенняў, актуальнае для Нечарназёмнай зоны. Між іншым, мінеральных угнаенняў у 1950 годзе Беларусь атрымала ў колькасці ўсяго 5,3 тысячы тон. Гэтая мізэрная лічба ніяк не магла задаволіць рэальных патрэб рэспублікі. А ў сувязі з пачаткам цаліннай эпапеі вырашэнне дадзенай праблемы адкладвалася на няпэўны час. І Якуб Колас, звяртаючыся да М. С. Патолічава, адкрыта сказаў, што згаданая праблема «з кожным годам будзе абвастрацца, і чым на большы тэрмін яна будзе адкладацца, тым больш будзе негатыўных наступстваў. Я ведаю, што вам, першаму сакратару ЦК Кампартыі, беларускія нашы хлебаробы, напэўна, кажуць, кажуць адкрыта, бо ўжо час выбівацца з галечы. Але, магчыма, яны вам кажуць не так, як мне. І мне гэта балюча слухаць. Жыццё ў калгасах наладжваецца, але павольна, вельмі павольна»[2].

Адметнасць успамінаў М. С. Патолічава ў тым, што іх аўтар не імкнуўся выставіць сябе як мудрага кіраўніка, які нібыта разбіраецца ва ўсіх тонкасцях закранутага пытання («во всех науках славный корифей»), а Колас быццам бы выступае ў ролі героя другога плана, які толькі тое і робіць, што падтрымлівае партыйнага лідэра, з усім пагаджаецца, усе прапановы ўхваляе. Не, хутчэй наадварот: сакратар слухае пісьменніка, і яго захапляе дзяржаўны погляд Канстанціна Міхайлавіча на праблемы сельскай гаспадаркі. У дадзеным выпадку М. С. Патолічаў спаслаўся на ўстаноўкі тагачаснага кіраўніка краіны шырока разгарнуць асваенне цаліны «з разлікам на значныя вынікі». Вядома, гаворыць Колас, «цаліна дасць прырост вытворчасці збожжа. Абавязкова дасць». Але «трэба глядзець наперад», бачыць далёкую перспектыву, гэта значыць, праблему Нечарназем'я нельга адкладваць, бо «чым хутчэй краіна да яе звернецца, тым лепш». Вось тут аўтар мемуараў і занатаваў: «Я слухаў Якуба Коласа з вялікай увагай» (с. 169).

Выкладзены вышэй запіс М. С. Патолічава вельмі паказальны: беларускі пісьменнік выдатна разумеў, што ў імкненні найхутчэй вырашыць першачарговую задачу — асвоіць цалінныя землі — кіраўнікі дзяржавы не маюць права забываць пра заўтрашні дзень, пра стан ворнай зямлі іншых рэгіёнаў краіны,

якой у колькасных адносінах нашмат больш, чым урадлівай казахстанскай. Менавіта Нечарназёмная зона — галоўны карміцель жыхароў саюзных рэспублік. Ад Нечарназем'я залежыць эканамічная бяспека краіны. Гэта была надзвычай глыбокая выснова! І каб пераканальна давесці сутнасць сваёй думкі, Канстанцін Міхайлавіч сказаў суразмоўцу наступнае: «— У вас, Мікола Сямёнавіч, можа быць, ствараецца меркаванне, што вось, маўляў, Якуб Колас зыходзіць толькі з пазіцыі беларускіх інтарэсаў, — працягваў Канстанцін Міхайлавіч. — Не і не. Я імкнуся зірнуць на справы з агульнадзяржаўных інтарэсаў» (с. 169).

Сапраўды, у меркаваннях Коласа адсутнічаў вузкі, мясцовы, правінцыйны падыход. Яго вуснамі гаварыў багаты на жыццёвы досвед дзяржаўны дзеяч, гаварыў народны пісьменнік. У гэтых выказваннях не было павярхоўнага аптымізму, паспешлівых эмацыйных заклікаў. Канстанцін Міхайлавіч цвяроза глядзеў на шляхі вырашэння агульнадзяржаўнай праблемы: «Ну, час пакажа. Хоць не ўтойваю, паводле маіх меркаванняў, шлях уздыму земляробства Нечарназёмной зоны — праз карэннае паляпшэнне ўгнаення і апрацоўкі зямляў (і яшчэ, вядома, сёетое) — цяжкі і, мабыць, даўжэйшы. Хоць больш надзейны. Праз яго можна вырашыць хлебную праблему (і не толькі хлебную) канчаткова. Да хлебнай праблемы прыйдзецца яшчэ шмат разоў вяртацца. Ну, не судзі мяне строга, сакратар, — жартам звяртаецца да мяне Якуб Колас, — бо я стары (ён сказаў па-беларуску «стары»), можа быць, не ўсё разумею» (с. 170).

Як далёка сягала прагнастычная думка беларускага пісьменніка, красамоўна сведчаць наступныя факты: у выніку асваення цаліны земляробчая прадукцыя ў краіне на працягу 1955—1960 гадоў павялічылася на 54 працэнты. Але гэты эфект аказаўся кароткачасовым: у пачатку 60-х на цаліне адбылася экалагічная катастрофа, пасля чаго, пачынаючы з 1962 года, дзяржава вымушана была купляць зерне за мяжой[3]. Перад намі класічны прыклад таго, як ігнараванне думкі пісьменнікаў-мысляроў прыводзіць да трагічных вынікаў у грамадскім жыцці, у сферы эканомікі. Мы з гонарам гаворым пра тое, што сярод мастакоў-прагностыкаў быў і народны пісьменнік Якуб Колас.

Вядома, ёсць горкая праўда ў згаданых вышэй словах Коласа пра салідны ўзрост, пра старасць, але гэта была мудрая старасць. На сваім вяку пісьменнік многае бачыў, многае перажыў, у тым ліку прымусовую калектывізацыю, нядобрай памяці ліквідацыю кулацтва як класа, разбурэнне спрадвечнага побытавага ўкладу беларускай працоўнай вёскі. І думка пра тых, хто марыў «купіць зямлю, прыдбаць свой кут», каб там «зажыць сабе нанова», назаўжды засталася ў сэрцы лесніковага сына. І хоць «Новая зямля» была завершана ў 1923 годзе, а гутарка з М. С. Патолічавым адбывалася ў 1950-м, многія праблемы, звязаныя з развіццём вёскі, па-ранейшаму патрабавалі кардынальнага вырашэння. І адну з такіх праблем, якую кіраўнікі краіны, рэспублікі фактычна самі сабе стваралі, Якуб Колас вынес на абмеркаванне.

«— Але ж паняцце вёска ці раўназначнае яму паняцце сельская гаспадарка краіны маюць вельмі многа агульнага, — заўважыў ён, — вялікія, як бяскрайняе мора. Тут не пазбегнуць некаторай стыхійнасці. А стыхійнасць у гэтакім жыццёва важным пытанні — гэта бедства. І мы самі яго ствараем. І калі ў вас, сакратара ЦК, хопіць цярпення, я паспрабую звярнуць увагу і на сёе-тое канкрэтнае. Канкрэтнае, — паўтарыў ён» (с. 170).

Якую ж канкрэтыку прапаноўваў разгледзець Канстанцін Міхайлавіч?

«— Вось, напрыклад, уявіце сабе сяло любой вобласці Нечарназёмной зоны — Яраслаўскай, Уладзімірскай, Горкаўскай, Разанскай, Віцебскай — адным словам, любой. Тут падраслі маладыя хлопцы, — ну, вядома, і дзяўчаты. Хлопцаў заклікаюць у войска, дзяўчаты застаюцца ў вёсцы і чакаюць іх. Ці не так ? — звяртаецца да мяне Якуб Колас.

— Але не дачакаюцца, таварыш сакратар. Вы гэта можаце праверыць. Бліжэй да заканчэння тэрміна службы іх угаворваюць выявіць разуменне агульнадзяржаўных задач і паехаць на найважнейшыя будоўлі, якія патрабуюць пра-

цоўнай сілы. І яны, савецкія хлопцы, едуць. Гэта робіць ім гонар. Здаецца, усё звычайна. Ці не так?

— Так, звычайна,— працягваў ён. — А калі паглядзець болей уважліва? Але што ж будзе з тымі самымі дзяўчатамі, якія засталіся без жаніхоў? Якая сіла ўтрымае іх у вёсцы? Такім чынам, як бачыце, высокаарганізаваны пераход часткі працаўнікоў вёскі ў горад — высокаарганізаваны, але не прадуманы да канца, спараджае працэс стыхійны: моладзь пакідае вёску» (с. 170—171).

Тут пісьменнік звярнуў увагу партыйнага кіраўніка рэспублікі на вельмі небяспечны працэс, які па сутнасці пагражаў існаванню працоўнай вёскі, бо калі моладзь з’язджала ў горад, сельскагаспадарчых работнікаў, натуральна, станавілася ўсё меней і меней. Логіка разважанняў Канстанціна Міхайлавіча няўхільна прыводзіла да высновы, паводле якой у хуткім часе можа здарыцца так, што на вёсцы не будзе каму працаваць! Бо ўвогуле працэс міграцыі моладзі ажыццяўляўся па ініцыятыве і пры падтрымцы ўлады, заклапочанай вырашэннем «агульнадзяржаўных задач». Фактычна Якуб Колас паставіў пытанне так: чаму клопат пра лёс значнай часткі насельніцтва, якая забяспечвае прадуктамі харчавання ўсю краіну, усіх яе жыхароў, незалежна ад полу, узросту, сацыяльнай прыналежнасці, роду заняткаў, не ўваходзіць у паняцце «агульнадзяржаўны»? Пра якую роўнасць паміж калгаснікам і рабочым можа ісці гаворка? Да чаго прывядзе прыярытэтнае развіццё індустрыяльнага горада перад калгаснай вёскай? Чым працэс, санкцыяваны партыяй і ўрадам, можа закончыцца?

З выкладзенага бачна, што Якуб Колас, няхай і не на афіцыйным мерапрыемстве, не на сходзе ці пленуме, а ў прыватнай размове з афіцыйнай асобай, праяўляў агульнадзяржаўны падыход да вырашэння канкрэтных задач эканамічна-гаспадарчага, сацыяльна-культурнага характару. Каштоўнасць пісьменніцкіх меркаванняў трэба бачыць і ў тым, што яны рабіліся з прыцэлам на перспектыву, а галоўнае, у цэнтры разваг стаяў чалавек, інтарэсы людзей, якія любяць зямлю, любяць працу на зямлі. І стасункі з прыродай у вясковых працаўнікоў болей арганічныя, болей натуральныя. І гэтыя людзі ў сваім паўсядзённым жыцці болей паслядоўна прытрымліваюцца спрадвечных народных традыцый, перадаюць нашчадкам маральна-этычны досвед дзядоў і прадзедаў, гэта значыць, яны выступаюць як пераемнікі пакаленняў. Страта лепшых нацыянальных традыцый, лепшых рысаў нацыянальнага характару — вось чым пагражаў беларусам «высокаарганізаваны пераход часткі працаўнікоў вёскі ў горад — высокаарганізаваны, але не прадуманы да канца...» (с. 171).

Але гэтая з’ява, гаворыць далей Канстанцін Міхайлавіч, «не самае адмоўнае для сённяшняй вёскі. Ёсць і горшае».

«— Якія ж гэтыя з’явы?» — цікавіцца М. С. Патолічаў. — Іх шмат, — чуе ён у адказ. — Па-першае, з адтокам у горад найбольш працаздольнай часткі вясковага насельніцтва (а прадпрыемствы, заводы, фабрыкі, шахты, новабудоўлі ўвесь час патрабуюць новай рабочай сілы) «жыццёвы ўзровень на сяле бязбожна адстае ад гарадскога» (с. 171). І таму трэба рабіць практычныя захады па выпраўленні гэтай несправядлівай і неразумнай дыспрапорцыі ў развіцці горада і вёскі, гарадскога і сельскага ўкладу жыцця. Хопіць толькі крытыкаваць дрэннае стаўленне да вёскі, неэфектыўнае кіраўніцтва сельскай гаспадаркай. Трэба ад слоў, агульных заклікаў, гаворыць Канстанцін Міхайлавіч, пераходзіць да справы. «Час ужо і рабіць нешта. Рабіць! Нешта, вядома, робіцца. Але, здаецца, не тое, што трэба. Давайце ўдумаемся. Цяпер патрабуюць скарачаць, а то і ліквідаваць асабістую гаспадарку калгаснікаў. Гэта нічым не апраўданы націск. Робіцца гэта бяздумна, не прадбачачы, да чаго гэта прывядзе. Калі да гэтага дадаць патрабаванне не сеяць культуры, якія гістарычна ўвайшлі ў сельскую гаспадарку Нечарназем’я, узворваць пашы, рашуча адмаўляцца ад папару і травапольнай сістэмы земляробства і шмат што іншае, што падсякае карані сельскагаспадарчай вытворчасці і асновы жыцця сельскага жыхара, дык гэтага больш чым дастаткова для стыхій-

нага скарачэння сельскага насельніцтва, памяншэння вытворчасці сельскагаспадарчай прадукцыі» (с. 171).

А далей Якуб Колас гаворыць аб тым, што партыйныя пастановы пра ліквідацыю падсобных гаспадарак калгаснікаў, пра бязгноевае ўтрыманне жывёлы, пра спыненне полеахоўных пасадак лесу, адмову ад травапольнай сістэмы земляробства, пра «ўзворванне лугоў і пашы» прывядуць да вельмі негатыўных вынікаў. Па-першае, аслабее зямля, яна страціць сілу да супраціўлення розным нягодам і напасцям. Па-другое, адбудзецца дэфармацыя вытворчых сіл у сельскай гаспадарцы: вытворчасць сельскагаспадарчых машын павялічыцца, але на іх не будзе каму працаваць!

«У гэтым выпадку запатрабуецца дужа багата высілкаў, каб прыпыніць негатыўны і вельмі глыбокі працэс разбурэння ўсёй справы калгаснага будаўніцтва, усяго жыцця вёскі» (с. 172).

«— І тады? — спытаў я Канстанціна Міхайлавіча.

— Тады ў шматлікіх раёнах краіны, — працягваў Якуб Колас, — неўраджай, а можа дакладней сказаць, зусім нізкія ўраджаі стануць звычайнай з'явай» (с. 173).

Тактоўны чалавек, Канстанцін Міхайлавіч у гутарцы з М. С. Патолічавым не выстаўляў сябе як вялікага спецыяліста-аграрніка. Напэўна, Цярэнцій Сямёнавіч Мальцаў, кажа Колас, пра якога я многа чуў ад Вас, лепей за мяне разбіраецца ў працэсах сельскагаспадарчай вытворчасці, глыбей аналізуе праблемы калгаснага будаўніцтва. «Прабач мне, калі што не так. Павер, душа спакутвалася» (с. 173). Вось такімі пранізлівымі словамі закончыў Канстанцін Міхайлавіч сваю гутарку з М. С. Патолічавым — гутарку пра балючыя пытанні, ад пазітыўнага вырашэння якіх залежаў лёс працоўнага сялянства краіны, лёс вёскі, у тым ліку і беларускай вёскі, эканамічная бяспека дзяржавы.

Гэтая размова, як прызнаецца аўтар мемуараў, глыбока ўсхвалявала і надоўга запомнілася яму. М. С. Патолічаў ужо значна пазней згадаў мудрыя папярэджванні народнага песняра, калі 29 студзеня 1982 года слухаў перадачу па радыё. У ёй ішла гаворка пра тое, што многія калгаснікі, асабліва жыхары Нечарназёмнай зоны, пакінулі вёску. «Мала засталося людзей у вёсцы. А тыя, што засталіся, адмовіліся ад прысядзібных участкаў, асабістай скаціны, перайшлі на дзяржаўнае забеспячэнне праз гандлёвую сетку, як і гарадскія жыхары» (с. 173).

Не буду паўтарацца, бо з выкладзенага матэрыялу бачна, што ў згаданай гутарцы Якуб Колас не проста праявіў дасведчанасць у пытаннях развіцця сельскай гаспадаркі першай паловы 50-х гадоў. Гэта быў клопат пра лёс краіны, лёс нечарназёмнай Беларусі, лёс беларускай нацыі, яе будучыні. Талент Коласа-мысляра, грамадзяніна, талент прагностыка раскрыўся тут ва ўсёй паўнаце і выразнасці.

Лічу, што выкладзеныя Якубам Коласам думкі, меркаванні, рэкамендацыі, няхай і ў пераказе М. С. Патолічава, павінны заняць сваё месца на старонках новага Збору твораў, у раздзеле публіцыстычнай спадчыны. Не будзе выглядаць перабольшваннем, калі мы скажам, што паводле свайго зместу, актуальнасці, глыбіні выкладзеных там думак Коласавы выказванні болей важкія, болей значныя і каштоўныя, чым многія тагачасныя артыкулы, напісаныя Канстанцінам Міхайлавічам па замове рэдактараў газет і часопісаў.

Тут дарэчы было б прывесці ўрывак з чарнавіка неапублікаванага ліста Якуба Коласа, адрасаванага М. С. Патолічаву. Ліст змешчаны ў кнізе Д. Міцкевіча «Любіць і помніць» без пазначэння даты.

«Нельга таксама абмінуць яшчэ аднаго адмоўнага факта ў жыцці нашай моладзі. У нас хутка развіваецца фабрычна-завадское будаўніцтва. Узнікае ў кароткія тэрміны шэраг новых заводаў і фабрык. Сюды прыходзіць і новае пакаленне працаўнікоў з далёкіх сёлаў і вёсак, пераважна моладзь. Аплата іх працы нізкая — 300—400 рублёў. (Гэта ў пачатку 50-х гадоў, да хрушчоўскага грашовага абмену. — **Д. М.**) Інтэрнатаў, сталовак няма. З мізэрнага заробку трэба аддаць амаль адну трэціну, каб зняць жылы кут. А моладзі, асабліва дзяўчатам, трэба

падхарашыцца, набыць сукенку, абутак, адзежу. Хіба хопіць на ўсё гэта 400 рублёў? Грошай, якіх не хапае, трэба дзесьці неяк падзарабіць. У выніку зараджаецца гідкая, даўно асуджаная лепшымі людзьмі-гуманістамі з’ява — прастытуцыя. Ці можам мы, будаўнікі новага грамадства, трываць гэту ганебную адрыжку буржуазна-капіталістычнага ладу? Трэба карэнным чынам перагледзець норму аплаты працы, каб не меў месца крадзёж народнага дабра і падзенне нораваў.

Я цвёрда перакананы, што ўсе гэтыя заганы можна і трэба зжыць, калі толькі вялікі і высокагуманны прынцып «усё для народа» ператварыць у актыўна дзейсную сілу, у наш савецкі прынцып і закон. Якуб Колас»[4].

Пагадзіцеся, вельмі вострыя пытанні закрануў народны паэт у сваім звароце да сакратара ЦК КПБ.

Гэты ліст каштоўны яшчэ і тым, што ён наглядна пацвярджае аўтарства Коласавых выказванняў, ацэнак, пададзеных у кнізе М. С. Патолічава: і там і тут выказванні блізкія, сугучныя паводле зместу, грамадзянскай скіраванасці. Бачна, што аўтар кнігі не прыпісваў народнаму паэту сваіх думак, меркаванняў. Зрэшты, М. С. Патолічаў, напэўна, мог думкі Якуба Коласа выкласці і як уласныя, але каб не парушаць агульнапрынятыя этычныя нормы і з-за павагі да Канстанціна Міхайлавіча, ён ад падобнага кроку тактоўна адмовіўся.

Закранутая тут тэма знайшла болей шырокае, разгорнутае асвятленне ў «Лісце пра выхаванне моладзі», які змешчаны ў дадатку да аповесці-эсе Максіма Лужаніна «Колас расказвае пра сябе» (1982)[5]. «Ліст...» уяўляе сабой адбітак глыбокіх роздумаў паэта над нявырашанымі сацыяльнымі і маральнымі праблемамі тагачаснага жыцця, над такімі негатыўнымі з’явамі, як антыграмадскія паводзіны прадстаўнікоў маладога пакалення, праявы хуліганства, крадзяжу, рабаўніцтва. Якуб Колас звяртае ўвагу на беспакаранасць злачынцаў, гаворыць пра пачуцці страху ў пацярпелых людзей, не ўпэўненых, што яны знойдуць абарону ў праваахоўных органах. Паэта абурае і той факт, што сярод парушальнікаў аказваюцца дзеці забяспечаных бацькоў. «Калі застаюцца беспакаранымі злодзеі і рабаўнікі, то хуліганы пераходзяць усякія межы. Нельга пакараць за абразу асобы, за тое, што хуліган плюнуў табе ў твар, збэсціў вулічнай лаянкай, чапляўся з цынічнымі прапановамі ды жанчыны. А караць трэба. У гэтым выпадку павінен уступаць у свае правы клопат пра чалавека, пра яго спакой і бяспеку. Ніводнае злачынства не павінна заставацца беспакараным. Калі сышлі з рук несумленнасць, хуліганскі выбрык, яны могуць развіцца, калі не будуць асуджаны, не будуць даведзены ды грамадскасці»[6].

Устрымаемся ад болей дэталёвага разгляду згаданага «Ліста...», паколькі адсутнічаюць дадзеныя, што паэт меўся адрасаваць яго непасрэдна М. С. Патолічаву.

* * *

Я спыніўся толькі на адной размове Коласа і кіраўніка партыйнай арганізацыі рэспублікі. Тут галоўнай дзейнай асобай выступаў народны паэт. Але такіх сустрэч і гутарак, як вынікае з кнігі М. С. Патолічава, было багата, пачынаючы ўжо з першых дзён пасля прыезду Мікалая Сямёнавіча на Беларусь у сярэдзіне 1950 года. Паказальна, што менавіта Якуб Колас праявіў ініцыятыву, звярнуўшыся з просьбай да сакратара ЦК КПБ прыняць яго. Да гэтага Мікалай Сямёнавіч шмат чуў пра народнага пісьменніка, ведаў яго па літаратурных творах, грамадскай дзейнасці, публічных выступленнях. «Я шмат чакаў ад сустрэчы з чалавекам, які мае найбагацейшы жыццёвы вопыт, які карыстаецца велізарным аўтарытэтам у рэспубліцы. Як было важна, што такі чалавек ва ўсе гады працы ў Беларусі быў побач са мной. Якуб Колас пачаў гутарку са слоў:

— Я думаю, вам зразумела маё жаданне бліжэй пазнаёміцца з новым сакратаром. Магчыма, вы падумалі, што я паспяшаўся да вас на прыём, каб штосьці папрасіць? — Затым, усміхнуўшыся, дадаў: — і гэта будзе. Абавязкова будзе, але пазней» (с. 245).

Пры першай сустрэчы было закранута шырокае кола пытанняў. Іх пералік аўтар мемуараў пачаў з праблем беларускай культуры, а затым згадваюцца прамысловасць, аднаўленне эканомікі. Але і ў дадзеным выпадку акцэнт зроблены на клопаце Якуба Коласа пра стан сельскай гаспадаркі, што, напэўна, у значнай ступені і прадвызначыла характар далейшых стасункаў партыйнага дзеяча і пісьменніка, у асобе якога М. С. Патолічаў убачыў чалавека шырокага погляду на свет, здатнага мысліць дзяржаўнымі маштабамі. Вось успамін пра тое, як закончыўся першы візіт Канстанціна Міхайлавіча: «На развітанне я сказаў яму:

— Прыходзьце ў любы час. Калі ўбачыце, што я заняты, самі рашайце, пачакаць ці прыйсці другі раз. Напэўна, гэта шчырая размова і паклала пачатак нашай узаемнай сімпатыі» (с. 245).

Сімпатыя сапраўды была ўзаемнай. І пацвярджэнне таму мы знаходзім у лістах Якуба Коласа, пачынаючы з першых дзён іх знаёмства. Так, у лісце да П. Броўкі ад 12 ліпеня 1950 года ёсць наступныя радкі: «Прыехаў новы першы сакратар Мікалай Сямёнавіч Патолічаў. Ён робіць уражанне чалавека моцнага, сур'ёзнага, удумлівага і разумнага. Як відаць, і добрага характару...» (с. 14, 17—18). У прыведзенай вытрымцы дакладна сфармуляваны крытэрыі Коласавай ацэнкі не толькі дзелавых, але і маральна-этычных, інтэлектуальных здольнасцей чалавека, прызначанага на адказную пасаду. Думаецца, невыпадкова Канстанцін Міхайлавіч звярнуў увагу на «як відаць, добры характар» новага сакратара, бо, напэўна, яму не раз даводзілася непасрэдна сутыкацца з носьбітамі жорсткага, валявога стылю кіраўніцтва. А 16 лістапада 1950 года пісьменнік звяртаецца да таго ж адрасата з просьбай: «Будзеш у ЦК, перадай прывітанне Гарбунову, а калі давядзецца бачыць Мікалая Сямёнавіча, дык скажы, што мая душа і сэрца дужа ляжаць да яго. Жадаю яму здароўя і поспехаў. Яго артыкул у «Праўдзе» прачытаў з прыемнасцю» (14, 29).

Трынаццатага кастрычніка 1950 года Якуб Колас выехаў у Маскву для ўдзелу ў рабоце Другой Усесаюзнай канферэнцыі прыхільнікаў міру (16—18 кастрычніка). На наступны дзень ён захварэў на запаленне лёгкіх і з семнаццатага таго ж месяца і па 10 студзеня 1951 года знаходзіўся ў крамлёўскай бальніцы, адтуль быў накіраваны ў падмаскоўны санаторый «Барвіха» (11 студзеня — 9 лютага). Тут народнага паэта 22 студзеня наведалі М. С. Патолічаў і В. І. Казлоў, пра што Канстанцін Міхайлавіч напісаў П. Броўку. Звернем увагу на змест гэтага паведамлення, у якім яскрава раскрываюцца чалавечыя рысы Коласа, яго чуласць, дабрыня: «Няважны выгляд мае Пат[олі]чаў. Яму трэба канечне адпачыць тут, у «Барвісе». Калі заеду дахаты і скончацца выбары, трэба на яго насесці, каб паехаў у адпачынак перад веснавой сяўбою» (14, 59—60).

Чалавечае стаўленне да сябе з боку Якуба Коласа М. С. Патолічаў, безумоўна, адчуваў і быў удзячны яму за такія адносіны. Таму і прыслухоўваўся да думак народнага пісьменніка, давяраў ягоным ацэнкам і рэкамендацыям. Ва ўспамінах Мікалай Сямёнавіч прызнаецца, што перш за ўсё дзякуючы Якубу Коласу ён зблізіўся з многімі прадстаўнікамі беларускай інтэлігенцыі — П. Броўкам, К. Крапівой, П. Глебкам, М. Танкам, А. Куляшовым, М. Лыньковым, А. Стаховічам і іншымі. Далейшыя пошукі адпаведных матэрыялаў, безумоўна, напоўняць канкрэтным зместам стасункі дзяржаўнага дзеяча са згаданымі паэтамі, празаікамі. Канстанцін Міхайлавіч раіў сакратару часцей наведваць спектаклі Беларускага тэатра імя Янкі Купалы. Менавіта там, казаў ён, пачуеш сапраўдную беларускую мову, лепей будзеш яе разумець. І пераканаешся, як па-майстэрску выконваюць свае ролі выдатныя артысты — Л. Т. Ржэцкая, Г. П. Глебаў, У. І. Дзядзюшка, І. Ф. Ждановіч, Б. В. Платонаў, У. І. Уладамірскі, П. С. Малчанаў, В. М. Пола, Л. Г. Рахленка, К. М. Саннікаў.

Хоць Якуб Колас пры першай сустрэчы з сакратаром ЦК і паабяцаў, што ён абавязкова прыйдзе на прыём, «каб нешта папрасіць» (с. 245), але просьбы не датычыліся чагосьці асабістага, прыватнага. Гаворка заўсёды ішла пра справы, звязаныя з грамадскімі інтарэсамі, інтарэсамі калектыву, пра лёс несправядліва асуджаных, рэпрэсіраваных пісьменнікаў, вучоных. Вось адзін з вельмі паказальных у

гэтых адносінах выпадкаў. «Быў учора ў ЦК, меў гутарку пра Вас, — паведамляе Канстанцін Міхайлавіч у лісце ад 20 кастрычніка 1955 года да Ларысы і Гаўрылы Гарэцкіх. — Першы сакратар ЦК тав. Патолічаў дужа прыхільна паставіўся да Вас, да Вашага прыезду на Беларусь. Але паколькі Ваша выключэнне са складу правадзейных членаў Акадэміі навук БССР было замацавана пастановаю Саўнаркома, дык прыйдзецца гэту пастанову адмяніць, што будзе зроблена неўзабаве» (14, 190)[7]. На жаль, адмена пастановы Саўнаркома адбылася з недаравальнай запозненасцю — болей чым праз дзесяць гадоў, а менавіта 28 верасня 1968 года.

Наіўна было б тлумачыць такую працяглую часавую затрымку толькі хуткім ад’ездам М. С. Патолічава з Беларусі ў 1956 годзе. Прычына тут болей глыбокая: агульнавядома, што кіраўнікі партыйных арганізацый саюзных рэспублік былі абмежаваныя ў сваіх магчымасцях, рашэнне сур’ёзных пытанняў абавязкова ўзгаднялася імі з Цэнтрам. Зразумела, дзяржаўныя дзеячы, якія прыйшлі на змену М. С. Патолічаву-сакратару, больш зрабілі за свайго папярэдніка, былі болей актыўнымі, дзейснымі. Але ж пры гэтым нельга скідаць з рахунку аб’ектыўныя фактары, істотныя зрухі ў грамадска-палітычным жыцці краіны. М. С. Патолічаў быў прызначаны на пасаду першага сакратара ЦК КПБ яшчэ пры жыцці Сталіна, што не магло не адбіцца на характары яго дзейнасці. Адыгрывала сваю ролю, напэўна, і тое, што М. С. Патолічаў не так глыбока ведаў беларускую рэчаіснасць, мясцовую спецыфіку. Але ён імкнуўся папоўніць свае веды ў гэтым кірунку. Сустрэчы і гутаркі з Якубам Коласам былі для яго ў гэтых адносінах добрай школай.

Звернем увагу на змест занатаваных у кнізе М. С. Патолічава выказванняў Канстанціна Міхайлавіча, якія датычылі асвятлення ў друку сацыяльна-эканамічнага становішча Беларусі ў першыя пасляваенныя гады. Знаходзіліся паслужлівыя асобы, якія гатовы былі рапартаваць высокім усесаюзным інстанцыям пра выдатныя подзвігі і здзяйсненні беларускага народа, тады як у сапраўднасці разбураная вайной рэспубліка патрабавала дзейснай, практычнай дапамогі з боку цэнтра. Бо ўнутранымі рэзервамі аднавіць прамысловасць, сельскую гаспадарку, транспарт, сферу народнай адукацыі Беларусь у той час не магла. « — Ці не рана загаварылі ў Беларусі пра поспехі пасля вайны? — горача сказаў аднойчы Якуб Колас. — Каму гэта патрэбна?! Беларусі? Беларускаму народу? Калгаснікі вельмі мала атрымліваюць на працадні, жывуць цяжка. Нас чакае вельмі напружаная праца. Наступствы вайны яшчэ бачны паўсюдна. А сёй-той гаворыць і піша пра росквіт рэспублікі. Нядобра гэта. Гэта трэба выправіць. Зарана ўсё гэта. Рана біць у літаўры. Гэта можа расслабляць» (с. 247).

Сфера грамадскіх інтарэсаў Канстанціна Міхайлавіча, паводле сведчанняў М. С. Патолічава, вызначалася выключнай шырынёй: «Ён быў народны паэт не толькі па званню, але і па сутнасці. Яго цікавілі і тэрміны сева, і апрацоўка палёў, і, вядома, аплата па працаднях» (с. 249). Сярод тых пытанняў, якія Колас абмяркоўваў з сакратаром ЦК, — кінафікацыя вёскі, узвядзенне будынка філармоніі, цырка, вадасховішча ў раёне Ждановічаў. У размове пісьменнік звярнуў увагу на той факт, што большасць абласных цэнтраў размешчаны на берагах рэк. Гродна на Нёмане, Брэст — на Заходнім Бугу і на Мухаўцы, Магілёў на Дняпры, Віцебск на Заходняй Дзвіне, а таксама праз многія іншыя гарады цякуць паўнаводныя рэкі. Прыпяць праз Пінск і Мазыр, Заходняя Дзвіна праз Полацк. І толькі, кажа ён, Мінску не пашанцавала: старадаўняя Няміга, апетая ў гераічным «Слове аб палку Ігаравым», знікла, Свіслач абмялела. «Ці не прапануеце Вы, Канстанцін Міхайлавіч, перанесці сталіцу ў іншы горад?» — жартуючы, запытаўся М. С. Патолічаў. Але на жарт Якуб Колас не зрэагаваў, бо ім даўно выношвалася думка пра неабходнасць пабудовы вялікага вадасховішча для жыхароў Мінска.

«— Мне сапраўды казаў пра гэта Абрасімаў, калі прыходзіў да мяне па гэтым пытанні з групай спецыялістаў.

— Ну што ж, — усміхнуўся Якуб Колас. — Калі зыходзіць з таго, што «ўсякая ініцыятыва караецца», як вы не раз гаварылі, то і даручыце Абрасімаву кіра-

ваць гэтай справай. Ён здолее арганізаваць. І каля Мінска будзе возера. А гэта азначае, што ў мінчан будзе і купанне, і рыбалка, і многае іншае. Такім чынам, мы выправім гістарычную несправядлівасць» (с. 251).

* * *

Эскізна выкладзеныя асобныя моманты даволі працяглых па часе і вельмі змястоўных стасункаў Якуба Коласа з М. С. Патолічавым хацелася б завяршыць разглядам падзей, якія мелі месца 25—27 чэрвеня 1953 года на IV пашыраным пленуме ЦК КПБ, калі з боку Л. П. Берыя была прадпрынята спроба змясціць М. С. Патолічава з пасады 1-га сакратара ЦК КП Беларусі, замяніўшы яго на М. В. Зімяніна. Падставай да змяшчэння былі выяўленыя ЦК КПСС недахопы і памылкі ў дзяржаўнай і партыйнай рабоце ў Беларусі.

Увогуле ж сітуацыя на чэрвеньскім пленуме была вельмі складаная, асабліва ў першы дзень. І тлумачылася складанасць вось якімі абставінамі: 12 чэрвеня 1953 года Прэзідыум ЦК КПСС прыняў пастанову «Вопросы Белорусской ССР». І сур'ёзная крытыка, якая датычыла пытанняў дзяржаўна-культурнага будаўніцтва ў рэспубліцы, нацыянальных кадраў, адпавядала сапраўднасці. Фактычна лёс М. С. Патолічава як першага сакратара ЦК КПБ быў прадвырашаны. Не выпадкова, што адкрываў пленум сакратар КПБ па ідэалогіі Ц. С. Гарбуноў, а з дакладам — на беларускай мове — выступіў М. В. Зімянін, які раскрыў прысутным асноўныя палажэнні пастановы і акрэсліў задачы камуністаў рэспублікі па практычным ажыццяўленні партыйных рашэнняў. У дакладзе было адзначана, што карэнныя беларусы недастаткова вылучаюцца на працу ў партыйных і савецкіх органах. Гэты перакос асабліва яскрава бачны на прыкладзе заходніх абласцей. Як пра негатыўную з'яву гаварылася аб тым, што справаводства паўсюдна вядзецца на рускай мове, як і выкладанне большасці дысцыплін у ВНУ рэспублікі. Быў адзначаны небяспечны працэс няўхільнага скарачэння колькасці беларускіх школ. Прынцыповае значэнне меў тэзіс М. В. Зімяніна пра тое, што партыйныя і савецкія кіраўнікі, калі яны не хочуць адарвацца ад народа, павінны размаўляць з ім, народам, на яго роднай мове. Тыражы перыядычных выданняў на рускай мове значна пераўзыходзілі беларускамоўныя.

Крытычна было ацэнена М. В. Зімяніным і тагачаснае становішча народнай гаспадаркі — прамысловасці, транспарту, будаўніцтва.

Пафас выступлення Зімяніна падтрымалі такія прамоўцы, як сакратар Палескага абкама У. Е. Лабанок, сакратар Брэсцкага абкама Ц. Я. Кісялёў. Натуральна, што, ухваляючы партыйны дакумент, удзельнікі пленума мусілі пагаджацца з высновай адносна віны М. С. Патолічава, які, маўляў, не здолеў прадухіліць памылкі пры ажыццяўленні нацыянальнай палітыкі ў Беларусі і таму заслугоўваў вызвалення ад пасады. Але ж аўтарытэт М. С. Патолічава як кіраўніка ў Беларусі быў высокі! Не выпадкова ў стэнаграме яго выступлення ёсць памета: «Працяглыя апладысменты» («Коммунист Белоруссии». 1990. № 8. С. 73). І перад прысутнымі натуральна ўзнікла пытанне: як выйсці з гэтага няпростага становішча? Шэраг выступоўцаў, асабліва з ліку тых, хто падымаўся на трыбуну ў першы дзень пленума, абралі разумную тактыку: гаварыць пра недахопы адкрыта, але не ўскладаць усю віну толькі на М. С. Патолічава. Так пабудаваў сваё выступленне і Канстанцін Міхайлавіч, засярodзіўшы ўвагу на балючай праблеме становішча беларускай мовы, на пагражальным звужэнні сферы яе функцыянавання: мы, зазначыў Колас, перасталі карыстацца нашай мовай як мовай рабочай, «не зважалі на тое, што яна выходзіць з ужытку нават такіх устаноў і арганізацый, як Акадэмія навук, Міністэрства асветы, былое Міністэрства кінематаграфіі, былы камітэт па справах мастацтваў, навучальныя ўстановы, тэатры, саюзы мастакоў і кампазітараў і іншыя»[8].

Падобнае становішча ў галіне мовы, падкрэсліў народны паэт, негатыўна адбіваецца на развіцці ўсёй нацыянальнай культуры, і таму нельга пасіўна назі-

раць за гэтым небяспечным працэсам, які павінен быць неадкладна спынены. Колас прывёў мноства прыкладаў, каб пацвердзіць справядлівасць уласных меркаванняў. Так, на вуліцах гарадоў і паселішчаў амаль зніклі надпісы на беларускай мове. У Мінску шматлікія афішы, абвесткі, плакаты сведчаць пра актыўнае грамадскае і культурнае жыццё горада. «Але беларускіх тэкстаў паміж імі вельмі мала» (с. 109). Заслугоўваюць рашучага асуджэння спробы пагардлівых адносін да тых, хто размаўляе на роднай мове.

Сур'ёзныя закіды былі зроблены Якубам Коласам у адрас кіраўнікоў, якія «не разумеюць усёй важнасці рэальнага ажыццяўлення нацыянальнай палітыкі, падыходзяць да гэтай справы фармальна, не клапоцяцца аб належным падборы нацыянальных кадраў» (с. 110). Зусім недастаткова, калі ў анкеце работніка напісана «беларус». Трэба, каб работнік валодаў моваю, каб ён усведамляў сябе дзеячам, які працуе дзеля паспяховага развіцця рэспублікі, развіцця яе культуры, навукі, мастацтва. У тэксце стэнаграмы выступлення Коласа ёсць некалькі памет: «У зале смех», «Смех. Апладысменты». Асабліва ў тых мясцінах прамовы, дзе паэт выкарыстоўваў трапныя народныя выслоўі, накшталт: «Бо ўсім вядома: хто не рупіцца, у таго скура лупіцца» (с. 111). Смех і воплескі былі сведчаннем актыўнай падтрымкі думак і меркаванняў песняра.

З непрыхаваным болем у сэрцы гаварыў віцэ-прэзідэнт АН БССР пра тое, што ў Акадэміі як цэнтры беларускай культуры родная мова не ў пашане, на ёй не пішуцца навуковыя работы, не вядзецца справаводства. А ў рэспубліцы няма мовазнаўцаў-беларусаў і дрэнна рыхтуюцца мовазнаўчыя кадры. Якое вялікае значэнне надаваў Колас навуковай распрацоўцы праблем гісторыі мовы, яе тэарэтычных аспектаў, бачна з наступнага фрагмента: «У Акадэміі не створаны такія ўмовы, каб моладзь ішла працаваць у мовазнаўства. Навуковай работы па даследаванню, вывучэнню і распрацоўцы беларускай мовы фактычна няма, бо мала кваліфікаваных. І ствараецца такое становішча, пры якім, маючы назіранні над моваю, сустракаючыся з пэўнымі фактамі, мы не можам абагуліць іх, зрабіць вывады, упарадкаваць нашу мову, вывесці яе законы і абгрунтаваць яе нормы. А без гэтага мова развівацца не можа» (с. 111).

Вось як пераканальна тлумачыў Колас — пісьменнік, вучоны, педагог — партыйнаму актыву рэспублікі дыялектыку ўзаемасувязі паміж развіццём нацыянальнай мовы і навуковай распрацоўкай яе гісторыка-тэарэтычных аспектаў. Тут Канстанцін Міхайлавіч паўстае як адзін з найбольш актыўных, паслядоўных абаронцаў беларускай гуманітарнай навукі. Істотна і тое, што тэарэтычныя і практычныя, прыкладныя моманты праблемы разглядаюцца Якубам Коласам у іх адзінстве: звернута ўвага на недапушчальны разнабой у правапісе, які «мы не ўпарадкавалі, правёўшы цвёрдую рэформу, бо не праведзена даследчая работа, і ў праектах новага правапісу нямала спрэчных месц» (с. 111).

Значнай перашкодай у паспяховай прапагандзе і засваенні беларускай мовы ў шырокім грамадскім асяроддзі, паводле думкі Якуба Коласа, стала тое, што выданне акадэмічнага руска-беларускага слоўніка неапраўдана зацягнулася. Даўно трэба было выдаць і шэраг іншых слоўнікаў, распрацаваць тэрміналогію па ўсіх галінах ведаў. Не страціў свайго навуковага і практычнага значэння вядомы слоўнік І. Насовіча, але сёння ён — бібліяграфічная рэдкасць.

Шмат крытычных заўваг зрабіў Коласа беларускім выдавецтвам, якія выпускаюць у свет кнігі з вялікімі моўнымі хібамі, а пераклады масавай, дзіцячай літаратуры і падручнікі стаяць на нізкім узроўні.

Не спяшаюцца сплачваць свой доўг перад грамадскасцю беларускі оперны тэатр, радыё, дзе мала беларускамоўных пастановак і перадач, а ў рэспубліканскай газеце «Звязда» на кожным кроку можна сустрэць моўна-стылёвыя хібы, неўласцівыя нашай мове формы («да прадстаячага жніва», «навучаючыся ў школах», «на адбыўшыхся сходах», «Брыгада, кіруемая знатным стаханаўцам»).

Як бачым, у выступленні народнага паэта была акрэслена змястоўная праграма, ажыццяўленне якой дапамагло б скіраваць развіццё беларускай мовы, дзей-

насць грамадскіх, культурных, навучальных, асветных устаноў, творчых саюзаў у плённым кірунку. На жаль, многія праблемы, узнятыя Якубам Коласам амаль шэсцьдзесят гадоў таму, і сёння застаюцца нявырашанымі. Але гэты сумны факт не змяншае заслугі пісьменніка-грамадзяніна перад Бацькаўшчынай, перад нацыянальнай культурай.

Нягледзячы на крытычны пафас прамовы, імя першага сакратара там увогуле не згадвалася, што аб'ектыўна азначала падтрымку Мікалая Сямёнавіча.

Як жа было ўспрынята выступленне паэта М. С. Патолічавым?

Вось як распавядае пра гэта аўтар успамінаў. «Праз некаторы час пасля пленума я запытаўся ў яго:

— Раскажыце, Канстанцін Міхайлавіч, як вы прыйшлі да думкі выступіць на пленуме.

Якуб Колас крыху памаўчаў, перш чым адказаць. Можа быць, ён не чакаў гэтага пытання? Можа быць.

— Мне, Мікола Сямёнавіч (так ён нярэдка да мяне звяртаўся), рэкамендавалі выступіць на пленуме. Мне сказалі: «Бачыце, як ставіцца пытанне пра нацыянальную палітыку? Каму-каму, а ўжо вам, Якубу Коласу, такую пастаноўку пытання трэба актыўна падтрымаць».

— Я доўга думаў, — працягваў Кастусь Міхайлавіч, — што ж усё-ткі адбываецца? Першы сакратар ЦК вызваляецца за парушэнне ленінскай нацыянальнай палітыкі. У чым жа заключаецца гэта парушэнне? Хто правяраў стан спраў? У якім дакуменце ўсё гэта зафіксавана? На гэтыя пытанні адказу не было. Тады паўстала іншае пытанне: адкуль узяўся шырокі даклад на пленуме ЦК?

Толькі зараз я распавёў Канстанціну Міхайлавічу ўсё, што ведаў пра тое, як рыхтавалася расправа.

— Зараз мне зразумела, — сказаў Якуб Колас. — Але чаму ж вы, Мікола Сямёнавіч, паставілі нас і сябе ў такое цяжкае становішча? Бо я, перш чым выступіць у абарону першага сакратара ЦК, доўгі час заставаўся сам-насам са сваімі думкамі, са сваім сумленнем. Трэба было прыняць рашэнне. Мяне прасілі дапамагчы ў абароне беларускіх нацыянальных інтарэсаў. Прызнаюся, гэта нялёгка было. І я прыняў рашэнне: буду абараняць інтарэсы беларускага народа. А што я сказаў на пленуме, вы ведаеце. Але, Мікола Сямёнавіч, усё гэта паражылі многія ўдзельнікі пленума. Чаму вы так зрабілі, чаму нічога не распавялі на пленуме? Няўжо нікому не казалі?

— Амаль нікому» (с. 246).

З выкладзенага можна зрабіць выснову, што выступленне Коласа М. С. Патолічаў расцэньваў як «абарону першага сакратара», хоць «абарона» гэта была не прамая, а апасродкаваная, бо прамоўца гаварыў выключна пра недахопы, пра негатыўныя з'явы, якія мелі месца ў тагачасным беларускім грамадска-палітычным, эканамічным, культурным жыцці. Што ж датычыць ужытых паэтам выразаў «заставаўся сам-насам са сваім сумленнем», «трэба было прынять рашэнне», «мяне просілі дапамагчы ў абароне беларускіх нацыянальных інтарэсаў», дык гэта і ёсць канкрэтызацыя цяжкасцей, якія паўсталі перад удзельнікамі пленума і пра якія вышэй гаварылася: пагадзіцца з ацэнкай пастановы Прэзідыума ЦК КПСС адносна істотных недахопаў у вырашэнні нацыянальнага пытання на Беларусі, але пры гэтым не звальваць усю віну на М. С. Патолічава. Трэба аддаць належнае і Мікалаю Сямёнавічу. Ён, натуральна, прызнаў памылкі, дапушчаныя ім як кіраўніком партыйнай арганізацыі Беларусі ў правядзенні нацыянальнай палітыкі, у калгасным будаўніцтве, у вылучэнні мясцовых кадраў на адказныя пасады. Разам з тым М. С. Патолічаў смела сказаў на пленуме і пра тыя перагібы, парушэнні дзяржаўнай законнасці ў працэсе калектывізацыі заходнебеларускага сялянства ў пасляваенныя гады і ў пачатку 50-х гадоў, згадаў і праявы бандытызму і слабы ўплыў савецкага і партыйнага апарата на мясцовае насельніцтва.

Некаторыя ж удзельнікі пленума сэнс сваіх выступленняў імкнуліся звесці да выкрыцця памылак першага сакратара. Такім, напрыклад, быў змест прамовы старшыні Дзяржплана БССР І. Л. Чорнага. Старшыня не пагадзіўся з многімі меркаваннямі М. С. Патолічава, які спрабаваў правесці глыбокую думку пра тое, што карэнні многіх пралікаў і палітычных памылак пры вырашэнні праблем дзяржаўнага будаўніцтва і развіцця нацыянальнай культуры, функцыянавання беларускай мовы трэба шукаць у мінулым, а менавіта ў перыяд 30-х гадоў. Чорны паставіў за мэту абвергнуць гэтыя сцвярджэнні, хоць М. С. Патолічаў тут меў рацыю. Непасрэдную віну першага сакратара і бюро Цэнтральнага Камітэта Чорны бачыў яшчэ і ў тым, што партыйным кіраўніцтвам Беларусі не былі створаны належныя ўмовы для шырокага разгортвання крытыкі недахопаў. А па-другое, паводле меркаванняў старшыні Дзяржплана, партыйныя кіраўнікі нібыта недаацэньвалі ўрокі мінулага з гісторыі партыі, не вывучалі гістарычныя дакументы, якія выдаваліся ЦК КПСС па пытаннях нацыянальнай палітыкі, што і прывяло да значных памылак.

Пагаджаючыся з многімі крытычнымі меркаваннямі Чорнага, удзельнікі пленума, аднак, не падтрымалі ягоную пазіцыю, унутраны пафас, агульную скіраванасць выступлення. Сярод іх былі першы сакратар Магілёўскага абкама С. І. Сікорскі, першы сакратар Гродзенскага абкама М. Я. Аўхімовіч, старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР В. І. Казлоў, сакратар Дзяржынскага райкама КПБ А. Н. Лемяшонак, сакратар ЦК КПБ Т. С. Гарбуноў.

У заключны дзень работы пашыранага пленума ўдзельнікі, калі ўжо стала вядома пра арышт Берыі, падтрымалі кандыдатуру М. С. Патолічава, пакінуўшы яго на ранейшай пасадзе з наказам рашуча выправіць памылкі і недахопы ў дзейнасці ЦК КПБ, у працы абласных, раённых, мясцовых партыйных, дзяржаўных, савецкіх органаў. Прыемна ўсведамляць, што пры разглядзе гэтых недахопаў, пры аналізе прычын іх узнікнення голас Якуба Коласа не згубіўся сярод іншых, а быў пачуты і ўспрыняты. Як пісьменнік-грамадзянін, як культурны дзеяч, які нязменна выступаў паслядоўным абаронцам беларускіх нацыянальных інтарэсаў, інтарэсаў беларускага народа, паўстае Канстанцін Міхайлавіч на старонках мемуараў М. С. Патолічава. Аўтар гэтых мемуараў унёс багата цікавых, змястоўных штрыхоў у незабыўны партрэт вялікага беларускага мастака слова, народнага песняра Якуба Коласа.

*Выказваю шчырую падзяку магістранту гістарычнага факультэта БДУ Д. А. Марціновічу за дапамогу ў падборы матэрыялаў для дадзенага артыкула.*

---

[1] Колас Я. Збор твораў:У 14 тт. Т. 14.— Мінск, 1978. — С.203.. Далей спасылка на гэтае выданне. У дужках — том і старонка.

[2] Патоличев Н.С. Совестью своей не поступись.— М., 1995. — С.169. Далей спасылкі на гэтае выданне. Старонка — у дужках.

[3] Звесткі ўзятыя з кнігі Р. Піхо «Советский Союз: история власти. 1945—1991».

[4] Міцкевіч Д. «Любіць і помніць». — Мінск: Полымя, 2000.— С. 228—229.

[5] Ліст друкуецца М. Лужаніным «па машынапіснай копіі (с.439—442.—*М. М.*), якая ў далейшым правілася і ўдакладнялася». Аўтарская дата пад тэкстам машынапісу адсутнічае. На падставе сказа «народа, сярод якога я жыву вось ужо восьмы дзесятак», можна меркаваць, што артыкул напісаны ў межах лістапада 1952 — жніўня 1956 гг.

[6] Лужанін М. Колас расказвае пра сябе. — Мінск: Маст. літ., 1982. — С. 441.

[7] Гаўрыла Іванавіч Гарэцкі (10.04.1900—20.11.1988) быў поўнасцю рэабілітаваны і «справа за адсутнасцю складу злачынства спынена» 26. IV. 1958 г., а 28. IX. 1968 г. адноўлены ў званні акадэміка АН БССР.

[8] Другая кніга зборніка «Купала і Колас, вы нас гадавалі». Аўтарызаваная стэнаграма. Ёсць подпіс «Якуб Колас». Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь. Ф. 4. р. Воп. 20. Спр. 296. Л. 108. Рукапіс другой кнігі падрыхтаваны да друку. Далей спасылкі на гэтую крыніцу. У дужках нумар ліста.

**Віктар КАРАМАЗАЎ**

# ТРАГЕДЫІ ЛІРЫЧНЫ ЭПІЛОГ

**Было** гэта на пачатку лета, недзе ў маі. Я ехаў з Чэрыкава ў Магілёў на сваёй зялёнай жабе — пукатай ненажэры «Ніве». Блізка ад Чавус на беразе Проні заўважыў сіні «масквічок». За мостам звярнуў у хвойнік і выехаў на молада зазелянелы бераг.

Воддаль ад машыны сядзеў на ўзгорачку Аляксей Васільевіч Пысін, задумліва глядзеў на ваду, сонечную, ужо цёплую, а побач з ім ляжаў Міша Счыслёнак, магілёўскі газетчык, апрануты, нібы дзед, у ватнія штаны, з-пад якіх унізе, ля костачак, відаць былі яшчэ і сінія спартыўныя — трыко. Пасмяяліся з яго зімовага настрою, пагаварылі, памаўчалі, а пасля Пысін успомніў, як з восені сорак трэцяга зіму і вясну вось тут, на Проні, стаяў фронт. Зіма адразу ўзялася лютая, з маразамі. Афіцэрам выдалі кажухі. Але не было снегу, і белыя кажухі далёка былі відаць на шэрай зямлі. Нямецкія снайперы, акапаўшыся на процілеглым беразе, цэліліся па белых кажухах, выбівалі наш камсастаў. І тады белы кажух нампаліта апрануў на сябе радавы Пысін...

Успамін быў кароткі. Маўчанне пасля яго — доўгае.

Ён, паэт, яшчэ і цяпер бачыцца мне ў белым кажусе на чорнай зямлі ў скрыжаванні варожага прыцэлу. Гэты адбітак у памяці скаланае. Але не знікае. І ўжо, мабыць, не знікне. І не толькі таму, што гэтак было ў сорак трэцім. Таму яшчэ, што гэтак было пазней. Усё жыццё. Да самае смерці. Аляксей Васільевіч заўсёды трапляў у прыцэльнае скрыжаванне — калі не фашыста, дык здрадніка, бюракрата, кар'ерыста, розных нягоднікаў. На вогненнае скрыжаванне ён выходзіў добраахвотна, як там, на беразе Проні. Але ніколі не быў ахвяраю. Ён быў байцом і, апынуўшыся ў варожым скрыжаванні, сам рашуча браў ворага на прыцэл. Такім яго ведалі паэты, чытачы.

Пысін жыў там, дзе жывуць сяляне і салдаты. Ён іх ведаў. Пра іх пісаў. Яны прыходзілі ў яго вечны радок, не забягаючы з поля ці акопа ў хату, каб памыцца, пагрэцца, перакурыць, зірнуць на сябе ў люстэрка. У радок, нібы ў вайсковы строй, станавіліся, не абабіўшы пясок з ботаў, не змахнуўшы з твару пыл і пот, не змыўшы кроў. Іх імёны і прозвішчы, багата рассыпаныя па вершах і паэмах, ён не мяняў, а калі мяняў, дык ледзь-ледзь, недзе ў адной літарцы, неахвотна. Даражыў сапраўдным фактам, імем, жывым голасам і тварам.

Не рыфмаваў ні выдуманых слоў, ні чужых пачуццяў.

Яго жыццёвы якар урос у старажытнае курганне Прыдняпроўшчыны, сплёўшыся з каранямі дубоў, якія стаяць на Дняпры, Сажы, Проні, Бесядзі, Палужцы, што бяжыць праз Высокі Барок, ці, як кажуць на радзіме паэта, Высокі Борак.

З гэтаю думкаю на памяць прыходзіць цёплая і чыстая, нібы сляза, споведзь:

> Не ведаю, якім вузлом
> Навекі я прывязан
> Да старых сосен за сялом...

Дарога ад Краснаполля да вёскі Высокі Барок, калі па ёй ехаць увосень, скрозь пахне яблыкамі. Я ехаў па гэтай дарозе позняй восенню, у кастрычніку, калі яблыкаў на дрэвах ужо не было, да гэтай пары іх атрэслі гаспадары, гаспадаровы госці і наравістыя вятры. Але дарога ў Высокі Барок пахла яблыкамі. Там, у вёсцы, мяне чакаў стогадовы «антон», самы пазняк, выспелены да той празрыстасці, калі ў яго васковых нетрах навылёт бачыцца кожнае зярнятка.

Яблыні сто гадоў, не меней. Яна прывітала аднойчы нараджэнне сялянскага хлопчыка, будучага паэта, каля парога бацькавай хаты сустрэла яго на гэтым трывожным свеце і праводзіла на той. Яблыня — бацькава, дзедава — усё роўна як для яго, паэта, жыла і цяпер, калі ён не мог сюды наведацца, памірала таксама. Яна памірала доўга, пакутліва, як паміраюць ад скрухі…

Ішла вайна. Аляксей быў на фронце. З бацькам, інвалідам, і маці заставаўся Лёня, малодшы Аляксееў брат.

Аднойчы зімою Лёня запрог суседавага каня і паехаў у лес па палазы. Бацькі чакалі яго дзень, чакалі ноч, чакалі колькі дзён, месяцаў — сын не вярнуўся. А ўвесну, калі сышоў снег, з лесу, з урочышча Ляпенне, за якое паехаў Лёня, выехаў абоз, рушыў праз Высокі Барок. Хрысціна Рыгораўна пазнала ў абозе суседавага каня. Кінулася да яго, але што мог расказаць конь? Людзі? Нічога тады і яны не сказалі. Пасля ўжо, пазней, можа, праз год, ад людзей пачула, як там, за Ляпеннем, Лёня натрапіў на мужыкоў, якія хаваліся ў лесе ад немцаў, і тыя забілі, баючыся, што хлопец можа разнесці па вёсцы аб сваёй сустрэчы з імі — раптам дойдзе да немцаў?

З таго часу пачала Хрысціна Рыгораўна сохнуць. Таяла, нібы свечачка, пакуль не згасла.

Я не пайшоў у хату, якая стаіць на пысінскім пляцы. Хата новая, не тая, з якой Аляксей Васільевіч выйшаў у свет, і жылі ў ёй ужо іншыя людзі. Пастаяў пад яблыняю, штосьці ёй шапнуў па-свойску, развітаўся, грэючы ў кішэні яблык.

Каля калодзежа стаялі жанчыны з вёдрамі:

— Сянні захаладала...

Адразу на языку варухнулася:

Куды, сусед, хадзіў ты сянні?
Мядзведзя пасвіў на аўсянні.

У нашага земляка быў востры слых на слоўка, асабліва роднае, магілёўскае. Ён імгненна чапляўся за яго, свежае, незацяганае, ёмкае, і захапляўся ім надоўга. Гэтакае слоўка нібыта само да яго прыліпала.

Не раз былі з табой спатканні,
Як полаз, выгнутае — сянні.

За словам ён бачыў малюнак, жыццё, народ.

У адным са сваіх шматлікіх паэтавых і журналісцкіх блакнотаў Аляксей Васільевіч зрабіў цікавы запіс: «Вучыцца мове трэба ў жанчын. У іх самая сакавітая, самая вобразная мова». Аднойчы ў вёсцы жанчына расказвала, як яна ехала ў аўтобусе:

— Так было цесна, што стаяла на адной назе. А на маёй назе яшчэ некалькі чалавек стаяла.

Вось з якой крыніцы той верш:

Жанчына так апавядала...

Ён пераліў пачутае ў верш ужо ў тыя гады, калі яго паэтычны радок з'яўляўся на доўгае жыццё, з таўром прызнанага майстра, калі ён ужо не засяваў сваю ніву абы-якім, выпадковым, нібы ў галодны год, насеннем. А гэта і падкрэслівае, як даражыў Пысін словам, думкаю, гаворкаю селяніна.

Ён любіў словы, якія ўсё радзей грэюцца ў нас на языку, незаслужана забываюцца. Ён іх не проста любіў, а шкадаваў, любячы, як шкадуюць беспрытульных дзетак. Не адно з іх хацеў уратаваць, вярнуць да ўжытку. Таму, бывае, слова ў вершы гарэзліва ці самотна гуляе з радка ў радок.

Неўталоннік.
Мой ты неўталоннік...

Яму была ўласціва высакародная хітрасць: паказаць слова нібы тавар на кірмашы, ва ўсёй прыгажосці, каб людзі яго палюбілі. Гэта ён рабіў далікатна, няўзнак, бо

ён усюды сціплы: у слове, у жыцці. Тут і загадка, адна з загадак: якім чынам незвычайная сціпласць магла акумуляваць незвычайную энергію ў слове, руху, жыцці?

Жанчыны панеслі ад калодзежа паўнюткія вёдры на каромыслах, вуліца апусцела. А я не мог паехаць, яшчэ раз не пачуўшы тут жывой гаворкі. І зайшоў у хату, што стаяла побач з пысінскім пляцам, праз плот ад яго старой яблыні.

На ложку за печчу ляжала старая. Яна павярнула твар у мой бок і, не спытаўшы, што я за птушка, сказала:

— Сянні думала ўстаць на ногі. Але яшчэ нядужая. Во ляжу як завала. Яшчэ трэба вылежаць.

Яна глядзела на мяне вільготнымі вачыма, усё роўна як мы з ёю даўно знаёмыя, жывём побач, кожны дзень адно аднаго бачым. Я спытаў у яе пра Пысіна. І тады яна прыўзнялася, назвалася:

— Мяне завуць Хадоскаю, Мацвееўнай. — Падумаўшы, пачала расказваць: — А Пысіных нікога няма. Гэта ж Ляксей памёр. А бацька, Васіль, пайшоў у інвалідны дом. Можа, памёр і ён. Яму ўжо было дзевяноста. З'ездзіўся конь. А Хрысціна ж раней, тады, пасля вайны, сташнавалася па Лёніку. Яго ж забілі ў лесе. Ведаеце? Ад ташнаты памерла. Ах, добрыя людзі жылі на свеце. Ціхія, услужлівыя. Ляксей быў увесь у матку. Ён таму доўга і не пажыў. У Хрысціны душа была як аблачынка, з песняю. Пераджыць, што яна перажыла, душу трэба мець глухую. Ляксей, зноў скажу вам, увесь быў у матку. Ды і Лёня...

Над прыціхлаю вуліцаю стаяла халоднае сонца. Сухая восень выдзімала з садоў шэрае лісце, змятала пад платы, сыпала ў стары калодзеж, у якім хлёпалі зялёныя жабы.

Я выйшаў за вёску. Палі ляжалі даўно прыбраныя, шэрыя, сумныя. Па іх гулялі хаўтурныя варанячыя цені, ледзяное карканне. Поле называлася Парасятнікам. За ім пачыналася Ляпенне, а далей, калі звярнуць направа, Мануйлы — вёска, у якой жыла Прося, сястра паэта.

Вучыцца мове трэба ў жанчын...

Пэўна, гэтыя назвы — Парасятнікі, Ляпенне — папрыдумлялі жанчыны. Тутэйшыя, высакаборскія.

Жанчыны.
Маці-словатворцы.
У час калыханак вы спплялі
Імя вясне, пчале і зорцы,
Усім добрым дзівам на зямлі.

Ён доўга выношваў кожны свой верш. Як маці — дзіця, яблыня — яблык, поле — хлебны колас.

Ён быў сынам сялянкі і селяніна, і ўсе яго пачаткі сялянскія — ад маці, поля, плуга, каня, птушкі, хаты.

Салдатам яго зрабіла вайна. Ён быў мужным салдатам. Гэта засведчылі яго надзвычай доўгія і цяжкія ваенныя дарогі, успаміны аднапалчан, таго ж Івана Міканоравіча Раманава, камандзіра дваццаць другога гвардзейскага стралковага палка, у якім ваяваў Пысін. Ён стварыў лепшую, так-так — лепшую, у нашай беларускай літаратуры ваенную лірыку. Але сэрца яго, пры ўсёй вернасці франтавому братэрству, засталося ў Высокім Барку.

Ён узышоў на вышыню агульначалавечай культуры, стаў выдатным паэтам, але і гэтая вышыня — на высакаборскім полі, дзе красуе і наліваецца жыта.

Мне ў жыта хочацца ўвайсці,
Мне вечнасцю здаецца жыта.

Два радкі акрэсліваюць цэлы свет паэта, яго мастацкую і філасофскую канцэпцыю.

Ён быў мудрэц. Ён разумеў, што сённяшні дзень жыве ў кантэксце вечнасці, адно пры гэтай умове наш дзень чагосьціварты.

Вайну ён прайшоў скрозь. Свае чырвоныя мерыдыяны сточваў з правадамі франтавой сувязі пад шквалам агню, быў пластуном, не горшым за яшчарку, і там, у агні, адчуў, што войны з вечнасцю звязаць немагчыма: вайна — вораг вечнасці. Таму сваю ваенную лірыку ён зрабіў антываеннай.

Сувязь, якую шукаў, яму падарыў Высокі Барок. Паднёс на крыле жаваранка, які начуе пад родным плотам. На лемяху бацькавага плуга. На матчыным ручніку. Да гэтага адкрыцця ён прыйшоў не адразу, але натуральна, як дзіця — да матчыных рук. Прывёў покліч каранёў і крыві. Паэт заўсёды насіў у сабе традыцыйную сялянскую прагу размовы з продкамі і нашчадкамі вёскі. Праз векапомнае курганне і рыжых мурашоў, праз сасну і бярозу, праз слова, адбеленае, нібы матчын ручнік, праз Вярбовы мост на роднай Палужцы і шурпаты каласок на чуйным провадзе саломы.

Яго былая суседка не зманіла — увесь у маці.

Мне маці вызначыла роднасць
І па душы, і па крыві.

Хрысціна Рыгораўна парадніла яго са светам. Ён з удзячнасцю адчуваў гэта кожную хвіліну і ўсё жыццё.

З гэтым адчуваннем да яго прыйшла неабходнасць ездзіць па родным магілёўскім краі. І хадзіць, не ведаючы стомы.

Ён быў нястомны хадок. Навучыла вайна? Так, гразі і снегу на ваенных дарогах ён памясіў аж замнога — на чатырох франтах. Але дарогі прывязалі да сябе з маленства. Вучыўся ў старэйшых класах — школа была ў Палужы, а да Палужы — вёрст восем з гакам. А калі туды і назад? Ды кожны дзень?

Іншаму яго дарогі, асабліва ваенныя, былі б смяротнай пакутаю. А яму? Яны і яму крывавілі мазалямі. Затое пасля прывялі ў сад, ці гэта — бор, ці, можа, лепей сказаць — сабор, якім называецца высокая народная паэзія. Народная і высокая — бясспрэчна. Бо і самы горкі, і самы салодкі лёс народа ён выпакутаваў, выказаў яго так, як гэта можа зрабіць адно сам народ.

Сваю дарогу ён апеў, як апяваюць свой лёс — які б ні быў, а свой:

Той дарогі не збыць, не забыць
І яшчэ — як апяваюць калыску:
Сцяжынка на радзіму —
Як нітка без вузла.

Гэтак, без вузельчыкаў, вялі сцежкі-дарожкі пасляваенныя. Яны пачаліся ў снежні сорак пятага, калі дэмабілізаваўся, вярнуўся ў Высокі Барок, адсвяткаваў новы рубеж жыцця і пачаў працаваць у Краснаполлі, у раённай газеце. А праз два гады выйшаў на тры раёны — Краснапольскі, Чэрыкаўскі, Слаўгарадскі — карэспандэнтам абласной газеты «За Радзіму». У пяцідзесятым накіравалі працаваць у Баранавіцкую вобласць рэдактарам газеты палітаддзела Свержанскай МТС, але ён зноў вяртаецца ў родную глыбінку, на пасаду рэдактара чэрыкаўскай раёнкі. Зноў — дарогі і дарогі ў міжрэчышчы Дняпра, Сажа, Проні, Бесядзі, Сянны, Палужкі.

Што ён шукаў на гэтых дарогах і сцежках? Што бачыў? Што чуў? Што думаў? У нейкай меры, толькі ў нейкай, на гэта адказвае запіс у журналісцкім блакноце:

*Янка Купала не меў дыплома аб заканчэнні універсітэта. Але ёсць купалаўскі універсітэт паэзіі. У ім тры факультэты: матчынай мовы, народнай песні, народнага жыцця. Гэтыя тры прадметы Купала вывучаў усё жыццё. Нават тады, калі стаў акадэмікам і ўсесаюзна вядомым класікам беларускай літаратуры.*

Роздум Пысіна запомнім. Каб глыбей зразумець яго пошукі. І задачы, якія ён ставіў перад сабою. Гэта быў час, калі ў свет выйшла яго першая кніжачка вершаў «Наш дзень».

Аляксей Васільевіч таксама не меў дыплома. Ён вучыўся перад вайною ў Камуністычным інстытуце журналістыкі ў Мінску і не закончыў яго. У трыццаць дзевятым годзе, як толькі Заходняя Беларусь была далучана да Усходняй, ён кідае

вучобу і едзе працаваць у раённую газету на Беласточчыну, у гарадок Бельск. То быў патрыятычны крок. Там, у Заходняй, адкрываліся беларускія газеты, а прафесійных газетчыкаў не хапала. Ён паехаў з другога курса інстытута. І цяпер, калі вайна закончылася, перад ім паўстала пытанне: як быць з вучобаю? Ён палюбіў газету, убачыў, што газета — яго лёс.

І вось Купала паказвае шлях, адчыняе дзверы свайго універсітэта. Пысін знайшоў у ім тры факультэты, і ўсе тры яму па душы. Ён будзе вучыцца па Купалу, на трох факультэтах адразу: матчынай мовы, народнай песні, народнага жыцця.

Будзе вучыцца? Ён ужо вучыўся. У той дзень, калі запісаў сваю думку пра Купалаў універсітэт, апанавала здзіўленне, што яго стыхійныя пошукі супалі з пошукамі Купалы. Гэта было не толькі здзіўленне, але радасць, падтрымка, азарэнне: інтуіцыя, душа матчына вялі не пустымі дарогамі.

Што гэта так, што ён ужо ішоў дарогамі песняра, кажуць наступныя старонкі з таго самага блакнота, падобныя на канспекты лекцый з Купалавага універсітэта. Вось яны:

*Памерла ў вёсцы, адышла на вечны спачын стогадовая бабулька. Над яе дамоўкай плакалі сяброўкі і родзічы. На магілках не выступалі прамоўцы. Не гаварылі аб тым, якой бясконцай даўжыні льняная нітка працякла праз натруджаныя рукі — пры святле яснага месячыка і дымнай лучыны, якія млечныя шляхі палотнаў саткала, выбеліла на золкіх росах. Гэтыя ж рукі, пацямнелыя ад сіверу і спякоты, калыхалі калыску, выняньчылі, узгадавалі сыноў і дачок, унукаў і ўнучак, і нават праўнукаў. Нічога з сабой не ўзяла бабулька, усё аддала людзям. Самая ж вялікая спадчына дасталася адной з унучак. Не, гэта не вялікі куфар, акаваны жалезам і размаляваны ў кветкі і яблыкі. Не ашчадная кніжка. Не закапаны скарб. Яна пакінула песні, якія спявала ўсё жыццё. І калі б іх усе скласці ў куфар, то было б поўна, па самае вечка. Была б энцыклапедыя чалавечых пачуццяў, гісторыя народа, помнік культуры.*

А мне давялося чуць, як унучка спявала бабульчыны песні:

Была б я галубка,
Ды шызая галубачка,
Паляцела б к мору,
На ляту б гаварыла:
Ой, гора мне, гора.
Затапіла б галовачку
На дно сіня мора...

З якога веку дайшла да нас гэтая песня? З далёкай мінуўшчыны звярнулася яна ў сённяшні дзень, да сэрцаў сучаснікаў, а вярнулася і сказала: такой была доля беларускай жанчыны.

А вось:

Чырвоная калініца
Над вадою хілілася,
А я, молада, журылася,
Што без долі радзілася.
А я ў бога прасілася:
Не кінь, божа, ўдавою...

Я разгубіўся: адкуль гэта? З майго блакнота ці з пысінскага? Успомніў Бесядзь, за Бесяддзю — вёсачку, драўляную школу, ад школы — летнюю сцежку, а на ёй, зялёнай і сонечнай, — маладую настаўніцу. Яна, светлавалосая, бяжыць мне насустрач, бо ёй ужо сказалі, што да яе прыехаў — паслухаць песні.

Мы падышлі да вясковага клуба, але ён быў на замку. Тады яна завяла мяне ў сваю хату, невялічкую, з белай печчу на традыцыйным для нашых магілёўскіх вёсак месцы — злева ад парога, светлую, чыстую, абласканую жаночымі рукамі.

Я сеў да стала, яна — да акна на ўслон, доўгім позіркам пагуляла па вуліцы, задумалася, уздыхнула, настроілася і заспявала ў самотным роздуме, усё роўна як адна ў хаце, як для сябе адной, а можа, і яшчэ для кагосьці, каго я не бачыў, а яна і чула, і бачыла, і вітала песняю:

Чырвоная калініца
Над вадою хілілася...

Ніна Бялугіна то спявала, то замаўкала, пачынала расказваць пра сваю бабулю Агапку Ніжнікаву, што жыла ў вёсцы Калодліва, недзе побач, якая яна была пявуння, бабка Агапка, як прыгожа магла ўкласці ў адзін снапок і песеньку, і жытнія каласкі, і лугавую кветачку, і лясную сцяжынку. З гэтымі яе песнямі, каласкамі, кветачкамі, сцяжынкамі, звязанымі адным лёсам, як перавяслам, я вяртаўся з-за Бесядзі пасталелы, пацяжэлы, задумлівы і з таго дня доўга хадзіў з імі ў сэрцы і памяці па сваёй Магілёўшчыне, пакуль аднойчы ўсё гэта не знайшло берагі «Пагонніка», маёй першай аповесці. Там, у тых берагах, апынулася і «Чырвоная калініца», і штосьці ад Ніны Бялугінай, і штосьці ад Агапкі Ніжнікавай.

Як жа было не здзівіцца запісам Аляксея Васільевіча ў яго паэтавым і журналісцкім блакноце?

Здаецца, ўстаў я рана-рана,
Пайшоў па сцежцы лугавой,
Ды хтосьці ўжо ступаў па ёй,
Раса пазбіта і стаптана.

Не хтосьці — ён. І не пазбіў, не стаптаў расы. І няма пытання: хто першы арасіў ногі на сцежцы да песень бабы Агапы і Ніны Бялугінай? Ёсць нечаканая радасць, што не ты адзін. Што тут быў ён. Не абы-хто — твой паэт. Што ён піў з тае самай крыніцы, з якой піў ты.

Следам за сцежкаю, што вядзе ў Забесяддзе, бачацца іншыя, прыточаныя да гэтае, сцежкі. Адна з іх — восеньская, начная, цёмная, аж чорная, пад дажджом, люта-халодная.

Мы хлёпалі па гразі з Касцюковіч на Камунары, чыгуначную станцыю. Мы — гэта ён, важак, і літаратурныя падлеткі, якія ўжо абмакнулі свае нясмелыя пёры ў чарніліцу, хавалі ў патайных кішэнях першыя вершы, апавяданні і набраліся нахабства — сабраліся ў Касцюковіцкім Доме культуры — хто з Крычава, хто з Мсціслава, хто з Чэрыкава,— каб ашчаслівіць суседзяў сваім мастацкім словам. Якая рызыка — мы зразумелі ўжо на сцэне, апынуўшыся адзін на адзін з залаю, у якой было поўна людзей. Пачалі блытацца, заікацца, але нас уратаваў Аляксей Васільевіч. Ён сціпла ўстаў з крэсла, выйшаў на край сцэны, звесіў, нібы стомлены конь, галаву, паглядзеў задумлівым позіркам на людзей, якія сядзелі на самых першых радах, і пачаў чытаць вершы пра франтавых сяброў. І людзі прыціхлі. Ён чытаў ціха, камусьці аднаму з тых, што сядзелі на першым радзе перад ім.

Не я адзін тады зразумеў, што душу адчыняць трэба ціха, не трэба крычаць. Да людзей даходзіць не крык — штосьці іншае.

Гэта — свята: ісці паэтавымі сцежкамі. Яны вядуць да дарагіх яго сэрцу вобразаў, да яго літаратурных герояў — чыстых крынічак ягоных вершаў і паэм.

Амаль усе гэтыя сцежкі і крыніцы — на Магілёўшчыне.

Рыгор Бярозкін, чытаючы лірыку Пысіна, заўважыў яго духоўную і біяграфічную прыналежнасць да паэтычнага пакалення Арлова, Луконіна, Межырава, Нараўчатава, Гудзенкі. Але чаму муза Пысіна, якая заявіла пра сябе ў трыццаць восьмым, маўчала ўсю вайну, у той час як іншыя паэты, яго аднагодкі ці амаль аднагодкі, маўчаць не маглі? Сяргей Арлоў гарэў у танку і пісаў, нібы выкрасаў з агню і металу: «Его зарыли в шар земной», «Мы шли на заре, словно тени косые», «Когда под пулями лежишь...», Сяргей Нараўчатаў — «Дальнобойные письма», «Фронтовую ночь», «Пропавших без вести» і вось гэтае: «Я с ними в рост водил

солдат на пули, в штыки вставал на встречные штыки...» Пісалі, нібы стралялі. А Пысін? Нават пасля вайны вайна не адразу паклікала музу. Яна ўвайшла ў вершы адно трэцяй пасляваеннай кнігі — «Сонечная паводка», ды і то асцярожна, шэптам: Ляглі сябры ва ўсім паходным, гарматы сціхлі. Цішыня. // Што сніцца ім пад небам родным на досвітку, ў пачатку дня?

Няўжо вайна не дала паэту ні тэм, ні вобразаў, ні дэталяў, ні ўражанняў?

Дала. Не меней, як іншым франтавікам. Нічым не абышла. І ўсё, што давялося перажыць, легла не на камень — на ніву ўражлівага сэрца, маладой памяці. Гэта будзе засведчана наступнай кнігаю — «Мае мерыдыяны», якая нарэшце звяжа ў адзін вузел паэтычны мерыдыян паэта з яго ваеннымі мерыдыянамі, звяжа настолькі моцна, што яны, гэтыя мерыдыяны, якраз і выведуць Пысіна на яго паэтаву вышыню.

І ўсё ж: чаму толькі ў шасцідзесятыя гады («Мае мерыдыяны» выйшлі ў 1965-м), а не раней? Няўжо сапраўды «Пысін чакаў,— як скажа Рыгор Бярозкін, — каб у яго пачуццях і думках выспеў і наліўся энергіяй найбольш пераканаўчы контрдовад»?..

Спакуслівая думка. Бо ў гэтым «чакаў» — мужная вытрымка перад рыўком, атакаю, боем. Зайздросная і для салдата, і для паэта. Але ж... гэтакая вытрымка (падумаем і пра гэта) даецца вопытам, высокім прафесіяналізмам. Як там, на фронце, так і тут, у паэзіі. Даецца майстру.

А Пысін? Калі ён дасягнуў высокага паэтычнага майстэрства? У адзін час са сваімі аднагодкамі ў паэзіі? Ці пазней?

Прыгадаем адно невялічкае, але істотнае для нас прызнанне Сяргея Нараўчатава: «Мне было восемнадцать лет, я писал стихи и в первый раз в жизни шел на свидание со знаменитым поэтом».

Ён ішоў на спатканне з Мікалаем Асеевым, які даў яму, Нараўчатаву, той выдатны ўрок сапраўднай паэзіі, што «перавярнуў душу» і зрабіў немагчымым пісаць так, як пісаў дагэтуль.

А Пысін? Хто са славутых падтрымаў яго ў тым узросце, на пачатку дарогі? Мабыць, ніхто.

Луконін, Нараўчатаў, Маёраў... Яны пачыналі ў асяроддзі ІФЛІ, МГУ, Літінстытута, бурных літаратурных спрэчак, дыхалі адным паветрам з жывымі класікамі не ў пераносным, а ў прамым сэнсе. За некалькі перадваенных гадоў асяроддзе сфарміравала іх таленты, яны сталі паэтамі, галоўнае — адчулі сябе паэтамі. Кожны з іх меў свайго жывога куміра, да якога штодня можна было прыйсці на чай, на ўрок, на спрэчку. І калі пачалася вайна, яны, маладыя, пайшлі на фронт салдатамі і паэтамі.

А Пысін? З глыбінкі, ад плуга, трапіўшы ў Мінск, яшчэ ці паспеўшы агледзецца ў ім пры сваёй сціпласці і замкнёнасці — гэтыя рысы характару да скону не пакідалі яго, — ён праз год зноў вяртаецца ў глыбінку, тую ж самую. Якое магло быць творчае акружэнне, якая падтрымка? Калі пачалася вайна — пайшоў на фронт салдатам і толькі салдатам.

І за ўсю вайну ні разу не асмеліўся назвацца паэтам.

Прыйшла перамога. Пакаленне, да якога Пысіна далучае Бярозкін, было ўжо неаспрэчна паэтычным пакаленнем.

А Пысін? Зноў пачынае — нясмела, як у трыццаць восьмым.

У яго быў свой паэтычны лёс. Яго творчы пошук у пасляваенныя гады, магчыма, лепш ведаць не крытыкам, а сябрам, з якімі ён у вандроўках па Магілёўшчыне дзяліў скварку, чарку, начлег пад шынялём на рэдакцыйных падшыўках, ці ў няўтульных раённых гасцініцах, ці ў копах сена, цяпло і дым вогнішчаў.

Не толькі як газетчык, але і як паэт — чалавек жа адзін? — ён жа ва ўладзе не толькі паэтычнай душы, але і газетнага радка, ва ўладзе дыялога з мірным жыццём, якое наладжвалася ў вёсках пасля вайны. І калі чакаў свайго зорнага часу, дык, напэўна, стыхійна.

Яго паэзія цяжка прабівалася да сонца праз жорсткі, нібы франтавы, статус раённых і абласных газет, якія патрабавалі не лірыку, не вершы, а праўду падзей, кароткую і скупую на пачуццё, аператыўную. Факты і каментарыі. Па іх газета

пасылала яго ледзь не штодзень у самыя глыбінныя вёскі, куткі і закуткі. Ён звыкся з гэтым жыццём, як салдат — з франтавым. Да газетнага радка паэт адносіўся з той любоўю і дбайнасцю, з якой селянін да кожнага засеянага ў полі радочка. Гэтага нельга забываць, трэба сэрцам адчуваць мясцовую нізавую газету, каб глыбей зразумець Пысіна-паэта.

Працаваць з ім побач было лёгка, цікава, але і цяжка. Лёгка, бо не ўпрагаў у свой воз іншых, цягнуў сам; цікава, бо ніводны радок не быў адпіскаю, кожны — навукай суседу-газетчыку і чытачу; цяжка, бо перажыванні, якія ён укладаў у напісанае, былі глыбокія, шчырыя, не заўсёды светлыя, з імі ён рабіўся і замкнёны, і нервовы, і лёгкі на слова бязлітаснае, жорсткае.

О, слова, слова лабавое,
Нястрымнае, яно ляціць,
Пасля душа мая баліць:
Сказаў не так,
Сказаў не тое...

Але ён рэдка шкадаваў, што недзе некаму засвяціў у лоб лабавым словам. Часцей — хадзіў з упартай вераю ў сваю праватў.

Як тут —
Між ім і мной — нямы абрыў,
Бо я не ўсё яшчэ забыў.

Такі быў характар. Ён яго не мяняў да скону. Не згладжваў вострыя вуглы сваёй натуры пад уплывам узросту ці абставін. І ніякія дажджы, ніякія нягоды не маглі абабіць ці размыць гэтыя няўтульна-вострыя вуглы. Пад імі якраз і жылі моцныя палярныя пачуцці: дабрата, чуласць, спагада, дзіўная ў шчырасці, і разам з тым непахісная рашучасць, варожасць да варожага, таксама дзіўная ў сваёй шчырасці.

Нядаўна я прачытаў у Сцяпана Гаўрусёва: «Іду, пакуль ісці я ў сілах, любому злу наперарэз...» І адчуў пысінскія сэрца, руку, дыханне, нават налёт дэкларацыі. У іх падобная паэтыка, і была дружба, якую можна назваць дружбай характараў: рашучых, акцэнтаваных на ваяўнічым сумленні. Верш, які не трансфармуе гэтакі характар у яго працілегласць ці хоць бы нейкую варыяцыю, не пазбягае налёту дэкларацыі. Але пры гэтакай арганічнасці дэкларатыўнасць часта не ўспрымаецца як слабасць верша, наадварот — саграває яго цеплынёй шчырасці, натуральнай публіцыстычнасці. І выклікае давер чытача.

У Аляксея Пысіна гэта арганічнае адзінства характару і паэзіі не толькі ад прыроды. Яно выхавана і вайною, і працаю, і газетаю.

Газета была яму роднаю хатаю. Сваркі бывалі, як у кожнай хаце, але іншай хаты не шукаў. Ён шукаў сустрэч з людзьмі. Газета давала яму гэтую магчымасць, і ён за гэта ёй не здраджваў. Ён наогул ненавідзеў здраду і здраднікаў. Як селянін, ён быў да скону верны полю, хлебнаму коласу, каню, птушцы, дрэву; як салдат — франтавой дружбе; як сын — крэўнасці з маці, бацькам, сястрою і братам, вёскаю, рэчкаю, родным краем, і ў гэтым, мабыць, радку — газеце, якая вывела ў свет, раскалыхала песню. Ён яе не пакінуў, нават калі ўзышоў на вяршыню Парнаса, калі адчуў, што паэзія яму даражэй за газету, што газета пачынае збіваць з дыхання мастацкі радок, душу.

Ён пакіне яе ўсяго на два гады — у пяцьдзесят шостым, — калі паедзе ў Маскву на Вышэйшыя літаратурныя курсы.

Тыя два гады — прыпынак на ростанях. Для роздуму, успаміну, каб агледзецца, засяродзіцца, прыслухацца да самога сябе. Рэдакцыйная беганіна зменіцца на атмасферу спакойнай паэтычнай вучобы. Упершыню газета не будзе штодзень гнаць у карак за радком у нумар. Можна будзе перагледзець сваю паэтычную кайстру. Ды ці толькі сваю?

А можа, тыя два гады былі ваеннымі зборамі ў мірны час? Можа, паэт, паспеўшы скінуць з сябе шынель, які ўжо сатлеў на плячах, разышоўся па швах, пераабуў-

шыся з салдацкіх ботаў у цывільныя чаравікі, дзецям на цацкі здаўшы паходныя кацялок і рыдлёўку, дзеду на высакаборскай прызбе — кісет з тытунём, недакураным у акопе, на курсах зноў адчуў сябе ва ўсім ваенным, паходным? І ці не тады, на тых курсах перападрыхтоўкі хутчэй сапраўды ваеннай, як паэтычнай,— ён адчуў, што сярод баявых ячэек Арлова, Луконіна, Нараўчатава, Гудзенкі ёсць яго баявая ячэйка, каторую трэба заняць для бою, які не скончаны?

Абвастрыўся зрок на сябе, свой вопыт, свой час?

Ці боль і роздум? Успамін?

Рамонкі, мак і лебяда,
І трыста траў цвітуць вясною.
Тут незабытая бяда
Калышацца перада мною.

Па вершах, выстраеных у калону па гадах прызыву, не цяжка заўважыць, што якраз у гэты час, пасля курсаў, паэт пачне пісаць свае лепшыя вершы пра вайну, перажытае. Ён нарэшце адчуе сваю галоўную тэму. Гэтае адчуванне, дакладнае і яснае, магло прыйсці, аказваецца, толькі разам з паэтычным майстэрствам, на іншым, як газетнае, ворыве. Паэтычнае ворыва не церпіць спешкі. Тыя два гады пераключылі яго радок на іншыя хуткасці. Ён павядзе сваю баразну раўней, глыбей, у іншай, пад вышэйшым небам, прасторы роздуму, болю, з усведамленнем прызнання пісаць трагедыі лірычны эпілог.

І саму трагедыю — праз успамін, незагоеным сэрцам.

Нібыта развярэдзілася былая рана.

Як Васіль Быкаў — у прозе. Для такой паралелі, для параўнання ёсць падставы.

І, можа, таму, адчуўшы гэтае прызванне, Пысін пакінуў думку аб пераездзе ў Мінск, застаўся на магілёўскім рубяжы вайны. Тут, на Дняпры, ён мацней, як дзенебудзь, чуў кананаду кожнага дня вайны.

Некалі гэтымі думкамі я падзяліўся з ім.

Было лета. Мы стаялі перад узлётным полем магілёўскага аэрапорта. Я ляцеў у Мінск, ён — праводзіў мяне. Чакалі пасадкі на самалёт.

Што ён мне адказаў?

Ён курыў цыгарку, з-пад навісі ўпартага чуба глядзеў у той бок, дзе блішчэлі, быццам плавіліся на гарачым сонцы, самалёты, якія стаялі на полі, і маўчаў.

Як было зразумець тое маўчанне? Згаджаўся ён са мною ці не згаджаўся? Мне падалося, што згаджаўся. Яго маўчанне звычайна было згодаю. Нязгоду ён не хаваў.

Да Магілёўшчыны Пысін быў прывязаны моцна, як селянін да свайго поля. Тым самым сялянскім вузлом. Тут усё, самая нязначная дробязь, нараджала ў ім нечаканыя асацыяцыі, думкі, абагульненні. Ну дзе ж яшчэ, як не тут, ён мог падумаць і напісаць такое:

Вось мой край, мая радзіма!

І, можа, таму, перш за ўсё — таму, неверагодна цікава і зманліва хадзіць паэтавымі сцежкамі па гэтым краі.

Лес і поле — міма, міма,
Лес і поле — чарнатроп.
Не бяжы, прырода, стоп,
Вось мой край, мая радзіма!

Так, адно тут, недзе ў Чэрыкаве, звярнуўшы з Варшаўкі направа, едучы з Магілёва, недзе за Сажом пад Краснаполлем, ён мог сказаць такое.

Даль маленства тут прыбіта
Зоркай, што ўзышла са мной...

Шмат хто заўважае, як яго ўсё жыццё ці то пільнуе, ці то некуды вядзе, ці то ахоўвае ад злыбеды, нібы лёс, нейкі ўкаранёны ў сэрцы і памяці вобраз. Быў гэтакі вобраз і ў Пысіна: дарога, а над ёю — зорка. Ці поле, ці лес, а над імі — зорка.

Пахне глінай тая ж горка,
Той жа вецер каля шчок.
Дзякую табе я, зорка,
Мой сярэбраны цвічок.

Яго дарога пад зоркаю — начная, таямнічая, вусцішная. Такія ж переважна і поле, і лес. Але — і на золку, і на змярканні, калі той першай ці апошняй зоркі ўжо ці яшчэ няма, але яшчэ ці ўжо яе бачыш сэрцам. А дарога, поле, лес пад ёю могуць быць і вясновыя, і летнія, і восеньскія, і зімовыя.

Сваю зорку, як знак, ахоўніцу лёсу, ён, чараўнік, развешвае над дарогамі, палямі, лясамі, франтавымі акопамі, вёскамі. Адну павесіў над хвояй, яшчэ адну — над асінай, нават — над мурашыным курганком, яшчэ колькі — над хатнімі стрэхамі, вёскамі, як заклён ад злыбеды, зоркаю высвеціў на рацэ паром і дзяўчыну, нават калыску павесіў на зорку, нібы на цвік. Ён марыць, каб незабудкі зорамі ўпляліся ў небасхіл, заўважае, як пад нябачнымі высямі зоры і яблыкі выспелі, сам дзівіцца, як высокі гул і стогн ракі калыша зоры і вякі. Зорамі паэт абазначае свой край, развешвае над ім зорную карту-ахоўніцу. Не забывае на зорны каляндар, па якім землякі спрадвек расцілі хлеб і дзяцей. І хоць зоркі яго — ахоўніцы і вястункі ўсяго жывога, яны — не толькі знакі, сімвалы, але людзі, людскія душы, якія ўзышлі над зямлёю. Таму іх там — сузор'і. «Сузор'і сплываюць у глыб сінявы, // ў сузор'яў свае каляіны. // Апошні гвардзеец жывы, радавы...» Хто ён — гэты жывы, радавы? Загадка? Для паэта тут загадкі няма: ён сам, ён бачыць сябе. Гэты матыў, гэтая думка зноў і зноў усплывае ў адным, другім, трэцім вершы з нетраў болю, памяці і кожны раз вядзе да аднае высновы: нясу за тых, з кім развітаўся... Адзінае суцяшэнне. І абавязак.

Ён сказаў:

Застанемся мы ў сузор'ях...

І ў гэта паверыў. Ён не верыў ні ў бога, ні ў чорта, не мог у гэта верыць, аднойчы прызнаўшыся: «Я ўвесь загорнуты ў кумач ад галавы да пят», — але ў зоркі, у сузор'і верыў. Гэта вера яму патрэбна была як небаходнасць гаварыць з усім светам, з продкамі і нашчадкамі, з мёртвымі і жывымі.

У зоркі і сузор'і ён верыў не як у сваё паэтычнае адкрыццё, а як у народную мудрасць.

Зоркамі і сузор'ямі яму бачыліся людзі, яблыкі, дрэвы, птушкі, вёскі. Усё жыццё яго асабліва прываблівала сузор'е трох вёсак на Магілёўшчыне: Высокага Барка, Мануйлаў і Гарадзецкай. Па іх ён сумаваў у горадзе. Высокі Барок — родная вёска паэта, суседнія Мануйлы — вёска маці, Хрысціны Рыгораўны, там яе сасна і яе магіла, Гарадзецкая — жончына, яе бабулі Аўдулі, з якой ён сябраваў, шчыраваў, ад якой узяў шмат песень, казак, мудрых слоў, пра якую думаў, калі пісаў «Баладу сагнутых бабуль».

Аўдуля ўмела гаварыць з кожнай травінкаю, лісцінкаю, сцяжынкаю і гэтаму вучыла Пысіна. Яна яму казала: «Ты не бяжы, спыніся перад травінаю ці дзеравінаю, глядзі на іх і чакай. І яны з табой загавораць. Ты ўмей чакаць».

Гэтую навуку Пысін засвоіў выдатна. Ён умеў маўчаць і чакаць. І пагаварыць з кожнай душою на мове бабы Аўдулі.

Ефрасіння Ігнатаўна Вяржбіцкая, стрыечная сястра паэта, што жыве ў Мануйлах, тая самая Проня, пра якую ён сказаў — «...Стрыечная сардэчная сястра», успамінае:

— Бывала, гляджу з двара, — бачу Аляксея, ідзе полем. А ён як прыязджаў у Краснаполле, дык ніякіх колаў не шукаў, адразу ішоў пехатою ў вёску. Ён любіў хадзіць пехатою. Ад Краснаполля кіламетраў дванаццаць, а ён — пайшоў і пайшоў. Адразу — у Высокі Барок, адтуль — да мяне, у Мануйлы. Полем ці шляхам. Бачу — ідзе. Стаю, чакаю. Ён раптам спыніцца пасярод поля ці шляху, нешта думае ці

разглядае. А я чакаю. А то сядзім з ім у хаце позна, пакуль нагаворымся, усіх спамянём. Позна пакладземся спаць. Я прачнуся — яго ўжо няма. Выйду на двор, да сажалкі — бачу: стаіць дзе-небудзь у полі, на ўзлеску, як бусел. Я — у хлеў, у хату, усё параблю, печ вытаплю, а ён усё стаіць. Бачу — настаяўся, ідзе. Пабягу, збяру на стол сняданне, а яго няма. На двор выбегу — ён зноў, бачу, стаіць у полі, там, дзе стаяў. Гэтак і чакала свайго Пысіна. Тое сняданне астыне, а ён усё будзе стаяць перад нейкай дзеравінаю, баразною, стаўком, кагатом буракоў ці бульбы — на ўсё забудзе. Падыдзеш да яго: «Аляксей!» А ён не чуе. Гэта ў яго было ад Аўдулі, гарадзецкай бабы. Яна яго вучыла сваім навукам. Верш пра мяне напісаў. Прыехаў — пасядзелі, пагаманілі. Ён і напісаў. Усё — як было. Там і мае гусі, і ставок. А сасну ён прыдумаў. Праўда, схадзілі мы на магілку яго маці, Хрысціны Рыгораўны. Але над яе магілай няма сасны. Далей сосны стаяць, а над магілай няма. А ён яе паставіў над магілай. Яму гэтак захацелася. Вось і баба Аўдуля: захоча — зорку на небе выдумае, убачыць. Ты яе не бачыш, а яна бачыць. Яшчэ і злуецца, што ты не бачыш. Так і мой Пысін: паставіў над магілай сасну. А я і не супраць. Паставіў — хай стаіць. Цяпер ужо і сама думаю, што яна там стаіць. Як быццам няма і як быццам ёсць. Не ведаю, каму верыць: ці яму, Аляксею, ці сваім вачам.

Ефрасіння Ігнатаўна паказала мне свой двор, сваіх качак, гусей, той ставок, панад якім ці даўно яны стаялі з Пысіным. Выйшлі на вуліцу, стары Кацярынінскі шлях, які на два бакі параскідаў хаты і старадаўнія бярозы — дупластыя, развесістыя.

— Мой Пысін любіў гэты шлях. Кажуць, пры царыцы Кацярыне яго клалі. Па ім некалі вазілі з Выдранкі ў Клімавічы спірт на перапрацоўку. Там завод. Аляксей любіў гэтыя бярозы. Ён з дрэў больш за ўсё любіў сасну і бярозу. Бывала, як сцямнее, устане з-за стала, выйдзе на шлях. Унізе бялютка ад бяроз, а ўверсе — ад зорак. Стаіць і глядзіць на неба, на зоркі. Доўга будзе стаяць... Як там, у полі.

Чытаць зоркі яго таксама навучыла баба Аўдуля. А можа, не яна адна. Маці пра зоркі спявала, у калыханку іх уплятала. Але баба Аўдуля пра іх ведала ўсё, што ведаў народ.

З зоркамі, з сузор'ямі, з іх картаю і календаром тут, у нашым краі, на Сажы, людзі звязвалі шмат чаго. Па зорках сеялі і жалі, чакалі канца вайны, бацькоў і сыноў. У сем'ях былі свае зоркі на сыноў, дачок, унукаў, якіх лёс адбіў ад дому, на гэтыя зоркі маліліся, з імі гаварылі, як з тымі ж сынамі, дочкамі, унукамі. Як цяпер, у наш час, з далёкім светам гавораць праз антэны, лакатары, так гаварылі праз зоркі. Баба Аўдуля мела зорку Пысіна. Праз яе гаварыла з Аляксеем.

Ці не голасам Аўдулі і гэтае:

Не сплю і сузор'і чытаю.
А можа, па іх варажу,
А можа, кагосьці чакаю?..

Вядома, вобраз зоркі ў паэзіі даўні, традыцыйны. Ён існуе і ў вершах, якія не прывязаны ні да народных традыцый, ні да народнай мудрасці. Але ў Пысіна ўсе зоркі ззяюць на небасхіле надзвычай цэласнай і арганічнай паэтычнай канцэпцыі, паэтычнай і жыццёвай, як у жыцці і паэтыцы бабы Аўдулі ці бабы Агапы. Пад зорным парасонам паэт сабраў усе свае, што ў сэрцы, вёскі, дарогі, лясы, сады, лугі, палі, рэчкі, найдаражэйшых людзей, братоў і пабрацімаў, мёртвых і жывых, продкаў і нашчадкаў, птушак, коней, аленяў, яшчарак, травы, кветкі. Гэта — яго край, які мае гісторыю, геаграфію, нават — трыангуляцыю. Усё, што пад гэтым зорным парасонам, прывязана да шляху, які называецца Варшаўкаю, Варшаўскім шляхам.

Гэтак я разважаў нядаўна, сёлетняй вясною, у ціхую ноч, унізе — у белых снягах, уверсе — у белых зорках і сузор'ях, з вясновым хрумстам лядку пад нагамі, калі выехаў з Краснапольшчыны да Сажа, перасёк яго ў Чэрыкаве і, апынуўшыся на Варшаўцы паміж Чэрыкавым і Слаўгарадам, спыніў машыну, выйшаў на шлях. Злева ад шляху, за сасновым борам, міргалі агеньчыкі той самай вёсачкі Журавель, што ў «Жураўліным беразе», а справа ад шляху — агні Сакалоўкі, дзе Іван і Сямён Сямёнавы некалі частавалі паэта юшкаю.

І ўсе іншыя пысінскія вёскі ў адзін момант збегліся да Варшаўкі, збеглася ўсё, што пад яго зорным небам, усе вёскі, дарогі, лясы, палі, рэчкі, сябры, жывыя і мёртвыя, звяры і птушкі, нават паэты, якіх ён найбольш моцна любіў і сярод якіх ведаў сваё месца. Да шляху аказаліся прывязанымі вёскі і паэзія Куляшова, Твардоўскага, Ісакоўскага, Русецкага, Стральцова, Зарыцкага, Прыходзькі, Таўбіна, Ракава, Гаўрусёва. Сюды прасілася і проза, яе зоркі. Першая — Максім Гарэцкі. І гэта — нейкія дзве сотні вёрст па Варшаўцы, ад Доўска, і на ўсход, за Сож, той Варшаўскі мерыдыян, да якога Пысін быў прывязаны ўсё жыццё. Яго шлях да Высокага Барка і з Высокага Барка ў свет, у любы свет, блізкі ці далёкі, ляжаў праз Варшаўку, па Варшаўцы вёў ці на ўсход, ці на захад, і гэтым шляхам, адкуль ні ехаў, з усходу ці захаду, ён дабіраўся да роднай вёскі. Доўск — першая на шляху ростань і першая сустрэча з Варшаўкаю, як едзеш з Магілёва на Баркі. Была першая, пакуль не праклалі новую дарогу з Магілёва на Чэрыкаў, праз Чавусы. Праклалі новую — першай сустрэчай з Варшаўкаю стаў Чэрыкаў. Але шлях, што паміж Чэрыкавым і Доўскам, па-ранейшаму часта вадзіў і вазіў Пысіна, бо тут, на гэтым мерыдыяне, тыя самыя мясціны, якія ён ніколі не адрываў ад свайго сэрца. Тут жылі яго сябры, бары, рэчкі…

Над Варшаўскім шляхам — і амаль уся зорная карта Пысіна, і адна ясная зорка, якую ён бачыў з хваляваннем. Тая зорка — пад Доўскам, над тым узлескам, дзе Аркадзь Куляшоў, яго любімы, можна сказаць — самы любімы паэт, аднойчы расклаў начлежнае вогнішча і пры ім, «пад шум агню і пералётны дым, сярод аблюбаванае паляны», павёў «...свой дыялог, патрэбны ўсім», «...аб часе, аб Твардоўскім, што земляком тваім быў і маім».

Мы ўсе, іх землякі, сціпла, ледзь дыхаючы, каб дыханнем не пагасіць агню, стаім з таго часу над вогнішчам, грэемся ад яго, молімся на яго.

Наш сабор — зямля пад зорным купалам з усім яе быццём і небыццём, дзе вогнішча, пакінутае Куляшовым, Твардоўскім, Пысіным, яго круг і круг паэзіі. Там — лагічны рух, у тым крузе: адзін зямляк — Куляшоў — расклаў для бяседы вогнішча, другі зямляк — Пысін — прысвяціў яму — Куляшову — цудоўны верш, нібы прадоўжыў бяседнае вогнішча, падкінуўшы голлейка.

Калі б вясне, Дняпру і чайцы
Па-свойму мог сказаць я так:
Вы ўсё, вы ўсё перачытайце,
Што напісаў пра вас зямляк
Ды ведаю — наіўна гэта,
І лес, і поле, і рака —
Яны сааўтары паэта
Ў стварэнні слова і радка.

Пысін добра ведаў гэтае сааўтарства. Думаючы пра Куляшова, ён выказаў тое, што спасціг уласнай працаю, сваім жыццём.

Аўтарства як сааўтарства. Для Пысіна гэта не выпадковая думка. Яна вытлумачвае адну з самых прывабных якасцей яго паэзіі — яе незвычайную ўтульнасць для ўсяго жывога: звяроў, птушак, мурашоў, матылёў, дрэў, людзей, зорак, рэчак. Яны не просяцца ў яго вершы. І ён, здаецца, іх не запрашае. Яны прыходзяць у верш, як у сваю хату, жывуць у ёй са сваім норавам, імем, тварам, не прынароўліваючыся да паэта, да законаў гэтае хаты. Яны такія ж гаспадары ў вершах, як і ён. Яны роўныя ў правах. Яны — сааўтары.

Без іх паэт не ўяўляе ні свайго жыцця, ні сваіх вершаў. І таму ў яго няма вершаў абстрактных, сузіральных, пазбаўленых жывога дыхання.

Роўнасць з усім, што насяляе свет, з кожнай жывой душою, была ў яго крыві. Роўнасць і крэўнасць.

Без зорнай сувязі яму, безумоўна, цяжка было б весці штодзённы дыялог з усім гэтым светам.

Зорнай?.. А можа — касмічнай? Можа, паэт вынайшаў у касмічны век сваю касмічную сувязь — праз зоркі?

**Эмануіл ІОФЕ**

# ГЭТА ТВАЯ ГІСТОРЫЯ, БЕЛАРУСКАЯ ДЗЯРЖАЎНАСЦЬ!

*«Нарыс гісторыі беларускай дзяржаўнасці: XX стагоддзе»,* Беларуская навука, 2008.

**Пасля** таго, як у 1991 годзе Рэспубліка Беларусь набыла сваю дзяржаўнасць, узрасла цікавасць да гісторыі беларускай дзяржаўнасці сярод шырокіх колаў грамадскасці нашай краіны. Асаблівы інтарэс, у першую чаргу сярод моладзі, праяўляецца да яе гісторыі ў XX стагоддзі.

Менавіта гэтым можна тлумачыць актуальнасць «Нарыса гісторыі беларускай дзяржаўнасці: XX стагоддзе», які выйшаў у пачатку 2009 года (хоць падпісаны ў друк 28 снежня 2008 года) у выдавецтве «Беларуская навука» пад рэдакцыяй акадэміка-сакратара НАНБ, дырэктара Інстытута гісторыі НАНБ А. А. Кавалені.

На аснове аналізу гістарыяграфіі дадзенай надзвычай важнай і вельмі актуальнай праблемы айчыннай гісторыі і новых крыніц аўтарскі калектыў паспрабаваў асэнсаваць і адлюстраваць складаны працэс генезісу беларускай дзяржаўнасці ў XX стагоддзі: ад выпрацоўкі ідэі да яе практычнай рэалізацыі.

У апошняе дзесяцігоддзе ў нашай рэспубліцы і за яе межамі апублікаваны шэраг змястоўных прац па гісторыі беларускай дзяржаўнасці XX стагоддзя. Сярод іх трэба назваць такія даследаванні, як манаграфіі В. А. Круталевіча «История Белоруссии: становление национальной державности (1917—1922 гг.)» (Мн., 1999); У. Ф. Ладысева і П. І. Брыгадзіна «На пераломе эпох: станаўленне беларускай дзяржаўнасці (1917—1920 гг.)» (Мн., 1999); «Паміж Усходам і Захадам: Станаўленне дзяржаўнасці і тэрытарыяльнай цэласнасці Беларусі (1917—1939 гг.)» (Мн., 2003); С. С. Рудовіча «Час выбару: Праблема самавызначэння Беларусі ў 1917 годзе» (Мн., 2001); М. П. Касцюка «Большевистская система власти» (М., 2002); калектыўная праца У. К. Коршука, Р. П. Платонава, І. Ф. Раманоўскага, А. Г. Баргановіч «Государственность Беларуси: проблемы формирования в программах политических партий» (Мн., 1999); зборнікі матэрыялаў «Беларуская дзяржаўнасць: вопыт XX стагоддзя». (Мн., 2004); «Актуальныя праблемы станаўлення і развіцця беларускай дзяржаўнасці».Ч.1—2. (Мн., 2009).

Чым жа адрозніваецца ад гэтых навуковых прац «Нарыс гісторыі беларускай дзяржаўнасці: XX стагоддзе»?

Па-першае, раней у айчыннай гістарыяграфіі не было спроб адказу супрацоўнікаў Інстытута гісторыі НАН Беларусі на шматлікія пытанні, звязаныя з навуковым асэнсаваннем палітычнай гісторыі Беларусі XX стагоддзя.

Па-другое, у адрозненне ад 6-томнай «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі» і 18-томнай «Беларускай энцыклапедыі» ў ім дадзена сваё вызначэнне такой навуковай катэгорыі, як «**нацыянальная ідэнтычнасць**». На думку аўтарскага калектыву, «**гэта канкрэтная эмацыянальна-псіхалагічная, палітыка-ідэалагічная і культурная пазіцыя як асобных індывідаў, так і этнічнай групы ў цэлым ва ўспрыняцці сябе ў навакольным свеце, якая выяўляецца ў прыняцці імі рашэнняў ва ўсіх сферах гістарычнай дзейнасці**».

Па-трэцяе, аўтарам у цэлым удалося прасачыць гістарычную ўзаемасувязь і пераемнасць паміж ідэяй дзяржаўнасці, інтарэсамі палітычных партый і практычнымі крокамі, супольнымі намаганнямі, дзейнасцю беларускага народа на шляху да набыцця ўласнага суверэнітэту ў XX стагоддзі. Нельга не згадзіцца з думкай, што найноўшая гісторыя Беларусі ў гэты перыяд часу пацвердзіла класічную антычную ідэю: гісторыя належыць народу, але яе рухальнай сілай з'яўляюцца нацыянальныя кіраўнікі, якія вядуць краіну ў будучыню.

Па-чацвёртае, новымі падыходамі да даследавання гэтай вельмі складанай праблемы. У сувязі з гэтым ва «Уводзінах» адзначаецца:

«Распрацоўваючы складаныя пытанні эвалюцыі тэорыі і практыкі руху беларусаў да суверэнітэту і незалежнасці, аўтарскі калектыў імкнуўся па магчымасці ўлічыць увесь спектр існуючай гістарыяграфічнай думкі. Гэтаму садзейнічала тэарэтыка-метадалагічная база, якая была пакладзена ў аснову працы. У філасофскіх адносінах аўтары арыентаваліся на плюралістычныя прынцыпы ўсеагульнага ўзаемадзеяння і шматфактарнасці, згодна з якімі ўсе гістарыяграфічныя творы з'яўляюцца для даследчыка роўнакаштоўнаснымі».

Па-пятае, новай трактоўкай прычын выключэння з Беларускай рэспублікі Віцебскай, Смаленскай і Магілеўскай губерняў 16 студзеня 1919 года — гэта праз два тыдні пасля абвяшчэння Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі Беларусі. Менавіта такое рашэнне прыняў пленум ЦК РКП(б).

У беларускай гістарычнай літаратуры распаўсюджаны тэзіс, што такое рашэнне было прадыктавана прычынамі знешнепалітычнага характару. На падставе грунтоўнага вывучэння матэрыялаў Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь і шэрага расійскіх архіваў даследчык У. Ф. Ладысеў заключыў, што матэрыялы Асобай нарады Наркамата дзяржкантролю РСФСР сведчаць, што рашэнне пленума ЦК РКП(б) аб перадачы Расійскай Федэрацыі трох усходніх губерняў было прадыктавана ў першую чаргу прычынамі эканамічнага характару. Ва ўмовах пачатку грамадзянскай вайны, пераходу да палітыкі харчразвёрсткі асноўнай праблемай для савецкай улады была харчовая. Выпадзенне з гаспадарчага разліку Віцебскай, Магілёўскай і Смаленскай губерняў стварыла дадатковыя цяжкасці для функцыянавання традыцыйных гаспадарчых сувязей заходніх губерняў з Цэнтрам.

Па-шостае, даследаваннем пытання «Беларуская дзяржаўнасць і геапалітычныя працэсы канца XX — пачатку XXI стагоддзя» (аўтар параграфа — акадэмік НАНБ М. П. Касцюк».

Па-сёмае, спробай раскрыць сутнасць распаду СССР у снежні 1991 года. У «Заключэнні» адзначаецца:

«**Гістарычны працэс ліквідацыі СССР па змесце быў распадам, а па форме — развалам**».

Па-восьмае, у рэцэнзуемай кнізе дадзены аналіз станаўлення і развіцця прэзідэнцкай формы кіравання.

Аўтары «Нарыса гісторыі беларускай дзяржаўнасці» ўзбагацілі гістарычную навуку новымі цікавымі фактамі, думкамі і высновамі.

Так, асвятляючы пытанне «Ідэя беларускай дзяржаўнасці ў праграмах і дзейнасці палітычных партый і арганізацый у пачатку XX стагоддзя», М. С. Сташкевіч падкрэслівае:

«Ініцыятарамі рэалізацыі ідэі беларускай нацыянальнай дзяржаўнасці ў гэты час былі дзеячы беларускіх палітычных партый і арганізацый. Яны прытрымліваліся ідэі стварэння нацыянальна-тэрытарыяльнай аўтаноміі Беларусі ў граніцах Расійскай федэратыўна-дэмакратычнай дзяржавы.

...За гэтыя гады ідэйна выкрышталізаваліся асноўныя напрамкі беларускага грамадска-палітычнага руху, якія ў сваіх праграмных дакументах сфармулявалі ідэю беларускай дзяржаўнасці».

Нарэшце чытачы могуць пазнаёміцца з доўгачаканай аб'ектыўнай высновай С. М. Хоміча аб сутнасці і характары Літоўска-Беларускай ССР як дзяржаўнага ўтварэння:

«Літоўска-Беларуская ССР не з'яўлялася паўнацэннай дзяржавай. Урад ЛітБел, яго дзяржаўныя ўстановы падпарадкоўваліся ў сваёй дзейнасці адпаведным органам РСФСР. Самастойнасць была фіктыўнай, улада ўрада ЛітБел абмежаванай. Усе прынцыповыя рашэнні ў абавязковым парадку першапачаткова зацвярджаліся ЦК РКП(б). Літоўска-Беларуская ССР цалкам залежала ад Савецкай Расіі ў эканамічных і ваенных адносінах».

Прынцыпова важнымі з'яўляюцца наступныя заключэнні У. Ф. Ладысева:

«Такім чынам, утварэнне беларускай дзяржаўнасці для савецкага кіраўніцтва было прадыктавана прычынамі ў першую чаргу ваенна-палітычнага характару...

Паўторнае абвяшчэнне ССРБ 31 ліпеня 1920 года з'явілася аб'ектыўна абумоўленым працэсам. З аднаго боку, гэта было прадаўжэннем практычнай рэалізацыі курса на самавызначэнне беларускай нацыі, што адстойваў у гады вайны А. Чарвякоў, які ўзначальваў савецкі аддзел Заходняга фронту, і яго аднадумцы. З другога боку, гэта было фактычнае прызнанне савецкім кіраўніцтвам памылковасці стварэння ЛітБел, якая юрыдычна перастала існаваць пасля заключэння расійска-літоўскага дагавора 12 ліпеня 1920 года».

Важную выснову робіць В. Г. Мазец пры даследаванні пытання «Асаблівасці нацыянальна-дэмаграфічных працэсаў у 1945—1959 гадах». Ён адзначае:

«На аснове аналізу нацыянальна-дэмаграфічных працэсаў у 1945—1959 гадах была ўстаноўлена заканамернасць, у адпаведнасці з якой масавыя знешнія міграцыі насельніцтва, якія адбываліся ў разглядаемы перыяд, прыводзілі да размывання этнічнай структуры насельніцтва беларускіх гарадоў. З аднаго боку, гэта садзейнічала ўмацаванню дзяржаўнасці ў форме СССР, з другога — прыводзіла да аслаблення нацыятворчай асновы беларускай дзяржаўнасці».

Даследуючы беларускую дзяржаўнасць у ракурсе геапалітычных працэсаў на мяжы XX—XXI стагоддзяў, М. П. Касцюк раскрывае спецыфіку гэтага працэсу:

«Падпісанне Белавежскіх пагадненняў, згодна з якімі быў скасаваны саюзны дагавор 1922 года і ўтворана СНД, адбылося на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь. Гэта з'явілася сведчаннем яе актыўнай ролі ў развіцці геапалітычных працэсаў на постсавецкай прасторы. Аднак у аднаўленні суверэнітэту беларускага народа мелася і свая спецыфіка. Палітычныя акты па яго ўсталяванні спалучаліся з захадамі па ўзнаўленні этнічных адметнасцей, вяртанні гістарычнай памяці і нацыянальнай свядомасці беларусаў, распаўсюджанні іх мовы, звычаяў і традыцый.

Рэспубліка Беларусь, якая ўзнікла на аснове Беларускай ССР як унітарная дэмакратычная сацыяльная дзяржава, адразу аб'явіла аб сабе і разам з суседзямі — Расійскай Федэрацыяй і Украінай выступіла ініцыятарам у развіцці дзяржаватворных працэсаў на постсавецкай прасторы. Пры гэтым яе шлях ад парламенцкай рэспублікі да прэзідэнцкага праўлення адпавядаў агульнай тэндэнцыі ў развіцці дзяржаўнасці еўрапейскіх народаў».

Вельмі важна, што ў рэцэнзуемай кнізе прасочваецца імкненне яе аўтараў паказаць сувязь грамадска-палітычнага жыцця з працэсам станаўлення і развіцця беларускай дзяржаўнасці. У чацвёртым раздзеле «Палітычная рэчаіснасць у БССР у 1920—1930-я гадах XX стагоддзя» адзначаецца:

«У агітацыйна-прапагандысцкай рабоце ў гэты час асаблівая ўвага звярталася на пазіцыі найбольш вядомых людзей і творчых аб'яднанняў Беларускай ССР. Яны падвяргаліся асабліва жорсткай апрацоўцы і націску з мэтай дабіцца падтрымкі партыйнай лініі і прынятых рашэнняў. Гэта было тым больш важна, што кіраўніцтва Кампартыі Беларусі не адважвалася на адкрыты судовы працэс у сувязі з аб'яўленай, а фактычна сфабрыкаванай, як цяпер вядома, справай «Саюза вызвалення Беларусі».

Даследчык правамерна акцэнтуе ўвагу на трансфармацыі грамадска-палітычнага жыцця ў Беларускай ССР у 1930-я гады адносна дзяржаўнасці беларускага народа. Калі ў іх пачатку яшчэ закраналіся пытанні беларускай дзяржаўнасці, асабліва ў сувязі са сфабрыкаваным «Саюзам вызвалення Беларусі», то затым, ужо ў сярэдзіне 1930-х гадоў, гэты напрамак грамадскай думкі амаль знік.

Значную цікавасць уяўляе даследаванне грамадска-палітычнай актыўнасці насельніцтва БССР у 1944—1964 гадах, калі аднавіўся перапынены Вялікай Айчыннай вайной працэс развіцця беларускай дзяржаўнасці.

У 1944—1953 гадах асабліва моцным пераследам і ганенням падверглася інтэлігенцыя — самая адукаваная частка грамадства, якая найбольш здольная генерыраваць ідэі яго абнаўлення і падрыхтаваць яго да разумення неабходна-

сці перамен. Пачатак праследу паклала пастанова ЦК ВКП(б) «Аб часопісах «Звезда» і «Ленинград», якая выйшла 14 жніўня 1946 года і была адменена на пасяджэнні Палітбюро ЦК КПСС 20 кастрычніка 1988 года.

Аўтар параграфа «Грамадска-палітычнае жыццё (1944—1953)» М. Б. Несцяровіч на падставе вывучэння матэрыялаў Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь прыводзіць цікавыя канкрэтныя факты з літаратурнага і навуковага жыцця таго часу.

Так, за 1944 год — першую палову 1946 года Галоўліт пры Савеце Міністраў БССР у парадку папярэдняга кантролю «па прычынах палітычнага і ідэалагічнага характару» не дапусціў да выдання 46 твораў мастацкай і публіцыстычнай літаратуры (у тым ліку аповесць і два раманы Кузьмы Чорнага), не дазволіў для перадачы па радыё 7 інфармацый і матэрыялаў.

Чытачы даведаюцца, што ў 1946 годзе партыйнае кіраўніцтва БССР выступіла з рэзкай крытыкай шэрага «ідэйна ўбогіх» твораў беларускіх пісьменнікаў: «Жыў на свеце Лявон», «Свае людзі» І. Гурскага, «Журба і Монцік» А. Алешкі, «Балбатун» Я. Маўра. На партыйных сходах у парарганізацыях быў моцна раскрытыкаваны «антыпатрыятычны ўчынак» прафесара А. Р. Жэбрака — вядомага беларускага генетыка і селекцыянера, акадэміка і прэзідэнта АН БССР (у маі—лістападзе 1947 года), «які выступіў з паклёпам на савецкіх вучоных на старонках аднаго рэакцыйнага амерыканскага часопіса». Пазней ён быў вызвалены ад абавязкаў прэзідэнта Акадэміі навук БССР.

Рэзка крытыкаваліся не толькі «ідэалагічна шкодныя» творы пісьменнікаў і працы вучоных, але і творы тэатральнага мастацтва, музыкі, кіно. У прыватнасці, была забаронена і знята пастаноўка ў тэатрах рэспублікі п'еса «Мілы чалавек» К. Крапівы.

Шмат цікавага і карыснага знойдуць чытачы, калі прачытаюць параграфы «Нацыянальна-дзяржаўная палітыка ў 1920—1930-я гады» і «Нацыянальна-дзяржаўная палітыка (1944—1953 гадоў)».

Аналізуючы правядзенне гэтай палітыкі ў пасляваенныя гады, В. Г. Мазец прыходзіць да высновы, што разгортванне ў СССР ідэалагічнай барацьбы з любымі формамі нацыяналізму праявілася на практыцы ў крытыцы дзеячаў мастацтва за іх спробы асэнсавання гістарычнага мінулага сваіх народаў, што магло выклікаць абуджэнне і пашырэнне нацыянальнай самасвядомасці. Пад агонь ідэалагічнай крытыкі з боку партыйных органаў трапілі ў першую чаргу літаратуразнаўцы, пісьменнікі і гісторыкі.

Так, восенню 1945 года Бюро ЦК КП(б)Б «выявіла шэраг сур'ёзных памылак нацыяналістычнага характару» ў кнігах і артыкулах па гісторыі БССР, у прыватнасці ў прадмове сакратара ЦК КП(б)Б Ц. Гарбунова да 1-га выпуску «Гісторыі БССР».

Літаратуразнаўца М. Ларчанка быў абвінавачаны ў тым, што разглядаў развіццё беларускай літаратуры, «сціраючы межы паміж пісьменнікамі самых розных ідэйных напрамкаў, ставіў у адзін шэраг Яна Чачота і Кастуся Каліноўскага, Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча і Янку Купалу, Аляксандра Ельскага і Францішка Багушэвіча» і «не змог даць марксісцкую перыядызацыю літаратуры, галоўны ўпор рабіў на нацыянальныя моманты, адарваў гісторыю літаратуры ад гісторыі барацьбы класаў». Ю. Пшыркоў быў падвергнуты крытыцы за тое, што «не заўважаў працэсу размежавання сярод нашаніўскіх пісьменнікаў».

У пастановах ЦК Кампартыі Беларусі аб рабоце ССП БССР і рэдакцый літаратурна-мастацкіх часопісаў «Полымя» і «Беларусь» адзначалася:

«У шэрагу артыкулаў па гісторыі літаратуры часта аднабакова ацэньваліся і ўхваляліся ўсе нацыянальныя дзеячы і пісьменнікі мінулага, замоўчваліся слабыя і памылковыя моманты ў іх творчасці. Пры гэтым паняцці «дэмакрат», «асветнік», «патрыёт», насуперак гістарычнай праўдзе, прыпісваліся такім дзеячам памешчыцка-буржуазнай культуры, як В. Дунін-Марцінкевіч, Я. Чачот, А. Рыпінскі, Я. Баршчэўскі і інш.».

У партарганізацыях Беларусі на ўсіх узроўнях, на пасяджэнні Бюро ЦК КП(б)Б, на прадпрыемствах і ў ВНУ шырока разгарнулася абмеркаванне тэмы нізкапаклонства перад Захадам.

Так, у «Матэрыялах да справаздачнага даклада ЦК КП(б)Б XIX з'езду КП(б)Б» падкрэслівалася:

«У работах асобных літаратурных крытыкаў (Ларчанка, Пшыркоў, Перкін, Вольскі і інш.) у лік патрыётаў залічваліся скопам усе пісьменнікі і дзеячы культуры: ад ідэолагаў беларускага буржуазнага нацыяналізму Алеся Гаруна і Ядвігіна Ш. да выдатных паэтаў рэвалюцыйнай дэмакратыі: Купалы, Коласа, Алаізы Пашкевіч».

Адначасова ўказвалася, што ЦК Кампартыі Беларусі «разаблачыў у сваіх рашэннях нацыяналістычную тэорыю, нібыта свет культуры на Беларусь ішоў не з усходу, а толькі з захаду, а таксама падвергнута крытыцы нацыяналістычная тэорыя пра «залаты век», які нібыта перажывала Беларусь у сваім эканамічным, палітычным і духоўным развіцці у XIV—XVI стагоддзях».

Чарговая ідэалагічная кампанія супраць беларускіх пісьменнікаў была разгорнута ў 1951 годзе пасля з'яўлення ў газеце «Правда» артыкула «Супраць ідэалагічных скажэнняў у літаратуры». Як безыдэйныя былі раскрытыкаваны некаторыя вершы К. Буйло са зборніка «Світанне», вершы П. Броўкі «Шпак» і «Вярба пад вадою», М. Танка «Я не ведаю, хто ты» і «Дарагая мая», А. Куляшова «Зямля і мора» і «Зямля і неба», П. Глебкі «Смерць салдата», А. Русака «Асеннія напевы», якія былі прасякнуты пачуццём сапраўды шчырага патрыятызму, любові да сваёй роднай прыроды і роднай зямлі.

Сакратару ЦК Кампартыі Беларусі М. Гусараву ў студзені 1949 года была накіравана дакладная запіска пра стан літаратурнай і тэатральнай крытыкі. У ёй праводзілася выкрыццё касмапалітаў. Так, у літаратурнай крытыцы і літаратуразнаўстве былі абвешчаны антыпатрыётамі-касмапалітамі Л. Бэндэ, Л. Бараг, В. Гальперын, М. Смолкін, А. Кучар і Я. Герцовіч.

На падставе аналізу нацыянальна-дзяржаўнай палітыкі, якая ажыццяўлялася ў БССР на працягу 1944—1953 гадоў, даследчык В. Г. Мазец прыйшоў да наступных важных высноў:

«У правядзенні нацыянальнай палітыкі ў БССР у 1944—1953 гадах адбыліся пэўныя змены ў параўнанні з 30-мі гадамі. Так, на змену барацьбе з нацдэмамі, якой характарызавалася нацыянальна-дзяржаўная палітыка ў даваенны перыяд, у 1944—1953 гадах прыходзіць барацьба супраць любых формаў нацыяналізму: беларускага, польскага, яўрэйскага і інш., мэтай якой з'яўлялася нівеліроўка нацыянальных адметнасцей».

Прыемна здзіўляе велізарнае кола крыніц, якія выкарыстаў даследчык М. Б. Несцяровіч пры напісанні параграфа «Сістэма органаў дзяржаўнай улады і кіравання (1954—1964 гадоў)». Гэта не толькі фонды Дзяржаўнага архіва Брэсцкай вобласці, але і стэнаграфічная справаздача пятай сесіі Вярхоўнага Савета Беларускай ССР чацвёртага склікання (28—30 мая 1957 года), зборнік законаў СССР і ўказаў Прэзідыума Вярохоўнага Савета СССР (1938—1958 гадоў), збор законаў, указаў Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларускай ССР, пастаноў і распараджэнняў Савета Міністраў БССР за 1957 год, перыядычны друк таго часу, у тым ліку газета «Правда» і часопіс «Известия ЦК КПСС», шмат юрыдычных дакументаў, выступленні М. С. Хрушчова і М. А. Касыгіна, шэраг разнастайных манаграфій.

Усё гэта спрыяе добрай аргументацыі яго высноў. Нельга не згадзіцца з наступным заключэннем М. Б. Несцяровіча:

«Такім чынам, у 1954—1964 гадах у Беларусі, як і ва ўсім СССР, адбылася пэўная перабудова арганізацыйнай структуры дзяржаўнага кіравання ў напрамку яе дэцэнтралізацыі. Рэформы закранулі практычна ўсе найважнейшыя кіраўнічыя схемы, перш за ўсё кіраўніцтва народнай гаспадаркай. Адначасова рабіліся захады па паляпшэнні дзейнасці органаў дзяржаўнай улады і кіравання, у выніку

якіх яна стала адносна больш дэмакратычнай, у большай ступені адпавядаючай сусветным крытэрыям і стандартам. Аднак адначасова шэраг непрадуманых пераўтварэнняў прывёў да таго, што кіраўніцтва дзяржавай стала больш грувасткім. Пры гэтым сутнасць яго не змянілася. Гэта была некалькі мадэрнізаваная, змененая па форме, але ранейшая дырэктыўна-камандная мадэль кіравання, дэфармаваная «партыйным кіраўніцтвам». Таму неўспрымальнасць савецкай адміністрацыйна-каманднай сістэмы да кардынальных рэформаў з'яўлялася заканамернасцю яго развіцця. З адстаўкай Хрушчова завяршыўся перыяд спроб кардынальных рэформаў у сістэме органаў дзяржаўнай улады і кіравання другой паловы 50-х — першай паловы 60-х гадоў».

Нягледзячы на шэраг вартасцей, рэцэнзуемая кніга, на жаль, не пазбаўлена недахопаў.

Па-першае, яна не завершана. Некаторыя раздзелы носяць фрагментарны характар, адсутнічае адзіная канцэпцыя і лагічная ўзаемасувязь паміж рознымі параграфамі. Гэта прызнае і сам аўтар «Уводзін» М. У. Смяховіч, падкрэсліваючы:

«Зразумела, дасведчаны чытач заўважыць, што некаторыя праблемы, звязаныя з рухам беларусаў да набыцця ўласнай дзяржаўнасці ў XX стагоддзі, не знайшлі свайго адлюстравання ў падрыхтаванай працы. Гэта тлумачыцца тым, што агульнае выкананне задання па ўсіх тэматычных аспектах запланавана на 2000 год. Таму на момант падрыхтоўкі «Нарыса» да друку даследаванне асобных тэм не было завершана».

Па-другое, уважлівы чытач ужо заўважыў, што ў рэцэнзуемым выданні і ў будучай калектыўнай манаграфіі адсутнічае і будзе адсутнічаць вельмі важная, вострая і прынцыпова патрэбная тэма «Беларуская дзяржаўнасць у перыяд Вялікай Айчыннай вайны ў разуменні вышэйшага кіраўніцтва СССР і беларускіх калабарацыяністаў».

Па-трэцяе, у падобных выданнях спачатку прыводзіцца гістарыяграфія і крыніцазнаўчая база, а потым даецца сам тэкст. У рэцэнзуемай кнізе ўсё наадварот. Аўтар кожнага параграфа дае свой гістарыяграфічны агляд. У выніку атрымаліся неаднаразовыя паўторы адной і той жа літаратуры.

Па-чацвёртае, вельмі дзіўна, што аўтары «Нарыса гісторыі дзяржаўнасці Беларусі», за рэдкім выключэннем, не выкарысталі ўспаміны і выступленні партыйных і дзяржаўных дзеячаў БССР, у прыватнасці, тых, якія ўзначальвалі Цэнтральны Камітэт Кампартыі Беларусі. Я маю на ўвазе Вікенція Сямёнавіча Міцкевіча-Капсукаса, Вацлава Антонавіча Багуцкага, Аляксандра Мікалаевіча Асаткіна-Уладзімірскага, Аляксандра Іванавіча Крыніцкага, Яна Барысавіча Гамарніка, Мікалая Фёдаравіча Гікалы, Аляксея Аляксеевіча Волкава, Панцеляймона Кандратавіча Панамарэнкі, Мікалая Іванавіча Гусарава, Мікалая Сямёнавіча Патолічава, Кірылы Трафімавіча Мазурава, Пятра Міронавіча Машэрава, Ціхана Якаўлевіча Кісялёва, Мікалая Мікітавіча Слюнькова, Яфрэма Яўсеевіча Сакалова, Анатоля Аляксандравіча Малафеева, Васіля Іванавіча Казлова, Сяргея Восіпавіча Прытыцкага, Фёдара Анісімавіча Сурганава, Язэпа Аляксандравіча Адамовіча, Мікалая Мацвеевіча Галадзеда, Аляксандра Нікіфаравіча Аксёнава, Вячаслава Францавіча Кебіча, а таксама старшынь Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Мікалая Іванавіча Дземянцея, Станіслава Станіслававіча Шушкевіча, Мечыслава Іванавіча Грыба, былога міністра замежных спраў Беларусі Пятра Кузьміча Краўчанкі. У іх матэрыялах змешчаны цікавыя і каштоўныя думкі і факты, якія непасрэдна датычацца гісторыі беларускай дзяржаўнасці ў XX стагоддзі.

Па-пятае, на старонках 184—185 ёсць недакладнасці і недасказанасці ў асвятленні візіту члена Рэўваенсавета Заходняга фронту І. Сталіна ў Мінск у 1919 годзе. Ён быў не толькі народным камісарам па справах нацыянальнасцей РСФСР, але яшчэ членам Палітбюро ЦК РКП(б) і прадстаўніком Усерасійскага Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта ў Савеце рабочай і сялянскай абароны.

Гісторыя павінна заставацца гісторыяй. І даследчык С. М. Хоміч павінен быў даць дакладную дату прыбыцця І. Сталіна ў Мінск, але ў параграфе «Літоўска-Беларуская ССР як дзяржаўнае ўтварэнне» не названы не толькі дзень, але і месяц. Між іншым, Сталін прыбыў у Мінск 13 ліпеня 1919 года і прабыў тут пяць дзён. Жыў ён у вагоне, які стаяў каля Аляксандраўскага вакзала. Адсюль выязджаў у напрамку Маладзечна ў часці 52-й (Заходняй) стралковай дывізіі, якая вяла баі з польскімі войскамі ў раёне Мінска. Апошні раз ён быў у Мінску, калі пачалося моцнае наступленне палякаў. Гэта здарылася 17 ліпеня 1919 года.

На асобных старонках рэцэнзуемай кнігі сустракаюцца фактычныя недакладнасці і граматычныя памылкі.

Так, на старонцы 123 сцвярджаецца:

«У час вайны (Першай сусветнай. — **Э. І.**) каля 2,5 млн. беларусаў у якасці бежанцаў пакінулі сваё месца жыхарства і апынуліся на Украіне і ў Расіі».

А вось што адзначаецца ў першым томе «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі» (Мн., 1993):

«Паводле даных Народнага камісарыята ўнутраных спраў РСФСР, на 11.5.1918 года ў Расіі жыло 2 292 395 бежанцаў з Беларусі, у тым ліку беларусаў і рускіх 2 059 857)».

На старонцы 220 чытаем:

«Другая сесія ЦВК БССР (люты 1921 года) зацвердзіла раўнапраўе чатырох моў і ўхваліла палітыку Наркампроса...»

Не ўсякі чытач здагадаецца, што гаворка ідзе аб беларускай, рускай, польскай і яўрэйскай мовах.

Дарэчы, замест слоў «яўрэй», «яўрэйскі», «яўрэйская» на многіх старонках кнігі ўжываюцца тэрміны «габрэй», «габрэйскі», «габрэйская», якія, на мой погляд, ужываць немэтазгодна.

На 337-й старонцы ў тэксце гаворыцца аб кнізе Г. Карзенкі, а спасылка дадзена на яго артыкул «Нацыянальныя працэсы ў беларускай навуцы 40—90-х гадоў», змешчаны ў кніжцы «Нацыянальныя меншасці Беларусі» (Мн., 1996). Ч.2.

У рэцэнзуемай кнізе сцвярджаецца, што насельніцтва Беларусі ў яе сучасных межах у пачатку 1941 года складала 9, 2 млн. чалавек (стар. 338). На самай справе, дакладная лічба — 9 млн.183 тысячы чалавек.

На старонцы 384 чытаем:

«Так, восенню 1945 г. Бюро ЦК КП(б)Б «выявіла шэраг сур'ёзных памылак нацыяналістычнага характару» ў кнігах і артыкулах па гісторыі БССР, у прыватнасці ў прадмове былога сакратара ЦК КП(б)б Ц. Гарбунова да 1-га выпуску «Гісторыі БССР»...»

Тут неапраўдана ўжываць тэрмін «былога сакратара ЦК КП(б)Б», таму што ў час крытыкі і пасля яе — у 1941—1947 гадах Цімафей Сазонавіч Гарбуноў заставаўся сакратаром ЦК Кампартыі Беларусі.

На старонцы 211 гаворыцца аб працах «М. Кастюка», хоць па-беларуску трэба пісаць «М. Касцюка».

Прозвішча кіраўніка Яўрэйскага антыфашысцкага камітэта, забітага ў Мінску ў студзені 1948 года — С. Міхоэлс, а не «С. Міхаэлс», як пададзена на 398-й старонцы.

Нягледзячы на сваю незавершанасць, выданне «Нарыса гісторыі беларускай дзяржаўнасці: ХХ стагоддзе» — крок наперад у даследаванні гэтай складанай і важнай праблемы.

Нельга не згадзіцца з думкай аўтара «Заключэння» М. У. Смяховіча, што ў беларускай гістарычнай навуцы была вырашана складанае пытанне кагерэнцыі: гісторыя дзяржаўнасці з'яўляецца тым галоўным праблемным полем наратыўнага асэнсавання, без якога немагчыма існаванне іншых яго адгалінаванняў.

Хочацца спадзявацца, што новае, больш завершанае выданне «Нарыса» ўсебакова і поўна даследуе «белыя плямы» ў гісторыі беларускай дзяржаўнасці.

## Сакавік

**1**

110 гадоў з дня нараджэння Вялікага Зіновія Сямёнавіча (1900—1983), беларускага акцёра.

60 гадоў з дня нараджэння (1950) Маеўскага Мікалая Аляксеевіча, беларускага жывапісца, акварэліста.

**2**

75 гадоў з дня нараджэння Аўчыннікавай Эвеліны Мікалаеўны (1935—1975), беларускай актрысы.

75 гадоў з дня нараджэння (1935) Карманава Яўгена Аляксандравіча, беларускага мастака дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, жывапісца.

**3**

155 гадоў з дня нараджэння Бывалькевіча Палікарпа Рыгоравіча (1855—пасля 1921), беларускага журналіста.

95 гадоў з дня нараджэння Ганцэвіча Рыгора Самуілавіча (1915—1986), беларускага мастака-плакатыста і графіка.

**4**

120 гадоў з дня нараджэння Адважнага Вінцука (сапр. Германовіч Язэп Станіслававіч; 1890—1978), беларускага паэта і каталіцкага святара.

60 гадоў з дня нараджэння (1950) Качана Кастуся Іванавіча, беларускага жывапісца.

**5**

80 гадоў з дня нараджэння (1930) Карпука Міхаіла Андрэевіча, беларускага мастака кіно і тэлебачання, графіка, жывапісца.

80 гадоў з дня нараджэння (1930) Сцяцко Паўла Уладзіміравіча, беларускага мовазнаўца.

60 гадоў з дня нараджэння (1950) Калякіна Барыса Аляксеевіча, беларускага рэжысёра, сцэнарыста, гукааператара.

**6**

100 гадоў з дня нараджэння Мазалёва Аляксандра Пятровіча (1910—1970), беларускага жывапісца і графіка, педагога.

20 гадоў з часу стварэння (1990) згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына».

**7**

85 гадоў з дня заснавання (1925) Полацкай філіі «Маладняка». Існавала да лістапада 1928 г.

60 гадоў з дня нараджэння (1950) Раінчыка Васіля Пятровіча, беларускага кампазітара, піяніста, народнага артыста Беларусі.

**8**

80 гадоў з дня нараджэння Пархуты Яраслава Сільвестравіча (1930—1996), беларускага паэта, празаіка, гумарыста.

**9**

85 гадоў з дня нараджэння (1925) Ніжнікавай Тамары Мікалаеўны, беларускай спявачкі, педагога, народнай артысткі Беларусі, народнай артысткі СССР.

60 гадоў з дня нараджэння (1950) Ляўковіча Міхаіла Васільевіча, беларускага акварэліста.

50 гадоў з дня нараджэння (1960) Ку́ліна Аляксея Уладзіміравіча, беларускага скульптара.

50 гадоў з дня нараджэння (1960) Савіцкага Уладзіміра Канстанцінавіча, беларускага рэжысёра, акцёра.

**10**

90 гадоў з дня нараджэння Марціновіча Аркадзя Нічыпаравіча (1920—2009), беларускага празаіка, паэта, заслужанага работніка культуры Рэспублікі Беларусь.

80 гадоў з дня нараджэння Кірылава Мікалая Сцяпанавіча (1930—2007), беларускага мастака-афарміцеля, жывапісца, заслужанага дзеяча мастацтваў Рэспублікі Беларусь.

70 гадоў з дня нараджэння (1940) Даманава Аляксандра Васільевіча, беларускага жывапісца.

**11**

235 гадоў з дня нараджэння Анастасевіча Васіля Рыгоравіча (1775—1845), бібліёграфа, перакладчыка, выдаўца Статута 1588 года.

105 гадоў з дня нараджэння Сеўрука Міхаіла Канстанцінавіча (1905—1979), беларускага жывапісца і графіка.

50 гадоў з дня нараджэння (1960) Волкава Анатоля Мікалаевіча, беларускага мастака дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.

**12**

70 гадоў з дня нараджэння (1940) Кір'янава Леаніда Георгіевіча, беларускага жывапісца.

**13**

120 гадоў з дня нараджэння Елісеева Канстанціна Сцяпанавіча (1890—1968), рускага і беларускага мастака тэатра, заслужанага дзеяча мастацтваў Расіі.

**15**

160 гадоў з дня нараджэння Савіч-Заблоцкага Войслава (Сулімы-Савіч-Заблоцкага Вайніслава Казіміра Канстанцінавіча; 1850 (паводле іншых звестак 1849) — пасля 1893), паэта, празаіка, публіцыста. Пісаў на беларускай, польскай і рускай мовах.

70 гадоў з дня нараджэння Шыкуновай Ірыны Сямёнаўны (1940—2006), беларускай спявачкі, педагога, народнай артысткі Беларусі.

**16**

70 гадоў з дня нараджэння Карпава Уладзіміра Аляксандравіча (1940—2006), беларускага мовазнаўца.

**17**

100 гадоў з дня нараджэння Ільяшэвіча Хведара (1910—1948), беларускага паэта, празаіка, гісторыка, крытыка, грамадска-культурнага дзеяча. Жыў за мяжой.

100 гадоў з дня нараджэння Яфрэменкі Аляксея Антонавіча (1910—1977), беларускага акцёра, заслужанага артыста БССР.

85 гадоў з дня нараджэння Ермаловіча Валянціна Іванавіча (1925—2004), беларускага рэжысёра, акцёра, заслужанага работніка культуры Рэспублікі Беларусь.

70 гадоў з дня нараджэння Дзянісьева Анатоля Яфімавіча (1940—1997), беларускага жывапісца, акварэліста.

**18**

75 гадоў з дня нараджэння (1935) Булыкі Аляксандра Мікалаевіча, беларускага мовазнаўца.

75 гадоў з дня нараджэння (1935) Грывусевіча Пятра Браніслававіча, беларускага жывапісца.

**19**

115 гадоў з дня нараджэння Грыба Тамаша Тамашавіча (1895—1938), беларускага палітычнага і культурнага дзеяча, публіцыста.

95 гадоў з дня нараджэння Матэвушава Васіля Іванавіча (1915—1974), беларускага паэта.

75 гадоў з дня нараджэння Кірэйчыка Івана Аляксандравіча (1935—1996), беларускага паэта, празаіка, нарысіста.

75 гадоў з дня нараджэння (1935) Фаменкі Вячаслава Рыгоравіча, беларускага артыста аперэты, заслужанага артыста Рэспублікі Беларусь.

**20**

60 гадоў з дня нараджэння Паражняка Уладзіміра Тарасавіча (1950—1995), беларускага мастака дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.

**21**

170 гадоў з дня нараджэння Багушэвіча Францішка Бенядзікта Казіміравіча (1840—1900), беларускага паэта, празаіка, публіцыста, перакладчыка.

95 гадоў з дня нараджэння Курдзянок Зінаіды Валянцінаўны (1915—1985), беларускай актрысы, заслужанай артысткі БССР.

**22**

90 гадоў з дня нараджэння Пысіна Аляксея Васільевіча (1920—1981), беларускага паэта, перакладчыка, заслужанага работніка культуры БССР.

60 гадоў з дня нараджэння (1950) Караванава Барыса Уладзіміравіча, беларускага жывапісца.

**23**

145 гадоў з дня нараджэння Старога Уласа (сапр. Сівы-Сівіцкі Уладзіслаў Пятровіч; 1865—1939), беларускага паэта, празаіка, збіральніка беларускага фальклору.

115 гадоў з дня нараджэння Сташэўскага Васіля Пятровіча (1895—1937), беларускага празаіка, драматурга.

95 гадоў з дня нараджэння Кузьменкі Матроны Іванаўны (1915—2003), беларускай актрысы, педагога, заслужанай артысткі БССР.

85 гадоў з дня нараджэння (1925) Шведа Віктара Мікітавіча, беларускага паэта, заслужанага дзеяча культуры Польшчы. Жыве ў Беластоку.

80 гадоў з дня нараджэння Бурака Леаніда Іванавіча (1930—1996), беларускага мовазнаўца, педагога, заслужанага работніка адукацыі Рэспублікі Беларусь.

60 гадоў з дня нараджэння (1950) Хобатава Леаніда Васільевіча, беларускага жывапісца.

20 гадоў з дня стварэння (1990) Музея гісторыі тэатральнай і музычнай культуры Беларусі.

**25**

105 гадоў з дня нараджэння Вечара Алеся (Аляксандра Сцяпанавіча; 1905—1985), беларускага біяхіміка, паэта, заслужанага дзеяча навукі і тэхнікі БССР.

75 гадоў з дня нараджэння Карзянковай Аляўціны Аляксандраўны (1935—2002), беларускай артысткі балета, педагога, народнай артысткі Беларусі.

75 гадоў з дня нараджэння (1935) Папковіча Уладзіміра Антонавіча, беларускага паэта, празаіка, перакладчыка.

75 гадоў з дня нараджэння (1935) Рагулі Аляксея Уладзіміравіча, беларускага літаратуразнаўца.

**26**

70 гадоў з дня нараджэння (1940) Зайцава Дзмітрыя Яўгенавіча, беларускага кінааператара і рэжысёра, заслужанага дзеяча мастацтваў Рэспублікі Беларусь.

50 гадоў з дня нараджэння (1960) Шніпа Віктара Анатольевіча, беларускага паэта, перакладчыка.

**27**

100 гадоў з дня нараджэння Цэпавай Галіны Іванаўны (1910—1985), беларускай спявачкі, заслужанай артысткі БССР.

**28**

100 гадоў з дня нараджэння Вішнеўскага Міколы (Мікалая Аляксеевіча; 1910—1986), беларускага празаіка, нарысіста.

70 гадоў з дня нараджэння (1940) Паўловіча Яўгена Мікалаевіча, беларускага артыста балета, педагога, заслужанага артыста Рэспублікі Беларусь.

**29**

110 гадоў з дня нараджэння Корш-Сабліна (сапр. Саблін) Уладзіміра Уладзіміравіча (1900—1974), беларускага кінарэжысёра, народнага артыста БССР, народнага артыста СССР.

105 гадоў з дня нараджэння Грынблата Майсея Якаўлевіча (1905—1983), беларускага этнографа, фальклstaрыста, гісторыка.

60 гадоў з дня нараджэння (1950) Дудзюк Зінаіды Іосіфаўны, беларускай паэтэсы, празаіка і драматурга.

**30**

70 гадоў з дня нараджэння (1940) Марачкіна Аляксея Антонавіча, беларускага жывапісца, педагога.

**31**

210 гадоў з дня нараджэння Сянкоўскага Восіпа Іванавіча (1800—1858), пісьменніка, мовазнаўца, журналіста, падарожніка.

## ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ І ПАДПІСЧЫКІ «ПОЛЫМЯ»!

**Ідзе падпіска на I паўгоддзе 2010 года:**

*індывідуальная льготная для настаўнікаў (індэкс — 00471)*

на 1 месяц — 5820 руб.
на 3 месяцы — 17 460 руб.

*індывідуальная (індэкс — 74985)*

на 1 месяц — 9400 руб.
на 3 месяцы — 28 200 руб.

*ведамасная (індэкс — 749852)*

на 1 месяц — 11 740 руб.
на 3 месяцы — 35 220 руб.

*ведамасная льготная для ўстаноў Міністэрства культуры і Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь (індэкс — 00727)*

на 1 месяц — 9580 руб.
на 3 месяцы — 28 740 руб.

***e-mail: polymya@bk.ru***

Рэдакцыя часопіса «Полымя», 220034, Захарава, 19.
Тэлефоны: галоўнага рэдактара,
намесніка галоўнага рэдактара — 284-80-12,
аддзелаў прозы, паэзіі, навукі,
крытыкі і літаратуразнаўства — 288-22-37.

Стыльрэдактар *М. М. Гілевіч*
Камп'ютэрная вёрстка *А. А. Губар*

Падпісана ў друк 09.03.10 г. Фармат 70×108 $^{1}/_{16}$. Папера газетная.
Друк афсетны. Умоўн. друк. арк. 16,80. Ул.-выд. арк. 16,82. Тыраж 3230 экз. Заказ 593.
Рэгістрацыйны № 9 ад 22.07.09 г.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку».
220013, Мінск, праспект Незалежнасці, 79. ЛП № 02330/0494179 ад 03.04.2009 г.